# Горад Святога Губерта



**Выпуск VIII**

Гродна 2014

УДК 719.025.4 (476.6—25) (082)
ББК 79.0 (4Беи)я43
Г67

Выдаецца пры ўдзеле Таварыства Беларускай школы і
Беларускага гістарычнага таварыства



У афармленні вокладкі выкарыстаны малюнак Алеся Сурава (Гродна)

**Горад Святога Губерта:** альманах лакальнай гісторыі. Выпуск 8 (2014) / рэдкал. І.Соркіна [і інш.]. — Гродна, 2014. — 27 іл. — 176 с. — (Гарадзенская бібліятэка).

Чарговы выпуск альманаха працягвае тэму вызвольнага паўстання 1863 — 1864 гг. Менавіта яму прысвечаныя амаль усе матэрыялы. Упершыню друкуюцца па-беларуску з грунтоўнымі каментарамі праца знакамітага гарадзенскага гісторыка XX ст. Юзафа Ядкоўскага «1863 год у Гродзенскім павеце», а таксама мемуарны твор паўстанцкага камандзіра 1863—1864 гг. Антонія Баранцэвіча «Апошнія дні коннага літоўскага атрада». Апроч таго паказваюцца іншыя старонкі гісторыі мяцежнай Гродзеншчыны. Разглядаецца праблема рэканструкцыі дамініканскага кляштара і касцёла ў Гродне.

Разлічаны на шырокае кола чытачоў.

**УДК 719.025.4 (476.6—25) (082)**
**ББК 79.0 (4Беи)я43**
**Г67**

# Прадмова

Мінулы 2013 год ва многім прайшоў пад знакам 150-годдзя паўстання 1863 года. На 2014 год прыпадае 150-годдзе гібелі Кастуся Каліноўскага (10/22 сакавіка 1864 г.) і падаўлення паўстання. Чарговы выпуск альманаха лакальнай гісторыі «Горад Святога Губерта» працягвае тэму вызвольнага паўстання 1863 — 1864 гадоў: амаль усе матэрыялы прысвечаны гэтай гераічнай і адначасова трагічнай старонцы гісторыі нашага краю.

У нашай традыцыйнай рубрыцы «Рэканструкцыя і памяць» *Ігар Лапеха* дзеліцца сабранымі матэрыяламі і разважаннямі наконт магчымасці рэканструкцыі гарадзенскага дамініканскага кляштара і касцёла, які пасля 1863 г. быў ператвораны ў праваслаўную царкву Ямбургскага ўланскага палка, а ў 1874 г. цалкам разбураны.

Вяртанню забытых імёнаў прысвячаецца публікацыя ў перакладзе на беларускую мову працы вядомага гарадзенскага гісторыка, археолага, заснавальніка і першага кіраўніка Гродзенскага гістарычна-археалагічнага музея Юзафа Ядкоўскага «1863 год у Гродзенскім павеце», да якой прыкладаецца спіс з кароткімі біяграфіямі паўстанцаў. Пераклад тэкста з польскай мовы, рэдактура і каментарыі здзейснены *Таццянай Казак, Васілём Герасімчыкам і Андрэем Вашкевічам.*

Дзякуючы намаганням *Сяргея Кузняцова* амаль з поўнага забыцця вяртаецца да нас імя паўстанцкага камандзіра 1863 — 1864 гадоў Антонія Баранцэвіча. Чытач атрымлівае магчымасць пазнаёміцца з біяграфіяй героя-паўстанца і ягоным мемуарным творам «Апошнія дні коннага літоўскага атрада».

З тэксту прафесара *Вячаслава Шведа* даведваемся пра размах маніфестацыйнага руху ў Гродзенскай губерні ў 1861 — 1862 гадах, які развіваўся ў знак пратэсту і салідарнасці з расстралянымі ўдзельнікамі дэманстрацыі ў Варшаве ў лютым 1861 г. У даследаванні *Васіля Герасімчыка* на прыкладзе паўстанцкага атрада Аляксандра Лянкевіча пераканаўча паказаны досыць актыўны ўдзел у паўстанні праваслаўнага насельніцтва Гродзеншчыны. Артыкул *Фёдара Ігнатовіча* прысвечаны ўдзелу ў паўстанні лекараў, у прыватнасці ўрача Целясціна Цеханоўскага,

які па вызначэнню Ю.Ядкоўскага быў «душою гродзенскай арганізацыі, усеагульна шанаваны і любімы ў Гродне грамадскі дзеяч, а ў 1863 г. начальнік горада ад імя Нацыянальнага ўраду». Прасочваецца далейшы лёс Ц.Цеханоўскага і яго дзейнасць у Сібіры.

Рубрыка «У дапамогу настаўніку» змяшчае падрабязны матэрыял пра паўстанне 1863 г. на Слонімшчыне, падрыхтаваны *Цімохам Акудовічам і Дзянісам Юрчыкам,* які зручна выкарыстоўваць на ўроках гісторыі Беларусі (у адведзеных школьнай праграмай уроках «Наш край»), а таксама ў пазакласнай працы.

Завяршаюць дадзены выпуск альманаха анатацыі новых выданняў, прысвечаных паўстанню 1863 — 1864 гадоў (манаграфій Алены Фірыновіч, Дзмітрыя Матвейчыка, Івана Будніка, фотаальбома Язэпа і Камілы Янушкевічаў).

Матэрыялы дадзенага выпуска «Горада Святога Губерта» зноў яскрава засведчылі не толькі самаахвярнае змаганне нашых продкаў за свабоду і незалежнасць, але і каласальную небяспеку для края, якая зыходзіла ад палітыкі імперскай Расіі. На вялікі жаль, гэтая небяспека захоўваецца і сёння (аб чым сведчаць трагічныя падзеі ва Украіне). Палітычная і культурная будучыня Рэспублікі Беларусь не ў апошнюю чаргу залежыць ад успрымання нашай гісторыі, у тым ліку і ад усведамлення таго, што незалежнасць Беларусі — гэта нашая найбольшая каштоўнасць, найбольшы здабытак і найвялікшае дасягненне на шляху гістарычнага развіцця беларускага народа. Незалежнасць не звалілася з неба, не ўзнікла сама сабой у выніку «развалу СССР», за яе змагаліся і аддавалі свае жыцці лепшыя прадстаўнікі беларускага народа, у тым ліку кіраўнікі ды шараговыя ўдзельнікі паўстання 1863 — 1864 гг., якое было важным этапам у фарміраванні беларускай нацыянальнай ідэі, на шляху да нашай незалежнасці.

Выказваю шчырую падзяку за праяўлены адносна мяне давер ў справе даручэння рэдагавання альманаха «Горад Святога Губерта» найперш Алесю Смаленчуку, які быў ініцыятарам заснавання гэтага важнага для нашага горада перыёдыка і яго рэдактарам на працягу 2002 — 2013 гадоў, а таксама «Гарадзенскай бібліятэцы».

**Іна Соркіна**

Ігар Лапеха (Гродна)

# Да праблемы рэканструкцыі дамініканскага касцёла і кляштара ў Гродне

Гэты старажытны кляштар неяк «абмінаюць» даследчыкі. Хоць ён і быў закладзены адным з самых першых каталіцкіх ордэнаў у Гродне, меў вельмі магутны ўплыў на гарадское жыццё ў XVII — XVIII стст. і драматычную гісторыю ў XIX ст. Нягледзячы на тое, што захаваліся кляштарныя гмахі, а касцёл быў знесены напрыканцы XIX ст., яго выгляд, збольшага, і зараз застаецца загадкай. Між тым мы і сёння маем добрую палову касцёла ордэна дамініканцаў пачатку XVII ст., схаваную ў пазнейшай перабудове.

З даследчыкаў гродзенскай архітэктуры найбольш поўна і грунтоўна пра планіровачнае развіццё і архітэктурныя вартасці дамініканскага кляштара напісала Таццяна Рыгораўна Маліноўская. Я асабіста ёй вельмі ўдзячны за змястоўную кансультацыю па тэме. Найбольш інфармацыі і дакументаў, прыдатных для развіцця тэмы архітэктуры дамініканскага касцёла, захоўваецца ў Вільні.

На жаль, гэтыя матэрыялы ўключаюць толькі інвентар 1830 г. (формы словамі апісваюцца кепска) і планы былой дамініканскай школы ўжо без касцёла. У агульным ужытку вядомы два адлюстраванні касцёла: фота і малюнак Напалеона Орды 1860-х гадоў, дзе досыць далёка бачны толькі пярэдні фасад храма.

Для зручнасці разгляду развіцця архітэктурнага комплексу дамініканскага кляштара, яго варта падзяліць на тры сегмента: корпус па вул. Дамініканскай, корпус па вул. Савецкай, касцёл з корпусам сакрысціі.

Варта пачаць з самага лёгкага. Корпус па вул. Дамініканскай пабудаваны замест драўлянага пасля пажару 1782 г., захаваўся вельмі добра. За выключэннем некалькіх пашыраных вокнаў і страты некаторых дэталяў «школьная бурса» і зараз радуе вока сціплай элегантнасцю пераходнай формы ад барока да класіцызму, стылю, пашыранага ў Гродне напрыканцы XVIII ст.



**Дамініканскі касцёл і кляштар на фотаздымку 1860-х гадоў**



**Дамініканскі касцёл і кляштар на малюнку Н.Орды**

Корпус па вул. Савецкай вымуравалі замест драўлянага ў 1737 г., у 1760-я гады дабудавалі на далучаных дзялках «новы» кляштар (агулам 149х18 лакцей), у 1836 г. значна рэканструявалі (пашырылі і падвысілі «стары» кляштар), у 1860-я і 1880-я мянялі дэкараванне на фасадзе. Як рос і мяняўся корпус, можна ўбачыць па планах горада розных перыядаў і прааналізаваць па размяшчэнню памяшканняў на схеме. На планах горада 1655 г., 1706 г. — толькі касцёл (у 1706 г. з двума вежамі і сакрысціяй), 1753 г., 1795 г. — ужо фігуруе кляштар па Савецкай з паваротам будынка ўглыб тэрыторыі на захад, але на планах 1780, 1807, 1823, 1824 гг. гэтае крыло ўглыб квартала адсутнічае, на плане 1831 г. — прысутнічаюць ужо ўсе часткі комплексу, але паўночная частка дваровага крыла як бы адарвана ад параднага корпуса, што не стасуецца з планамі 1753 г., 1795 г. Справа ў тым, што на планах вельмі часта не толькі не захоўваліся прапорцыі, але не заўсёды ўказваліся ўсе «падрабязнасці», таму абсалютна заканамерна, што дваровае крыло кляштара дамініканцаў магло быць не паказана, хоць ужо і існавала. Для вывучэння прыдатны прапарцыянальны і падрабязны план 1831 года. Для паказу дынамікі развіцця комплексу варта выкарыстоўваць схему з так званай «дрэздэнскай папкі» пачатку XVIII ст., якую датуюць 1753 г.




**Іл. 1. Этапы будаўніцтва дамініканскага касцёла і кляштара**

На ілюстрацыі №1 чорным колерам паказана планіроўка ўнутраных памяшканняў першага паверха корпуса па вул. Савецкай на 1880-я гады пасля зносу касцёла і перабудовы корпуса пад гарадскую гімназію. Аранжавым паказаны абрысы касцёла і пабудоў XVII ст., чырвоным — касцёла пачатку XVIII ст. (пра храм у асобным абзацы). Што з корпуса на вул. Савецкай было пабудавана ў 1737 г., што дабудавана ў сярэдзіне XVIII ст., а што зменена на пачатку XIX ст., можна праўдападобна вызначыць, прааналізаваўшы планы розных часоў, канфігурацыю муроў і форму карнізаў. Зялёным колерам паказаны муры пачатку XVIII ст, на «дрэздэнскім» плане ўжо намаляваны мураваны корпус кляштара з дваровым крылом. Прапорцыі будынка на гэтым плане вызначыць нельга, таму лепш прааналізаваць планіроўку ўнутраных памяшканняў корпуса на канец XIX ст. Па таўшчыні сценаў, па відавочнай восі, якая дзеліць будынак на дзве планіровачна аўтаномныя часткі, можна сцвярджаць, што паўднёвая частка будынка, якая на схеме азначана сінім, была пабудавана пазней, дзесьці ў сярэдзіне XVIII ст., таксама як і прыкасцёльны корпус над сакрысціяй. Карніз будынка, рэшты пілястраў на паўднёвым фасадзе сугучны з элементамі на «новай» частцы кляштара, таксама і там, і там ад «старых» муроў памяшканні аддзелены скляпеністымі калідорамі, гэта можна лічыць стэрэатыпным прыёмам аднаго аўтара. Што прыкасцёльны корпус камбінераваны, ясна бачна пры аналізе планіроўкі памяшканняў на схеме канца XIX ст., сакрысція і скарбец ад іншых пакояў адасоблены тоўстай «знешняй» сцяной. Хутчэй за ўсё сакрысція будавалася разам з «новым» касцёлам у 1708 г., бо гэта неад'емная частка храма. Перабудову 1836 г. таксама можна заўважыць пры аналізе планіроўкі памяшканняў (яна на схеме паказана карычневым колерам). Анфіладныя памяшканні першага паверха паўночнай часткі корпуса на Савецкай маюць драўляныя перакрыцці столі, але на адной лініі падпіраюцца мураванымі дугамі, якія хутчэй за ўсё былі знешняй сценкай вузкай «старой» часткі. На перабудову ўказвае і параўнанне прапорцый шырыні і даўжыні корпуса на цяперашні стан і тых жа катэгорый на прапарцыянальнай схеме 1831 г. На ёй шырыня корпуса вузкая, роўна да дуг. Таксама на схеме 1831 г. паўночная частка дваровага крыла (якую мы лічым часткай «старога» корпуса) адарвана ад корпуса па вуліцы. Хутчэй за ўсё ў сярэдзіне XVIII ст. сегмент крыла разабралі (магчыма ён быў драўляны) і аднавілі толькі на пачатку XIX ст.

Касцёл — самая таямнічая частка комплексу. Калі манастырскія карпусы, перабудаваныя, але захаваліся, то храм быў знішчаны амаль цалкам. З вядомых пісьмовых крыніц вынікае, што мураваны касцёл

пры драўляным кляштары з прыстасаваннем мураванага дома па сучаснай вул. Савецкай (з гэтай высновай згодныя большасць даследчыкаў) быў адкрыты 22 мая 1633 г. У 1708 г. быў пабудаваны, паводле Ю.Баровіка, зусім новы касцёл, паводле Т.Маліноўскай, значна перабудаваны стары. Хутчэй можна згадзіцца з апошняй высновай. Доказам гэтай высновы служыць аналіз выяў канца XIX ст., параметраў касцёла і проста рацыянальнага падыходу нашых продкаў, які праяўляецца ў шматлікіх прыкладах. На фота 1860-х гадоў, бабінец касцёла «несуразна», пад вуглом (як і сам касцёл) моцна заступае за чырвоную лінію вуліцы Савецкай. Калі б храм будаваўся з нуля, то будавалі б яго без выступаў і пад прамым вуглом да трасіроўкі вуліцы, якую, прынамсі, дакладна відаць па корпусу кляштара 1737 г. Прапорцыі храма таксама нестандартныя. Апсіда храма па шырыні і вышыні аднолькавыя з асноўным аб'ёмам (доказы гэтай высновы будуць ніжэй), што хутчэй характэрна для архітэктуры Рэнэсанса, чым барока. Бакавыя нефы вельмі вузкія і называюцца капліцамі, што падцвярджае здагадку, што капліцы былі прыбудаваны, а не будаваліся адзінай кладкай з касцёлам. Матывацыя будаўніцтва «новага» касцёла ў гродзенскіх дамініканаў была іншая, чым у С.Баторыя пры перабудове Фары, чым у кармелітаў пры закладцы новага храма, нават, чым у езуітаў пры замене малога Петрапаўлаўскага храма на вялікі Францыска Ксаверыя. Ва ўсіх гэтых прыкладах падчас будаўніцтва існаваў стары касцёл (драўляны), была пераемнасць храмаў, таму пабудова зусім новая, але набыткі ў старых храмах не знішчаліся, нашы продкі былі рацыянальнымі, алтар св. Міхаіла ў паезуіцкім касцёле таму прыклад. У гродзенскіх дамініканаў сітуацыя была больш трагічнай, пра іх дзейнасць у XVII ст. нічога не вядома, хутчэй за ўсё падчас «Патопу» касцёл быў разбураны, што прымусіла закон узводзіць новы храм з выкарыстаннем руіны старога, нават у неспрыяльны перыяд Паўночнай вайны. Як жа мог выглядаць першы дамініканскі касцёл у Гродне пачатку XVII ст.? Аб гэтым можна разважаць толькі пры аналізе планіроўкі і пошуку адпаведных аналагаў. У інвентары за 1830 г. у касцёла 60 лакцей даўжыні, 32 шырыні без капліц, вышыня 36, 9 алтароў, 16 вокнаў, 5 дзвярэй. Вядома, што захавалася паўднёвая частка касцёла, яна ў канцы XIX ст. была перабудавана ў корпус гімназіі. Па размяшчэнню вокнаў гімназіі на былым касцёльным муры, па традыцыях пачатку XVII ст. бакавыя фасады падобны былі на касцёл гродзенскага брыгіцкага кляштара. Па пяць падоўжаных вокнаў з кожнага боку (алтарная частка вокнаў не мела), прасценкі аздоблены магутнымі на вышыню ўсёй сцяны пілястрамі, мажліва, нават, контрфорсамі.



Іл. 2. Д амініканскі касцёл. Фасад. Рэканструкцыя І. Лапехі



Іл. 3. Дамініканскі касцёл. Профіль. Рэканструкцыя І. Лапехі

На ілюстрацыі №2 контуры першапачатковага храма паказаны аранжавым. Галоўны фасад з вялікім бабінцам (зафундаваным домам) падобны на касцёл у Крамяніцы Дольнай. Зальны бязвежавы храм аздоблены фігурным франтонам з галерэяй нішаў (аранжавыя рысы на ілюстрацыі №2). Але чаму бабінец такі вялікі — двухпавярховы і шырокі? Бо гэта былы дом, які фігуруе ў дакументах як першапачатковы фундуш. А можа бабінец, гэта ўжо не дом, а рэшткі вежы званіцы XVII ст.? Звернемся яшчэ да аднаго гродзенскага аналага адпаведнай эпохі — касцёла бернардынак. Калі накласці план гэтага храма на нашу ілюстрацыю, то фактычна яна цалкам супадае з аранжавымі рысамі — з мурамі дамініканскіх пабудоў XVII ст. Да таго ж, калі была вежа-дамінанта ў XVII ст., на яе вельмі добра завязваецца перспектыва вуліцы Савецкай. Была вежа або не была, гэта быў бабінец XVII ст., ці больш пазнейшая пабудова — на гэтыя пытанні могуць адказаць толькі археалагічныя раскопкі з вывучэннем кладкі паўночнай сцяны корпуса па Савецкай.

З выглядам «новага» касцёла 1708 г. значна прасцей. Парадны фасад можна лёгка рэканструяваць, дзякуючы выявам на фота і малюнку. Выключэнне складаюць толькі драўляныя ярусы вежаў, якія згарэлі ў пажары 1782 г. і пасля гэтага не аднаўляліся. Як яны выглядалі, можна толькі гадаць, альбо падабраць з аналагаў найбольш характэрнае. Бакавыя фасады і планіроўку паказаць прасцей, калі паэтапна адказваць на пытанні. План касцёла аднавіць вельмі проста, бо мы ведаем дакладныя памеры, стэрэатыпы культавых пабудоў, а таксама тое, што паўднёвая частка касцёла, з калонамі, капліцамі, вежай, пераходнай галерэяй адлюстравалася на планіроўцы памяшканняў корпуса гімназіі і асіметрычным размяшчэнні на ім вокнаў. Дзве трыяды вокнаў на паўночным фасадзе гімназіі — гэта шырокія аркі паміж цэнтральным нефам і капліцамі, прабітыя на месцы некаторых вокнаў «старога» касцёла. Пасля 1708 г. сцены «старога» касцёла былі падвышаны і на цэнтральным нефе з'явіўся другі шэраг вокнаў, іх форма добра бачна на малюнку Н. Орды. У інвентары фігуруе паўцыркульная форма вокнаў, хутчэй за ўсё падобная форма вокнаў была ў капліцах, што дазваляе ў капліцах размясціць алтары з падсветкай угары, падобнае зараз можна ўбачыць у пінскім францішканскім касцёле. Апсіда пад агульным дахам з цэнтральным нефам, гэта добра бачна на фота.

З працы вынікае: комплекс былога кляштара дамініканцаў можна аднавіць у навукова прымальнай ступені праўдападобнасці толькі на

сярэдзіну XIX ст., без інтэр’ераў, без першапачатковых завяршэнняў касцёльных вежаў. Як гэта магло б выглядаць, можна ацаніць па макеце работы студэнта політэхнічнага каледжа Максіма Троецкага.







**Макет дамініканскага кляштара з касцёлам.**
**Рэканструкцыя М. Троецкага**

# Вяртанне забытых імёнаў

Навуковая грамадскасць Гродна даўно хоча атрымаць магчымасць выдаць па-беларуску збор твораў самага знакамітага гродзенскага гісторыка XX ст. Юзафа Ядкоўскага (1890 — 1950). І хаця з моманту іх напісання прайшло ўжо амаль сто гадоў, яны працягваюць захоўваць сваю актуальнасць найперш таму, што Ю. Ядкоўскі часта выкарыстоўваў недаступныя нам сёння крыніцы. Так і з прапанаваным ніжэй чытачу творам.



**Юзаф Ядкоўскі**

Паданы ніжэй пералік біяграфій удзельнікаў Паўстання 1863 г. сфарміраваны Ю. Ядкоўскім не толькі на матэрыялах следчых спраў паўстанцаў, з якімі ён працаваў яшчэ да 1915 г. і якія ён неаднойчы згадвае як страчаныя падчас Першай Сусветнай вайны (большая частка іх пасля вярнулася ў Гродна), але і на аснове ўспамінаў сваякоў удзельнікаў паўстання, ацалелых ад паўстанцаў лістоў, фотаздымкаў і іншых сведчанняў. Таму перакладаючы гэты матэрыял, мы мелі ўпэўненасць, што аддаем чытачам каштоўны матэрыял для далейшых даследаванняў па тэме Паўстання 1863 года на Гродзеншчыне. Тэкст істотна дапоўнены нашымі каментарамі і праўкамі, арыгінальныя каментары Ю. Ядкоўскага падаюцца курсівам. Пераклад тэкста, рэдактура і каментарыі ***Таццяны Казак, Васіля Герасімчыка і Андрэя Вашкевіча.*** Выказваем шчырую падзяку прафесару *Вячаславу Шведу* за прадастаўленне ксеракопій арыгінальных артыкулаў Ю. Ядкоўскага.

**Юзаф Ядкоўскі**

# 1863 год у Гродзенскім павеце[1]

Крыжам паламаным, забытым магілам,
Глухім руднікам у далечы срэбнай,
Палеглым ды памарнаваным тым сілам,
Жалобным рэшткам скрываўленых рэбраў,
Духам, што ўзялі пакутай збаўленне —
Памяць — любоў — і дабраславенне![2]

Гродзеншчына заўсёды прымала актыўны і поўны шчырай адданасці нацыянальнай справе ўдзел ва ўсіх узброеных дзеяннях, што ставілі сваёй мэтай уваскрашэнне Рэчы Паспалітай.

Сваю адданасць Польшчы гэтая «вечна расійская» зямля не магла падкрэсліць нічым большым, як толькі крывёй сваіх сыноў.

Рэха першых дэманстрацый у Варшаве з хуткасцю маланкі дасягнула Літвы, знаходзячы падатлівы грунт, такі самы, як і ў Польшчы, матэрыял, які добра падпальваецца і выбухае.

Гэта быў гром сярод шэрага паўсядзённага жыцця, які прадвяшчаў блізкую навальніцу…

Яшчэ ў першыя месяцы 1861 года пачаліся нацыянальныя святкаванні, і амаль не было ні мястэчка, ні вёскі, дзе б іх не арганізавалі, а песня, якая просіць «Boże coś Polskę»[3], была перакладзена нават на літоўскую мову і спявалася ва ўсіх касцёлах[4].

---

[1] Jodkowski Józef. Rok 1863 w powiecie grodzieńskim / J. Jodkowski. // Echo Grodzieńskie. Grodno, 1921. N-ry 18, 28, 31—36, 159—160, 162, 166—169, 171—173, 175—177, 179.

[2] Пераклад — Антон Рудак.

[3] Песня была напісаная А.Фелінскім у 1816 г. Да ліку найбольш папулярных адносілася таксама песня «Choral» («Z dymem pożarów»), напісаная ў 1846 г. К. Уейскім.

[4] На беларускай мове ў 1861 г. друкаваліся лацінкаю і выконваліся ў касцёлах «Pieśni nabożnyja», дзе меліся наступныя радкі:

U Żyrowicach, Barunach maskali
Ciabie z nami u kazionszczynu skuli;
Sprau kab od syzmy ty i my adstali,
Zrabi kab z Polszczaj Uniiu wiarnuli!

У гэты час продкі сучасных правадыроў літоўскага руху глядзелі на ўсё вачыма Касцюшкі і Міцкевіча, аб'ядноўваючы ў сваіх сэрцах Пагоню з Белым Арлом і прагнучы мець адзіную і шчаслівую Рэч Паспалітую[5].

А калі ў касцёлах загучалі нацыянальныя гімны, заблішчалі арлы і пагоні на жалобнай адзежы жанчын, чамары і канфедэраткі пакрылі маладых людзей, па вуліцах плылі працэсіі з трохколернай харугвай…

Моладзь гарэла і рвалася да дзеянняў.

Хаця ўсе ў той час былі зусім не падрыхтаваныя да якой-небудзь узброенай акцыі, аднак усталі без ваганняў, помнячы гістарычныя традыцыі і не чакаючы нават заклiку з Варшавы.

Яны сталі ў няроўнай барацьбе, з бязмежнай адданасцю і надзвычайнай зацятасцю, з пэўным нават адчаем…

Але абставіны, у якіх ішла барацьба за незалежнасць, акружылі імёны паўстанцаў арэолам гераічнасці, а памяць пра іх перайшла да пакаленняў…

***

Гісторыя паўстанцкага руху ў Кароне часткова ўжо апрацаваная, а ў нас маем досыць мала гістарычнага матэрыялу, а ён існуе, хаця ляжыць мёртвы, не даследаваны і нават не сістэматызаваны ў былых расійскіх архівах[6].

---

[5] Ядкоўскі спачуваў «белай» плыні рэвалюцыйнага руху часоў падрыхтоўкі да паўстання 1863—1864 гг. Насамрэч, у краі мелася група рэвалюцыйна настроенай моладзі ў асяродку «чырвоных» на чале з Кастусём Каліноўскім, якія разумелі адносіны Літвы і Беларусі з Польшчаю «толькі як федэратыўныя, пры ўмове поўнай незалежнасці Літвы» (Janowski J.K. Pamiętniki o powstaniu stycyniowem. T. 1.Lwów, 1923 S. 426). Таксама Ядкоўскі, знаходзячыся пад уплывам стварэння Другой Рэчы Паспалітай, грэбаваў адлюстраваннем імкнення «чырвоных» зрабіцца «адзінай паўнавартаснай сілаю ў Літве і Беларусі» (Przyborowski W. Dzieje 1863 roku. 3 t. Kraków: W.L. Anczyc, 1897—1902. S. 31).

[6] У часы Расійскай імперыі з мэтаю абгрунтавання карнай палітыкі ўладаў на чале з Віленскім генерал-губернатарам М.Мураўёвым выдаваліся зборнікі архіўных матэрыялаў, сярод якіх найбольш важнымі з'яўляюцца: Сборник распоряжений графа Михаила Николаевича Муравьева по усмирению польского мятежа в Северо-Западных губерниях 1863—1864» / Составил Н. Цылов. Вильна, 1866. 386 с.; Архивные материалы Муравьевского музея, относящиеся к польскому восстанию 1863—1864 гг. в пределах Северо-Западного края: Часть 1. Переписка по политическим делам гражданского управления с 1 января 1862 по

Недахоп матэрыялаў існуе і таму, што пра іх збор у часе барацьбы ніхто не думаў, затым сышлі з гэтага свету ўсе найважнейшыя дзеячы, панавала вялікая прыгнечанасць, у якой знаходзіўся народ пасля рассейвання залатых надзей, усё мацнеў ціск, які прымушаў думаць не пра тое, што было, а як перажыць сённяшні дзень… Шпігаванне моладзі пасля паўстання гістарычнымі фальсіфікацыямі дасягнула таго, што сучаснае пакаленне зусім не ведае тагачасных людзей і падзей, і нават мала імі цікавіцца.

Сёння, калі мы ізноў здабылі свабодную Польшчу, мы павінны добра памятаць, што наша зямля так шчыльна палітая крывёю продкаў, якая з'яўляецца для нас тым, што дае права на гэтую зямлю.

***

Калі моладзь гарэла і рвалася да дзеянняў, прымаючы ўдзел у шматлікіх нацыянальных маніфестацыях, якія адбываліся яшчэ ў 1861 г., калі панавала жалоба па пяці першых ахвярах у Варшаве[7], у нашым краі разумныя галовы старанна вязалі арганізацыйную сетку. А была яна так па-майстэрску сплецена, што кожны, хто ўваходзіў у арганізацыю, нічога пра яе далейшыя ніці і звёны не ведаў. Ведаў толькі таго, каго прыводзіў, з тым адзіным меў кантакт.

Пра пачаткі гродзенскай арганізацыі ведаем толькі тое, што ў 1861 г. прыехаў у Гродна з мэтай стварыць канспірацыйнае кола

*(гл. папярэднюю старонку)*

май 1863 г. Вильна, 1913; Часть 2. Переписка о военных действиях с 10-го января 1863 г. по 7-е января 1864 г. Вильна, 1915; Ратч В.Ф. Сведения о польском мятеже 1863 г. в Северо-Западной России. Т. 1. Вильно, 1867.

[7] 25 лютага 1861 з нагоды 30-й гадавіны самай крывавай бітвы Лістападаўскага паўстання - бітвы пад Грохавым (у ёй загінула каля 20 тысяч расейцаў і палякаў) у Варшаве адбылася маніфестацыя, разагнаная расейскім войскам. У сувязі з гэтым жыхары Варшавы 27 лютага сабраліся на новую маніфестацыю, якая зноў была разагнаная, а пяцёра яе ўдзельнікаў былі забітыя расейскімі салдатамі на Кракаўскім прадмесці. Пахаванне забітых, ператварылася 2 сакавіка ў чарговую маніфестацыю і прывяло да дэманстрацый салідарнасці не толькі ў гарадах Польшчы, але Літвы, Украіны. Нават Расіі: яшчэ 1 сакавіка студэнты Пецярбургскага ўніверсітэта, Медыка-Хірургічнай акадэміі, слухачы ваенных вучылішчаў сумесна з польскімі студэнтамі гэтых устаноў правялі паніхіду па загінулых (удзельнічала да 1500 чалавек), 17 сакавіка адбылася паніхіда і ў Маскве, на якой Пётр Зайчнеўскі ў сваёй прамове заклікаў рускіх і палякаў сумесна змагацца з агульным ворагам — самадзяржаўем.

і разгарнуць палітычную дзейнасць Канстанцін Каліноўскі[8], які з адзнакай скончыў юрыдычны факультэт. Гэтае кола ўдалося стварыць на аснове асабістых знаёмстваў, у склад яго ўвайшлі: губернскі сакратар Эразм Заблоцкі, доктар Юзаф Заблоцкі, афіцэр і школьны інспектар лясной школы Валеры Урублеўскі, афіцэр Ян Ванькові, мернікі Фелікс Ражанскі і Ільдэфонс Мілевіч, ксёндз дэкан Гінтаўт і ксяндзы Ян Зарыцкі і Ігнацы Казлоўскі і яшчэ некалькі асобаў, прозвішчаў якіх мы не ведаем.

Усе пералічаныя трымаліся дэмакратычных прынцыпаў, і ў той час іх называлі партыяй «чырвоных».

Доктар Заблоцкі пісаў патрыятычныя польскія вершы, а Ражанскі складаў такія ж песні на беларускім дыялекце[9], і апошні разам з Канстанцінам Каліноўскім друкаваў народнае выданне пад назвай «Мужыцкая праўда»[10] за подпісам «Яська-гаспадар з-пад Вільні», а пару песень і «гутарак»[11] на той жа мове выдаў Браніслаў Шварцэ ў Беластоку.

## II.

Душой гродзенскай арганізацыі быў доктар Целястын Цеханавецкі[12], чалавек шанаваны, любімы моладдзю, гэта была сапраўды незвычайная асоба[13].

---

[8] *Вытрымаў на пасадзе кіраўніка аддзела Нацыянальнага ўрада ў Вільні на працягу ўсяго часу паўстання. У сакавіку 1864 г. быў арыштаваны і павешаны ў Вільні. —* ***Курсівам выдзеленыя каментары Ю.Ядкоўскага***

[9] Сярод паўстанцаў былі папулярнымі песні, напісаныя Ражанскім па-беларуску «Гэй-га, разэм, хлопцы» і «Ах ты моя чарнабрiва!»

[10] «Мужыцкая праўда» («Mużyckaja prauda») — нелегальная, першая беларускамоўная газета (А. Луцкевіч назваў яе «баявым лістком»). Выдавалася ў 1862—1863 гг. лацінкаю К. Каліноўскім з Ф. Ражанскім, С. Сангіным, В. Урублеўскім. Выйшла 7 нумароў. Упершыню ўсе нумары былі надрукаваныя ў якасці дадатку да кнігі С. Агурскага Очерки по истории революционного движения в Белоруссии (1863—1917). Мн., 1928. 348 с.

[11] Маецца на ўвазе «Гутарка старога дзеда», якую таксама прыпісваюць аўтарству В. Дуніна-Марцінкевіча, В. Каратынскага, У. Сыракомлі, К. Каліноўскага.

[12] Насамрэч яго прозвішча Цеханоўскі

[13] *Сын Міхала і Тэклі з Мацкевічаў, нарадзіўся ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. (Раснінская парафія, маёнтак Гарлова), памёр 28 снежня 1906 г. у Іркуцку і там быў пахаваны. Атрымоўваў адукацыю ў магілёўскай гімназіі да 1852 г.; пасля доўгіх ваганняў, пачаткова плануючы стаць ксяндзом, у 1853 г. паступіў на лячэбны факультэт Маскоўскага ўніверсітэта, які скончыў у 1857 г. У сувязі з тым, што яго маці жыла ў той час ў ваколіцах Гродна (у Жытомлі), пасяліўся як урач у Гродне,*

На чале арганізацыі «белых» ці памяркоўных стаяў гр. Віктар Вацлаў Стажэньскі[14]. 1861–1863 гады засталі яго на пасадзе маршалка Гродзенскай губерні. У гэтай якасці ён адыграў значную ролю ў арганізацыі «белых» не толькі ў Гродна, але і ў Літве[15].

***

Да падзей напярэдадні паўстання 1863 г. мусіць быць аднесена няўдалая працэсія з Гродна да Ружаныстоку, якая павінна была адбыцца 27 жніўня 1861 г.

Несумнеўна, жывуць да сённяшняга дня яе відавочныя сведкі, якія могуць дадаць не адну падрабязнасць, якая

*(гл. папярэднюю старонку)*

*заслужыў шырокую павагу і папулярнасць. Прымаў актыўны ўдзел у паўстанцкай арганізацыі ў 1863 г., быў арыштаваны падчас аказання дапамогі параненым паўстанцам і пасаджаны ў турму на вул. Дамініканскай. Пасля доўгага працэса быў прыгавораны да смяротнага пакарання праз расстрэл, і толькі дзякуючы ўмяшанню брата д-ра Целястына — Яна, удалося атрымаць прысуд да 20 гадоў цяжкіх прац. На адбыццё пакарання др. Цеханавецкі быў высланы на дзяржаўныя фабрычныя прадпрыемствы ў Аляксандраўску (пад Іркуцкам). Аднак у гэтай катарзе др. Ц. быў нядоўга, пакуль яму не далі загад займацца лекарскай дапамогай хворым зняволеным. Пасля чатырох гадоў катаргі, атрымаўшы падтрымку мясцовай адміністрацыі, др. Ц. стаў галоўным урачом у Аляксандраўску (з заробкам 4000 руб.), а праз некалькі гадоў перабраўся ў Іркуцк. Тут ажаніўся, на радзіму не вярнуўся і ў Іркуцку скончыў свой век. Як шчыры ідэаліст, быў чалавекам вялікай працавітасці і стараннасці, выклікаў да сябе паўсюдную павагу, любоў і нават захапленне.*

[14] *Сын Мацея і Марыі з гр. Бавароўскіх, нарадзіўся 26 верасня 1826 г. у маёнтку Страбля (Гродзенская зямля); вучыўся ў айцоў езуітаў у Фрыбургу Швайцарскім, затым ва ўніверсітэце ў Мюнхене. Пастаянна жыў у Страблі, акрамя гэтага меў маёнтак Няводніца Наргелеўская (пад Беластокам) і Боцькі (зямля Віленская). З 1847 г. да 1850 служыў у расейскім войску.*

[15] *У выніку падачы ў адстаўку (на выклік Нацыянальнага Урада), напісання адкрытага ліста да павятовых маршалкаў і за стасункі з выбітнымі дзеячамі 1863 г. быў арыштаваны і пасаджаны ў турму ў т. зв. Нумар 14 (на Антокалі) у Вільні, дзе прабыў ад вясны да восені 1863 г.*

*Следчыя органы прыпісвалі яму амаль кіруючую ролю ў тагачасных падзеях, таму Стажэньскі павінен быў быць асуджаны на смяротнае пакаранне, але пасля заступніцтва Напалеона III быў памілаваны і на паўгода змешчаны ў Бабруйскую крэпасць, пасля чаго адпраўлены ў Варонеж, а маёнткі, акрамя Боцек, былі прымусова прададзены. Вярнуўся з выгнання ў 1867 г.*

*Памёр 31 мая 1882 г. у Пецярбургу.*

*Быў жанаты з Марыяй Аморы дэ Бэзі (1834—1875); пакінуў пасля сябе сыноў Віктара, Маўрыцыя, Уладзіміра, Мар'яна, Адама, Аляксандра і дачок — Габрыэлу (замужам за Юліянам гр. Тарнопальскім) і Зоф'ю (замужам за Леанардам гр. Ставеньскім).*

характарызуе «бунт натоўпу», ніжэй апісаны і заснаваны на афіцыйных архіўных крыніцах.

26 жніўня 1861 г. кс. Юзаф Маеўскі, гродзенскі дэкан, абвясціў веруючым з амбона, што назаўтра павінна вырушыць працэсія да Ружанистоку і чакаюцца шматлікія іншыя працэсіі з Кароны, якія злучацца з гродзенскай…

«Несумненна, усім вядома, — казаў кс. Маеўскі — улады абвясцілі аб тым, што сілай зброі не дапусцяць ажыццяўлення рэлігійнай працэсіі… і наш пастар (г.зн. біскуп), не давяраючы таму, што было б няміла Богу, падае да агульнага ведама, што кіраўнік краю выдаў распараджэнне на ўжыванне вайсковай сілы ў выпадку, калі захочацца, паводле звычаю, замест паасобку пайсці ў Ружанысток працэсіяй для малітваў Богу і аддання пад апеку каралевы Нябёсаў…»

«Аб тым, што распараджэнні вярхоўнай улады належыць паважаць, спрачацца не можам. Аднак вы далі абяцанне Усявышняму Богу аддаць сябе апецы Найсвяцейшай Марыі Панны, таму згодна дазволу Касцёла, кожны з’яўляецца абавязаным стрымаць абяцанне… і я не падбухторваю вас супраць улады, я таксама не заклікаю вас выказваць непадпарадкаванне касцёлу, а менавіта ў дадзеным выпадку няма ніякага прымусу, пакідаю гэта на ўласную волю і сумленне кожнага».

«Калі нас сустрэне якая-небудзь перашкода на дарозе, тады хай адзінай нашай зброяй будзе малітва да Бога — «Бог нам прыстанішча і сіла»; і калі небяспека будзе пагражаць нам, то ў тым выпадку малітва «Пад Тваю абарону…» павінна быць адзіным шчытом. Акрамя таго наша бяспека, уся наша сіла і мір хай будуць у Богу, у Найсвяцейшай Троіцы на вякі вякоў Амінь!»

Такім ці іншым чынам у той жа дзень прамова кс. Ю. Маеўскага была прадстаўлена гродзенскаму губернатару. Губернатар, а быў ім тады Ян Шпэер (з 1856 г.)[16], чалавек баязлівы і слабавольны, хаця да польскай справы, здаецца, наогул даволі прыхільны, аднак у тым выпадку пайшоў за радай да віленскіх уладаў… Ён заклікаў кс. Маеўскага да адмовы ад працэсіі — але дарэмна. Не зламалі супраціўленне кс. Маеўскага ні тэлеграма віленскага біскупа, ні кіраўніка края.

Кс. Маеўскі давёў усім, што працэсія павінна адбыцца.

[16] Шпэер Ян Абрамавіч (1805—1869) — 14-ы губернатар Гродзенскай губерні: 4(16) мая 1856 — 1(13) верасня 1861. 2 (14) кастрычніка 1861 г. таемна пакінуў Гродна ў павозцы земскага іспраўніка Магнуса, а яго ўласны экіпаж з паліцэйскім служачым патрыятычна настроеныя грамадзяне, якія сабраліся ля карчмы Пагулянка, закідалі пяском і каменнем.

Назаўтра, 27 жніўня 1861 г., з самага ранку натоўп веруючых напоўніў былы езуіцкі касцёл. Паліцмайстар патрабаваў закрыць касцёл, але дарэмна. А палове шостай кс. Юзэф Маеўскі ў суправаджэнні чатырох ксяндзоў на чале працэсіі адправіліся на плошчу Баторыя[17], а там ужо чакала войска з губернатарам і камандзірам дывізіі...

Акружаныя з усіх бакоў войскам, усе, хто сабраўся, упалі на калені, заспявалі літанію і гімн Н.М.П., пасля чаго вярнуліся ў касцёл, дзе перад галоўным алтаром былі ўзнесены палымяныя малітвы і малітоўная песня «Ojczyznę, wolność racz nam wrócić Panie!»…

Скончылася ўсё без кровапраліцця, хаця натоўп быў узбуджаны рэхам варшаўскіх выпадкаў, расійскія ўлады бачылі ў тым выпадку выразны «польскі бунт».

Пацярпеў толькі ўсімі любімы і паважаны кс. Юзаф Маеўскі, які быў высланы ў г. Курган Табольскай губерні…[18]

Дзяржаўная ўлада была моцна ўстрывожана гэтым выпадкам[19]. Губернатар Шпэер быў звольнены, і ў Гродна прыслалі нейкага Аляксандра Дрэнякіна[20] (з 11 кастрычніка 1861 г.), палякафоба, але і той нядоўга кіраваў тут, ужо з 4 красавіка 1862 г. бачым на гэтай пасадзе Івана фон Галера[21] і з 29 красавіка 1863 г. — Івана Скварцова[22]…

[17] Сёння — Савецкая плошча

[18] *Праз год кс. М. быў памілаваны і вярнуўся ў краіну. Памёр у Друскеніках і там жа пахаваны.*

[19] Дапамогу маніфестантам аказаў паручнік Пскоўскага палка Вольскі, за што яго выслалі з Гродна. На яго провады сабраўся тысячны натоўп.

[20] Дрэнякін Аляксандр Максімавіч (1813—1879) — 15-ы губернатар Гродзенскай губерні: 19 верасня (1 кастрычніка) 1861 — 6(18) сакавіка 1862. У «Гутарцы двух суседзяў» (№2), якая распаўсюджвалася па Гарадзеншчыне, гаварылася аб растрэле Дрэнякіным па загаду імператара 10 тысяч сялян у Казанскай губерні (насамрэч, вясной 1861 г. Дрэнякін прыняў жорсткія меры па задушэнню паўстання сялян у Пензенскай губерні). 2(14) лістапада 1861 г. Дрэнякін падаў «памятную запіску», у якой пералічыў захады, якія неабходна прыняць у Гродзенскай губерні для ўтрымання яе ў падпарадкаванні: замяніць чыноўнікаў-каталікоў на праваслаўных з павышэннем тым жалавання, перакідванне ў край дадаткова двух палкоў казакаў, правядзенне таемных следстваў, умацаванне складу гродзенскай жандармерыі прадстаўнікамі «вялікарускіх» жандармскіх камандаў.

[21] Галер Іван Уладзіміравіч — 16-ы губернатар Гродзенскай губерні: 6(18) сакавіка 1862 — 17(29) красавіка 1863 г. Арлоўскі адзначаў: «За нахабства, махлярства, крадзеж і прыгнёт, якімі адрозніваўся Галер, некаторыя асобы напярэдадні яго ад'езду з Гародні прынеслі яму свае «віншаванні“».

[22] Скварцоў Іван Мікалаевіч (1817—1882) — 18-ы губернатар Гродзенскай губерні: 21 ліпеня (2 жніўня) 1863 — 13(25) студзеня 1868 г. Ідэйна блізкі з М. Мураўёвым.

# III

Часта змянялася сістэма ўпраўлення губерні, змяняліся расейскія адміністратары, але не змяняла сваіх перакананняў польскае грамадства, таму што занадта шмат цяжкасцяў выклікала акупацыя, не лічачыся з настроем грамадства…

Аднак, паўтараем, сучаснаму пакаленню вельмі мала вядомы перыяд, які папярэднічаў выбуху студзеньскага паўстання ў Гродзенскім павеце, альбо 1861–1863 гады, тым не менш з тых нешматлікіх фактаў, якія тут пададзены, відаць, што гэты выбух павінен быў адбыцца з наступных прычын.

Як вядома, вельмі папулярнай была тады справа «ўзняць сялян, самы шматлікі клас насельніцтва, да стану грамадзяніна».

За прамову на гэтую тэму, якая была абвешчана ў Друскеніках (у курхаўсе[23]) у гадавіну Люблінскай уніі (1862 г.), студэнт Махнауэр быў высланы паводле распараджэння генерал-губернатара Назімава...

Тым часам расійскі ўрад, які да гэтага процістаяў усім прыватным ініцыятывам па гэтым пытанні, скінуў раптам кайданы народнага рабства з мэтай супакоіць масы і зрабіць з іх саюзніка.

Гэта быў прадуманы смяротны ўдар па польскім вызваленчым руху[24].

Разумелі гэта ўсе добра, але выбух паўстання немагчыма было спыніць, таму што ў гэты час ужо ў некалькіх месцах выявіліся самавольныя рухі, хаця Нацыянальны Урад не ўзяў яшчэ пад кантроль усе спружыны арганізацыі. Таму, калі ўжо кровапраліцце ў краіне немагчыма было адвярнуць, па меншай меры імкнуліся выкарыстаць яго найбольш мэтазгодна.

---

*(гл. папярэднюю старонку)*

Вылучаўся сваімі жорсткімі мерамі па падаўленню паўстання, закрыцці каталіцкіх касцёлаў і садзейнічанні праваслаўнай царкве. М. Каяловіч назваў Скварцова «строга рускім чалавекам».

[23] З ням. — будынак на курорце.

[24] Ядкоўскі памылкова бачыць прычыну адмены прыгону ва ўзмацненні польскага нацыянальнага руху, які празмерна ідэалізуе, у той жа час пакідае па-за ўвагай узмацненне сялянскага руху пасля адмены прыгоннага права 19 лютага 1861 г. у час яго найвышэйшага ўздыму ў 1861—1863 гг. На Гродзеншчыне ў 1861 г. войскамі былі задушаны выступленні сялян у маёнтку Заблудава, Іўі, Лыскаве, ваколіцах Дзятлава.

Так пачалася вярбоўка, пасыпаліся абяцанні і прысягі, збіралася зброя і ўзносы[25], і толькі чакаўся загад на выступленне…

***

У Гродне панаваў тады высокапатрыятычны настрой. Моладзь, што шпацыравала па горадзе, павінна была апраўдвацца, чаму яна не знаходзіцца «ў лесе». Нашы жанчыны не шкадавалі ў той час іроніі і зласлівых насмешак аб тых, хто ад нацыянальнага руху хацеў ухіліцца…

- А Пан тут яшчэ?… Чула… што даўно… там…

І вось наступіла гадзіна паўстання. Аказалася яно вельмі яркім, але нядоўгім полымем…

І яшчэ адзін мінус, агульнавядомы, — «памер» асобных адзінак. Кожны хацеў быць кіраўніком, але не кожны плячом; кожны жадаў кіраваць, але не кожны хацеў слухаць[26]. У любым выпадку спазненні ў выкананні загадаў вышэйшай улады былі прычынай шматлікіх няшчасцяў, якія на наш народ зваліліся…

***

У памятным для кожнага паляка 1863-м годзе, — апавядае вочны сведка паўстання Вандалін Шукевіч[27] (з Лідскага пав.), — мы не мелі амаль зімы.

[25] *Сэвярын Ромер, маршалак шляхты Гродзенскага павета, прыслаў у гатэль «Ламберт» у Парыжы каля 70.000 франкаў. Жыў ва ўласным доме на вул. Дамініканскай (зараз гатэль «Маскоўскі»). Арыштаваны за ўдзел у паўстанні 1863 г. Да 1875 г. быў высланы ў Сібір, пасля чаго вярнуўся ў краіну, але яму не дазволена было жыць у Гродне, таму пасяліўся на Сувальшчыне.*

[26] Важная заўвага Ядкоўскага, на якую не заўсёды звяртаюць увагу: сярод паўстанцаў вялікай праблемаю была вайсковая дысцыпліна. Доўгі час адсутнічаў вайсковы крымінальны ўстаў, зацверджаны толькі 20 лістапада 1863 г. ужо на хвалі заняпаду барацьбы. Да таго ж праблемаю заставалася толькі фармальнае выкананне прынцыпа «адзінаначальства» (падпарадкаванне аднаму дакладна прызначанаму камандзіру) у атрадах.

[27] Шукевіч Вандалін (1852—1919) — археолаг і этнограф, член-карэспандэнт Кракаўскай акадэміі навук. З 1883 г. даследаваў археалагічныя помнікі на паўночным захадзе Беларусі і поўдні Літвы. Каля в. Начы (Воранаўскі раён) разам з Шукевічам археалагічныя даследаванні праводзіў Юзаф Ядкоўскі.

Яна ледзь закранула сваім снежным крылом нашу краіну і асела аж дзесьці далёка за Дзвіной і Дняпром, пакідаючы гэтую зямлю сапраўды голай і бруднай, але не замарожанай, таму што была загорнутая ў шэрае пакрыццё тумана, якое разрывалася час ад часу светлым вокам сонца, што пасылала зямлі свае агністыя пацалункі.

Самыя старыя людзі не памяталі такой цеплыні ў гэтую пару года. Прыпісвалі яе відавочнай дабрыні Госпада, які лятае над нядоляй тых, хто пакінуў родныя хаты і ўсё, што было самым дарагім, хто блукае па лясах і змагаецца за святую справу цэлымі тыднямі, не маючы даху над галавою. У красавіку вясна была ўжо ў поўным росквіце, шчодрай рукой распаўсюджваючы па абуджанай пасля зімовага сну зямельцы свае чароўныя дары, напаўняючы людскія сэрцы надзеяй.

Надзея! Хто яе не меў у той час у нашай краіне!? У каго не круціліся шырокія планы па адбудове Польшчы ад мора да мора!? Хто не марыў, хто не верыў, «што гроб той трэсне, які стаіць пасярод свету прыпёрты рукой вялізнага ката»… Хто не чакаў уваскрасення! Але іншыя планы былі ў лёсу!

Навальніца ішла за навальніцай, гінулі героі ідэі, пакідаючы пасля сябе незапоўненую пустэчу.

Адна з першых сцэн гістарычнай трагедыі разыгралася ў Гродзенскім [павеце] у ваколіцах Гродна.

У другой палове красавіка[28] 1863 г. некалькі дзясяткаў добраахвотнікаў з горада з начальнікам чыгуначнай станцыі Калышкам на чале[29], будучы ў пагадненні з машыністам, які вёў цягнік з Вільні, павінны былі пайсці ў бок Парэчча (зараз ст. Друскенікі). Напэўна, па прычыне здрады, калі добраахвотнікі запоўнілі вагоны, у апошнюю хвіліну перад ад'ездам лакаматыў быў адчэплены ад вагонаў, якія тут жа акружылі маскоўскія вайскоўцы. Калышка з машыністам паехалі, пакідаючы лёсу сваіх таварышаў, што сабраліся ў вагонах.

Ноч была цёмная і дажджлівая, паляванне ў маскалёў атрымалася, а добраахвотнікаў заблакіравалі ў горадзе, толькі раніцай іх пазнавалі па брудных чаравіках. Паўстанцаў закрылі ў турме і затым вывезлі ў Сібір.[30]

---

[28] Падзеі адбываліся ў ноч з 14 (2) на 15(3) сакавіка 1863 г.

[29] *Расейскія архіўныя крыніцы называюць яго Кульчыцкім.* Леон Кульчыцкі паходзіў са шляхты Марыямпальскага ўезда Аўгустоўскай губерні. Служыў на чыгунцы. Пасля аднаго з баёў супраць расійскага войска, загінуў ад атрыманых ран летам 1863 г.

[30] *З урадавых рас. крыніц даведваемся, што аддзел войска прыбыў на станцыю, мабыць, на гук стрэлаў. Арыштавана на месцы 8 вучняў гродзенскай гімназіі,*

Калышка, пакінуўшы лакаматыў у полі, неўзабаве сфарміраваў атрад, але на яго напалі, і паранены ён трапіў у няволю і, як і многія, быў пакараны смерцю[31].

# IV

Паўстанне на гродзенскай зямлі выбухнула яшчэ ў студзені 1863 г., спачатку ў ваколіцах ст. Лапы[32] і г. Суража[33], а ў апошнія дні студзеня 1863 г. у Бельскім павеце (перастрэлкі адбыліся пад вёскамі Плюшкі, Кастылькі, Стуляны і Казлы). 6 лютага 1863 г. адзін з самых вялікіх паўстанцкіх атрадаў пад камандаваннем Рамана Рагінскага[34], які па

*(гл. папярэднюю старонку)*

*прозвішчаў іх мы не ведаем (з нататак, якія засталіся пасля Я. Арлоўскага).* Напрацягу 15(3) сакавіка былі арыштаваныя каля 70 чалавек. 29 (17) верасня 1863 г. М. Мураўёў падпісаў канфірмацыю, згодна з якой 25 чалавек былі пакараны і высланы ў Сібір, 38 з-за недастатковасці доказаў былі пакінутыя на радзіме, але ўзятыя пад паліцэйскі нагляд. Спіс удзельнікаў нападу на чыгуначную станцыю г. Гродна 2 сакавіка 1863 г. прыводзіць Іван Буднік (Буднік І.Ф. Да падзеяў 1863—64 гг. на Гарадзеншчыне. Гродна, 2013. 108 с. С. 85—88.

[31] Ю.Ядкоўскі памылкова мае на ўвазе Баляслава Калышку, замест Леона Кульчыцкага. Калышка ў сакавіку 1863 г. сфарміраваў атрад (так званы Дубіскі полк) у Ковенскім павеце. У красавіку далучыўся да Зігмунта Серакоўскага, які быў разбіты ў Біржайскай бітве 25—27 красавіка 1863 г. Узыты ў палон і павешаны ў Вільні 9 чэрвеня (28 мая) 1863 г.

[32] У Беластоцкім павеце на адзін з рэкруцкіх канвояў каля чыгуначнай станцыі Лапы 22 студзеня напалі сяляне і адбілі некалькі чалавек, сярод іх — мешчанін мястэчка Кнышына Вікенцій Людвік Гоман.

[33] 23 студзеня ў сярэдзіне дня сяляне ваколічных вёсак горада Суража Беластоцкага ўезда Гродзенскай губерні на чале з ксяндзом Пякарскім раптоўна атакавалі 7-ю роту 2-га батальёна Лібаўскага пяхотнага прынца Карла Прускага палку, размешчаную ў самім горадзе. Сярод сялян былі таксама прадстаўнікі канспіратыўнай арганізацыі, якія прыбылі з Царства Польскага. Падчас бою да іх далучыліся і гараджане. Паўстанцы наступалі з трох бакоў і вымусілі адступіць расейцаў ў в. Растолты.

У данясенні Гродзенскаму губернатару прыведзеныя наступныя факты пра забітых удзельнікаў сутычкі: «рядовые — Сергей Иванов и Сила Андреев и барабанщик Василий Кузьмин, из коих первым отрезаны были языки и заткнуты им же за портупеи, а последнему вырезаны были детородные части и положены ему же в карман шароваров; у всех же трех были разбиты черепа и у двух обрезаны носы и губы. Со стороны мятежников найден убитым один крестьянин Козловский, а о других убитых, если были, неизвестно, за отсутствием капитана Малюги с командою, и которых без сомнения возмущенная толпа унесла с собою».

[34] Рагінскі Раман (1840—1915) ужо падчас навучання ў варшаўскай гімназіі захапіўся рэвалюцыйнымі ідэямі. У 1861 удзельнічаў у маніфестацыйным руху, пасля чаго, вымушаны пакінуць Варшаву, накіроўваецца ў Італію, дзе паступае ў

некаторых звестках налічваў каля 5000 людзей, змагаўся з расійскім войскам пад камандаваннем ген. Манюкіна ў бітве пад Сямяцічамі.[35]

Рагінскі, акружаны маскалямі на Каралеўскім мосце, выйшаў адтуль з вялікімі стратамі і, маючы ўсяго 85 чалавек, ударыў 13 лютага на Пружаны, адкуль выгнаў расейскі атрад і забраў зброю, амуніцыю і 10000 руб. у павятовай касе[36]. Праз Пружанскі, Слонімскі і Пінскі паветы накіраваўся да Старынова, паўсюдна абʼяўляючы вызваленне сялян і польскую ўладу, пакуль маскалі яго не дагналі каля вёскі Боркі, дзе Рагінскі трапіў у няволю (2 сакавіка 1863 г.) і быў высланы ў Сібір[37]…

*(гл. папярэднюю старонку)*

вайсковую школу ў Генуі, пазней перанесеную ў Кунеа (у Пʼемонце). Адкрытая пры падтрымцы Дж. Гарыбальдзі ў верасні 1861-га школа рыхтавала вайсковыя кадры для будучага паўстання, пакуль пад націскам Расіі не была зачынена ў чэрвені 1862. Аднак нават за такі кароткі час дадзеная інстытуцыя здолела падрыхтаваць 120 чалавек, у тым ліку Зыгмунта Мінейку і Рамана Рагінскага. 15 кастрычніка 1862 Рагінскі вяртаецца ў Варшаву, дзе ад Цэнтральнага камітэта атрымоўвае заданне рыхтаваць паўстанне на Падляшшы. Для гэтага ён прыязджае ў г. Белая (сёння Бяла-Падляска ў 36 км ад заходняй мяжы Рэспублікі Беларусь), дзе займаецца вярбоўкаю людзей, у асноўным з ліку шляхты і мяшчан, стварэннем складоў зброі і харчавання ў ваколічных лясах. У першую ноч паўстання з 22 на 23 студзеня Рагінскі на чале каля 60 чалавек спрабаваў авалодаць горадам Белая. Удзельнік некалькі бітваў супраць расійскіх войскаў на Беласточчыне, пасля бітвы пад Семяцічамі перайшоў на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь, па якой атрад Рагінскага за 24 дні ажыццявіў 750 кіламетровы рэйд.

[35] *Ген. Манюкін данёс у рапарце, што каля 1000 паўстанцаў пакінуў забітымі.* Самая значная бітва на тэрыторыі так званага Паўночна-Заходняга края, адбывалася 6—7 лютага 1863 г.

[36] Сумесна з Рагінскім дзейнічаў атрад гродзенскага чыноўніка Станіслава Сангіна (каля 1818—1863), які напярэдадні паўстання выступаў з артыкуламі на эканамічныя тэмы. Паплечнік Кастуся Каліноўскага, удзельнік Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі, адзін з аўтараў «Мужыцкай праўды». Пасля захопа Пружанаў Сангін рашуча выступіў супраць далейшага руху ў глыб Палесся, якое не было падрыхтаванае да паўстання. Ён са сваім атрадам павярнуў у бок Бельскага ўезда, па дарозе куды 15 лютага патрапіў у пастку паблізу Рэчыцы Пружанскага павета (сёння — Камянецкі раён) і быў разбіты пераўзыходзячымі сіламі праціўніка пад кіраўніцтвам падпалкоўніка Вімберга. Загінулі 11 паўстанцаў, у тым ліку сам Сангін, 16 патрапілі ў палон, некалькі чалавек патанулі, выратаваліся толькі 8 чалавек.

[37] Першапачаткова быў прыгавораны да смяротнага пакарання. Але генерал-маёр Іван Носціц, супраць якога Рагінскі правёў некалькі баёў «з увагаю чыстасардэчнага прызнання Рагінскага і зробленых ім сведчанняў, жадаючы выратаваць жыццё гэтага энергічнага дваццацігадовага юнака… я замовіў у Вялікага князя дараванне яму жыцця». Пасля захопа Пружанаў Сангін рашуча выступіў супраць далейшага руху ў глыб Палесся, якое не было падрыхтаванае да паўстання. Ён са сваім атрадам павярнуў у бок Бельскага ўезда, па дарозе куды 15 лютага патрапіў у пастку

У той час вайсковым кіраўніком гродзенскага ваяводства быў Ануфры Духінскі[38], а кіраўніком галоўнага штабу — інспектар Сакольскай лясной школы Валеры Урублеўскі. Абодва накіраваліся разам з атрадамі ў Ражанскую пушчу. «У сакавіку палкоўнік Духінскі аддзяліў 80 незадаволеных працай і недастачай і, пры гэтым слаба ўзброеных, і вызваліў іх ад жаўнерскіх абавязкаў»[39]. Праходзячы праз вёскі і мястэчкі, паўстанцы абвяшчалі народу маніфест вызвалення. 8 чэрвеня над рэчкай Сцерцежам сустрэліся паўстанцы з маскалямі, якіх было тры роты. Камандаваў Урублеўскі: вялікую частку паставіў у густым лесе над ракой, а за Сцерцежам былі часткі Толкіна і касінераў… Атакі маскалёў былі адбітыя, але паўстанцы страцілі 13 чалавек.

Недалёка Серадава пад Боркамі адбылася новая сутычка з ворагам, якая скончылася паспяхова. Затым аддзел вярнуўся ў Ражанскую пушчу і 12 чэрвеня аб’яднаўся з ваўкавыска-гродзенскім аддзелам.

У той час ваўкавыскім аддзелам камандаваў Стравінскі (Малаток)[40],

*(гл. папярэднюю старонку)*

паблізу Рэчыцы Пружанскага павета (сёння — Камянецкі раён) і быў разбіты пераўзыходзячымі сіламі праціўніка пад кіраўніцтвам падпалкоўніка Вімберга. Загінулі 11 паўстанцаў, у тым ліку сам Сангін, 16 патрапілі ў палон, некалькі чалавек патанулі, выратаваліся толькі 8 чалавек.

[38] Духінскі Ануфры — удзельнік паўстання 1830—1831 гг., прызначаны Варшаўскім урадам у 1863 г. вайсковым начальнікам Гродзенскага ваяводства, агульныя сілы якога ўзначаліў у красавіку. Знаходзіўся пры беластоцка-сакольскім атрадзе. Не ведаў мясцовыя ўмовы і не вызначаўся здольнасцямі ў вядзенні партызанскай вайны. Пайшоў у адстаўку ў жніўні 1863 г. і выехаў у Парыж.

[39] Мары. Успаміны пра партызанскі рух у Гродзенскім ваяводстве ў 1863 і 1864 гг. Ігнацыя Абрамовіча. Бендлікон, 1865.

[40] *Стравінскі, сын Маўрыцыя, жыхара Слонімскага пав.; служыў у расейскай кавалерыі і там ажаніўся з расіянкай Анастасіяй Сацінай. Перад 1863 г. пайшоў у адстаўку і пасяліўся ў сваім маёнтку Рэпнічы Слонімскага павета. Падчас паўстання быў камісарам Нацыянальнага ўрада ў Слонімскім павеце. Чакаючы вобыску, кампраметуючыя дакументы і намінацыйныя загатоўкі ўтапіў у жалезнай скрынцы ў ставе, аднак гэта было выкрыта дзякуючы даносам мясцовых сялян, і Стравінскі тым больш быў скампраметаваны і падлягаў смяротнаму пакаранню. Дзякуючы адносінам (праз жонку) з сям’ёй Сацінаў, Сабуравых, Скалонаў, выжыў і быў высланы ў глыб Расеі, у прыватнасці, аказаўся ў Старой Русе (Ноўгарадскі ўезд). Пазней жыў у Пецярбургу. Памёр у Варшаве ў 1890-я гг. Маёнткі Рэпнічы і Сератаўшчызна былі пасля паўстання прымусова прададзены ў расейскія рукі. Асобу Я.Стравінскага не трэба блытаць з асобай вядомага партызана ў Гродзенскім павеце — Густава Стравінскага. З Ob. «Oddziały powstańcze roku 1863 w gub. Grodz.» Яна Длугаша («Przeg. Nor.»), і цыт. вышэй «Marzenia» Л-ка Арамовіча.*

пружанскім — Влодэк (Самуха)[41], кобрынскім — Траўгут[42], берасцейскім — Ванькові (Ліліва)[43], слонімскім — Юндзіл[44], але сапраўдным начальнікам гэтага аддзела быў Ізыдор Лукашэвіч[45].

Аддзелы не раз аб’ядноўваліся між сабою, і ў той час галоўнае камандаванне займаў афіцэр вышэйшага ўзроўню. Акрамя пералічаных асобаў, камандавалі паўстаннем наступныя: Лянкевіч (Ландэр)[46], Вашкевіч, Толкін[47], Сасуліч[48], Баранцэвіч[49], Кярсноўскі (Гром)[50] і іншыя. Амаль усе былі афіцэрамі расейскага войска.

---

[41] Влодэк Фелікс Адам Ян Феліксавіч (1838-?) — памешчык Брэсцкага ўезда (маёнткі Кабакі і Матыкалы). Узначальваў Пружанскі атрад, арганізаваны 6 мая (24 красавіка) каля карчмы Пінюкі. Удзельнічаў у 10 сутычках з расійскімі войскамі, пасля чаго летам перадаў свой атрад А. Духінскаму і эміграваў.

[42] Траўгут Рамуальд (1826—1864) — ураджэнец Брэстчыны. Навучаўся ў Свіслацкай гімназіі. Удзельнік Крымскай вайны 1853—1856 гг. Выйшаў у адстаўку ў 1862 г., servicedслужыўшыся да чыну падпалкоўніка. З красавіка 1863 г. кіраўнік кобрынскага атрада. У кастрычніку атрымаў надзвычайныя паўнамоцтвы ў варшаўскім рэвалюцыйным урадзе. Павешаны ў Варшаве 5 жніўня 1864 г.

[43] Ваньковіч Ян Валенцевіч (1834—1899) — сын мастака Валенція Ваньковіча. Скончыў лясны інстытут у Санкт-Пецярбургу. Паручнік корпуса ляснічых у Белавежскай пушчы. З мая 1863 г. адзін з кіраўнікоў брэсцкага атрада.

[44] Юндзіл Францішак (1825 — 1865) — ураджэнец Слонімскага павета, былы ротмістр царскай кавалерыі, ён праявіў сябе як добры канспіратар, адзін са стваральнікаў Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі і кіраўнік паўстанцкага атрада слонімцаў.

[45] Лукашэвіч Ізыдор (Галоска) — ураджэнец Слонімскага павета. Адстаўны афіцэр расійскага войска. У паўстанні ваенны камандзір Слонімскага павета і начальнік атрада. Загінуў у баі ў жніўні 1863 г.

[46] Лянкевіч Аляксандр Алойзавіч (1820-?) — адстаўны падпалкоўнік расійскага войска. Часовы правінцыяльны ўрад надаў яму званне палкоўніка. Узначальваў атрад Гродзенскага павета. Кіраваў агульнымі сіламі паўстанцаў у бітве пад Мілавідамі 3 чэрвеня 1863 г. У верасні эміграваў у Францыю. У 1865 г. завочна прыгавораны да смяротнага пакарання.

[47] Толкін Дамінік — кіраўнік роты жаўнераў у складзе атрада Стравінскага. Загінуў у бітве пад Лукацамі 17 верасня 1863 г.

[48] Сасуліч Ксаверы (1821-?) — падчас паўстання кіраваў 3-й стралецкай ротай з Гродна.

[49] Баранцэвіч Антон Казіміравіч (1837—1918) — ураджэнец Ашмянскага ўезда. Скончыў Віленскую гімназію. Напярэдадні паўстання служыў у лібаўскім пяхотным палку, размешчаным у Беластоку. Дзейнічаў пад кіраўніцтвам А. Духінскага і В. Урублеўскага. Некаторы час узначальваў асобны атрад. У студзені 1864 г. адправіўся ў Францыю.

[50] Керсноўскі Эдвард (каля 1810—1864) — ураджэнец Гродзеншчыны, адстаўны маёр расійскіх войскаў. Актыўны паўстанцкі рэкруцёр. Арыштаваны і высланы ў Сібір. Памёр па дарозе ў шпіталі ў Камышлёве.

Паўстанне, не падтрыманае народнымі масамі, перратварылася ў партызанскую барацьбу, якая вывела на свет шмат геройства і талентаў. Ва ўсякім выпадку дэкрэт Нацыянальнай Рады ад 4 мая 1863 г. раіць «змяніць папярэднюю ўстойлівую і пасіўную тактыку на актыўнае наступленне і непакорнасць, на пастаянна варожую і сапраўды партызанскую тактыку».

***

З актаў былой расійскай мужчынскай гімназіі даведваемся, як паводзіла сябе школьная моладзь ў першы перыяд студзеньскага паўстання.

Моладзь была моцна ўзрушаная ўплывам тагачасных падзей, 16 сакавіка 1863 г. дырэктар гімназіі звярнуўся да каменданта горада за вайсковым патрулём на час лекцыі (10 падафіцэраў з афіцэрам). У гэты ж дзень разышлася навіна, што паўстанчыя аддзелы ўваходзяць у горад. Расійскае войска вырушыла ў бок Скідзельскіх рагатак, пачалі зачыняць крамы, бацькі натоўпамі пайшлі ў гімназію па дзяцей… Скончылася гэта ўсё толькі на страху. Аднак вечарам было арыштавана 6 вучняў, якія не начавалі ва ўласных хатах, потым яны былі адлічаны з гімназіі без права паступлення ў іншыя навуковыя ўстановы…

29 сакавіка быў арыштаваны граф. Навакоўскі, які выкладаў польскую мову ў сярэдніх школах, як «подстрекатель», гэта значыць агітатар.

У гэты час пайшло ў паўстанцы з гімназіі 20 вучняў, у сярэдзіне красавіка адлічана 119…

11 чэрвеня Мураўёў загадаў адпраўляць вучняў на канікулы толькі пасля атрымання ад бацькоў дакумента, які ў перакладзе з расейскай мовы гучыць наступным чынам:

Абавязацельства

У сувязі з выкананнем загада Генерал-губернатара, генерала пяхоты Мураўёва ад 11 чэрвеня (30 мая ст.ст.) Л.3736, ніжэй падпісаны НН, які пражывае ў Н уездзе, Н раёну, у Н, забіраючы з гродзенскай гімназіі майго сына НН, вучня НН класа, сцвярджаю, што бяру на сябе адказнасць у час канікул мець над ім пастаянную ўвагу, прымаючы на сябе адначасова адказнасць, калі ён знікне з месца пражывання, заплаціць штраф ад 100 руб. і вышэй паводле рашэння грамадзянскіх улад. Подпіс.

# V

На чале паўстанчай арганізацыі ў павеце стаяў паўнамоцны камісар, якога прызначаў Нацыянальны Урад, маючы некалькі акруговых альбо раённых, а пад імі былі парафіяне. Разам з начальнікам павета былі камісары паліцыі, скарбу, сувязі, аховы здароўя. Галоўнай мэтай павятовай арганізацыі было аказваць дапамогу ваеннаму паўстанню, а значыць забяспечваць жаўнерамі арганізатараў аддзелаў, задавальняць усе патрэбы аддзелаў, дастаўляць фурманкі пры неабходнасці хуткіх маршаў, даносіць ім пра рух расейскага войска, падтрымліваць сувязь паміж аддзеламі і Нацыянальным Урадам. Для перадачы навінаў галоўным чынам выкарыстоўваліся жанчыны.

Ад імя Нацыянальнага Урада павятовым камісарам быў спачатку Канстанцін Каліноўскі, а вайсковым начальнікам Гродзенскага павета — падпалкоўнік расійскай арміі ў адстаўцы Аляксандр Лянкевіч («Ландэр»), памешчык Гродзенскага павета.

Акты палявога суда падаюць шмат падрабязнасцей пра дзейнасць Лянкевіча ў Гродзенскім павеце. Напрыклад, з партыяй паўстанцаў, якую паспешна сабраў у Гродне, з мэтай вярбоўкі добраахвотнікаў у маёнтку Вілянава (Валіцкага — уласніка Азёраў) і Талочках Канеўскага, абвяшчаў гарачыя прамовы прыкладна наступнага зместу: «Уся моладзь Польскага Каралеўства, Літвы і Русі выйшла на поле бітвы супраць ворага, які захапіў нашу айчыну і рубіць іконы Маці Божай у касцёлах. Будзем змагацца за айчыну, свабоду і веру»…

Палявым экзекутарам Лянкевіч меў нейкага Гжоўскага[51].

У Дэль-Паца, ляснічага ў Азёрах, Лянкевіч забраў 66 карабінаў, патроны, порах і 500 рублёў срэбрам урадавых грошай і хацеў павесіць селяніна Жука, але ў апошнюю хвіліну дараваў яму жыццё[52].

Яго аддзел у хуткім часе быў разбіты маскалямі, сам жа Лянкевіч, павесіўшы за здраду каля 70 сялян[53], з рэшткамі аддзела перайшоў

[51] *Павешаны ў Гродне.*

[52] 3 мая 1863 г. напад на кватэру ляснічага ў Азёрах ажыццявілі 36 добраахвотнікаў пры пяці стрэльбах. Гэтая падзея стала сігналам пачатку барацьбы для ваколічных сялян, амаль сотня з якіх напрацягу сутак далучылася да атрада Лянкевіча. Аднак ужо 4 мая на Святых Балотах у бітве супраць 2 рот царскай пяхоты і 30 казакаў на чале з падпаручнікам Мантойфелем паўстанцы былі разбітыя, навіна пра што паўплывала на настрої тутэйшага сялянства.

[53] Лічба ў разы завышаная.

у Ваўкавыскі павет, дзе злучыўся са Стравінскім.[54]

Ад'ютантамі Лянкевіча былі Лявон Шаляхоўскі і Уладзіслаў Канеўскі, афіцэрамі ў паўстанцкім аддзеле Каліновіч, Надольскі, чыноўнік Грамадскай Палаты, і Анджэйковіч.

На мяжы Гродзенскага і Аўгустоўскага паветаў акрамя ўзгаданых вышэй Урублеўскага і Духінскага камандзірамі аддзелаў былі Парадоўскі («Астрога»)[55] і Воўр («Раманоўскі»)[56], эмігрант з 1831 г. Духінскі быў у рангу палкоўніка і называўся Гродзенскім ваяводай. Па загаду Духінскага быў павешаны «за дзяржаўную здраду» поп у Котры[57].

Узгаданае вышэй Гродзенскае ваяводства першапачаткова складалася з паветаў, якія ўваходзілі ў склад Гродзенскай губерні, але пасля выбуху ўзброенага паўстання яно было падзелена на тры часткі: у першую частку ўвайшлі паветы Гродзенскі, Слонімскі і Ваўкавыскі, да другой — Сакольскі, Беластоцкі і Бельскі і да трэцяй — Берасцейскі, Кобрынскі і Пружанскі. Адсюль паўставалі непаразуменні ў прызначэнні ваяводаў, якія былі de jure толькі памочнікамі ваяводы, а значыць ваявода меў двух памагатых, якія, аднак, дзейнічалі на свой страх і рызыку і ўрэшце станавіліся самастойнымі ваяводамі.

Гродзенскім ваяводам павінен быў стаць Гофмайстар Апола[58], жы-

[54] *С. у канцы паўстання выехаў за мяжу і жыў доўгі час у Парыжы. Фактаў пра яго з польскіх крыніц больш не ведаем.*

[55] Парадоўскі Аляксандр (1836—1890) — адстаўны паручнік расійскай артылерыі. Адзін з кіраўнікоў паўстання ў Ашмянскім павеце. Пасля смерці Л. Нарбута стаў вайсковым начальнікам Лідскага павета. Са сваім атрадам перайшоў у Гродзенскую губерню, дзе злучыўся з атрадам Лянкевіча. Дзейнічаў у Аўгустоўскім ваяводзтве. У канцы 1863 г. распусціў атрад і эміграваў.

[56] Раматоўскі Юзаф Канстанцін (1812—1888) — удзельнік паўстання 1830—1831 гг., пад час якога вызначыўся ў бітве пад Ваўрам (адкуль і пайшла яго мянушка). Да 1862 г. быў у эміграцыі. Нелегальна перабраўся ў Літву, дзе ўдзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання. Сфармаваў атрад, які дзейнічаў у Аўгустоўскім ваяводстве. У канцы 1863 г. вярнуўся ў Францыю.

[57] Маецца на ўвазе плябан у вёсцы Котры Пружанскага ўезда Гродзенскай губерні іерэй Раман Рапацкі, павешаны паўстанцамі 15(3) ліпеня 1863 г.

[58] *Нарадзіўся каля 1825 г. у Шастакове (у п. Берасцейска-Літоўскім), у сям'і заможнага памешчыка (паводле веравызнання пратэстанта). Атрымоўваў спачатку хатнюю адукацыю, а пасля ў гімназіі ў Варшаве і ва ўніверсітэце ў Берліне. Лібэльт увёў Г. да кола, якое мела мэтай выбух паўстання ў 1846 г., у выніку чаго быў арыштаваны і асуджаны (у сувязі са справай Рэера) у Вільні на ганебны слуп і на арыштанцкія роты ў Орску. На радзіму вярнуўся паводле амністыі ў пачатку кіравання цара Аляксандра II, пасяліўся ў маёнтку, атрыманым ў спадчыну ад бацькоў, якім удалося захаваць яго ад канфіскацыі. Пасля прыёму маёнтка Г. перад 1861 г. вызваліў сваіх*

хар Берасцейскага павета, а яго памочнікамі — Эразм Заблоцкі, чыноўнік будаўнічай камісіі, і Валеры Урублеўскі.

Урублеўскі[59], як афіцэр, вырушыў на чале паўстанцкага аддзела ў поле, прымаючы званне шэфа штаба і памочніка ваяводы па вайсковых справах (тлумачэнне вышэй).

У арганізацыі Гродзенскага ваяводства прымалі актыўны ўдзел Станіслаў Сільвястровіч[60], жыхар Гродзенскага павета, і кс. Чаповіч, пробашч з Мастоў, якія былі акруговымі кіраўнікамі, Сільвястровіч аднак, дзякуючы стараням гр. Станіслава Солтана, быў прызначаны павятовым.

Заблоцкі стаяў на чале паўночнай арганізацыі Гродзенскага ваяводства[61], збіраў добраахвотныя ўнёскі, а пазней падатак на паўстанне, перасылаючы ўсе сумы ў Вільню[62], называючыся «Грамадскім начальнікам Гродзенскага ваяводства».

Начальнікам адміністрацыі Гродзенскага ваяводства быў названы Ігнацы Генію ш, чыноўнік Скарбавай ізбы, які быў падначалены

*(гл. папярэднюю старонку)*

*сялян, але тагачасныя правілы ўскладнялі дзейнасць у гэтым кірунку, з вялікімі цяжкасцямі і коштамі вымушаны быў праводзіць справу сімуляцыйнага продажу кожнай сядзібы і зямельнага надзела асобна. Гэта стварыла вельмі добрыя адносіны паміж ім і вясковай грамадой, адносіны, якія трымаліся на працягу пазнейшых гадоў. За ўдзел у паўстанні ў 1864 г. быў арыштаваны і адпраўлены на катаргу ў Усоль. У 1868 г. выйшаў паводле маніфесту на пасяленне і пражыванне ў Іркуцку, праводзячы заняткі па музыцы. Дзякуючы намаганням аднаго спагадлівага замежніка, атрымаў эміграцыйны пашпарт без права вяртання ў Расею. Пасяліўся ў Галіцыі — напачатку ў Бродах, пазней у Кракаве, дзе 1 снежня 1890 г. скончылася яго жыццё.*

[59] *Паходзіў з заможнай сям'і, нарадзіўся ў вёсцы Жалудок, Лідскага пав., вучыўся ў сярэдніх школах у Гродне, затым скончыў лясьнічы інстытут у Пецярбургу. Быў інспектарам лясной школы ў Сакулцы, у 1863 г. мог мець каля 25 гадоў. У лістападзе 1863 г. біўся ў Любельскім павеце. Атрымаў два ўдары шабляй па галаве і па правым плячы, пасля чаго ўпаў з каня; зусім выпадкова яму жыццё выратаваў нейкі селянін, зацягнуўшы параненага ў хлеў…*

[60] *Уладальнік маёнтка Гожа пад Гародняй, быў жанаты з Ганнай з Букавецкіх, першапачаткова асуджаны да павешання, але пазней прысуд заменены на ссылку ў сібірскія руднікі. Памёр у 1910 г. у Стральцы (на Валыні). Сільвестровіча, як і многіх іншых, здаецца, выдаў Эразм Заблоцкі.*

[61] *Пазней на судзе Мураўёва ад усяго адмовіўся і скінуў усю сваю віну на іншых. З крытычнага разбору яго сведчанняў можна было б многія падрабязнасці падаць, калі б хтосьці з удзельнікаў паўстання ў Гродзенскім павеце мог іх праверыць. На жаль, акты, якімі мы карысталіся, былі вывезеныя маскалямі ў 1915 г. з Гародні і зараз знаходзяцца, верагодна, у Курску.*

[62] *Паводле сведчанняў Заблоцкага адмаўляўся ад гэтага. Касірам у ваяводстве быў Абрэмскі.*

Заблоцкаму, апошні вылучыў для яго двух памочнікаў — мерніка Мілевіча і д-ра Брые дэ Марцірэ — і зацвердзіў канцалярам Талочку, зяця Генюша.

Начальнікам горада ад імя ваяводства быў доктар Целястын Цеханавецкі (глядзі вышэй), пазней яго памочнік Куткоўскі. Аднак начальнік горада, хаця і атрымаў назначэнне з рук начальніка павета (напр. Ц. ад Сільвястровіча), але справаздачы складаліся непасрэдна ваяводству. Горад быў падзелены на секцыі.

## VI

Як мы згадвалі вышэй, павятовае кіраўніцтва складалася з аддзелаў, кіраўнікоў якіх назначаў грамадзянскі начальнік павета. Пры Сільвястровічу гэтае назначэнне на пасаду атрымалі, хутчэй за ўсё пры ўдзеле гр. Солтана, наступныя сакратары: Касы — Ромер, маршалак павета, Апекі — Багатка, чыноўнік «приказа» сацыяльнай апекі, Камунікацыі — Люцыян Завістоўскі, гродзенскі памешчык, Войска — Юзаф Вайсяціч[63], адначасова будучы акружным, і Падзела зямлі для сялян — Камінскі, які быў назначаны грамадзянскім начальнікам Гродзенскага павета, несумненна, пасля арышту Сільвястровіча.

Акруговымі пры Сільвястровічу былі: 1) Рэдых, адміністратар земель гр. Пуслоўскай, 2) Конрад Дашкевіч, жыхар Гродзенскага пав., 3) кс. Чановіч з Мастоў, 4) Ян Камінскі, грамадзянін і сакратар павятовай рады (паўстанчай) і 5) Пётр Пакубята з Забалаці пад Гародняй…[64]

Усе нарады і пасяджэнні грамадзянскіх уладаў адбываліся галоўным чынам у доме Ромера (зараз гатэль «Маскоўскі»), ці ў кватэрах Ромера і Юндзіла, а часам у князя Ежы Чацвярцінскага, які прымаў удзел у гродзенскай арганізацыі, належаў да лагера «белых», аднак не ведаем, якую пасаду займаў у арганізацыі.

[63] *Вайсяціч Юзаф паходзіў з венгерскай сям'і (яго бацька дрэнна размаўляў па-польску), перад паўстаннем быў упраўляючым у маёнтку Краснікі (Гродзенскі пав.). Там жа быў арыштаваны, высланы ў Сібір, быў у Іркуцку. Вярнуўся на радзіму паводле амністыі пасля ўступлення на трон цара Аляксандра III. Пасля вяртання займаўся вясковай гаспадаркай, як упраўляючы спачатку на землях ген.Кіцкей, затым у Залатым Патоку. Быў жанаты з Кушлёвай з Беластоцкага павета. Памёр у Любліне.*

[64] *Нарадзіўся ў спадчынным маёнтку Русота-Забалаць у Пятра і Вікторыі з Вольмераў. Навучаўся ў гродзенскай гімназіі, маладыя гады правёў у родным маёнтку. У лістах, якія знаходзяцца ва ўласнасці пляменніка сп. Віктара Пакубяты, бачна, што быў высланы з гродзенскай турмы 22 кастрычніка, яго везлі праз Пецярбург і Уфу, 12 лістапада 1863 г. прыбыў у Белебей (Арэнбургская губ.).*

Начальнік аддзела камунікацыі (правільна — сувязі) Завістоўскі яшчэ ў сакавіку 1863 г. арганізаваў пошту ў павеце пры актыўнай дапамозе гр. С. Солтана. Сувязным у Завістоўскага быў Тшэцяк.[65]

Бухгалтарскі аддзел вёў улік, прымаючы грошы праз начальніка павета ад акруговых кіраўнікоў. Доўгі час сакратаром бухгалтэрыі быў маршалак Севярын Ромер, але ён, відавочна, не вёў бухгалтарскі ўлік, які быў даручаны Багатку, ваяводскаму касіру, аднак наяўныя грошы захоўваў у сябе.

Сакратар апекі быў адначасова памочнікам грамадзянскага начальніка павета і клапаціўся пра сем'і паўстанцаў. Сакратар быў чальцом камітэта жанчын (кола полек), у склад якога ўваходзіў начальнік павета, жонка прэзідэнта горада і пяць жанчын. Камітэт арганізоўваў у касцёлах збор сродкаў на нацыянальную справу, збіраў вопратку, бялізну, абутак і інш. Сродкі аддзела апекі захоўваліся ў аддзеле.

Найбольш актыўны ўдзел у працы Камітэта прымала ў горадзе жонка сакратара — Багатка, а ў павеце — Ромерава. Іншых падрабязнасцей пра Камітэт не маем, таксама не ведаем прозвішчаў удзельніц гэтага кола сапраўдных полек.

Трэба меркаваць, што да гэтага Камітэта належала Вайцюшкова, утрымальніца школы-інтэрната для дзяўчынак на вул. Брыгіцкай (зараз дом Міхальскага), дзе былі падрыхтаваны тысячы павязак для параненых паўстанцаў.

Начальнік вайсковага аддзела, альбо «вайсковы», быў памочнікам начальніка павета па справах забеспячэння аддзелаў.

Сельскагаспадарчы аддзел, альбо па справах падзелу зямлі для сялян, несумненна існаваў нядоўга, бо адмену прыгоннага права ўжо ўзяў у свае рукі маскоўскі ўрад і вырваў гэтую зброю з рук паўстанцаў, пра што ўспаміналі ўжо вышэй. Напэўна, работа абмяжоўвалася распаўсюджваннем сярод вясковага насельніцтва «Залатой граматы», якая абвяшчала класавую роўнасць у будучай свабоднай Польшчы. Сакратаром быў Ян Камінскі, пазнейшы начальнік павета.

---

[65] *Падпаручнік у адстаўцы меў пераплётную майстэрню ў Гародні. У сваіх сведчаннях выявіў расейскім уладам шмат таямніц паўстанчай арганізацыі. Назваў імя Адама Сержпутоўскага, вайсковага ў гродзенскай арганізацыі, пра якога большых падрабязнасцей мы не ведаем.* Генюш у сведчаннях назваў прозвішчы іншых сувязных — Навіцкага, афіцэра, і Штарка, чыноўніка, а Заблоцкі — Грыневіча і Бянецкага.

# VIII

Зруйнаваўшы краіну матэрыяльна, Мураўёў вырашыў зняважыць яе і маральна, прымусіўшы адмовіцца ад усіх думак пра самастойнасць, ад любога саюзу з Польшчай, для гэтай мэты загадаў літоўскай шляхце падпісаць адпаведныя звароты-адрасы.

З'явіліся і рашучыя, і слабыя. Першыя патрапілі ў турму і ў выгнанне, а другія апаганілі сваё імя, у любым выпадку большасць вымусілі з дапамогай нагайкі. Дастаткова і таго, што гродзенская шляхта склала такія звароты з 1600 подпісамі…[66]

Гэты адрас выклікаў шматлікія каментары ў замежнай прэсе, у тым ліку маскоўскай. Але адначасова з'явіўся і наступны адрас.

«Да Нацыянальнага ўрада ад грамадзян Гродзенскага ваяводства.

Падман, націск, гвалт, канфіскацыя маёмасці і турма з боку акупантаў, пры нядобрасумленнасці некалькіх ізгояў нашага грамадства, далі магчымасць сабраць некалькі сотняў подпісаў у адрас нацыянальнай здрады і самай поўнай адмовы ад саміх сябе.

Супраць гэтага ганебнага факта мы, грамадзяне Гродзенскага ваяводства, падпісаныя і непадпісаныя пад прадстаўленым зваротам, сведчым, што мы ніколі не мелі нічога агульнага з Масквою, што яна ніколі не ўлічвала нашых мясцовых патрэбаў, што ўвесь час яе панавання з'яўляецца часам гвалту, жудаснага прыгнёту, жахлівых жаданняў, канчатковай мэтай якіх былі поўная дэнацыяналізацыя і знішчэнне ў нас еўрапейскай цывілізацыі. Маскоўскі ўрад, бачыўшы ў нас усё варожае і чужое для сябе, не вагаўся і не вагаецца карыстацца самымі жорсткімі сродкамі для дэмаралізацыі і забойства ў нас палітычнага, рэлігійнага і сацыяльнага жыцця. Калі іншыя еўрапейскія народы, якія матэрыяльна ўзбагачаліся, рушылі і ідуць па дарозе цывілізацыі, мы былі і ёсць акружаны хабарніцтвам, пазбаўлены асабістай свабоды сумлення і слова, пад бесперапыннай пагрозай канфіскацыі і пастаянным жаданнем маскоўскага ўрада знішчыць неабходную сацыяльную гармонію. Нягледзячы на ўсе дамовы, скасаваны нашыя школы і ўніверсітэт, гвалтам мільёны людзей прымушаны змяніць уніяцкую веру на брыдкую схізму, дазволена бяспраўе, сціснуты гандаль, абрабавана і знішчана ўся краіна, маецца намер усіх сапраўдных грамадзян перасяліць на руднікі і ў снежныя стэпы Сібіры.

[66] *Так, прынамсі, падаюць «Виленские очерки» у «Рус. Стар.» 1883, 12, стар. 585. З нататак Я.Арлоўскага.*

З такім урадам немагчыма ўваходзіць у якія-небудзь добраахвотныя абавязацельствы, а вымушаныя звароты — гэта камедыя, якую граюць пад пагрозай шыбеніцы, турмы і страты багацця. Для Бога, урадаў і народаў Еўропы прысягаем, што адзінай нашай Айчынай была, ёсць і будзе Літва, аб'яднаная вечным братэрскім саюзам з Польшчай, з якой стагоддзямі мы дзялілі добры і няўдалы лёс; што зараз адзінай нашай уладай прыдатнай да нашых жаданняў і патрэбаў, з'яўляецца Нацыянальны Урад і яго органы, створаныя намі. Што гэта з'яўляецца нашым поглядам і самым святым абавязкам, сведчым васьмімесячнай пастаяннай барацьбой, якую весці клянемся, пакуль не дасягнем мэты, прызначанай Народам і адзіным легальным яго ўрадам.

1 (13) кастрычніка 1863 г.»[67]

Канец.

## Нататкі і дапаўненні

Мінула 60 гадоў з памятнай даты крывавага пратэсту супраць ціску захопнікаў.

Забыліся магілы вавяроў і мучанікаў за свабоду і незалежнасць Польшчы, раскіданыя больш за ўсё па лясах Гродзенскай пушчы ці таксама ў «Святым балоце» [68], нават імёны герояў сцерліся з чалавечай памяці…

З тагачасных урадавых папер і нешматлікіх успамінаў відавочцаў паўстання склаў я ў свой час спіс паўстанцаў і аддаў яго ў «Эха». Сёння дадам яшчэ некалькі прозвішчаў, якія дапоўняць крывавы спіс байцоў 1863 г., і запішу некалькі падрабязнасцей, якія тычацца паўстання, і да сённяшняга часу ў друку не абвяшчаліся.

Па крывавых здарэннях у Варшаве ў 1861 г., калі зачынілі касцёлы, і польскія жанчыны накрыліся жалобай, др. Целястын Цеханоўскі, усеагульна любімы ў Гродне грамадскі дзеяч, а ў 1863 г. начальнік горада ад імя Нацыянальнага ўраду, склаў наступны верш, у свой час агульнавядомы і не раз паўтораны:

[67] *Затым ідзе 46289 подпісаў грамадзян, завераных грамадзянскім урадам Гродзенскага ваяводства.*

[68] *«Echo Gr.» Nr 77, 1921*

Podziękowanie Polkom.

Dzięki wam Polki żeście zrozumiały,
Ze dziś nie pora tańczyć z moskalami,
Że gdy ma z grobu pwstać naród cały,
Wam jest najpiękniej z modlitwą i łzami.
Gdy tyle nadziei w sercach naszych płonie,
Gdy tyle westchnień ku wiośnie ulata;
Gdy nasza Polska w męczeńskie koronie,
Zwraca na siebie wzrok całego świata.
Wyście powinny prawe Polski córy,
Dać mu świadectwo, że męki wiekowe.
I trzech tyranów męczarnie, tortury,
W was nie zatarły cnoty narodowe.
Że Polska wiecznie w swojem sercu chowa
Pamięć przeszłości, pamięć dawnej chwały,
Że gdy nadziei błyśnie gwiazda nowa
Onu ku niebu zwraca swój wzrok łzawy.
I z taką piękną zadumą na czole,
Wśród grona swoich, gdzie wróg podsłucba,R
Rozpamięstywa narodowe bole,
Ku nowym krzepi upadłego ducha.
Porzuca stroje i zabawy świetne,
I rada stroni od wrogów swej ziemi,
Dając im poznać jak ich dusze szpetne,
Jak Polski: córa wiecznie gardzi niemu,
Dziąki raz jeszcze zeście zrozumiały...
Bo usta wasze gdy mogły wydają,
I łzy gdy z oczu biegną po kropelce,
Anieły w pączki różowe zbierają
I niosą w darze Boga rodzicielce.
A każda prośba, każda wasza łeska
U tej patronki w takiej wielkiej cele,
Że za nią jedną Królowa niebieska
O rok przybliży Ojczyzny zbawienie.

Верш, поўны адпаведнага настрою і характэрны для эпохі, быў запісаны Аленай з Кярсноўскіх Анджэйкавічовай і перададзены аўтару. А. Анджэйковіч была «апошняя з пяці», удзельніца

кіраўніцтва тагачаснага кола полек, якое перадавала перавязачныя сродкі і карэспандэнцыю паўстанцам. Памерла ў Друскеніках у красавіку мінулага (1922) года.

## Арганізацыя Ваяводства

Пачатковы праект арганізацыі Гродзенскага ваяводства быў наступны. Гродзенская зямля адміністрацыйна была падзелена на тры часткі: у склад першай уваходзілі Гродзенскі, Ваўкавыскі і Слонімскі паветы, у другую — Сакольскі і Беластоцкі і да трэцяй — Брэсцкі, Кобрынскі і Пружанскі. Безумоўна, былі прыняты пад увагу геаграфічныя ўмовы і сувязь з Каронай. Павінен быць адзін ваявода і два памочнікі «ваяводскага» (бо так называлі ў той час ваяводу).

Гэты праект, відавочна, паўстаў у віленскім камітэце, аднак не мог быць рэалізаваны, з выбухам паўстання хутчэй за ўсё быў зменены па прычыне выхаду з гродзенскай арганізацыі Валерыя Урублеўскага і выхаду яго ў поле з паўстанцкімі атрадамі на тэрыторыі паўночнай часткі Гродзенскага ваяводства. Урэшце змена ў адміністрацыйным падзеле ваяводства павінна была наступіць па прычыне недаходу адпаведных людзей для ўступлення на такія адказныя пасады, як намеснікі ваяводы. Кіраўнік вайсковай арганізацыі палкоўнік Духінскі, мабыць, не ведаў ні людзей, ні тэрыторыі будучых бітваў, і гэта прымусіла яго да хуткага сыходу пасля выбуху паўстання і да перадачы вайсковых справаў Валерыю Урублеўскаму, адважнаму і пакрытаму славай байцу.

Пасля выхаду Урублеўскага з пасады намесніка ваяводы па Сакольскаму, Беластоцкаму і Бельскаму паветах гэтыя паветы былі далучаны да паўднёвай часткі ваяводства, якая заставалася пад кіраўніцтвам А.Гофмайстра, які меў у той час сядзібу ў Брэсце над Бугам.

Папярэднікам Гофмайстра быў Стасюкевіч, магчыма, клерык з Янава-Падляскага, які пазней стаў камандзірам паўстанцкага атраду.

З красавіка 1863 г. памочнікам ваяводы ў Гродне быў граф Станіслаў Солтан (з Мураванай Бераставіцы), застаючыся на гэтай пасадзе на працягу месяца.

Гродзенскім ваяводам з сакавіка 1863 г. быў Апола Гофмайстар, жыхар Брэсцкага [павета] (куды пазней перайшоў на ваяводства, створанае з паўднёвых паветаў). Пражываў па вул. Скаліманаўскай ці Гараднічанскай у доме Мікульскіх. Пасля Г. ваяводам быў Станіслаў Сільвястровіч, уладальнік Гожы пад Гродна, і на гэтай пасадзе быў



**Ян Каменскі**

арыштаваны 30 ліпеня (ст.[арога] ст.[ылю]) 1863 г., пасля чаго высланы ў сібірскія руднікі.

Кс. Анджэй Чаповіч з Мастоў быў кіраўніком Гродзенскага пав. Быў высланы ў Арэнбургскую губ.

Скарбнікам ваяводства быў Багатка, а пазней Людамір Абрэмбскі, чыноўнік Палаты дзяржаўных зямель, і на гэтай пасадзе быў арыштаваны 12 лістапада (ст.ст.) 1863 г.

Л. Абрэмбскі, сын Паўла і Францішкі з Багушэвічаў, паходзіў са Слонімскага пав. Далейшы лёс яго нам не вядомы[69].

Акруговымі былі: 1) Конрад Дашкевіч, 2) узгаданы вышэй кс. А. Чаповіч, 3) Эміль Радых, сын Юзафа, адміністратар зямель графа Вандаліна Пуслоўскага (скончыў Аграрны інстытут у Марымонце), 4) Ян Каменскі, сын Юзафа, нарадзіўся ў Каменцы, Беластоцкага павета (скончыў гімназію ў Свіслачы і ўніверсітэт у Маскве; падчас паўстання меў 36 гадоў, працаваў у шляхецкай дэпутацыі**,** уладальнік маёнтка Міневічы Гродзенскага пав.; быў арыштаваны 12.VI ст.

[69] Абрэмбскі Людамір (каля 1820—1894) — шляхціц, гродзенскі чыноўнік, паўстанцкі касір Гродзенскага ваяводства. Паходзіў са шляхты Плоцкай губерні. Нарадзіўся ў мястэчку Дзярэчын на Слонімшчыне. Працаваў у губернскай палаце дзяржаўных маёмасцей. Падчас паўстання стаў касірам Гродзенскага ваяводства. У яго на кварэты адбывалі сустрэчы паўстанцаў. Арыштаваны царскімі ўладамі быў высланы ў Сібір і вярнуўся адтуль толькі ў 1878 г. Увесь гэты час сям'я яго жыла ў вялікай нястачы. Пасля вяртання з Сібіры Л. Абрэмбскі стаў блізкім сябрам Э. Ажэшкі, ездзіў разам з ёй у Міневічы. «Вярнуўся з Сібіры без сродкаў, сіл для працы і аднаго вока. Другое таксама бачыць вельмі слаба. Ён ужо амаль сляпы і аслеп бы цалкам, каб не знайшоў нас, і мы яму не з'эканомілі сіл на астатнія гады жыцця. Гэты чалавек — досыць высокі калісьці чыноўнік… да нас прытуліўся. У горадзе ён толькі начуе ў сына, ўвесь час праводзіць у нас,» — пісала пра яго пісьменніца. Памёр Л. Абрэмбскі ў 1894 г. Э. Ажэшка сама склала эпітафію, якая выбітая на яго магіле: «Сэрцам чыстым і мужным кахаў зямлю і людзей, шанаваў справядлівасць і служыў няшчасцю. Няхай спачывае ў Богу, чые законы выконваў». Пахаваны на гродзенскіх Фарных могілках па вуліцы Антонава. Яго сын Максімільян Абрэмбскі быў сябрам Э.Ажэшкі, пабудаваў дом па вул. Ажэшкі № 19 у Гродне.

ст. 1863 г. і высланы ў Старлітамак, Арэнбургскай губ.) і 5) Пётр Пакубята, уладальнік Забалаці пад Гродна (памёр у выгнанні ў 1874 г.).

У Каменскага для даручэнняў быў Адам Баяроўскі, чыноўнік земскага суда ў Гродне. Гэтыя ж функцыі Б. выконваў і пры Сільвястровічы, у сябе хаваў паўстанцкую карэспандэнцыю.

Да сённяшняга дня не высветлена гісторыя з пячаткай ваяводства, якую Адольф Талочка схаваў ва Урублеўскіх (на вул. Ажэшкі), дзе пазней яна была закапана ў гародзе (у бляшанай банцы).

## Бітвы і сутычкі

Праект выправы гімназічнай моладзі ў 1863 г. напярэдадні дня Св. Казіміра паўстаў у інтэрнаце Прушынскага (у тым месцы зараз млын Касоўскага) ці ў так званых «агульных кватэрах». Гаспадаром Інтэрната быў Палятоўскі, настаўнік каліграфіі і польскай мовы ў ніжэйшых класах гродзенскай гімназіі. Адным з найбольшых прыхільнікаў выправы быў вучань Аляксандр Букраба (з Ваўкавыскага павета).

Як вядома, выпраўка скончылася сумна. На вакзале ў Гродне былі паранены Жук Ян і Рагоўскі — абодва схопленыя, як і іх паплечнікі: Юзаф і Адольф Кашубы, Станіслаў Крэйбіх, Юзаф Гамулецкі (выдаў шмат паплечнікаў), Юзаф Сямашка, Антоні Багатырэвіч, Станіслаў Разбіцкі, Антоні Верашчынскі (вярнуўся з Сібіры, памёр у Бераставіцы В.), Шмігіра (з Азёр), Мілкевіч, Юзаф Антушэвіч, Юзаф Кудзінскі, Аўгусцін Шаршаневіч, Антоні Жансніцкі (вучань Свянцянскай гімн.), Антоні Сямашка, Януары Гартунг і Генрык Валанскі.

Усе былі высланы ў Сібір. 4 мая палкоўнік Алхазаў з Лідскім аддзелам пачаў бой у Гродзенскай пушчы з Баляславам Нарбутам. Паводле расійскіх вайсковых дакладаў, паўстанцы пакінулі на полі бою шмат забітых, а сярод маскалёў толькі адзін салдат быў забіты («Журнал воен. действий в Вил. Вой. Окр.» 26.IV — 2.V.1863).

У той жа бітве ці таксама ў «Святым балоце» загінулі Уладзіслаў Жукоўскі, Антоні Клемянковіч, Пшыбытэк, Янкоўскі, Мікульскі і Пясэцкі (падаў Ільдэфонс Клюкоўскі).

11 ліпеня недалёка ад станцыі Парэчча (Друскенікі) была сутычка з атрадам расійскіх войскаў, высланым з Гродна. Падрабязнасці яе невядомыя да сённяшняга дня.

Можа быць, хтосьці з жывых яшчэ відавочцаў захоча падаць весткі, што дапоўняць часткова пададзеныя намі, чым акажа дапамогу

ў гістарыяграфіі студзеньскага паўстання ў Гродзенскім [павеце], якая дасюль яшчэ застаецца ў пачатку апрацоўкі.

Даўно настаў час узгадаць пра герояў паўстання, знайсці іх магілы і хаця б простым крыжом пазначыць месца іх вечнага спачынку.

## II

Наш край у 1863–1864 гадах склаў вялікую ахвяру на алтар Айчыны — ахвяру з тысяч сваіх сыноў і дачок. Адныя загінулі на полі бітвы ці памерлі ў турэмных падзямеллях, некаторыя былі расстраляны ці павешаны, іншыя, зноў жа, іх было вялікае мноства, пайшлі ў Сібір на руднікі, у тайгу на пасяленне. Зусім нязначная частка выгнаных вярнулася назад.



**Медалі за ўсмірэнне мецяжу**

Ліквідацыя паўстання цягнулася досыць доўга. Яшчэ ў 1866 г. працавалі вядомыя следчыя камісіі, таму цяжка сёння стварыць поўны спіс паўстанцаў з-за гэтай і многіх іншых прычын. Ніжэй, як першую ў гэтым кірунку спробу, падаем спіс асобаў, прозвішчы якіх фігуравалі ў расійскіх урадавых актах з часу студзеньскага паўстання, якія знаходзяцца ў былых архівах генерал-губернатарства ў Вільні і губернатарскага архіва ў Гродне. Апошні архіў спустошаны маскалямі ў 1915 г. і раскрадзены падчас нямецкай акупацыі, утрымліваў шмат каштоўных матэрыялаў, якія тычыліся нацыянальнага паўстання ў 1863–1864 гг., так што, на жаль, толькі рэшткі гэтых актаў захаваліся, а можа быць, яшчэ адсеюцца пасля ўпарадкавання архіва. Далёка не адзін акт быў выратаваны Камісіяй аховы помнікаў пры Гродзенскім старастве. Яны таксама з часам будуць упрыгожваць паліцы дзяржаўнага архіва ў Гродне.

Для характарыстыкі асобаў, якія прымалі больш ці менш актыўны ўдзел у студзеньскім паўстанні, абавязковымі ў першую чаргу

з’яўляюцца акты следчай камісіі, якіх толькі рэшткі можам праглядзець, і аповеды навочных сведкаў паўстання.

Пададзеныя ў спісе, ніжэй змешчаныя звесткі часта хоць і лаканічныя, аднак жа праліваюць шмат святла на час паўстання, калі жывёльныя інстынкты ўзялі верх над высокімі ідэаламі — героі і камандзіры час ад часу станавіліся слабымі чалавечымі істотамі.

Мы не стараемся іх бараніць ці асуджаць. Падаем сухую, кароткую, часам вельмі непрыемную інфармацыю — усю заснаваную на ўрадавых актах. У канцы гэтай працы плануем падаць да агульнай інфармацыі і крыніцы, на якіх заснаваны каштоўныя звесткі[70].

У першай частцы мы падалі імёны самых вядомых дзеячаў нацыянальнага паўстання і кіраўнікоў атрадаў у Гродзенскім павеце. Змешчаны ніжэй спіс з’яўляецца ў пэўнай ступені дадаткам з паданнем прозвішчаў асобаў, якія бралі менш ці больш актыўны ўдзел ва ўзброеным руху і якія, за выключэннем некалькіх выпадкаў, амаль усе былі пакараны высылкай з пазбаўленнем праў і канфіскацыяй усіх уладанняў паводле рашэнняў палявога вайсковага суда.

Сярод пералічаных асуджаных бачым вядомыя арыстакратычныя і шляхецкія прозвішчы, дробную шляхту, мяшчан, сялян, ксяндзоў, вайскоўцаў, вучняў гімназіі і студэнтаў. Жанчыны цярпелі роўна з мужчынамі і шлі ў Сібір на цяжкія працы, у руднікі і інш.

Годны адзначэння працэнт вядомых нам сялян, якія са зброяй у руках змагаліся з маскалямі. Таксама знаходзім у спісе прозвішчы вядомых гродзенскіх мяшчан, ёсць нават габрэі (напр. Моргалісава).

Спіс няпоўны…

Не хапае імён тых, хто паклаў жыццё ў няроўнай бітве ў «Святым Балоце» або ў іншых месцах бітваў, што адбываліся ў барах Гродзенскай і Белавежскай пушчаў у апошні час… А лічба іх значна большая, чым пададзеная намі, бо студзеньскае паўстанне не зведала ганьбы капітуляцыі. Васямнаццаць месяцаў вытрымаў мужны салдат у полі, дрэнна ўзброены, напалову галодны, грэўся адзінай любоўю да Айчыны, і ні адзін польскі атрад не склаў зброю перад маскалямі. Вядомы выпадкі, калі не атрымоўвалася адступіць, тады ўсе паўстанцы ў атрадзе гінулі

---

[70] *Аўтар звяртаецца з гарачай просьбаю да сваякоў і асобаў блізкіх паўстанцам 1863 г. пра перадачу факсіміле для капіравання ці магчымага сумеснага карыстання ў больш шырокай публікацыі, а таксама пра дадаткі ці папраўкі пададзеных ніжэй звестак пра паўстанцаў. Карэспандэнцыю па гэтай справе патрэбна накіроўваць на адрас Староства ў Гродне.*

ў баі, але атрады не паддаваліся. Добра заўважыў гісторык паўстання 1863 г. А. Гілер: «Не ведаю людзей, якія б заслугоўвалі на большае захапленне, на большую павагу і на ганаровае месца ў гісторыі, як пакутнікі і змагары студзеньскага паўстання».

Паўстанцы гублялі жыццё і маёмасць, а асірацелыя сем'і заставаліся часта ў вялікай галечы. Іх уладанні былі аддадзены царскім чыноўнікам ці іншым русіфікатарам нашага краю, якія за смешныя сумы набывалі часта нажытае цэлымі пакаленнямі.

Ці не прыйшоў вялікі час, каб прыняць вышэйсказанае пад увагу пры разглядзе розных зямельных і незямельных справаў, якія наўкола маюць месца, і якія даюць магчымасць незаслужаным перад краінай элементам зарабіць грошай на няшчасці, якое спаткала змагароў за свабоду Польшчы!

Дзе справядлівасць?!

Відавочна, няволя мала чаму нас навучыла. Занадта хутка асвойваемся з усім, і вельмі хутка забываемся пра абавязкі ў адносінах да тых, хто прычыніўся да атрымання вольнай і незалежнай Рэчы Паспалітай хаця б праз доўгія гады.

**Адашкевіч** (**Adaszkiewicz**)[71] Мацей, с. Тэадора, нар. у Гродзенскім пав., селянін. Узяты ў няволю атрадам падпалк. Мантэфля пасля бітвы з маскалямі пад Азёрамі ў Гродзенскім пав. У той час меў 44 гады.

**Антушэвіч** (**Antuszewicz**) Юзаф, с. Адама, вучань гродзенскай гімназіі, арыштаваны ў сувязі з падзеямі на гродзенскім вакзале ў сакавіку 1863 г. паводле ліста дырэктара гродзенскай гімназіі, таму што не начаваў ва ўласнай кватэры ў памятную ноч з 2 на 3 (ст.ст.) сакавіка 1863 г. Асуджаны на высланне ў глыб Сібіры. У той час меў 20 гадоў.

**Арцімовіч** (**Arcimowicz**) Вінцэнт, с. Тамаша, у сакавіку 1863 г. быў схоплены маскалямі на гродзенскім вакзале (справа Кульчыцкага). У той час меў 34 гады. Быў ён бестэрмінова адпраўлены ў адстаўку з гродзенскага батальёна знешняй аховы. Праз некалькі дзён арышту выпушчаны.

**Банькоўскі** (**Bańkowski**) Казімір, с. Яна, добраахвотнік, прымаў актыўны ўдзел у паўстанні. Быў схоплены маскалямі ў кастрычніку 1863 г. У той час меў 22 гады.

[71] У спісе захоўваецца паслядоўнасць паводле польскага алфавіту

**Бараноўскі** (**Baranówski**) Міхал, с. Юзафа, вучань гродзенскай гімназіі, арыштаваны ў сувязі з падзеямі на гродзенскім вакзале ў сакавіку 1863 г. на падставе сведчанняў Хамулецкага. У той час меў 19 гадоў.

**Бартушэвіч** (**Bartuszewicz**) Антоні, с. Яна, селянін з Гродзенскага пав. Узяты ў няволю ў красавіку 1863 г. пасля бітвы (пад Азёрамі?) у Гродзенскім пав. У той час меў 30 гадоў.

**Бэйда** (**Bejda**) Дамінік — пакараны смерцю ў Гродне[72].

**Бергель** (**Bergiel**) Марцін, с. Яна, быў арыштаваны ў сувязі з падзеямі на гродзенскім вакзале ў сакавіку 1863 г. на падставе сведчанняў Хамулецкага. У той час меў 19 гадоў.

**Белакоз** (**Białokoz**) Фелікс быў высланы ў Арэнбургскую губ.

**Белакоз** (**Białokoz**) Міхал быў высланы ў Пермскую губ.

**Біспінг** (**Bisping**) Аляксандр, с. Каміла, арыштаваны ў жніўні 1863 г. за дапамогу, аказаную паўстанцам; высланы. У той час меў 22 гады.

**Блашынскі** (**Błoszynski**) Станіслаў, с. Кантора, наборшчык губернскай друкарні ў Гродне, у 1863 г. меў 23 гады. Арыштаваны на падставе сведчанняў Хамулецкага ў сувязі з падзеямі на гродзенскім вакзале ў сакавіку 1863 г.

**Бабылевіч** (**Bobylewicz**) Мікалай, с. Кузьмы, селянін з Воўпенскай гміны, арыштаваны за ўдзел у паўстанні 1863 г. У той час меў 17 гадоў. Быў схоплены ў ліпені 1864 г.

**Багатырэвіч** (**Bohatyrewicz**) Антоні, с. Францішка, вучань гродзенскай гімназіі, у 1863 г. меў 17 гадоў. Прымаў удзел у так зв. адпраўцы Кульчыцкага ў сакавіку 1863 г., быў арыштаваны на падставе сведчанняў Кашубы.

**Багдановіч** (**Bohdanowicz**) Уладзіслаў, с. Вінцэнта, дробны шляхціч з Гродзенскага пав., браў актыўны ўдзел ва ўзброеным паўстанні як добраахвотнік. Арыштаваны ў кастрычніку 1863 г. У той час меў 23 гады.

**Багдановічова** (**Bohdanowiczowa**) Эвеліна за аказаную дапамогу паўстанцам была асуджана ў лістападзе 1863 г. на ссылку ў Расію на 1 год.

---

[72] Насамрэч Дамінік Бейда быў павешаны ў Бельску 2 снежня (20 лістапада) 1863 г. Меў 54 гады, нарадзіўся ў вёсцы Markowa Bałka Ломжынскага павета Аўгустоўскай губерніі. Удзельнік атрадаў Эйтміновіча і Баранцэвіча.

**Бондар** (**Bondar**) Ян, с. Максімiліяна, селянін з Гродзенскага [павета], прымаў актыўны ўдзел у студзеньскім паўстанні. Быў схоплены ў лістападзе 1863 г. У той час меў 26 гадоў.

**Баяроўскі** (**Bojarowski**) Юліян, с. Тылераса, паходзіў з літоўскіх татараў, у той час быў чыноўнікам грамадзянскай ізбы ў Гродне, меў 29 гадоў. Узгаданы ў сведчаннях Хамулецкага, быў арыштаваны і высланы ў Арэнбургскую губ.

**Баршчыцкі** (Барціцкі) (**Borszczycki** (Barcicki) Уладзімір, с. Уладзіслава, аптэкарскі вучань, у 1863 г. меў 23 гады. Арыштаваны за ўдзел у падзеях на гродзенскім вакзале ў сакавіку 1863 г. на падставе сведчанняў Хамулецкага. У красавіку таго ж года быў вызвалены і аддадзены пад нагляд паліцыі.

**Брыер дэ Мортэр** (**Briere de Morttere**) Уладзіслаў, с. Аляксандра, доктар, арыштаваны ў сакавіку 1864 г. за ўдзел у паўстанчай арганізацыі паўночных паветаў Гродзенскага ваяводства. У той час меў 24 гады.

**Брычкоўскі** (**Bryczkowski**) Эліяш, с. Пятра, селянін з Гродзенскага пав. (з Воўпы?), прымаў актыўны ўдзел у збройным паўстанні. Быў схоплены маскалямі ў жніўні 1864 г. У той час меў 21 год.

**Бжэзінскі** (**Brzeziński**) Антоні, с. Гжэгаша, адміністратар уладання Азёры графа Л. Валіцкага ў Гродзенскім пав. За дастаўку правіянта паўстанцам быў высланы ў Арэнбургскую губ.

**Бухавецкі** (**Buchowiecki**) Генрык, с. Лудгарда, уладальнік Квасоўкі ў Гродзенскім пав., арыштаваны ў лютым 1864 г. за ўдзел у паўстанчай арганізацыі ў Гродзенскім пав.

**Букраба** (**Bukraba**) Аляксандр, с. Валерыя, вучань гродзенскай гімназіі, у 1863 г. меў 20 гадоў. Прымаў удзел у так зв. адпраўцы Кульчыцкага і быў арыштаваны. Пра далейшы яго лёс не маем звестак.

**Бычкоўскі** (**Byczkowski**) Адам, с. Антонія, гродзенскі мешчанін, арыштаваны ў кастрычніку 1863 г. і палявым вайсковым судом пакараны пазбаўленнем усіх правоў і высылкай у Сібір.

**Быстры (Bystry**) Юзаф, с. Ксаверыя, арыштаваны ў сувязі з падзеямі на гродзенскім вакзале ў сакавіку 1863 г. на падставе сведчанняў Ю.Кашубы. У той час меў 17 гадоў.

**Хадакевіч** (**Chodakiewicz**) Людвік быў высланы ў Табольскую губ.

**Хоміч** (**Chomicz**) Юзаф, с. Стэфана, чыноўнік, арыштаваны ў чэрвені 1863 г. па падазрэнні ва ўдзеле ў збіранні ахвяры (напэўна, падатку) на карысць паўстання. У той час меў 42 гады.

**Эйсмант** (**Ejsymontt**) Адольф годна трымаўся ў Вайсковай следчай камісіі, адмовіўся ад сведчанняў, таму быў адпраўлены ў Вільню для «спецыяльнага» дазнання.

**Цеханоўскі** (**Ciechanówski**) Целястын, доктар, усеагульна любімы і шанаваны ў Гродне грамадскі дзеяч, у час студзеньскага паўстання быў начальнікам горада Гродна ад імя Нацыянальнага ўрада. Арыштаваны ў сярэдзіне жніўня 1863 г. У той час меў 32 гады. Уся маёмасць, якой валодаў, была канфіскавана маскалямі.

**Чачот** (**Czeczott**) Эдвард, с. Ксаверыя, чыноўнік, арыштаваны ў сакавіку 1863 г. у сувязі з падзеямі на гродзенскім вакзале, але праз некалькі дзён арышту вызвалены.

**Чачот** (**Czeczott**) Людвік, с. Ксаверыя, чыноўнік, арыштаваны ў сувязі з падзеямі на гродзенскім вакзале ў сакавіку 1863 г., але праз некалькі дзён арышту вызвалены. У той час меў 26 гадоў.

**Чарапкевіч** (**Czerepkiewicz**) Севярын, с. Яна, шляхціч Гродзенскага пав., быў арыштаваны ў красавіку 1864 г. па прычыне знаходкі ў яго паўстанца са зброяй. У той час меў 48 гадоў.

**Чырановіч** (**Czyranowicz**) Шымон, чыноўнік Магістрата г. Гродна, арыштаваны ў лютым 1864 г. але праз некалькі месяцаў вызвалены. Меў 46 гадоў.

**Чаповіч** (**Czopowicz**) кс. Анджэй з Мастоў, быў высланы ў Арэнбургскую губ., уся маёмасць, якой валодаў, была **канфіскавана**.

**Дашкевіч** (**Daszkiewicz**) Адам з Ёдкавічаў Вялікіх, быў высланы ў Сібір.

**Дашкевіч** (**Daszkiewicz**) Конрад, с. Міхала, уладальнік м. Вайцехаўшчызна ў Гродзенскім пав., за ўдзел у арганізацыі паўночных паветаў Гродзенскага ваяводства быў арыштаваны ў красавіку 1864 г. і сасланы.

**Дзянісевіч** (**Denisewicz**) Ян, быў сасланы ў Арэнбург.

**Даляньскі** (**Dolański**) Генрык, с. Мацея, студэнт Пецярбургскага ўніверсітэта, быў схоплены на гродзенскім вакзале, калі хаваўся за дрэвам у памятную ноч з 2 на 3 сакавіка (ст.ст.) 1863 г.

**Дубіньскі** (**Dubiński**) Лукаш, с. Кшыштафа, быў добраахвотнікам у паўстанцкім аддзеле. Схоплены ў лістападзе 1864 г. У той час меў 18 гадоў.

**Дулеўскі** (**Dulewski**) Юзаф, с. Якуба, гродзенскі селянін, арыштаваны маскалямі, як «вешатель» (чысціцель) і актыўны ўдзельнік паўстання як добраахвотнік. Асуджаны на 12 гадоў руднікоў.

**Дзеньгялеўскі** (**Dzieńgielewski**) Станіслаў, с. Юзафа, прымаў актыўны ўдзел у збройным паўстанні, будучы добраахвотнікам у партыі. Схоплены ў лістападзе 1863 г. У той час меў 18 гадоў.

**Эйслер** (**Ejsler**) Ян, с. Яна, вучань аптэкі «евангеліст», арыштаваны за ўдзел у падзеях на гродзенскім вакзале ў сакавіку 1863 г.

**Эйсмант** (**Ejsymontt**) Аляксандр, чыноўнік, быў сувязным у арганізацыі паўночных паветаў Гродзенскага ваяводства. Арыштаваны ў чэрвені 1864 г. на падставе ўстанаўлення кантакта са Стычыньскім.

**Эйсмант** (**Ejsymontt**) Аляксандр, с. Юзафа, шляхціч, быў у паўстанчым атрадзе. Арыштаваны ў верасні 1863 г., у той час меў 20 гадоў.

**Эйсмант** (**Ejsymontt**) Юзаф, с. Эліяша, шляхціч, арыштаваны ў ліпені 1864 г. за вярбоўку добраахвотнікаў, у снежні гэтага ж года высланы ў Томскую губ. У той час меў 31 год.

**Эйсмант** (**Ejsymontt**) Канстанты, с. Валерыя, шляхціч, выконваў службу ў паўстанчым атрадзе. Быў схоплены ў ліпені 1864 г. У той час меў 30 гадоў.

**Эйсмант** (**Ejsymontt**) Міхал, с. Мікалая, чыноўнік, арыштаваны ў Гродне ў 1863 г. па падазрэнні ў зборы **ўнёскаў** на карысць нацыянальнага паўстання. У той час меў 47 гадоў.

**Эпштэйн** (**Epstejn**) Гершка ў Скідзелі гандляваў порахам, запасы якога маскалі знайшлі падчас вобшуку ў яго доме, арыштаваны ў лістападзе 1866 г. У той час меў 46 гадоў.

**Эстэн** (Эйсмант vel Жылінскі) (**Esten** (Ejsymontt vel Żyliński) Міхал, селянін з зямель гр. Валіцкага, быў у паўстанчым атрадзе (займаўся правіянтам?). Арыштаваны ў студзені 1865 г. У той час меў 20 гадоў.

**Фядзюшка** (**Fiediuszko**) Францішак, с. Казіміра, чыноўнік, арыштаваны ў снежні 1863 г. за збор ахвяраванняў на карысць паўстання. У той час меў 32 гады.

**Федаровіч** (**Fiedorowicz**) Вінцэнт, с. Якуба, шляхціч з Грандзіч пад Гродна, арыштаваны ў лютым 1864 г. за збор ахвяраванняў на карысць нацыянальнага паўстання. У той час меў 66 гадоў.

**Філіповіч** (**Filipowicz**) Ян, с. Яна, селянін з Гродзенскага пав., прымаў удзел у баях з маскалямі. Быў схоплены ў лістападзе 1864 г. У той час меў 28 гадоў.

**Гарбушэвіч** (**Garbuszewicz**) Ігнацы, с. Міхала, селянін з Гродзенскага пав., арыштаваны як прыналежны да паўстанчага атрада ў студзені 1864 г. У той час меў 20 гадоў.

**Геніюш** (**Genjusz**) Баляслаў, высланы ў Сібір за ўдзел у студзеньскім паўстанні.

**Гец** (**Giec**) Адам, с. Тэадора, селянін з Азёрскай гміны, прымаў актыўны ўдзел у паўстанні і быў схоплены ў чэрвені 1864 г. У той час меў 22 гады.

**Гладкоўскі** (**Głodkowski**) Аляксандр, каланіст з Гродзенскага пав., асуджаны на цяжкія працы і пазбаўлены ўсіх правоў.

**Галяжыньскі** (**Golerzyński**) Гіпаліт, с. Яна, гродзенскі мешчанін, прымаў удзел у паўстанні ў Гродзенскім пав. і быў арыштаваны ў Гродне ў 1863 ці ў студзені 1864 г. У той час меў 24 гады.

**Галконд** (**Gołkond**) Антоні, с. Яна, чыноўнік ізбы дзяржаўных зямель у снежні, быў арыштаваны ў сувязі з падзеямі на гродзенскім вакзале ў сакавіку 1863 г. на падставе сведчанняў Хамулецкага, але хутка быў вызвалены і перададзены пад нагляд паліцыі. У той час меў 21 год.

**Грабавецкі** (**Grabowiecki**) Вільгельм, с. Яна, функцыянер кіраўніцтва мінеральных водаў у Друскеніках, арыштаваны ў сакавіку 1863 г. па падазрэнні ў вярбоўцы добраахвотнікаў у паўстанчыя атрады, але хутка быў вызвалены. У той час меў 27 гадоў.

**Гжыбка** (**Grzybko**) Павел, с. Яна, селянін з Гродзенскага пав., арыштаваны ў ліпені 1863 г. у сувязі з павешаннем лясніка Юстыновіча. У той час меў 48 гадоў.

**Гвоздка** (**Gwozdko**) Юзаф, с. Анджэя, арыштаваны ў сувязі з павешаннем лясніка Юстыновіча, па падазрэнні ва ўдзеле ў паўстанчым руху.

**Гарцінг** (**Harting**) Януары, с. Анджэя, вучань гродзенскай гімназіі, арыштаваны ў сувязі з падзеямі на гродзенскім вакзале ў сакавіку 1863 г. У той час меў 18 гадоў.

**Глябовіч** (**Hlebowicz**) Юзаф, каланіст з Гродзенскага пав., прымаў актыўны ўдзел у бітвах з маскалямі. Быў схоплены ў верасні 1863 г., а ў кастрычніку гэтага ж года вайсковым палявым судом пазбаўлены ўсіх правоў і асуджаны на высылку ва Уладзімірскія арыштанцкія роты на 3 гады.

**Гласка** (**Hłasko**) Вінцэнт, жыхар Гродзенскага пав., арыштаваны ў красавіку 1864 г. пасля знаходкі ў яго падчас вобшуку перапіскі з паўстанцамі і малітваў, забароненых маскалямі. У той час меў 60 гадоў.

**Гофмайстар** (**Hofmejster**) Апалінарыюш, с. Паўла, часова выконваў абавязкі гродзенскага ваяводы, затым быў брэсцкім ваяводам

(паўночных паветаў Гродзенскага ваяв.). Арыштаваны ў красавіку 1864 г. на падставе сведчанняў Пакубяты, Заблоцкага і Сільвястровіча. У той час меў 44 гады. Высланы, а яго ўладанні канфіскаваныя.

**Галавацкі** (**Hołowacki**) Ян, с. Ігнацыя, дзяржаўны селянін з Гродзенскага пав., прымаў актыўны ўдзел у баях з маскалямі. Быў схоплены ў Гродне ў снежні 1863 г. У той час меў 27 гадоў.

**Галавацкі** (**Hołowacki**) Уладзіслаў, с. Ігнацыя, жыхар г.Гродна, арыштаваны ў студзені 1864 г. за спяванне нацыянальных песняў і супрацьдзяржаўныя размовы. У той час меў 19 гадоў.

**Хамулецкі** (Хамуліцкі) (**Homulecki** (Homulicki) Юзаф, с. Віктара, нарадзіўся ў Гродзенскім пав., прымаў актыўны ўдзел у падзеях на гродзенскім вакзале ў сакавіку 1863 г., калі гродзенская моладзь спрабавала са зброяй у руках выехаць цягнікам у бок Друскенік, дзе канцэнтраваліся ў той час паўстанчыя атрады. Схоплены на месцы падзеяў, баронячы сябе, выдаў 17 сваіх паплечнікаў, з якіх толькі аднаму ўдалося пазбегнуць пакарання (прозвішча нам не вядома). Празмернай шчырасцю Хамулецкі не абараніў сябе ад ссылкі ў глыб Расіі, дзе прымусова служыў у войску. У той час меў 18 гадоў.

**Хамулецкі** (**Homulecki**) Віктар, с. Караля, прымаў удзел у паўстанчым руху ў Гродзенскім пав. і быў арыштаваны ў верасні 1863 г. У той час меў 47 гадоў.

**Грынявецкі** (**Hryniewiecki**) Ян, с. Войцеха, прымаў актыўны ўдзел у арганізацыі паўночных паветаў Гродзенскага ваяводства, арыштаваны ў жніўні 1863 г., 19 кастрычніка таго ж года вайсковы палявы суд пазбавіў яго ўсіх правоў і асудзіў на высылку ў Сібір. У той час меў 43 гады.

**Ілкоўскі** (**Ilkowski**) **А**нтоні — павешаны ў Гродне.

**Іваноўская** (**Iwanowska**) Антаніна, жыхарка, прымала актыўны ўдзел у студзеньскім паўстанні і арыштавана восенню 1863 г. У той час мела 48 гадоў.

**Ізаіцкі** (**Izoicki**) Баляслаў, с. Якуба, функцыянер гродз. губернскага ўрада, арыштаваны ў сувязі з падзеямі на гродзенскім вакзале ў сакавіку 1863 г. У той час меў 34 гады.

**Ізаіцкі** (**Izoicki**) Клеменс, с. Якуба, вучань гродзенскай гімназіі, арыштаваны ў сувязі з падзеямі на гродзенскім вакзале ў сакавіку 1863 г. на падставе сведчанняў Кашубы. У той час меў 17 гадоў.

**Якімовіч** (**Jakimowicz**) Антоні, нарадзіўся ў Сакольскім пав., за ўдзел у паўстанні ў Гродзенскім пав. быў высланы ў глыб Расіі і аддадзены «в солдаты».

**Янкоўскі** (**Jankowski**) Караль, с. Станіслава, наборшчык (?), арыштаваны ў сувязі з падзеямі на гродзенскім вакзале ў сакавіку 1863 г., пасля пары тыдняў вызвалены з арышту на парукі. У той час меў 30 гадоў.

**Янкоўскі** (**Jankowski**) Ксаверы, златар, за ўдзел у паўстанні высланы ў Волагду.

**Янкоўскі** (**Jankowski**) Пётр, чыноўнік губ. урада ў Гродне, арыштаваны ў лютым 1864 г. і ў красавіку гэтага ж года высланы ў Енісейск.

**Ястшэбскі** (**Jastrzebski**) Леон, с. Юзафа, арыштаваны ў сакавіку 1863 г. як ўдзельнік адпраўкі Кульчыцкага. У той час меў 17 гадоў.

**Ястшэбскі** (**Jastrzebski**) Любамір, с. Юзафа, чыгуначнік, арыштаваны ў сувязі з падзеямі на гродзенскім вакзале ў сакавіку 1863 г. У той час меў 32 гады.

**Ядкоўскі** (**Jodkowski**) Ян, с. Афанасія, чыноўнік у адстаўцы, арыштаваны ў першыя дні выбуху ўзброенага паўстання пасля вяртання з Грандзіч пад Гродна, дзе збіраў ахвяраванні на карысць паўстання. У той час меў 44 гады.

**Ядкоўскі** (**Jodkowski**) Юліян у снежні 1863 за ўдзел ва ўзброеным паўстанні быў асуджаны на высылку ў Табольскую губ.

**Ядкоўскі** (**Jodkowski**) Вінцэнт, шляхціч з Гродзенскага пав., дастаўляў правіянт паўстанцам, арыштаваны ў верасні 1863 г. У той час меў 45 гадоў.

**Юзафовіч** (**Józefowicz**) Анджэй, с. Антонія, селянін з вёскі Кароша Гродзенскага пав., прымаў актыўны ўдзел ва ўзброеным паўстанні. Быў схоплены ў лютым 1863 г. У той час меў 18 гадоў.

**Юзафовіч** (**Józefowicz**) Анджэй, с. Якуба, селянін з Гродзенскага пав., выконваў службу ў паўстанчым атрадзе і быў схоплены ў кастрычніку 1863 г. У той час меў 18 гадоў.

**Юдка** (Ядко?) (**Judka** (Jodko?) Міхал, с. Мацея, шляхціч з Гродзенскага [павета], фельчар, прымаў удзел у студзеньскім паўстанні. Арыштаваны ў кастрычніку 1863 г. У той час меў 36 гадоў.

**Юнг** (**Jung**) Юзаф, с. Караля, шляхціч, адміністратар зямель гр. Валіцкага, арыштаваны ў жніўні 1863 г. (паводле даносу сялян?). У той час меў 50 гадоў.

**Ютоўскі** (**Jutowski**) Міхал, с. Юзафа, уласнік Закшэўчызны ў Гродзенскім пав., арыштаваны ў ліпені 1863 г. за ўдзел у паўстанні, асуджаны на цяжкія працы і высланы ў глыб Расіі, а яго маёнтак канфіскаваны. У той час меў 52 гады.

**Качыньскі** (**Kaczyński**) Антоні, с. Юзафа, селянін з Гродзенскага пав., быў у паўстанчым атрадзе. Арыштаваны ў снежні 1863 г. У той час меў 34 гады.

**Каліноўскі** (**Kalinowski**) Кастусь — дэлегат Нацыянальнага ўрада па Гродзенскім ваяводстве, пазнейшы дыктатар Літвы, пакараны смерцю ў Вільні.

**Каліноўскі** (**Kalinowski**) Вінцэнт, бацька Кастуся К. пакараны смерцю (у Гродне?).

**Калюжніц** (**Kalużnic**) Ігнацы, с. Пятра, чыноўнік Ізбы дзяржаўных зямель, быў у паўстанчым атрадзе, прымаў удзел у выступленні на м. Свіслач Ваўкавыскага пав. Арыштаваны ў лістападзе 1865 г. Меў у той час 30 гадоў.

**Канеўскі** (**Kaniewski**) Мечаслаў, с. Баляслава, чыноўнік, належаў да паўстанчай арганізацыі (паўночных паветаў Гродзенскага ваяв.?), быў арыштаваны ў жніўні (ці пач. верасня) 1863 г. У той час меў 19 гадоў.

**Канеўскі** (**Kaniewski**) Уладзіслаў, брат Мечаслава, прымаў актыўны ўдзел ва ўзброеным паўстанні. Быў добраахвотнікам у паўстанчым атрадзе. Арыштаваны ў верасні 1863 г., палявы вайсковы суд асудзіў яго на 6 гадоў цяжкіх прац (у рудніках). У той час меў 21 год.

**Карчэўскі** (**Karczewski**) Ян, с. Ксаверыя, вучань 6 кл. гродзенскай гімназіі, арыштаваны за ўдзел у няўдалай адпраўцы Кульчыцкага ў сакавіку 1863 г., але хутка яго вызвалілі з-пад арышту. У той час меў 16 гадоў.

**Карловіч** (**Karłowicz**) Стэфан, селянін з Гродзенскага пав., прымаў актыўны ўдзел ва ўзброеным паўстанні і арыштаваны ў кастрычніку 1863 г. У той час меў 20 гадоў.

**Карны** (**Karny**) Мацей, с. Яна, чыноўнік, арыштаваны ў пачатку лета 1863 г. у сувязі са знаходкай у яго карэспандэнцыі Лянкевіча, кіраўніка паўстанчага атрада. У той час быў ва ўзросце 56 гадоў.

**Карны** (**Karny**) Аляксандр, сын Мацея, быў высланы ў Пермскую губ. Меў у той час 21 год.

**Карны** (**Karny**) Канстанты, сын Мацея, арыштаваны за ўдзел у падзеях на гродзенскім вакзале ў сакавіку 1863 г. на падставе сведчанняў

Жука, вучня гродзенскай гімназіі. Аднак, хутка быў вызвалены. У той час меў 17 гадоў.

**Кашуба** (**Kaszuba**) Адольф, с. Юліяна, вучань 7 кл. гродзенскай гімназіі, арыштаваны ў сувязі з няўдалай адпраўкай Кульчыцкага на Друскенікі ў сакавіку 1863 г., хацеў ратавацца празмернай шчырасцю, выдаўшы маскалям 11 навучэнцаў, якіх адразу ж схапілі. Да сённяшняга дня вядома прозвішча гэтага юнака, нядзейсненага паўстанца (у час арышту меў ледзьве 16 гадоў), які пасадзейнічаў роспачы далёка не адной сям'і… Не мінуў пакарання — у кастрычніку 1863 г. быў асуджаны на высылку ў глыб Расіі з адпраўкай на службу ў войска.

**Касмоўскі** (**Kosmowski**) Канстанты, с. Антонія, чыноўнік, арыштаваны ў чэрвені 1863 г. за збіранне ахвяраванняў на карысць нацыянальнага паўстання. У той час меў 42 гады.

**Касоўскі** (**Kossowski**) Леапольд, с. Караля, шляхціч з Гродзенскага пав., за ўдзел у паўстанні быў высланы ў Пензу. У той час меў 31 год.

**Катовіч** (**Kotowicz**) Ксаверы, с. Юзафа, шляхціч, збіраў зброю для паўстанцаў за што арыштаваны ў кастрычніку 1863 г. У той час меў 37 гадоў.

**Красоўскі** (**Krasowski**) Ежы (брат Юліяна), арыштаваны за ўдзел у няўдалай выпраўцы з Гродна на Друскенікі ў сакавіку 1863 г., у кастрычніку гэтага ж года быў асуджаны на высылку ў глыб Расіі з адпраўкай «в солдаты». У той час меў 17 гадоў.

**Красоўскі** (Красоўскі?) (**Krasowski** (Krasowski ?) Юліян, с. Адольфа, чыгуначны функцыянер на ст. Гродна, прымаў удзел у няўдалай выпраўцы з Гродна на Друскенікі ў сакавіку 1863 г., палявы суд асудзіў яго на высылку ў глыб Расіі (у Пермскую губ.). У той час меў 25 гадоў.

**Красніцкі** (**Kraśnicki**) Ігнацы, с. Мікалая, шляхціч, за сувязі з паўстанцамі і за аказаную ім дапамогу арыштаваны ў чэрвені 1864 г. У той час меў 60 гадоў.

**Краснікоўскі** (**Kraśnikowski**) Базыль, с. Стэфана, гродзенскі мешчанін (з Бракава), прымаў удзел ва ўзброеным паўстанні. Арыштаваны ў кастрычніку 1864 г. У той час меў 19 гадоў.

**Крэйбэк** (**Krejbek**) Станіслаў, с. Казіміра, вучань гродзенскай гімназіі, арыштаваны за ўдзел у няўдалай адпраўцы Кульчыцкага на Друскенікі ў сакавіку 1863 г. на падставе сведчанняў Кашубы, вайсковы палявы суд у кастрычніку гэтага ж году асудзіў яго з адпраўкай на службу ў войска. У той час меў 18 гадоў.

**Крэвель** (Крэвень) **Krewel** (Krewień) Казімір, с. Яна, селянін з Сакольскага пав., чыгуначнік, арыштаваны па падазрэнні ва ўдзеле ў няўдалай адпраўцы на Друскенікі, аднак, праз некалькі дзён арышту вызвалены. У той час меў 25 гадоў.

**Крулевіч** (**Królewicz**) Кшыштаф, с. Юзафа, селянін з Гродзенскага пав., быў добраахвотнікам у атрадзе Нарбута. Быў схоплены пад Лідай у снежні 1863 г. У той час меў 32 гады.

**Кадзыньскі** (Кондзыньскі) (**Kadzyński** (Kądzyński) Юзаф, с. Яна, вучань гродзенскай гімназіі, прымаў удзел у няўдалай выправе Кульчыцкага ў сакавіку 1863 г., арыштаваны на падставе сведчанняў Кашубы. У кастрычніку 1863 г. ваенным палявым судом быў прыгавораны да выгнання ў глыб Расіі з адпраўкай на службу ў войска. У той меў лічыў 17 гадоў.

**Куклік** (**Kuklik**) Фларыян, с. Анджэя, ляснік, арыштаваны за ўдзел у паўстанні ў кастрычніку 1863 г. У той час меў 40 гадоў.

**Кулеўскі** (**Kulewski**) Фларыян, с. Яна, чыноўнік, арыштаваны за ўдзел у паўстанні ў лістападзе 1863 г. У той час меў 70 гадоў.

**Кулікоўскі** (**Kulikowski**) Канстанты, с. Акхала, шляхціч з Гродзенскага пав., прымаў актыўны ўдзел ва ўзброеным паўстанні, арыштаваны ў Гродне ў 1863 г. і годна трымаўся на следстве. У той час меў 19 гадоў.

**Кульвец** (**Kulwiec**) Ян, с. Юзафа, чыноўнік Гродз. скарбавай палаты, прымаў удзел у грамадскай паўстанчай арганізацыі, за што быў арыштаваны ў верасні 1863 г. і асуджаны вайсковым палявым судом на высланне ў Арэнбург. У той час меў 40 гадоў. Яго лёс падзялілі жонка Францішка (50 гадоў) і дочкі Зофія (18 гадоў) і Тэадора (22 гады).

**Куроўскі** (**Kurowski**) Станіслаў, с. Адама, паходзіў з Любельскай зямлі, арыштаваны ў сувязі з няўдалай выправай з Гродна ў Друскенікі ў сакавіку 1863 г. У той час меў 19 гадоў.

**Кузьма** (**Kuźma**) Анджэй, селянін з Гродзенскага пав., быў добраахвотнікам у паўстанчым атрадзе. Быў схоплены ў кастрычніку 1863 г. У той час меў 19 гадоў.

**Квяткоўскі** (**Kwiatkowski**) Антоні, с. Анджэя, вучань гродзенскай гімназіі, арыштаваны за ўдзел у падзеях на гродзенскім вакзале ў сакавіку 1863 г. на падставе сведчанняў Кашубы. У той час меў 18 гадоў.

**Квяткоўскі** (**Kwiatkowski**) Вінцэнты, с. Паўла, гродзенскі мешчанін, арыштаваны за ўдзел у студзеньскім паўстанні ў верасні 1863 г.

**Клімашэўскі** (**Klimaszewski**) Мікалай, с. Францішка, чыноўнік Гродзенскай вышэйшай судовай ізбы, прымаў удзел у арганізацыі паўночных паветаў Гродзенскага ваяводства. Арыштаваны ў кастрычніку 1863 г. У той час меў 48 гадоў.

**Клімашэўская** (**Klimaszewska**) Вікторыя, жонка Мікалая, 48 гадоў. Падзяліла яго лёс разам з дочкамі: Эльжбетай, 23 гады, Зоф'яй, 21 год.

**Клімовіч** (**Klimowicz**) Юзаф, с. Баляслава, селянін з Алекшыц, кантактаваў з паўстанцамі, арыштаваны ў студзені 1864 г. У той час меў 34 гады.

**Клюсевіч** (**Klusiewicz**) Казімір, с. Казіміра, ляснік, за ўдзел у паўстанні арыштаваны ў кастрычніку 1863 г. У той час меў 47 гадоў.

**Калачэўскі** (**Kołaczewski**) Ізыдор адпраўлены ў арыштанцкія роты.

**Канстантыновіч** (**Konstantynowicz**) Павел, с. Паўла, селянін з Гродзенскага пав., быў у паўстанчым атрадзе. Арыштаваны ў снежні 1863 г. У той час меў 26 гадоў.

**Кашуба** (**Kaszuba**) Юзаф, брат Адольфа, вучань гродзенскай гімназіі, быў удзельнікам няўдалай выправы цягніком з Гродна ў Друскенікі (справа Кульчыцкага) у сярэдзіне сакавіка 1863 г. Арыштаваны на падставе сведчанняў брата Адольфа, выдаў аднаго са сваіх паплечнікаў. Гэта не пазбавіла ад пакарання, падзяліў лёс свайго брата і паплечнікаў, адбываючы шматгадовую прымусовую службу ў войску. У той час меў 18 гадоў.

**Казімерскі** (**Kazimierski**) Ян, с. Мацея, арыштаваны ў сувязі са справай Кульчыцкага на падставе сведчанняў Хамулецкага, але хутка яго вызвалілі. У той час меў 39 гадоў.

**Керсноўская** (**Kiersnowska**) Хелена (Анджэйкавічувна), дачка былога кіраўніка Гродзенскай палаты (скарбовай ці грамадзянскай), арыштавана ў верасні 1863 г. У той час мела 22 гады. Была адной з «пяці» альбо камітэту жанчын (кола полек у Гродне), які адыграў значную ролю ў падзеях паўстання 1863 г. у Гродзенскім пав. Спадарыня Анджэйкавічувна пастаянна пражывала ў Друскеніках.

**Лебядзінскі** (**Lebiedziński**) Антоні, с. Яна, шляхціч, арыштаваны ў чэрвені 1864 г. як удзельнік арганізацыі паўночных паветаў Гродзенскага ваяводства і высланы ў Табольскую губ.

**Любацінскі** (**Lubociński**) Уладзіслаў, с. Яна, арыштаваны ў красавіку 1864 г. у сувязі са знаходкай у яго жыллі фатаграфіі, дзе ён прадстаўлены са зброяй. У той час меў 46 гадоў.

**Лапінскі** (**Łapiński**) Ян, с. Матэуша, селянін, працаваў у гродзенскім ваяводстве. Арыштаваны ў красавіку 1864 г. Меў у той час 37 гадоў.

**Лапінскі** (**Łapiński**) Баляслаў, с. Стэфана, шляхціч з Гродзенскага пав., быў у паўстанчым атрадзе як добраахвотнік. Арыштаваны ў лістападзе 1863 г. і асуджаны на высылку ў Сібір. Меў у той час 32 гады.

**Лапінскі** (**Łapiński**) Актавіян, брат Баляслава, першы раз арыштаваны ў сувязі з падзеямі на гродзенскім вакзале ў сакавіку 1863 г., паводле ліста дырэктара гімназіі, таму што не начаваў ва ўласным пакоі памятнай ноччу з 14 на 15 сакавіка. Верагодга, хутка быў вызвалены, таму што прымаў удзел ва ўзброеным паўстанні як добраахвотнік. У той час меў 16 гадоў.

**Лашэвіч** (**Łaszewicz**) Мікалай, с. Яна, селянін з Гродзенскага пав., фельчар на землях гр. Солтана, за адносіны з паўстанцамі (ці быў у паўстанцкім атрадзе) арыштаваны ў канцы 1863 г.

**Лазоўскі** (**Łazowski**) Валеры, с. Вінцэнта, засцянковы шляхціч з Гродзенскага пав., схоплены ў маі 1863 г. адпраўлены на службу ў арыштанцкія роты ў глыб Расіі. У той час меў 25 гадоў.

**Лямпіцкі** (**Łempicki**) Міхал за ўдзел у паўстанні ў кастрычніку 1863 г. быў аддадзены «в солдаты» і сасланы ў глыб Расіі.

**Літвяновіч** (**Litwianowicz**) Антоні с. Паўла, селянін з Гродзенскага пав. (гміна Воўпа) браў актыўны ўдзел у ўзброеным паўстанні як 14-гадовы падлетак; быў схоплены ў ліпені 1864 г.

**Літвяновіч** (**Litwianowicz**) Міхал, брат Антонія, падзяліў яго лёс. 18 гадоў.

**Лавіцкі** (**Łowicki**) Антоні, с. Марціна, жыхар Гродзенскага пав., быў арыштаваны за зносіны з паўстанцамі ў жніўні 1863 г. У той час меў 45 гадоў.

**Мацкевіч** (**Mackiewicz**) Уладыслаў быў высланы ў глыб Расіі.

**Малашка** (**Małaszko**) Ян, с. Шымона, войт Лунна, быў арыштаваны ў першыя дні сакавіка 1866 г. [? памылка — 1863] за захаванне паўстанчай літаратуры. У той час меў 45 гадоў.

**Маркевіч** (**Markiewicz**) кс. Гіпаліт, с. Адама, пробашч Воўпы, быў арыштаваны за заклік сялян захоўваць у таямніцы навіны, якія тычацца паўстанчага руху. Яго справа разглядалася вайскова-следчай камісіяй у Гродне ў ліпені 1864 г. У той час меў 59 гадоў.

**Маркевіч** (**Markiewicz**) др. Юзаф, с. Яна, збіраў ахвяраванні на нацыянальнае паўстанне і, па некаторых звестках, збіраў падаткі, устаноўленыя Нацыянальным урадам. Быў у кантакце з гродзенскім ваяводствам і дзейнічаў ад яго імя. Быў арыштаваны ў красавіку 1864 г. У той час меў 29 гадоў. Палявы вайсковы суд адправіў яго на выгнанне ў Перм; др. М. быў у ссылцы ў Шадрынску. Яго лёс падзяліла жонка Валерыя з Абламовічаў і дачка Ганна.

*Мазюк* (**Maziuk**) *Мацей, с. Яна, селянін з Гродзенскага пав., быў арыштаваны за агітацыю да паўстання ў маі* 1863 г. У той час меў 42 гады.

Мазюн (**Maziun**) Адам, с. Яна, селянін з Гродзенскага пав., быў арыштаваны ў маі 1863 г. за заклік да паўстання сялян ў вёсцы Парэчча. *У той час меў 42 гады.*

Мазуркевіч (**Mazurkiewicz**) Ігнацы, с. Караля, гродзенскі мешчанін, быў арыштаваны ў сувязі з падзеямі на гродзенскім вакзале ў сакавіку 1863 г. на падставе сведчанняў Пушкарэвіча, таму што ад яго П. павінен быў атрымаць брашуру пад назвай «Харугва свабоды».

Міцкевіч (**Mickiewicz**) Клеменс, с. Ежы, гродзенскі мешчанін, збіраў ахвяраванні на нацыянальнае паўстанне. Быў арыштаваны ў першыя дні студзеня 1866 г. У той час меў 45 гадоў.

Мілевіч (**Milewicz**) Ільдэфонс, с. Ежы, былы інспектар ізбы дзярж. зямель у Гродне, быў арыштаваны ў лютым 1864 г. за ўдзел у арганізацыі паўстанчых улад на тэрыторыі паўночных паветаў Гродзенскага ваяводства. У той час меў 29 гадоў.

**Мізгер** (**Mizgier**) Войцех, быў асуджаны за ўдзел ў паўстанні на 2 гады арыштанцкіх рот у Смаленску.

**Мантовіч** (**Montowicz**) Рудольф, быў высланы ў Табольскую губ.

**Марэня** (**Morenia**) Антоні, с. Ільяша, селянін з Азёраў, быў у паўстанчым атрадзе на працягу 7 месяцаў. Арыштаваны ў сакавіку 1864 г. У той час меў 20 гадоў.

**Марголісава** (**Morgolisowa**) Ленка, габрэйка, была арыштавана ў сакавіку 1864 г. з-за знаходкі ў яе падчас рэвізіі значнага запасу куляў.

**Мураўскі** (**Murawski**) Міхал, селянін з Воўпы, за ўдзел у паўстанні быў арыштаваны ў ліпені 1864 г. У той час меў 17 гадоў.

**Нажымская** (**Narzymska**) Юлія, шляхцянка, нар. у Гродзенскім пав., прымала ўдзел у павятовай арганізацыі. Была арыштавана ў канцы жніўня 1863 г. У той час мела 32 гады.

**Навакоўскі** (**Nowakowski**) Станіслаў, с. Максіміліяна, апошні настаўнік польскай мовы ў гродзенскай гімназіі, быў арыштаваны ў канцы сакавіка 1863 г. у сувязі з няўдалай выправай Кульчынскага на Друскенікі, на аснове сведчанняў Жука, вучня гімназіі, высланы ў глыб Сібіры. Меў у той час 28 гадоў.

**Навіцкі** (**Nowicki**) Рышард за ўдзел у студзеньскім паўстанні ў 1864 г. быў асуджанны на выгнанне ў Табольскую губ.

**Навіцкі** (**Nowicki**) Уладзімір, с. Юліяна, селянін з Гродзенскага пав. (з Воўпы), 14-гадовы падлетак, быў арыштаваны па падазрэнні ў прыналежнасці да паўстанчага атраду ў ліпені 1864 г.

**Аблашэвіч** (**Obłaszewicz**) Юліян, с. Юзафа, селянін з Гродзенскага пав., прымаў актыўны ўдзел ва ўзброеным паўстанні. Быў арыштаваны ў жніўні 1863 г. У той час меў 25 гадоў.

**Абуховіч** (**Obuchowicz**) Отан, за ўдзел у паўстанні быў высланы ў глыб Сібіры.

**Абухоўскі** (**Obuchowski**) Мікалай, с. Яна, селянін з Азёраў, быў арыштаваны ў студзені 1864 г. па прычыне знаходжання ў яго паўстанчых вершаў.

**Ахрымовіч** (**Ochrymowicz**) Міхал, шавец, быў арыштаваны за ўдзел у паўстанчым руху ў верасні 1863 г. У той час меў 25 гадоў.

**Аўдакоўскі** (**Ołdakowski**) Напалеон, с. Караля, шляхціч, за ўдзел у паўстанні быў арыштаваны ў красавіку 1864 г.

**Аніхімоўскі** (**Onichimowski**) Эдмунд, за ўдзел у паўстанні быў высланы ў Пермскую губ.

**Алэндзкі** (**Olędzki**) Юліян, с. Севярына, шляхціч, за ўдзел у нацыянальным паўстанні быў арыштаваны ў маі 1864 г. У той час меў 25 гадоў.

**Астрамецкі** (**Ostromecki**) Лявон, с. Канстанцыя, прымаў удзел у вайсковай арганізацыі паўночных паветаў Беластоцкага ваяводства. Быў арыштаваны ў красавіку 1864 г. і высланы ў Аланецкую губ. У той час меў 29 гадоў.

**Ажо** (**Ożo**) Ян, с. Эліяша, вучань гродзенскай гімназіі, быў арыштаваны ў сакавіку 1863 г. за ўдзел у падзеях на гродзенскім вакзале (няўдалая адпраўка Кульчыцкага). У той час меў 17 гадоў.

**Пацынка** (**Pacynko**) Эдвард (брат Станіслава), за ўдзел у паўстанні быў высланы ў Табольск.

**Пацынка** (**Pacynko**) Станіслаў за ўдзел у паўстанні быў высланы ў Табольск.

**Панцэвіч** (**Pansewicz**) Міхал, с. Адама, селянін з Гродзенскага пав., быў фельчарам на землях Завіслоўскага (у Сакольскім павеце); прымаў актыўны ўдзел ва ўзброеным паўстанні. Быў арыштаваны ў снежні 1863 г. У той час меў 20 гадоў.

**Паўловіч** (**Pawłowicz**) Аляксандр, с. Юзафа, гродзенскі селянін, быў у паўстанчым атрадзе; арыштаваны ў жніўні 1864 г., бо хаваўся ад расійскіх улад. Меў у той час 30 гадоў.

**Петрашкевіч** (**Pietraszkiewicz**) Андрэй, с. Антонія, гродзенскі мешчанін, быў арыштаваны за заклік да паўстання ў кастрычніку 1863 г., а ў лістападзе таго ж года вайсковы суд пазбавіў яго ўсіх правоў і выслаў у Сібір. П. прымаў актыўны ўдзел ва ўзброеным паўстанні. У 1863 г. меў 59 гадоў.

**Плаўскі** (**Pławski**) Ян, за ўдзел у студзеньскім паўстанні быў высланы ў глыб Сібіры.

**Панятоўскі** (**Poniatowski**) Міхал, за ўдзел у паўстанні быў высланы ў Пензенскую губ.

**Пачобут** (**Poczobutt**) Міхал, пазбегнуў пакарання, бо памёр.

**Пятроўскі** (**Piotrowski**) Уладзіслаў, с. Пятра, паўстанец, быў арыштаваны ў красавіку 1864 г. У той час меў 26 гадоў.

**Паўловіч** (**Pawlowicz**) Казімір, с. Яна, селянін з Гродзенскага пав. (з Воўпы); за ўдзел у паўстанні быў арыштаваны ў ліпені 1863 г. У той час меў 36 гадоў.

**Праневіч** (**Proniewicz**) Мечаслаў, с. Караля, быў арыштаваны ў верасні 1864 г. У той час меў 21 год.

**Праневіч** (**Proniewicz**) Станіслаў, с. Караля, шляхціч з Гродзенскага пав., быў арыштаваны за рэвалюцыйныя справы ў верасні 1864 г. У той час меў 24 гады.

**Пшыбылка** (**Przybyłko**) Адам, с. Анджэя, тэлеграфіст на ст. Гродна, быў арыштаваны ў сувязі з падзеямі на гродзенскім вакзале ў сакавіку 1863 г. У той час меў 19 гадоў.

**Пульяноўскі** (**Puljanowski**) Ігнацы, за ўдзел ва ўзброеным паўстанні быў высланы ў глыб Сібіры.

**Пульяноўскі** (**Puljanowski**) Караль, с. Анджэя, шляхціч з Гродзенскага пав., быў арыштаваны ў маі 1863 г. за тое, што не данёс маскалям

пра захоп паўстанцамі правіянта ў маёнтку Незабытоўскіх (Альшэвічы?). У той час меў 28 гадоў.

**Пянькоўскі** (**Pieńkowski**) Людвік, с. Даніэля, за ўдзел у паўстанні быў арыштаваны ў красавіку 1864 г. У той час меў 35 гадоў.

**Плаўскі** (**Pławski**) Эміль, с. Францішка, вучань гродзенскай гімназіі, быў арыштаваны ў сувязі з няўдалай выправай на Друскенікі ў сакавіку 1863 г. паводле ліста дырэктара гімназіі, таму што не начаваў ва ўласным пакоі памятнай ноччу з 14 на 15 сакавіка. У той час меў 17 гадоў.

**Пачобут** (**Poczobutt**) Люцыян, за ўдзел у паўстанні быў высланы ў Ніжні Ноўгарад.

**Пачобут** (**Poczobutt**) Павел, с. Францішка, шляхціч з Гродзенскага пав., быў арыштаваны ў чэрвені 1864 г. паводле даносу сялян. У той час меў 64 гады.

**Пачобут** (**Poczobutt**) Уладзіслаў, с. Юзафа, жыхар Ваўкавыскага пав., быў арыштаваны ў сувязі з няўдалай выправай на Друскенікі ў сакавіку 1863 г. У той час меў 25 гадоў.

**Пакубята** (**Pokubiatto**) Пётр, с. Пятра, шляхціч, браў удзел у арганізацыі паўночных паветаў Гродзенскага ваяводства. Быў арыштаваны ў чэрвені 1864 г. У той час меў 30 гадоў.

**Пуховіч** (**Puchowicz**) Ян, с. Францішка, асаднік, быў арыштаваны ў красавіку 1863 г. за ўдзел у паўстанні. У той час меў 28 гадоў.

**Пушкарэвіч** (**Puszkarewicz**) Юліян, с. Мікалая, сын шаўца, быў арыштаваны ў сакавіку 1863 г. на падставе сведчанняў Карнага, вучня гродзенскай гімназіі, за распаўсюджванне брашуры «Харугва свабоды». Меў тады 20 гадоў.

**Пырскі** (**Pyrski**) Адам, с. Вінцэнта, шляхціч з Гродзенскага пав., быў у паўстанчым атрадзе. Арыштаваны ў кастрычніку 1863 г., а ў лістападзе таго ж года быў пакараны вайсковым палявым судом выгнаннем у Сібір (у Табольск). Меў 18 гадоў.

**Рацібарскі** (**Raciborski**) Ігнацы, с. Яна, гродзенскі мешчанін, быў арыштаваны ў красавіку 1864 г. у сувязі са знаходкай у яго паўстанчай літаратуры. У той час меў 50 гадоў.

**Рэдых** (**Rödych**) Эміль, с. Юзафа, шляхціч, прымаў актыўны ўдзел у арганізацыі паўстанчых грамадзянскіх улад у паўночных паветах Гродзенскага ваяводства. Быў арыштаваны ў чэрвені 1864 г. У той час меў 33 гады.

**Ромер** (**Römer**) Леакадзія, д. Пратазыя Р., была арыштавана ў верасні 1864 г. за спеў нацыянальных песняў. У той час мела 17 гадоў.

**Ромер** (**Römer**) Севярын, с. Аляксандра, скарбнік Гродзенскага ваяв., асуджаны на выгнанне ў Табольскую губ. У той час меў 45 гадоў. Яму належаў дом, у якім зараз знаходзіцца гатэль «Маскоўскі» на вул. Дамініканскай; у ім адбываліся пасяджэнні прадстаўнікоў Нацыянальнага ўрада ў Гродне, і знаходзілася галоўнае камандаванне ўзброеных сілаў у Гродзенскім пав[73].

**Ромер** (**Römer**) гр. Тэадора, жонка Севярына, за ўдзел у нацыянальным паўстанні была асуджана на выгнанне ў Казанскую губ., але ўпрасіла палявы суд змяніць рашэнне на ссылку ў Табольскую губ., каб яна магла падзяліць лёс мужа. У той час мела 42 гады.

**Развадоўскі** (**Rozwadowski**) Станіслаў, с. Юзафа, вучань аптэкара, быў арыштаваны ў сувязі з падзеямі на гродзенскім вакзале ў сакавіку 1863 г. У той час меў 19 гадоў.

**Ражбіцкі** (**Rożbicki**) Станіслаў, с. Норберта, вучань гродзенскай гімназіі, быў арыштаваны ў сувязі з падзеямі на гродзенскім вакзале ў сакавіку 1863 г. на падставе сведчанняў Кашубы і Хамулецкага. На следстве прызнаўся ва ўдзеле ў выпраўцы на Друскенікі, але не выдаў удзельнікаў. У кастрычніку 1863 г. быў асуджаны з пазбаўленнем усіх праў на выгнанне ў глыб Расіі з адпраўкай у войска. У той час меў 17 гадоў.

[73] Севярын Мікалай Ромер (9 мая 1820 — 2 кастрычніка 1885) — апошні маршалак шляхты Гродзенскага пав., паўстанцкі касір Гродзенскага пав. Быў уласнікам маёнтка Губінка ў Гродзенскім пав. Знаходзіўся на дзяржаўнай службе, меў ордэн Св. Ганны 3-й ступені. Займаўся прадпрымальніцтвам, пабудаваў на Дамініканскай (цяпер Савецкай) вуліцы ў Гродне ўласны гатэль. Пасля пачатку паўстання заняў пасаду касіра паўстанцкай арганізацыі ў Гродзенскім пав. У красавіку ці маі (па новаму стылю) 1863 г. у гатэлі Ромера адбыўся сход членаў гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі па раскладцы падаткаў на памешчыкаў пад кіраўніцтвам С. Солтана. Спачатку сабраліся ў нумары Юндзіла, які тут жыў: Солтан, Камінскі, Багатка, князь Чацвярцінскі, Э. Заблоцкі. Юндзіл здаў сабраныя 3000 руб. срэбрам ваяводскаму касіру Багатцы, Мілевіч схадзіў у сваю кватэру і прынёс 10 нумар газеты «Рух». У сходзе ўдзельнічалі, акрамя вышэй названых: Мілевіч, Кастусь Каліноўскі, Ромер, Рэдых, Вайсятыч, Дашкевіч, Сільвястровіч. Жонка С. Ромера Тэадора кіравала жаночай арганізацыяй, збірала сродкі і медыкаменты для паўстанцаў. С. Ромер быў высланы ў Томскую губерню, яго жонка ў Казанскую, аднак паехала за мужам. Адбывалі пакаранне Ромеры ў Табольску, адкуль праз шмат гадоў вярнуліся на радзіму. Пахаваны С. Ромер у мястэчку Лішкава на тэрыторыі сучаснай Літвы. Гатэль Ромера, канфіскаваны і прададзены ўладамі, хаця і называўся «Маскоўскі», аднак сярод гродзенцаў яго доўга называлі «гатэлем Ромера», або «гатэлем паўстанцаў».

**Ружко** (**Różko**) Тэадор, с. Фрыдэрыка, сторaж на ст. Гродна, быў арыштаваны ў сувязі з падзеямі на гродзенскім вакзале ў сакавіку 1863 г., але неўзабаве вызвалены.

**Рудзінскі** (**Rudziński**) Антоні за ўдзел у паўстанні быў высланы на 3 гады ў арыштанцкія роты ў Калужскую губ.

**Руткоўскі** (**Rutkowski**) Юзаф, с. Юзафа, шляхціч, нарадзіўся ў Ражанцы ў Лідскім пав., скончыў гімназію ў Гродне ў 1849 г., прымаў удзел у паўстанцкай арганізацыі Гродзенскага павета. Быў арыштаваны ў чэрвені 1864 г. У той час меў 33 гады. Р. быў памочнікам начальніка горада Гродна д-ра Цеханоўскага, а пасля арышту начальніка заняў гэтую пасаду, успамінаюць пра гэта ў сваіх паказаннях Зыгмунт Урублеўскі, Эразм Заблоцкі і Ігнацы Генюш. Пры супастаўленні дат дачы паказанняў пералічанымі асобамі з датай арышту Я. Руткоўскага відаць, што толькі на падставе іх сведчанняў Р. мог быць арыштаваны. Так ці інакш, гэтую здагадку пацвярджаюць кнігі следчай турмы, прагледжаныя да 1914 года. У следчай камісіі Руткоўскі адмовіўся даваць паказанні.

**Жапецкі** (Жансніцкі) (**Rzopiecki** (Rząśnicki) Антоні, с. Аляксандра, былы вучань гродзенскай гімназіі, быў арыштаваны ў сувязі з падзеямі на гродзенскім вакзале ў сакавіку 1863 г. на падставе сведчанняў Кашубы. У той час меў 18 гадоў.

**Самулінскі** (**Samuliński**) Казімір, с. Ігнацыя, служачы, быў затрыманы са зброяй у руках на гродзенскім вакзале ў час, калі паўстанцы выбіраліся з Гродна ў Друскенікі ў ноч з 14 на 15 сакавіка 1863 г. Быў паранены штыком. У той час меў 21 год.

**Сарасек** (**Sarosiek**) Ежы, за ўдзел у паўстанні быў высланы ў Пермскую губ.

**Сасава** (**Sasowa**) Рыўка, габрэйка з Гродна, захоўвала ў сябе зброю і кулі. Была арыштавана ў сакавіку 1864 г.

**Савашкевіч** (**Sawaszkiewicz**) Канстанцін, чыноўнік, прымаў актыўны ўдзел ва ўзброеным паўстанні. Схоплены ў лютым 1864 г., у красавіку таго ж года палявы вайсковы суд асудзіў яго на выгнанне ў Сібір. У той час меў 40 гадоў.

**Сяглень** (**Siegleń**) Аляксандра, д. Станіслава, была арыштавана ў маі 1864 г. у сувязі з раскрыццём арганізацыі паўночных паветаў Гродзенскага ваяв. У той час мела 45 гадоў.

**Сямашка** (**Siemaszko**) Антоні, с. Стэфана, былы вучань гродзенскай гімназіі, быў арыштаваны па справе няўдалай выправы на

Друскенікі ў сакавіку 1863 г. на падставе сведчанняў Гамулецкага. Налічваў у той час 22 гады.

**Сянкевіч** (**Sienkiewicz**) Рамуальд за ўдзел у паўстанні быў высланы ў Табольск.

**Сянькоўскі** (**Sieńkowski**) Станіслаў, с. Вінцэнта, гродзенскі мешчанін, быў арыштаваны за ўдзел у паўстанні ў ліпені 1863 г. Налічваў у той час 49 гадоў.

**Серкучэўскі** (**Sierkuczewski**) Фелікс, с. Яна, з ваколіц Эйсмантаў, быў арыштаваны ў красавіку 1864 г. за агітацыю сярод сялян за нацыянальнае паўстанне. У той час меў 45 гадоў.

**Сіповіч** (**Sipowicz**) Францішак, с. Адама, асаднік з Гродзенскага пав., быў у паўстанчым атрадзе. Арыштаваны ў лютым 1864 г. як асоба, якая хавалася ад расійскіх улад. У той час меў 22 гады.

**Скаржынскі** (**Skarżyński**) Вінцэнт, с. Эдмунда, за ўдзел у паўстанні быў арыштаваны ў кастрычніку 1863 г., а ў красавіку 1864 г. высланы ў Сібір.

**Скірмунт** (**Skirmuntt**) Пётр, с. Юзафа, падазраваўся ва ўдзеле ў паўстанні, арыштаваны ў ліпені 1863 г. У той час меў 23 гады.

**Сокалаў** (**Sokołów**) Іван, с. Івана, селянін з Гродзенскага пав., быў арыштаваны за дастаўку правіянту паўстанцам у верасні 1863 г. У той час меў 57 гадоў.

**Солтан** (**Sołtan**) гр. Станіслаў, с. Станіслава, пастаўляў паўстанцам зброю і кулі. Быў у той час ва ўзросце 42 гадоў.

**Спірыдовіч** (**Spirydowicz**) Уладзіслаў, с. Грэгорыя, быў арыштаваны ў красавіку 1864 г. у сувязі з выяўленнем маскалямі арганізацыі паўночных паветаў Гродзенскага ваяв.

**Сраброўскі** (**Srebrowski**) Рамуальд, с. Паўла, асаднік, быў арыштаваны за дастаўку прадуктаў паўстанцам у верасні 1863 г. У той час меў 73 гады.

**Сраброўскі** (**Srebrowski**) Станіслаў, с. Рамуальда, 33 гады — тое ж.

**Статкевіч** (**Statkiewicz**) Тадэвуш, с. Тадэвуша, асаднік з-пад Індуры, быў у паўстанчым атрадзе. Быў арыштаваны ў маі 1864 г. У той час меў 26 гадоў.

**Стацкевіч** (**Steckiewicz**) кс. Пётр, францішканін гродзенскага кляштара, быў арыштаваны ў жніўні 1864 г. у сувязі з знаходкай у яго казанняў, напісаных у паўстанчым духу.

**Стравінскі** (**Strawiński**) Юзаф, быў высланы ў Казань.

**Сухеніч** (**Suchienicz**) Габрыель, с. Базыля з маёнтка Азёры гр. Л. Валіцкага, быў у паўстанчым атрадзе. Быў схоплены ў снежні 1863 г. У той час меў 18 гадоў.

**Сільвястровіч** (**Sylwestrowicz**) Станіслаў, с. Яна, жыхар Гродзенскага пав., прымаў актыўны ўдзел у паўстанчых грамадскіх арганізацыях у паўночных паветах Гродзенскага ваяв. Быў арыштаваны ў жніўні 1863 г. У той час меў 30 гадоў. Высланы, а яго ўласнасць Гожа ў Гродзенскім пав. была канфіскавана.

**Шантыр** (**Szantyr**) Станіслаў, шляхціч з Гродзенскага пав., арыштаваны ў сувязі з падзеямі на гродзенскім вакзале ў сакавіку 1863 г. на падставе сведчанняў Кашубы. У той час меў 23 гады.

**Шарэцкі** (**Szarecki**) Люцыян, с. Аляксандра, гродзенскі мешчанін, быў у паўстанчым атрадзе. Арыштаваны ў маі 1865 г. У той час меў 28 гадоў.

**Шчука** (**Szczuka**) Антоні, с. Дамініка, гродзенскі шляхціч, за ўдзел у паўстанні быў арыштаваны ў ліпені 1864 г. У той час меў 24 гады.

**Шаляхоўскі** (**Szelechowski**) Лявон, с. Юзафа, гродзенскі шляхціч, быў ад'ютантам у Лянкевіча. Арыштаваны ў лютым 1864 г. У той час меў 21 год.

**Шаршаневіч** (Шэршыновіч) (**Szerszeniewicz** (Szerszynowicz) Аўгустын, с. Яна, вучань гродзенскай гімназіі, арыштаваны за ўдзел у няўдалай выправе з Гродна на Друскенікі ў сакавіку 1863 г. на падставе сведчанняў Кашубы. У кастрычніку 1863 г. палявы суд прыгаварыў яго да выгнання ў глыб Расіі з адпраўкай у войска. У той час меў 19 гадоў.

**Шмідт** (**Szmidt**) Адольф, с. Яна, арандатар аптэкі Адамовіча ў Гродна, шляхціч з Аўгустоўскага [павета], арыштаваны ў красавіку 1863 г. за дапамогу, аказаную паўстанцам, але хутка быў вызвалены і аддадзены пад нагляд паліцыі. Ізноў арыштаваны за дастаўку лекаў паўстанцам; быў высланы ў Сібір.

**Шмігер** (**Szmigier**) Амалія, д. Юзафа, была сувязной у паўстанчым атрадзе (Лянкевіча). Была схоплена ў верасні 1863 г. У той час мела 15 гадоў.

**Шмігер** (**Szmigier**) Юзэф, с. Станіслава, аканом ва ўладаннях гр. Л. Валіцкага, шляхціч з Гродзенскага пав., абвінавачаны сялянамі, быў арыштаваны ў верасні 1863 г. У той час меў 57 гадоў.

**Шмурло** (**Szmurło**) Ян, с. Фелікса, гродзенскі шляхціч, быў у атрадзе добраахвотнікаў у верасні 1863 г. Быў асуджаны палявым вайсковым судом на выгнанне ў Сібір. У той час меў 21 год.

**Шобатаў** (**Szobotow**) Базыль, с. Міхала, селянін з Гродзенскага павета, наёмны работнік гр. Л. Валіцкага, дастаўляў правіянт паўстанцам. Быў схоплены ў маі 1863 г. маскоўскім атрадам падпалк. Мантэуфла і адпраўлены ў Гродна да вайсковай камісіі. У той час меў 18 гадоў.

**Штарк** (**Sztark**) Ян, былы рэдактар «Губернскіх Ведамасцей», быў у дэлегацыях ад імя грамадскіх паўстанчых уладаў Гродзенскага ваяв. Быў асуджаны на высланне ў Томск.

**Шукайла** (**Szukajłło**) Антоні, с. Тамаша, гродзенскі селянін, арыштаваны ў верасні 1863 г. за пастаўку паўстанцам фурманак. У той час меў 50 гадоў.

**Шумскі** (**Szumski**) Леанард, с. Антонія, чыноўнік (сакратар гродзенскай гімназіі), арыштаваны ў верасні 1864 г. за спяванне нацыянальных песняў. У той час меў 54 гады.

**Шыдлоўскі** (**Szydłowski**) Адольф, с. Анджэя, чыноўнік, арыштаваны за ўдзел у няўдалай выправе з Гродна ў Друскенікі ў сакавіку 1863 г. на падставе сведчанняў Хамулецкага. У маі 1863 г. быў вызвалены на парукі. У той час меў 20 гадоў.

**Шыдлоўскі** (**Szydłowski**) Юліян, с. Яна, гродзенскі шляхціч, за ўдзел у паўстанні быў арыштаваны ў чэрвені 1864 г. У той час меў 37 гадоў.

**Шымановіч** (**Szymanowicz**) Леанард, с. Яна, гродзенскі мешчанін, быў у паўстанчым атрадзе як добраахвотнік. Быў арыштаваны ў кастрычніку 1863 г. У той час меў 29 гадоў.

**Сьцяпура** (**Ściepuro**) Уладзімір, с. Тэадора, дзяк з Котры, быў арыштаваны ў 1864 г. у сувязі з павешаннем папа Рапацкага.

**Свяржыньскі** (**Świerzyński**) Станіслаў, с. Антонія (з Ваўкавыскага павета), быў арыштаваны ў сувязі з выкрыццём паўстанчай арганізацыі Гродзенскага ваяв. У той час меў 32 гады. Быў высланы ў Арэнбургскую губ.

**Тарасовіч** (**Tarasowicz**) Уладзіслаў, за ўдзел ў паўстанні быў асуджаны на высланне ў Табольск.

**Тарпялоўскі** (**Terpiełowski**) Уладзіслаў, с. Яна, функцыянер Гродзенскага ваяводства. Быў арыштаваны ў верасні 1864 г. У той час меў 42 гады.

**Толкін** (**Tołkin**) Дамінік, за ўдзел у паўстанні быў асуджаны на высланне ў Томск.

**Талочка** (**Tołoczko**) Казімір, с. Тамаша, чыноўнік, быў паранены штыком у час няўдалай адпраўкі на Друскенікі на гродзенскім вакзале, быў схоплены маскалямі 14 сакавіка 1864 г. Пры ім было знойдзена 2 пісталета. Палявы суд асудзіў яго на доўгатэрміновыя цяжкія працы ў Сібір. У той час меў 26 гадоў.

**Талочка** (**Tołoczko**) Канстанты за ўдзел у паўстанні быў асуджаны на высланне ў сібірскія капальні.

**Талочка** (**Tołoczko**) Міхал, за ўдзел у паўстанні палявым судом быў прыгавораны да выслання ў глыб Расіі з адпраўкай у войска.

**Трусевіч** (**Trusewicz**) Францішак, с. Яна, чыноўнік, за ўдзел у паўстанні быў арыштаваны ў чэрвені 1864 г. У той час меў 39 гадоў.

**Трусевіч** (**Trusewicz**) Марцін, с. Яна, гродзенскі мешчанін, арандатар Данілаўцаў, прымаў актыўны ўдзел у студзеньскім паўстанні. Быў арыштаваны ў ліпені 1864 г. У той час меў 43 гады.

**Тшацяк** (**Trzeciak**) Юліян, с. Віктара, паручнік у адстаўцы, прымаў удзел у арганізацыі грамадскіх улад паўночных паветаў Гродзенскага ваяв. Быў арыштаваны ў маі 1864 г. У той час меў 30 гадоў.

**Уткевіч** (**Utkiewicz**) Кшыштаф, с. Тэадора, селянін з Гродзенскага пав., быў узяты маскалямі ў няволю ў Лідскім пав. у канцы 1863 г. У той час меў 38 гадоў.

**Валентыновіч** (**Walentynowicz**) Марцэлі, с. Антонія, селянін, аканом зямель Гасоўскага ў Гродзенскім пав. Быў арыштаваны ў верасні 1863 г. за дастаўку правіянту паўстанцам. У той час меў 25 гадоў.

**Валіцкая** (**Walicka**) гр. Людвіка, была сувязной у паўстанчым атрадзе (Лянкевіча). Была арыштавана ў верасні 1863 г. У той час мела 22 гады.

**Валіцкі** (**Walicki**) гр. Леапольд, с. Яна, уладальнік Азёраў у Гродзенскім павеце за ўдзел у паўстанні быў арыштаваны ў жніўні 1863 г., асуджаны з пазбаўленнем усіх праў і высланы ў глыб Сібіры. Уладанні канфіскаваны. У той час меў 55 гадоў.

**Вяржбіцкі** (**Wierzbicki**) Пётр, чыноўнік, у красавіку 1864 г. за ўдзел у паўстанні прыгавораны палявым судом да выслання ў Пермскую губ. У той час меў 41 год.

**Вільчэўскі** (**Wilczewski**) Валеры, с. Антонія, прымаў удзел у арганізацыі грамадскіх улад паўночных паветаў Гродзенскага ваяводства. Быў арыштаваны ў красавіку 1864 г. У той час меў 26 гадоў.

**Вайнеюш** (**Wojneusz**) кс. Фелікс, с. Антонія, прапаведнік, вядомы сваімі прамовамі ў паўстанчым духу. Арыштаваны ў ліпені 1863 г., палявы суд прыгаварыў яго да выслання ў Пермскую губ.

**Вайсятыч** (**Wojsiatycz**) Юзаф, с. Пятра, быў адным з арганізатараў грамадскіх улад у Гродзенскім ваяв. Быў арыштаваны ў красавіку 1864 г. У той час меў 44 гады.

**Вайсятыч** (**Wojsiatycz**) Тытус, с. Альберта, шляхціч, быў арыштаваны ў верасні 1863 г. за дастаўку правіянту паўстанцам. У той час меў 56 гадоў.

**Ванароўскі** (**Wonorowski**) Донат, ляснік з Азёраў, за ўдзел у паўстанні быў арыштаваны ў жніўні 1863 г. і сасланы.

**Вайтушкова** (**Wojtuszkowa**) Леакадзія, д. Мацея, жыхарка Аўгустоўскага пав. Была арыштавана ў лістападзе 1864 г. у сувязі са знаходкай у яе значнай колькасці паўстанчых адозваў. У той час мела 45 гадоў.

**Вавойша** (**Wowojsza**) Дыміст, селянін з Гродзенскага пав., браў удзел у бітвах з маскалямі. Быў схоплены ў ліпені 1863 г. У той час меў 41 год.

**Урублеўскі** (**Wróblewski**) Зыгмунт, с. Антонія, былы студэнт Кіеўскага ўніверсітэта, арыштаваны ў жніўні 1863 г. за ўдзел паўстанчай арганізацыі паўночных паветаў Гродзенскага ваяводства. У той час меў 19 гадоў.

**Высоцкі** (**Wysocki**) Юзаф, с. Міхала, чыноўнік канцылярыі гродзенскага губернатара, быў арыштаваны ў сакавіку 1863 г. за ўдзел у няўдалай адпраўцы на Друскенікі. У маі 1863 г. быў выпушчаны на парукі. У той час меў 23 гады.

**Высоцкі** (**Wysocki**) Міхал, брат Юзафа, чыноўнік ізбы дзяржаўных зямель, асуджаны за тое ж. У той час меў 22 гады.

**Вір'ён** (**Virjon**) Ян, с. Юзафа, за ўдзел у паўстанні быў арыштаваны ў верасні 1863 г. У той час меў 68 гадоў.

**Вір'ён** (**Virjon**) Станіслаў, с. Яна, 31 год — таксама.

**Заблоцкі** (**Zablocki**) др. Баляслаў, с. Караля, пасля заканчэння Маскоўскага ўніверсітэта пасяліўся ў Гродна і прымаў удзел у арганізацыі грамадскіх паўстанчых улад у Гродзенскім ваяв. Арыштаваны ў канцы 1863 г., вывезены ў Вільню для «спецыяльнага» даследавання. У той час меў 29 гадоў. Быў высланы ў Арэнбургскую губ.

**Заблоцкі** (**Zablocki**) Эразм, брат д-ра Баляслава, быў намеснікам Кастуся Каліноўскага і грамадскім начальнікам Гродзенскага

ваяводства. Пасля арышту выдаў усю гродзенскую арганізацыю. У той час меў 33 гады.

**Зацвіліхоўскі** (**Zaćwilichowski**) Вацлаў, с. Вінцэнта, шляхціч, браў актыўны ўдзел ва ўзброеным паўстанні. Быў арыштаваны ў ліпені 1864 г. У той час меў 20 гадоў.

**Завістоўскія** (**Zawistowscy**) Станіслаў, Юзаф і Люцыян, прымалі актыўны ўдзел у нацыянальным паўстанні. Усе былі схоплены маскалямі.

**Зеневіч** (**Zieniewicz**) Антоні, селянін з Гродзенскага пав., быў добраахвотнікам у паўстанчым атрадзе. Быў арыштаваны ў лютым 1866 г. У той час меў 23 гады.

**Засніцкі** (**Zośnicki**) Антоні, за ўдзел у паўстанні арыштаваны ў кастрычніку 1863 г., высланы ў глыб Расіі з адпраўкай «в солдаты».

**Зуброўскі** (**Zubrowski**) Гіпаліт, с. Аляксандра, жыхар Гродзенскага пав., паводле сведчанняў Хамулецкага і Кашубы, быў ініцыятарам адпраўкі ў Друскенікі. Арыштаваны ў сакавіку 1863 г., адмовіўся ад дачы сведчанняў, быў высланы ў глыб Расіі.

**Жакоўскія** (**Żakowscy**) Вінцэнт (25 гадоў) і Станіслаў (29 гадоў), дзеці Яна Ж., гродзенскія мяшчане, былі арыштаваны ў красавіку 1863 г. за ўкрыццё паўстанца са зброяй.

**Жалкоўскі** (**Żołkowski**) Чэслаў, с. Людвіка, за ўдзел у паўстанні 1863 г. быў высланы.

**Жалкоўскі** (**Żołkowski**) Станіслаў, с. Людвіка, прымаў удзел у студзенскім паўстанні.

**Жалкоўскі** (**Żołkowski**) Уладзіслаў, с. Людвіка, працаваў у Гродзенскім ваяводстве, быў арыштаваны ў красавіку 1864 г. Меў у той час 27 гадоў.

**Жук** (**Żuk**) Ян, с. Юзафа, вучань гродзенскай гімназіі, быў паранены падчас выпадкаў на гродзенскім вакзале ў сакавіку 1863 г. і арыштаваны. На следстве выдаў некалькі ўдзельнікаў гэтай няўдалай выправы на Друскенікі. Празмерная шчырасць не абараніла яго ад пакарання — у кастрычніку 1863 г. палявы суд асудзіў яго на высланне ў глыб Расіі з адданнем «в солдаты». У той час меў 19 гадоў. Жук выдаў маскалям любімага моладдзю праф. Навакоўскага — апошняга настаўніка польскай мовы ў гродзенскай гімназіі.

**Жук** (**Żuk**) Леон, с. Пятра з Задуб'я пад Азёрамі, прымаў актыўны ўдзел у студзеньскім паўстанні. Быў арыштаваны ў снежні 1864 г. У той час меў 16 гадоў.



**Ігар Кебец. Дуб паўстанцаў**

**Жукоўскі** (**Żukowski**) Якуб, с. Шымона, гродзенскі мешчанін, трапіў у няволю ў канцы красавіка ці ў першыя дні мая 1863 г. пад Азёрамі, захоплены атрадам падпалк. Мантэуфла. Палявы суд пакараў яго высланнем у глыб Расіі з адданнем у арыштанцкія роты. У той час меў 25 гадоў.

**Сяргей Кузняцоў (Гродна-Варшава)**

# Антоні Баранцэвіч, аўтар «Апошніх дзён коннага літоўскага атрада»

Калі не лічыць жыхароў гарадзенскай Зарыцы, сярод прыватных дамоў якой схавалася невялікая вуліца, названая ў яго гонар, імя паўстанцкага камандзіра 1863—1864 гг. Антонія Баранцэвіча гарадзенцам вядома мала.

Даследчыкам паўстання постаць Баранцэвіча вядомая, ў першую чаргу, дзякуючы працы Ігнацыя Арамовіча, паўстанца, чые ўспаміны былі надрукаваныя неўзабаве пасля задушэння паўстання і дзе даволі падрабязна апісваюцца вайсковыя дзеянні на захадзе Гарадзенскай губерні[1]. Арамовіч і Баранцэвіч былі сярод тых пяцёх паўстанцаў, якія на пачатку лютага 1864 г. перайшлі расійска-аўстрыйскую мяжу. Да пяцідзесяцігоддзя паўстання ў Львове ў рамках шырэйшай працы выйшлі кароткія ўспаміны Баранцэвіча пад назвай «Апошнія дні коннага літоўскага атрада», дзе аўтар засяродзіўся на апісанні апошняй фазы паўстання, калі гарадзенскія атрады былі выціснутыя расійскімі войскамі на Люблiншчыну.

Антоні (Антоні-Генрых) Баранцэвіч паходзіў з поўначы Ашмянскага павету, ён нарадзіўся 17 студзеня 1837 г. у арандаваным фальварку Кірклішкі ў сям'і Казіміра Захаравіча Баранцэвіча і Вікторыі Восіпаўны з Рымкевічаў. Род бацькі Антонія паходзіў з поўдня Налібоцкай пушчы, дзе Баранцэвічы пражывалі ў ваколіцах мястэчка Дзераўная. Польскія біяграфічныя даведнікі падаюць[2], што Антоні належаў да роду гербу «Юноша». Частка Баранцэвічаў сапраўды карысталіся гэтым гербам[3], аднак генеалагічныя дакументы, якія

---

[1] Ignacy Aramowicz. Marzenia : Pamiętnik o ruchu partyzanckim w województwie grodzieńskiem, 1863 i 1864 r. Drukarnia «Ojczyzny». Bendlikon, 1865.

Па беларуску: Ігнат Арамовіч. Мары. Успаміны аб партызанскім руху ў Гарадзенскім ваяводстве ў 1863 і 1864 гг. / ARCHE 12/2010

[2] Polski Slownik Biograficzny. Tom I. Polska Akademja Umiejetnosci. Krakow, 1935. S. 269—270

[3] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 319, воп. 2, спр. 107

захоўваюцца ў Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве ў Вільні, указваюць, што продкі Антонія мелі іншы герб — «Ляліва»[4].



**Расійскі вайсковец Антоні Баранцэвіч (злева) з маці і братамі Канстанцінам-Янам і Генрыхам-Каралем. Казімір Баранцэвіч памёр у 1842 г., і маці выхоўвала трох сыноў і дзвюх дачок адна. Фота з архіва нашчадкаў Антонія Баранцэвіча**

Закончыўшы Віленскую гімназію, Антоні паступіў у 1856 г.[5] на службу ў расійскую армію. Напярэдадні паўстання ён служыў у званні падпаручніка ў Беластоку і быў звязаны з паўстанцкай арганізацыяй, будучы пасярэднікам паміж ёй і афіцэрамі беластоцкага гарнізону. 24 красавіка 1863 г. Баранцэвіч разам з 70 дабравольцамі з Беластоку далучыўся да паўстання і быў уключаны ў атрад Ануфрыя Духінскага. 29 красавіка ў бітве пад Валіламі[6] Баранцэвіч камандаваў 2-ой стралецкай ротай левага флангу. З часам пад камандаванне Баранцэвіча перайшоў асобны атрад, а 22 жніўня Баранцэвіч атрымаў

[4] Літоўскі дзяржаўны гістарычны архіў. Ф. 391, воп. 1, спр. 1009.

[5] У энцыклапедычных даведніках можна сустрэць «1857», год пазначаны паводле рукапісных нататак Антонія Баранцэвіча.

[6] Валілы (польск. Waliły) — сёння вёска ў Беластоцкім павеце Падляшскага ваяводства Польшчы.

званне капітана. Праз месяц, 20 верасня 1863 г., каля вёскі Боцькі[7] атрад Баранцэвіча, які складаўся з 109 паўстанцаў, зрабіў няўдалую засаду на калону расійскіх войскаў капітана Емельянава. Бітва пад Боцькамі была адной з апошніх на тагачаснай Гарадзеншчыне. Рэшткі атрада злучыліся з атрадам братоў Багуслава і Юльяна Эйтміновічаў і, адступаючы перад расейцамі, аб'яднаны атрад сышоў на Люблiншчыну, дзе аб'яднаўся з атрадамі Караля Крысінскага і Валерыя Урублеўскага...



**Аўтабіяграфія Баранцэвіча. «Веданне моваў: польская, французская, руская і маскоўская». Копія з архіва нашчадкаў Антонія Баранцэвіча.**

[7] Боцькі (польск. Boćki) — сёння вёска ў Бельскім павеце Падляшскага ваяводства Польшчы.

***

Пасля паразы паўстання Баранцэвіч выехаў у Парыж, дзе некалькі гадоў працаваў на чыгунцы. За паўстанцкія заслугі ўжо ў эміграцыі ён атрымаў званне маёра (24.03.1864). У 1869 Баранцэвіч пераехаў у Галіцыю, дзе працаваў на будове чыгункі, а ў 1872 г. атрымаў пасаду акруговага інжынера шляхоў зносін ў Станіслававе. Адначасова Антоні Баранцэвіч прымаў актыўны ўдзел у працы спартовай арганізацыі «Сокал» і з часам стаў кіраўніком арганізацыі ў Станіслававе, а пазней і кіраўніком асобнай акругі арганізацыі. Паводле ўспамінаў нашчадкаў Баранцэвіча, ягоны партрэт аздабляў хол будынку «Сокалу» ў Станіслававе да 1939 г.




**Антоні Баранцэвіч у сталым веку. Фота з архіва нашчадкаў Антонія Баранцэвіча.**




**Магіла Антонія Баранцэвіча на Лычакоўскіх могілках. Фота С. Кузняцова.**

Пасля выхаду ў 1913 г. на пенсію Баранцэвіч пераехаў у Львоў, дзе памёр 26 студзеня 1918. Магіла Антонія Баранцэвіча знаходзіцца на Лычакоўскіх могілках Львову ў сектары паўстанцаў 1863—64 гг.

У шлюбе з Пелагеяй Дэскур у Антонія было чацвёра дзяцей. Іх нашчадкі жывуць сёння ў Польшчы, Германіі, Аргентыне. У іх

сямейным архіве захоўваюцца цікавыя фотаздымкі і дакументы, звязаныя з паўстанцкім камандзірам з Гарадзеншчыны: метрыка Слабодскага касцёлу, дзе Антоні быў ахрышчаны, паўстанцкія дакументы, генеалагічныя выпісы. Адзін з прапраўнукаў Антонія працуе над кнігай пра сваю сям'ю, і можна спадзявацца, што гэтыя дакументы з часам будуць апублікаваныя.

**Антоні Баранцэвіч**

# Апошнія дні коннага літоўскага атраду*

Пасля апошніх сутычак у лістападзе — 17-га пад Расошам[8], 18-га пад Калянам[9] і 26-га пад Старосцінам[10] — маскалі пакінулі нас у супакоі амаль на месяц. Напэўна, яны разлічвалі, што надыходзячая зіма, а разам з ёй цяжкасці з правіянтам для людзей, фуражом для іх коней, а перадусім маразы і нягоды хутчэй за ўсялякія кулі, штыхі і шыбеніцы прарэдзяць шэрагі бунтаўнікоў. У пэўнай ступені іх разлікі спраўдзіліся — хворы Крук распусціў свой атрад і з'ехаў за мяжу. Крысінскі і Казлоўскі, таксама распусціўшы свае атрады, падаліся ўслед за ім. У выніку, у Люблінскім ваяводстве засталіся толькі літоўскія атрады: конны пад камандаваннем Валерыяна Урублеўскага і пешы на чале з Багуславам Эйтміновічам. Блукалі яшчэ таксама атрады Рыльскага і Янкоўскага.

Атрады складаліся выключна з літоўскай моладзі — рэштак разбітых атрадаў Духінскага, Урублеўскага, Траўгута, Вашкевіча, Толкіна, Сасуліча, Улодка, Вашкевіча, Нарбута, Стравінскага, Хадакоўскага, Юндзіла, Багуслава Эйтміновіча і Баранцэвіча. Гэта была

* Арыгінальная назва: «Ostatnie dnie konnego litewskiego oddziału». Тэкст апублікаваны ў калектыўнай працы «W czterdziestą rocznicę powstania styczniowego 1863—1903» — Nakładem komitetu wydawniczego, Lwów, 1903. Пераклад з польскай: Сяргей Кузняцоў

8 Росаш (польск. Rossosz) — сёння вёска ў Бяльскім павеце Люблінскага ваяводства Польшчы.

9 Каляна (польск. Kolano) — сёння вёска ў Парчэўскім павеце Люблінскага ваяводства Польшчы.

10 Старосцін (польск.Starościn) — сёння вёска ў Любартоўскім павеце Люблінскага ваяводства Польшчы.

моладзь, якая прайшла праз бітвы, пачынаючы з красавіка 1863, якая цярпліва пераносіла цяжкасці паўстанцкага жыцця, у якім часта была пазбаўленая нават самага неабходнага. Кожны з іх меў на памяці больш дзясятка сутычак з маскалямі, а таму сустрэчы з ворагам ніхто не баяўся. Вярнуцца да сямейных ачагоў ім ужо не выпадала — ачагі тыя за іх удзел у паўстанні былі дашчэнту знішчаныя Мураўёвым-Вешальнік. Пакінуць атрад і збегчы за мяжу наўрад ці хто з іх планаваў: пачуццё гонару і абавязку перад Айчынай, у імя якой яны ўзялі ў рукі зброю, не дазваляла ім пакінуць лагеру. Іх лёсам было загінуць.

У снежні абодва атрады — конны Урублеўскага і пешы Багуслава Эйтміновіча, увесь час знаходзячыся ў маршы, то аддаляліся адзін ад аднаго, то зноў збліжаліся, каб аказаць дапамогу, калі спатрэбіцца. Так мінуў снежань.

Марозным днём 30 снежня конны атрад пасля знясільваючага маршу прыбыў, калі не памыляюся, у Малую Букову, якая належала Бельскім. Сардэчна сустрэтыя гаспадаром і яго сям'ёй, мы адразу трохі адпачылі ды наталілі дакучлівы голад. Пад'еўшы, адзін з паўстанцаў сеў за фартэпіяна, і праз момант на ўвесь маёнтак загучалі паўстанцкія музыка і спевы. Потым была мазурка. Выйшлі на яе, здаецца мне, пяць параў — столькі кабетаў і паненак было ў доме. Павесялелая моладзь усю ноч бавілася на гэтай імправізаванай забаве, змяняючы танец песняй, забываючы аб сваім небяспечным становішчы. А для многіх, вельмі многіх удзельнікаў той забавы гэтая ноч сталася апошняй у жыцці.

Ужо світала, калі начальнік Урублеўскі атрымаў паведамленне аб набліжэнні маскоўскіх драгунаў колькасцю 1100 чалавек. Наш жа атрад складаўся з 146 паўстанцаў. Нягледзячы на такую перавагу маскалёў па колькасці і зброі, мы пачалі рыхтавацца да бою.

Урублеўскі быў вымушаны прыняць бой па той прычыне, што побач знаходзіўся пешы літоўскі атрад, які камандзір хацеў выратаваць, адцягваючы ўсю навалу на сябе. На гэты раз яму тое ўдалося, але з вялікімі стратамі для коннага атрада.

Аднак наш пешы атрад існаваў нядоўга. 6 студзеня 1864 г. атрад накіроўваўся фурманкамі ў бок Усцімава[11]. Раптам яго насцігла маскоўская кавалерыя і ў выніку кароткай і роспачнай бітвы атрад быў высечаны пад корань. Разам з іншымі ў баі загінуў камандзір Багуслаў

[11] Сёння вёска Стары Усцімаў (польск. Stary Uścimów) ў Любартоўскім павеце Люблінскага ваяводства Польшчы.

Эйтміновіч, а камандуючы конніцай, што дзейнічала пры атрадзе, 70-гадовы граф Панінскі, маёр бельгійскіх войскаў, амаль цудам ацалеў у гэтым пагроме.

Аб тым, з якім даверам ставіліся мы да мясцовага русінскага[12] насельніцтва, і як яно таго даверу заслугоўвала, сведчыць наступны прыклад: пасля нешчаслівага паражэння пад Усцінавым Францішак Ланшо (Longchamps), ад'ютант Панінскага, аказаўся ў недалёкай вёсцы, жыхарам якой маскалі загадалі даць падводы для сваіх рэчаў і забітых, якіх яны лічылі выбітнымі асобамі. Ланшо, дамовіўшыся з вяскоўцамі, пераапрануўся ў сялянскую вопратку і адправіўся з падводай, каб даведацца, што ж стала з яго камандзірам, графам Панінскім, якога апошні раз бачыў падаючага з каня. Не знайшоўшы графа сярод забітых, Longchamps узрадаваўся, што яго камандзір, да якога ставіўся ён з сапраўднай сыноўняй любоўю, не загінуў. Камандзір і яго ад'ютант знайшлі адзін-аднаго ў эміграцыі.

Наогул, падчас шасцімесячнага кружляння па Падляшскім і Люблінскім ваяводствах, быў я сведкам толькі прыхільнасці і зычлівасці як з боку русінскага духавенства, так і ўсяго насельніцтва, і не чуў аб ніводнай здрадзе з іх боку.

Але вярнуся да аповеду пра дзейнасць коннага атраду.

Пакінуўшы маёнтак, атрад прайшоў праз вёску і адышоў у бок лесу, што знаходзіўся дзесьці ў 500 кроках ад вёскі. На некаторы час я застаўся ў ар'ергардзе напрыканцы вуліцы, якая адразу ж запаланілася надыходзячымі драгунамі. Павыходзіўшы на вуліцу, маскалі пачалі фармаваць франтавую лінію. Я паспяшаўся за атрадам і быў сведкам атакі франтавой лініі на лес, у якім, напэўна, маскалі спадзяваліся сустрэць засаду. Як я пазней даведаўся, драгуны наблізіліся да лесу, пасаскоквалі з коней і пачалі страляць па лесе — натуральна, што па дрэвах, бо ніякай засады там не было.

Неўзабаве я дагнаў свой атрад і пэўны час рушыў побач з паручнікам Шайбам, дасведчаным вершнікам, які імчаў на ладным арабскім скакуне. Раптоўна конь пад Шайбам паслізнуўся, упаў, я азірнуўся ды, ўбачыўшы ў 50 кроках ад сябе драгунаў, мімавольным рухам прытрымаў каня ды стрэліў усе пяць патронаў, што меліся ў рэвальверы. Драгуны на момант затрымаліся, чым скарыстаўся Шайба — ускочыў на каня, які зноў сарваўся з месца. Маскалі лавінаю рушылі наперад. У імгненне вока я быў адрэзаны ад сваіх. Расстраляўшы патроны з рэвальверу,

[12] тут і далей польскае *ruski* перакладзена як *русінскі*

я пачуўся амаль безабаронным. Маёй лёгкай шабелькай я не даў бы рады прабіцца паўз добра ўзброеную салдатню, абароненую грубымі палатнянымі плашчамі, нацягнутымі на кажухі, і шлемамі, якія, безумоўна, вытрымалі б удары такой шабелькі, як мая. Тым не менш, мне ўдалося праскочыць паміж драгунамі і трапіць на лясную сцежку. Я быў адрэзаны ад аддзелу і доўга блукаў па лесе пакуль увечары не сустрэў вяскоўца. Той правёў мяне ў нейкі маёнтак, дзе я застаў Юльяна Эйтміновіча і яшчэ некалькі асобаў з разбітага атраду.

Тут я даведаўся, які боль мы прычынілі гаспадарам, якія нас так гасцінна сустракалі і ў якіх мы спыніліся ў апошнюю ноч. У Бельскіх было некалькі дачок і адзін сын, 18-гадовы хлопец. Той ірваўся да паўстанцаў, а таму бацькі, жадаючы абараніць ад паўстанцкай долі, выслалі яго за мяжу. Напрыканцы снежня, мяркуючы, што паўстанне захлынулася, яны дазволілі хлопцу вярнуцца дадому. Калі наш атрад пакідаў маёнтак, хлопец ускочыў на каня, і патаемна ад бацькоў далучыўся да атраду. Праз некалькі гадзін бацькі знайшлі яго страшна пасечанае цела на дарозе пад крыжам.

На другі дзень — першага студзеня 1864 г. мы злучыліся з Урублеўскім, пры якім знаходзілася больш за дзясятак «недабіткаў» пасля апошняй сутычкі. Было нас вельмі мала. Сялянскай варты аказалася недастаткова, доказам чаму былі неспадзяваныя напады казакаў 3-га і 4-га студзеня. Толькі дзякуючы сталай чуйнасці нам ўдалося адбіць тыя атакі. Калі атрад павялічыўся за кошт уцалелых з апошняга пагрому, мы мусілі ў мэтах бяспекі стварыць абозную службу, выстаўляючы пікеты на галоўных трактах. У небяспецы званні не мелі значэння. Акрамя камандзіра Урублеўскага, мы ўсе неслі варту. Увесь час адчуваючы маскалёў за сабой, на досвітку мы пакідалі месца начлегу і ўвесь час былі ў руху.

Ноч з 18 на 19 студзеня атрад правёў у нейкай вёсцы (назву не памятаю). Гэтую ноч я запомніў надоўга — я правёў яе на пляцоўцы, пры 20-градусным марозе і моцным ветры. Ужо пачынала світаць, калі маёр Квапішэўскі зняў маю варту. Атрад адразу рушыў, пра тое, каб сагрэцца не было і мовы.

З-за моцнага марозу і ветру некаторыя злазілі з коней, каб разагрэцца, ідучы пешшу. Былі і такія, што сядалі ў сані, што ішлі ззаду за атрадам, везучы некалькі параненых.

Калі мы міналі вёску Войцехаў, ззаду пачуліся стрэлы і неўзабаве паказаліся кубанскія казакі. Наш ар'ергард быў адразу знішчаны.

Сані, што ехалі за атрадам, на нейкі час прысеклі імпэт казакаў, і пачулася там больш за дзясятак стрэлаў ў бок атакуючых. Атрад рушыў наперад, каб выйсці з вуліцы за вёску. Урублеўскі, убачыўшы, што такі адыход — дрэнная справа, які можа хутка ператварыцца ў агульны перапалох і ўцёкі, стаў упоперак вуліцы і на месцы хацеў даць адпор ворагу. Аднак, паранены двума ўдарамі ў галаву і ў плячо, упаў з каня. Яго жыццё выратаваў невядомы вясковец, які, у той час як казакі пагналіся за рассыпаным аддзелам, зацягнуў Урублеўскага ў сваё гумно. Каля Урублеўскага загінула больш за дзесяць нашых. Рэшта аддзелу, выціснутая ўсё далей пераўзыходзячым ў некалькі разоў па колькасці ворагам, рассыпалася па наваколлю. Маскалі падзяліліся на меншыя аддзелы і пачалі пераследаваць асобныя групкі. Выціснуты з вёскі разам з астатнімі я аказаўся ў рэдкім хмызняку. І тут мой конь паслізнуўся і ўпаў. Як толькі я прыўзняўся — убачыў казакаў з харунжым, што несліся каля мяне. Я ўзняў рэвальвер і зрабіў два стрэлы. Казакі, не затрымліваючыся, праскакалі міма мяне. Узяўшы каня за цуглі я ўвайшоў у густы лес. Праз некалькі гадзін я забрыў у нейкі маёнтак, дзе мяне вельмі холадна сустрэлі. Я патлумачыў гэта апасеннямі гаспадароў. Напрыканцы паўстання маскалі пачалі прымяняць сістэму Мураўёва-Вешацеля і ў Кангрэсоўцы. Яны дабівалі параненых, а за прытулак, дадзены паўстанцу, рабавалі і палілі двор, а гаспадароў каралі адміністрацыйным судом, г.зн. уласна без суда, адпраўлялі ў Сібір. Таму мяне і не здзівіў кіслы выраз твару гаспадара пры маім з'яўленні. Ён хацеў напужаць мяне, кажучы пра набліжэнне маскалёў. Але я быў вельмі знясілены і згаладалы, каб гэтая інфармацыя магла на мяне падзейнічаць. Я адказаў яму, што зараз маёнтку не пакіну, а калі маскалі насамрэч з'явяцца — буду бараніцца, не жадаючы аказацца на шыбеніцы, што мяне, як маскоўскага афіцэра несумненна б чакала. Адказаў таксама, што калі хоча мяне пазбыцца — хай адправіць мяне да рэшткаў нашага атраду. На наступны дзень я аказаўся сярод ацалелых пасля апошняй сутычкі. Былі сярод іх Эйтміновіч і Квапішэўскі.

Хоць, як ўзгадвае ў сваіх успамінах Арамовіч, пад Войцехавым загінула васямнаццаць нашых, я добра памятаю, што пасля старасцінскага паражэння нас сабралася толькі 45, і ў такой колькасці мы дайшлі да Войцехава. Тут у новым паражэнні ацалелі толькі 14, дзевяць з якіх былі параненыя.

Пасля вынішчэння пяхоты Багуслава Эйтміновіча і разбіцця коннага атраду Урублеўскага паўстанне ў Люблінскім ваяводстве захлынулася, бо апрача гэтых двух, іншых паўстанцкіх атрадаў у гэтых краях не было.

Упяцёх мы рушылі да мяжы, каб перайсці ў Галіцыю. Дзевяць дзён — ад 19 студзеня да 1 лютага спатрэбілася нам, каб у пастаянным маршы мінаць снуючыя маскоўскія войскі і стражу. Да таго ж рана Эйтміновіча на сцягне, зусім не агледжаная, нагноеная ад пастаяннай язды на кані і шаравання аб палатняныя нагавіцы, змусіла пакласці яго на сані праваднiка. Таму далей мы прасоўваліся паволі, едучы з хуткасцю саняў. Праз некалькі дзён маршу без адпачынку, у голадзе і холадзе мы адчулі сябе вычарпанымі, а нашы галодныя і змучаныя доўгай дарогай коні ледзьве валакліся. Вырашылі адпачыць пару гадзін. Наш праваднік рушыў за ежай у вёску, што была побач. Неўзабаве, мы ўбачылі невялікія саначкі, а ў іх дзве прыгожыя паненкі. Як мы пазней даведаліся, дочкі *русінскага* святара з гэтай вёскі, не зважаючы на небяспеку, спяшаліся на дапамогу паўстанцам. У санях аказалася ежа і некалькі бутэлек мёду, з якіх дзве мы выпілі самі, а рэшта, вылітая ў бляшанку падмацавала і дала сілаў да далейшай дарогі нашым коням. Сардэчна развітаўшыся з шляхетнымі *русінкамі* мы рушылі далей.

Тут перад трайным кардонам стражы і аб'ездчыкаў, якіх маскалі павыстаўлялі на мяжы, Эйтміновіч, не зважаючы на боль і аслабленасць, сеў на каня, і з рэвальверам ў адной руцэ і шабляй у другой мы добрай рыссю рушылі наперад...

Паспяхова перайшоўшы мяжу, праз некалькі гадзін мы спыніліся ў Дзяніcках, пад гасцінным дахам пана Саламірскага. Гаспадар адразу пасля нашага прыбыцця прадставіў нас як сваіх кузінаў аўстрыйскім гусарскім афіцэрам, якія ў той час бавіліся ў яго.

Тут у першы раз ад невядома якога часу мы сцягнулі з сябе вопратку — бялізна ўжо даўно лахманамі пазлятала з нас, ды і верхняя вопратка, ўся парваная ды поўная паразітаў, ледзьве трымалася на змучаным целе.

# Старонкі гісторыі мяцежнай Гродзеншчыны

**Вячаслаў Швед,**
**доктар гістарычных навук, прафесар (Гродна)**

## Перадпаўстанцкі рух у Гродзенскай губерні ў 1861 — 1862 гадах

21 лютага 1861 г. у Варшаве пачаўся з'езд сяброў Земляробчага таварыства. Ім было вядома пра Палажэнне 19 лютага, адпаведна якому адмянялася прыгоннае права ў Расійскай імперыі. Яно не закранала Каралеўства Польскае, і з'езд павінен быў выпрацаваць спосабы вырашэння сялянскага пытання на польскіх землях. 27 лютага варшаўскія рэвалюцыйныя гурткі правялі дэманстрацыю з мэтаю аказання ціску на сяброў Земляробчага таварыства, якія не збіраліся адмаўляцца ад прыгонніцкіх метадаў эксплуатацыі. Дэманстрацыя закончылася паліцэйскім расстрэлам, у выніку якога 5 чалавек было забіта, а некалькі дзесяткаў паранена[1].

Пасля гэтай падзеі па Польшчы, а затым і па Беларусі і Літве пракацілася хваля рэлігійных маніфестацый, стаўшых рэквіемам у памяць аб пяці забітых у Варшаве. 3 (15) сакавіка 1861 г. гродзенскі жандарскі штабс-капітан Е.А. Прасолаў данёсіў шэфу жандараў і начальніку III Аддзялення В.А. Далгарукаву: «И некоторые лица этих сословий (дворянство и католическое духовенство — В.Ш.) и даже из служащих чиновников, особенно же ксендзы и дамы, выражают своё сочувствие отправлением панихид по убитых в Варшаве, пожертвованиями в пользу их семейств, отстранением себя от участия в собраниях и от сообщества с русскими, и последние, дамы, нарядами вроде траура, называемыми «гарибальдинками», по примеру носимых в Варшаве. Некоторые мужчины, также подражая варшавским,

[1] История Польши. М., 1955. Т. 2. С. 107—108.

носят конфедератки из белого или фиолетового сукна с чёрными околышами»[2].

У сакавіку ў гродзенскіх касцёлах адбываюцца імшы. Пра іх значэнне напісаў у сваіх паказаннях паўстанец С. Сільвястровіч: «…Жалобныя малебны па касцёлам, а больш усяго бесперапыннае спяванне гімнаў, якія так доўга існавалі ва ўсіх касцёлах і прыватных дамах падпальвалі гэтае захапленне яшчэ болей…»[3]. 9 сакавіка ў прыходскім касцёле на Кобрынскім фарштаце Брэст-Літоўскай крэпасці адбылося, відаць, адно з першых набажэнстваў. На ім прысутнічалі памешчыкі, вайскоўцы і грамадзянскія чыноўнікі[4]. 14 сакавіка шматлюдная паніхіда адбылася ў слонімскім кляштары манахаў-бернардзінцаў пад выглядам прыватнай імшы па памёршаму сваяку Ланскога, аднаго з мясцовых памешчыкаў. За агароджай касцёла бернардзінаў быў пастаўлены намёт, у якім жанчыны прадавалі розныя рэчы «на прыбытак мясцовай багадзельні». Але, як прызнаецца гараднічы Слоніма Баранаў, даведацца ці пайшлі менавіта туды грошы можна толькі ў камітэта дапамогі бедным пры касцёле. Гараднічы пісаў: «У апошні час з’явілася шмат белых шапак з чырвонымі стужкамі, называемых канфедэраткамі і нават былі бачны жупаны з пончамі, складаючымі былы польскі ўбор»[5].

28 сакавіка ў беластоцкім касцёле адбыўся жалобны малебен, падчас каторага назбіралі каля 300—400 руб. срэбрам. Грошы пераважна давалі служачыя чыгункі, і праз чыгуначніка Івана Ярацынскага яны былі адасланы ў Варшаву для сямей забітых[6]. 4 і 5 чэрвеня ў беластоцкім касцёле на вячэрняй службе група гімназістаў, служачыя чыгункі (сярод іх Пянткоўскі) і некаторыя жанчыны (між іншымі Камінская, Бяліцкая, Лубава) спявала польскі гімн. А 17 чэрвеня дзяўчына Касінская не давала сесці на лаву ў гэтым касцёле жонцы надворнага дарадцы Скрабіцкай, бо яна не была апранута ў жалобу[7].

19 чэрвеня 1861 г. у Бельскім рыма-каталіцкім касцёле адбылася паніхіда па забітым у Варшаве, а затым спявалі патрыятычны гімн

[2] Революционный подъём в Литве и Белоруссии в 1861—1862 гг. // Восстание 1863 года. Материалы и документы. М., Вроцлав: Наука, 1964. С. 432.

[3] НГАБ у Гродне. Ф. 3, воп. 3, спр. 1, арк. 109.

[4] Революционный подъём в Литве и Белоруссии… С.433.

[5] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1241, арк. 7, 7 адв.; спр. 1242, арк. 12, 12 адв.; Революционный подъём в Литве и Белоруссии… С. 12.

[6] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1241, арк. 8 адв.; спр. 1242, арк. 1 адв.

[7] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1241, арк. 21, 34.

«Boże coś Polskę…» («Божа, што Польшчу»)[8]. Дамы былі ў жалобе, адзін студэнт папрасіў афіцэра, які быў у рускім мундзіры, выйсці з касцёла. Бельскія студэнты часта збіраліся вечарамі ў доме Такаржэўскага і спявалі патрыятычныя песні[9].

У дакуменце, што выйшаў з канцылярыі ваеннага губернатара г.Гродна і гродзенскага грамадзянскага губернатара гаварылася: «…с приездом в Гродно помещицы Валицкой началось здесь пение возмутительных гимнов…». Валіцкая Леакадзія разам з дачкою была выслана з Вільні ў м.Азёры ў маі 1861 г. «за неприличные поступки» пад строгі паліцэйскі нагляд. Але па просьбе Валіцкай Віленскі ваенны губернатар і генерал-губернатар Гродзенскі і Ковенскі 1 ліпеня дазволіў ім жыць у Гродне. 1 верасня гродзенскі ўезны спраўнік узяў падпіску з Валіцкай, што яна не будзе пакідаць Азёры. Падпіску яна дала, але растлумачыла яму, што маёнтак належыць не ёй, а Леапольду Валіцкаму, а таму знаходзіцца ёй там не магчыма. Пасля чаго, відаць, пайшла ў ход тая папера, якая дазваляла ёй жыць у Гродне. У студзені 1862 г. ёй дазволілі выехаць на 2 месяцы да дачкі ў Нова-Аляксандраўскі ўезд Ковенскай губ. У красавіку яна вярнулася ў Гродна і пасялілася на вул. Замкавай, у доме габрэя Собаля. 22 мая Валіцкая, відаць, без дазволу выехала ў забароненую для яе Вільню[10].

23 чэрвеня ў рымска-каталіцкім Фарным касцёле Гродна спявалі патрыятычны гімн, а на другі дзень тое ж было паўторана ў пабернардзінскім прыходскім касцёле. 25 чэрвеня ў апошнім адбыліся спевы падчас урачыстага святкавання Св. Антонія[11]. Гродзенцы збіралі грошы на помнік пяці забітым у Варшаве. Так, гаспадар маёнтка Гожа Станіслаў Сільвястровіч сабраў каля 80 руб. і перадаў іх чальцу патаемнай Гродзенскай ваяводскай арганізацыі Э. Заблоцкаму[12]. Гродзенскі вольнапрактыкуючы ўрач Целясцін Цеханоўскі, таксама дзеяч падполля, быў заўважаны ў Дамініканскім касцёле за зборам грошаў[13].

30 чэрвеня ў касцёле м. Камянец-Літоўск жанчыны-памешчыцы спявалі польскія гімны пад акампанемент адной з іх на аргане. Спевы

[8] Гімн напісаны ў 1816 г. А. Фелінскім з нагоды абвяшчэння Каралеўства Польскага

[9] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1241, арк. 38.

[10] НГАБ у Гродне. Ф. 3, воп. 3, спр. 1, арк. 256 — 257 адв.; Ф. 1, воп. 22, спр. 1143, арк. 1, 6, 10—10 адв., 18, 20, 22.

[11] Революционный подъём в Литве и Белоруссии… С. 34

[12] НГАБ у Гродне. Ф. 3, воп. 3, спр. 4, арк. 17 адв.

[13] НГАБ у Гродне. Ф. 3, воп. 3, спр. 1, арк. 109 адв., 256; воп. 1, спр. 40, арк. 28 адв.

паўтарыліся 4 і 7 ліпеня 1861 г. Спявалі патрыятычныя гімны 9 ліпеня ў сакольскім і 11 ліпеня ў брэсцкім касцёлах[14].

Вечарам 10 ліпеня ў беластоцкі касцёл прыбыла працэсія (да 100 чал.) з м. Супрасль на чале з ксяндзом з Васількава. У 5 гадзін раніцы наступнага дня разам з беластоцкай працэсіяй яны пайшлі ў Заблудаў, спяваючы песні. Беластаччане вярнуліся назад у 10,5 гадзін вечара таго ж дня і, праходзячы праз горад, спявалі забароненыя гімны[15].

20 ліпеня з беластоцкага касцёла адправілася працэсія ў м. Тыкоцін Каралеўства Польскага. Ішлі з мясцовымі святарамі, з харугвамі і абразамі і пелі забаронены гімн. Гараднічы даносіў, што быў пабіты дваранін Іосіф Лесюкевіч, якога падазравалі «рускім шпіёнам». 23 ліпеня, у дзень ад'езду гродзенскага губернатара з Беластока, у 8,5 гадзін вечара група народу сабралася каля зачыненага касцёла, хутка праспявала патрыятычны гімн і разбеглася ў розныя бакі. У адным са сваіх рапартаў беластоцкі гараднічы назваў прозвішчы некаторых спевакоў — калежскі асэсар Длужнеўскі, настаўнік гімназіі Граўерт, выкладчык музыкі Тачыскі, аптэкар Гансецкі, старая дзявіца Вольская, дзявіца Вінская, дваранка Касінская, жонка тытулярнага дарадцы Хухлінская[16].

26 ліпеня 1861 г. Прасолаў даносіў пра патрыятычныя спевы ў Слоніме, Кобрыне, Брэсце, Бельску, Беластоку, Саколцы і некаторых мястэчках. Ён пісаў, што «главными участниками пения бывают дамы дворянского и женщины среднего сословия, носящие траурное платье, и некоторые из молодых обывателей, воспитанников учебных заведений и служащих гражданских чиновников… Дёрзость и подозрительность некоторых лиц доходит до того, что они заставляют русских и не принимающих участия в пении выходить из костёлов и процессий и кропят серной кислотой платья дам, не носящих траура. Такое направление умов, такие «мирные», как их называют, манифистации, к сожалению, не прекращаются, несмотря на предостережение и уговаривание благоразумных людзей и местных властей, а делаются чаще и открытее и увлекают более и более народ: граждан, мещан и однодворцев, и даже крестьян»[17].

---

[14] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1241, арк. 62—62 адв.

[15] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1241, арк. 55—55 адв.

[16] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1241, арк. 56, 73 адв., 76—76 адв., 81 адв.

[17] Революционный подъём в Литве и Белоруссии… С. 438.

1 жніўня пасля 8 гадзін вечара ў агароджы беластоцкага касцёла сабралося да 400 чал., якія спявалі не толькі рэлігійныя песні, але і забаронены патрыятычны гімн. Гараднічы, папярэджаны ксяндзом, выклікаў загадзя сотню данскіх казакаў, з дапамогай якіх хацеў перапісаць усіх сабраўшыхся. Апошнія спрабавалі пераканаць гараднічага, ксёндз Сідаровіч заявіў, што пра прымус «уся Еўропа будзе апавешчана і паведамлена газеце «Колокол». На плошчы за казакамі сталі збірацца людзі. Сакратар думы Плюта прарваўся ў агароджу і падгаворваў натоўп трымацца. У выніку прыйшлося выпусціць людзей без запісу, але некаторых гараднічы пазнаў: Касінская з дачкой, выхаванкі Пецярбургскага Смольнага манастыра дзве дзявіцы Лянчэўскія, дзве дачкі Плюта, дачка настаўніка Кулешы, удава Пенькоўская, дваранін Каралеўства Польскага Астафінскі, дваранка Хмялеўская, мяшчанка Асвяцінская, жонка унцер-афіцэра Бельскай інваліднай каманды з двума дачкамі, ксяндзы Табенскі і Сідаровіч. У наступных спевах у касцёле 12 жніўня былі заўважаны: вясковы засядацель губернскі сакратар Грэгатоўскі, пісар беластоцкага акруговага ўпраўлення губернскі сакратар Снарскі, настаўнік музыкі ў беластоцкім шляхетнім інстытуце Маеўскі, адстаўныя вайскоўцы Хржаноўскі, Паплаўскі, Вайткоўскі, Плюта. Спявалі ў касцёле таксама 20 — 23 і 25 жніўня[18].

З беластоцкага касцёла або ў яго часта ажыццяўляліся працэсіі са спяваннем гімна з суседніх касцёлаў — Заблудава, Добржынёва, Васількава, Супрасля, Тыкоціна. Беластоцкаму гараднічаму Шчыроўскаму падкінулі на лесвіцу яго кватэры ліст, у якім прапаноўвалі не палохаць людзей «строгімі мерамі» і «памятаць, што калі ў гэты час у каго-небудзь упадзе волас з галавы праз вас, дык вы сваю галаву пакладзеце»[19].

Вечарам 5 жніўня ў вярсце за Гродна адбылася маніфестацыя, на якую сабралося звыш 1000 чал. Чакалі вывозімага з горада паручыка Вольскага, які, будучы афіцэрам Пскоўскага пяхотнага палка, прыняў удзел у працэсіі з Беластока ў м. Наваднiцы і ў спяванні патрыятычных песень. Яго сустрэлі воклічамі: «Ура!», «Яшчэ Польшча не памёрла!», далі грошаў і пад аховай жандараў Вольскага павезлі ў Тамбоў. Натоўп пайшоў на могілкі і спяваў там забароненыя песні. На наступны дзень паўтарылі спевы на могілках[20].

[18] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1241, арк. 94—96, 120 адв., 236, 237.

[19] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1241, арк.156.

[20] Революционный подъём в Литве и Белоруссии… С. 443.

6 жніўня кобрынскі земскі спраўнік даносіў гродзенскаму губернатару, што ў каталіцкіх касцёлах Кобрынскага ўезда адбываліся паніхіды па забітым у Варшаве, але грошы не збіраліся[21].

10 жніўня 1861 г. у гродзенскім фарным касцёле былі заўважаны ў спевах польскага гімна «Boże coś Polskę…» чыноўнікі Віктар-Леў Севярынавіч Лебель, Хаецкі і двое Трускулеўскія. Лебель быў служачым гродзенскага губернскага праўлення, падчас спеваў пагражаў прыватнаму прыставу пальцам, а на прапанову гродзенскага паліцмайстра падпалкоўніка Змеева адправіцца з ім да губернатара, заявіў, што зробіць гэтае тады, калі самому патрэбна будзе. У гэты час людзі, якія выйшлі з касцёла, крычалі, што яны ўсе спявалі і разам пойдуць да губернатара. Толькі з другога раза ўдалося губернатару пагаварыць з Лебелем. Той адказваў «дерзко и невежливо и объявил, что он не только не грозил пальцем, но даже и не пел». Яго звольнілі з дзяржаўнай службы, арыштавалі і пасадзілі на гродзенскую гаўптвахту. Раніцай наступнага дня на сценах з’явіліся 2 запіскі: у адной гаварылася пра тыранства з боку ўрада, які смокча польскую кроў і ад якога трэба вызваліцца; у другой — пра тое, што жанчыны павінны падтрымоўваць энергію сваіх мужоў, не траціць дух, а старацца вызваліць арыштаванага. Удзельнікі дэманстрацыі колькасцю да 300 чал. зрабілі спробу вызваліць Лебеля, але 2 роты гродзенскага гарнізоннага батальёна сарвалі яе. Прыйшлося Лебелю пасядзець да 12 верасня.

Хаецкі служыў у губернскім будаўнічым камітэце. Адзін з Трускуляўскіх служыў у земскім судзе, другі — ва ўезнага прадвадзіцеля дваранства. Сярод спевакоў у фарным касцёле заўважаны былі чыноўнікі грамадзянскай палаты Камінскі і Белакоз, з магістрата — Календа, з губернскага праўлення — Трабша[22].

11 жніўня 1861 г. брэсцкі гараднічы даносіў губернатару, што мясцовыя і з ўезду памешчыкі і дваране «начали в отношении одежды подражать жителям Царства Польского — одеваются в польские чамарки, носят под оными большие камзолы с рукавами в роде бывших польских жупанов и по верху стягиваются широкими поясами из лакированной кожи, а женщины носят особые шляпки называемые

[21] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1242, арк. 18.

[22] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 4, арк. 1162, арк. 7—8 адв., 18, 20, 21;. Гостев А. П., Швед В.В. Кронан. Летопись города на Немане (1116—1990). Гродна, 1993. С. 179, 265, 268; Лисицын В.М. За тюремной стеной: История Гродненской тюрьмы (XX век — 1939 г.) / В.М. Лисицын; науч. ред. Д.В. Карев. Гродно, 2003. С.143; Революционный подъём в Литве и Белоруссии… С. 445.

в Царстве Польском гарибальдинками, ссылаясь, что это по журналу, разрешённому цензурою»[23].

12 жніўня ва ўрочышчы Ласосна пад Гродна сабралося шмат людзей для таго, каб адзначыць Дзень памяці аб'яднання Літвы і Польшчы. С.Славуцінскі ўспамінаў, што дэманстранты з жонкамі і дзецьмі хадзілі да губернатарскага дому, дзе «моцна шумелі і буянілі. Пачаўшы з патрыятычнага гімна, хутка перайшлі да лаянкі супраць губернатара і супраць усякай расійскай улады»[24]. Тое ж адбылося ў гэты дзень у касцёле Брэст-Літоўска, дзе спявалі забаронены гімн вернікі з горада і ўезда. 12 жніўня святкавалі (каля 71 чал.) у Беластоку, жанчыны з'явіліся ў касцёл у святочных, каляровых сукенках, зала была ўпрыгожана харугвамі, на алтары запалены ўсе свечкі, спявалі некалькі разоў гімн.

Шматлюднае свята адбылося 12 жніўня ў Друскеніках. Касцёл быў упрыгожаны кветкамі і дрэвамі, жанчыны апранулі каляровыя бальныя сукенкі, мелі ў галаўных уборах міртавыя галінкі, а мужчыны паклалі іх у пятліцы фракаў. Віленскі дэкан ксёндз Венцэслаў Гундзіўс сказаў супрацьурадавае казанне («пра фальшывых прарокаў і вялікае жніво, а працаўнікоў мала»). Папалудні ў зале рэсурса быў дадзены канцэрт віланчаліста Самуіла Касоўскага, пасля розныя забавы, пачастунак для дам і мужчын асобна, прысутныя спявалі гімн і крычалі «Няхай жыве Польшча!». Дамы з вышэйшага свету гулялі з сялянамі пад ручку і завяралі іх, што Польшча ўваскрэсла, а разам з ёю ўваскрэсла «вольнасць, роўнасць, поўны дастатак»[25].

13 жніўня віце-губернатар Ражноў пісаў гродзенскаму губернатару Шпееру: «Спевы названага гімна зрабіліся ўжо амаль агульнымі, ёсць ужо і ноты для іх, іх спяваюць і ў касцёлах, і ў дамах рознага саслоўя людзей, і нават пры палявых працах. Гэта ўзята простымі людзьмі, канешне, ў касцёлах і перайшло ўжо ў іх амаль што ў звычку»[26]. Чалец Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі Ц.М. Цеханоўскі спяваў гімны ў дамініканскім касцёле 14 жніўня 1861 (гэта быў ужо другі раз)[27].

[23] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1173, арк. 1—3 адв.

[24] Славутинский С. Город Гродна и Гродненская губерния во время последнего польского мятежа (отрывок из воспоминаний) // Исторический вестник. Т. XXXVII. 1889. С. 66.

[25] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1241, арк. 168, 187, 247 адв.-249 адв., 311—312 адв., 324—324 адв.; Славутинский С. Город Гродна и Гродненская губерния во время последнего польского мятежа… С. 66.

[26] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1241, арк. 244.

[27] НГАБ у Гродне. Ф. 3, воп. 3, спр. 1, арк. 256.

За спяванне польскіх патрыятычных песень выслалі з Беластока памешчыцу Вікторыю Касінскую з дачкой Соф'яй. Месцам жыхарства вызначылі радавы маёнтак Грыгароўцы Бельскага ўезда, але яна прасіла выдаць ёй пашпарт на выезд у Жытомір Валынскай губ., дзе жыла дачка Стэфанія, у якой хутка адбудзецца шлюб. 19 жніўня 1861 г. пашпарт на праезд быў уручаны, а 25 жніўня Касінская пакінула Беласток. Але ў Жытоміры яна прыняла ўдзел у дэманстрацыях і па загаду Валынскага губернатара павінна была быць выселена з двума дочкамі ў Грыгароўцы пад нагляд паліцыі. Яшчэ ў студзені 1862 г. Касінская па стану здароўя знаходзілася ў Жытоміры[28].

12 жніўня 1861 г. пасля службы ў гродзенскім фарным касцёле веруючыя пайшлі ў бернардзінскі касцёл, дзе павінна было адбыцца храмавае свята. Некалькі чалавек прынеслі з сабой 4 дрэўка для харугваў, на якія потым былі надзеты сцягі: 3 белыя з чорнай каймой з лентаў, чорнай какарды і з выявай ў сярэдзіне чорнага крыжа; адзін быў трохпалосы — чырвоны, блакітны і белы з выявай Маці Божай і Збаўцы. Вечарам сцягі былі асвечаны. Пасля заканчэння службы, калі пачалося памінанне імператарскай сям'і, веруючыя пакінулі касцёл[29].

21 жніўня міністр унутраных спраў паведаміў гродзенскаму губернатару Шпееру пра стварэнне часовых паліцэйскіх судоў «по случаю возникших в последнее время в некоторых Западных губерниях в разных видах политических манифестаций». Гэтым судам прапанавана «вменить в обязанность не затрудняться излишними формальностями по сему предмету, так как доказательства одежды служат достаточным фактом обвинения».

25 жніўня 1861 г. ксёндз дэкан гродзенскага Фарнага касцёла Ю.Маеўскі абвясціў з амбона аб працэсіі ў Ружаны Сток, якая адбудзецца заўтра ў тры гадзіны. Да гэтага запрашаў і Ц. Цеханоўскі, будучы рэвалюцыйны начальнік Гродна[30]. Генерал-губернатар Назімаў тэлеграфаваў губернатару Шпееру пра меры, якія трэба прыняць, каб не дапусціць працэсіі: зачыніць касцёл, паставіць каравулы каля ўвахода, на плошчу вывесці батальён пяхоты і казакаў, развесці мост і паставіць каля яго гарнізонны батальён, дзёрзкіх арыштоўваць. Усё было зроблена, акрамя таго, што касцёл не змаглі зачыніць, бо там было шмат народу. З 16 да 17,5 гадзін адбывалася вячэрня, пасля якой выйшла

[28] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1168, арк. 1, 3, 7, 9, 12.

[29] Революционный подъём в Литве и Белоруссии… С. 454.

[30] НГАБ у Гродне. Ф. 3, воп. 3, спр. 4, арк. 29.

працэсія на чале з дэканам і 4 святарамі і рушыла да Нёмана. Тут іх сустрэлі вайскоўцы, дывізіённы начальнік і губернатар. Апошнія пераканалі ўдзельнікаў вярнуцца, бо падобныя працэсіі забаронены. Усе вярнуліся на плошчу, дзе былі акружаны войскам. Там губернатар зноў упрошваў людзей разысціся, апошнія ўсталі на калені, праспявалі літанію, незабаронены гімн Багародзіцы. Дэкан сказаў, што працэсію ўлады не дазволілі, і ўсе пайшлі ў касцёл, дзе зноў праспявалі літанію і забаронены гімн, пасля чаго спакойна разышліся па дамам.

Гродзенская працэсія павінна была сустрэцца з падобнай з Каралеўства Польскага. Сакольскі земскі спраўнік дакладваў Шпееру, што ў Ружаны Сток 26 жніўня прыбылі з Аўгустоўскага ўезда той жа губерні, з прыхода Тэалін, каля 150 чал. на чале з ксяндзамі Дзяконскім і Будоўскім, 27 жніўня ў 7 гадзін раніцы падышлі каля 100 чал. на чале з вікарным святаром Яўміцам з Карыцына Сакольскага ўезда. За імі прыйшлі каля 400 чал. з Аўгустава, Штабіна і прыходаў па дарозе пры ксяндзах Мышкоўскім і Залескім. Спраўнік пісаў, што свята Успення Прысвятой Багародзіцы адбываецца штогод. Людзі паводзілі сябе спакойна, маліліся, праўда, адспявалі патрыятычныя гімны, а каля сямі гадзін вечара ўсе разышліся па сваім мясцовасцям[31].

27 жніўня гродзенскі паліцмайстар У. Змееў абвясціў аб забароне спеваў польскіх патрыятычных гімнаў і маніфестацый і аб арганізацыі на заставах вайсковых караулаў. 3 верасня Гродзенская губерня была абвешчана на ваенным становішчы. Але нягледзячы на гэта, у Гродне распаўсюджваюцца ўлёткі: 30 кастрычніка знойдзена пракламацыя «Российским воинам», у якой тлумачылася, што без вольнасці Польшчы не будзе свабоднай Расія.

22.08.(3.09).1861 г. віленскі вайсковы і генерал-губернатар Гродзенскі і Ковенскі пісаў гродзенскаму губернатару: «Усматривая из поступающих ко мне донесений, что дворяне и помещики, кроме траурного одеяния начали носить с некоторого времени костюмы отличительные, как то: конфедератки, гарибальдийские шляпы, польские чемарки, жупаны, серые крестьянские кафтаны, с поясами из лакированной кожи и другими металлическими приборами, по видимому условными, я счёл нужным покорнейше просить Ваше Превосходительство сделать распоряжение о поступлении с такими лицами на основании Указа Правительствующего Сената от 9 сего Августа, т.е. объявить всем ныне же о воспрещении подобных костюмов и после

[31] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1174, арк. 4, 9, 13, 13 адв., 23.

того немедленно передавать ослушников расправе Полицейских судов, в тех самых одеждах, в которых они будут задержаны»[32].

21 верасня 1861 г. Браніслаў Якаўлевіч Сеўрук падаў данос на паверанага падрадчыка на будоўлі чыгункі эмігранта Куроўскага. Ён пісаў, што на чыгунцы працуе шмат людзей без пашпартоў, магчыма збегшых ад пераследу з Варшавы, якія маюць апеку з боку кіраўніцтва, вольна ездзяць у Варшаву і адтуль прывозяць, а потым распаўсюджваюць друкаваныя і пісаныя ад рукі рэвалюцыйныя песні паміж рабочымі. Сеўрук пісаў, што Куроўскі казаў яму ўзяць падначаленых працаўнікоў і напасці на горад Беласток. Калі асэсар Гродзенскага губернскага праўлення Савашынскі даследаваў гэтую справу, дык ад усіх дапытваемых чуў, што Сеўрук пьяніца і, што ўсё сказанае ім няпраўда. На погляд Савашынскага паказанні Сеўрука «не заслугоўваюць ніякай верагоднасці і ўвагі»[33]. На наш погляд, частка сказанага даносчыкам была праўдаю — сярод чыгуначнікаў шмат было эмігрантаў, і яны былі актыўнымі ў грамадска-палітычных мерапрыемствах напярэдадні паўстання.

29 верасня 1861 г. спявалі недазволены гімн у слонімскім касцёле. Мясцовы гараднічы не змог знайсці ўдзельнікаў спеваў, бо, па яго словах, гэта маглі быць «прыбыўшыя з уезда і не ведаўшыя яшчэ ўсіх распараджэнняў урада і начальства»[34].

1 кастрычніка 1861 г. віленскі ваенны губернатар і генерал-губернатар Гродзенскі і Ковенскі паслаў начальніку Гродзенскай губерні цікавае распараджэнне — пазбавіць усіх жанчын, прымаючых удзел у палітычным руху «спяваннем абуральнага гімна, а таксама нашэннем жалобнай і іншай умоўнай вопраткі, працэсіямі і іншымі маніфестацыямі» правоў на ўтрыманне ад урада (пенсіі за службу мужоў, дапамога ад імператара ці камітэта параненых, прыватных дабрачынных установ), ад навучальных установ, за прыватную іх службу, пазбавіць іх бясплатнага жыхарства ў казённых і гарадскіх будынках. Спіс па Беластоку, які захаваўся ў архіве, пералічвае 99 жанчын, з якіх названымі правамі карысталіся 8 чалавек[35].

У пачатку кастрычніка 1861 г. збег у Парыж прымаўшы ўдзел у дэманстрацыях сын памешчыка Кобрынскага ўезда Адам Вікенцевіч

[32] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1166, арк. 7—7 адв.

[33] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1134, арк. 7—12.

[34] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1111, арк. 70—70 адв.

[35] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1110, арк. 1, 1 адв., 8—11.

Радавіцкі, пакінуўшы жонку і дзяцей. Вярнуўся дадому ў маі 1862 г. і даў падпіску больш нікуды не адлучацца[36].

14 кастрычніка 1861 г. Лебель, Хаецкі і двое Трускуляўскіх, пра якіх мы гаварылі раней, паўтарылі свае спевы польскага гімна ў фарным касцёле. Хаецкі быў звольнены са службы[37]. У гэты ж дзень Ц. Цеханоўскі ўдзельнічаў у «провадах» былога гродзенскага губернатара Шпеера ў садзе каля карчмы Урбанаўка на Віленскай дарозе. Натоўп у колькасці каля 150 чал. хацеў выказаць Шпееру свае дрэнныя да яго адносіны за адмоўныя дзеянні падчас кіравання губерняй, а таксама патрабаваць адстаўкі ад пасады гродзенскага паліцмайстра Змеева. Былі падрыхтаваны «інструменты для вырабу кашачай музыкі». Начальнік 3-й дывізіі генерал-лейтэнант Гальтгоер спрабаваў угаварыць народ і атрымаў слова, што ўсё будзе спакойна. Але, калі паказаўся экіпаж губернатара, вольнанаёмны пісар прыватнага прыстава Петрашкевіч і акцёр Бурбекль кінуліся на яго, пачалі крычаць, кідалі пясок і камяні. Дарэмна, бо ў гэтым экіпажы ехаў паліцэйскі служачы, а Шпеер праехаў іншай дарогай. Быў заўважаны ў маніфестацыі і былы чыноўнік канцылярыі гродзенскага губернскага праўлення (звольнены за ўдзел у гродзенскай дэманстрацыі 10.08) Іван Канстанцінавіч Дзітрых. Петрашкевіч і Бурбекель патрапілі ў гродзенскую турму[38].

У кастрычніку 1861 г. у Гродзенскай губернскай гімназіі адбыліся «беспарадкі»: гімназісты выступілі супраць рашэння свайго начальства — не дазваляць ім хадзіць у іншыя касцёлы, акрамя свайго гімназічнага. У інспектара гімназіі Макса выбілі шкло ў вокнах, ён падаў у адстаўку. 21 кастрычніка ў Фарным касцёле гімназісты спявалі забаронены гімн. На наступны дзень дырэктар вучылішч угаворваў іх, гімназісты паабяцалі ўстрымацца, калі з іх сябрам, пра якога дырэктар данёс папячыцелю, нічога не здарыцца. 21 кастрычніка гімназісты 5 класа сустрэлі часова прызначанага на пасаду інспектара гімназіі старшага выкладчыка Рахманіна воклікамі «Прэч, прэч з класа, мы хочам інспектарам гімназіі Гінтаўта». А вучні 6 класа сказалі Рахманіну, што пойдуць на ўрок, калі ім захочацца, а настаўніку гісторыі аб'явілі, што не падрыхтаваліся. Дырэктар з усяго гэтага захварэў і злёг у ложак. 21—22 кастрычніка 1861 Савет гімназіі пастанавіў выключыць найбольш вінаватых гімназістаў 6 класа Ражбіцкага і Людаміра дэ

---

[36] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1163, арк. 5, 12.

[37] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1162, арк. 27.

[38] НГАБ у Гродне. Ф. 3, воп. 3, спр. 1, арк. 256 адв.; Ф. 1, воп. 22, спр. 1177, арк. 15 адв.; Революционный подъём в Литве и Белоруссии… С. 456—457.

Ромера і перадаць іх грамадзянскай уладзе. Першы быў сасланы ў Пружаны да бацькі, а другі ў бацькоўскі маёнтак Астравок Сакольскага ўезда. Усім гімназістам забаранілі хадзіць па гарадскім касцёлам, а ў свой дазволілі толькі пад наглядам наглядальнікаў і загадалі быць на кватэрах пасля шасці гадзін вечара, дзе іх будуць кантраляваць выкладчыкі[39].

22 кастрычніка 1861 г. у касцёле мястэчка Азёры Гродзенскага ўезда пры пачатку свята Ружанцовага служачыя чыгункі спявалі гімн. Па словах земскага спраўніка яны былі праездам і пасля службы выйшлі з касцёла і адправіліся далей у Віленскую губ.[40].

27 кастрычніка 1861 г. у бельскім каталіцкім касцёле па заканчэнні літургіі памешчыца Бельскага ўезда Тэрэзія Дашкевіч і прыйшоўшыя з ёю дама, дзве дзяўчыны, чацвёра мужчын спявалі забаронены гімн. У гэты дзень у Дашкевіч быў дзень народзін, і яна запрасіла ў свой Арлянскі двор гасцей, сярод якіх аказаліся пляменнік Конрад Дашкевіч, Крынскі акруговы начальнік ў Гродзенскім уездзе, Міхаіл Жукоўскі, пружанскі павятовы начальнік, Напалеон Алдакоўскі, беластоцкі павятовы начальнік у гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі. Тэрэзія Дашкевіч загадам гродзенскага губернатара ад 29.11.1861 г. была пакараная экзекуцыйным пастоем — у яе двары ў м. Орля размеркавалі на пастой 40 казакаў «на полном узаконенном продовольствии и фураже на исключительный счёт Госпожи Дашкевич…». Пастой быў спынены 8 снежня 1861 г. Часовы паліцэйскі суд пры Гродзенскім уезным судзе прысудзіў яе да штрафа ў 150 руб. срэбрам, дзяўчын Міхалоўскую і Гейбовіч — па 10 руб. кожную, сыноў Міхалоўскага і жыхара Каралеўства Польскага Здзітавецкага — па 20 руб. і арышту на тры дні[41].

20 лістапада ў касцёле Брэст-Літоўска адбыўся шлюб міравога пасярэдніка, памешчыка, адстаўнога штаб-ротмістра Гераклія Дамброўскага, які апрануў польскі кунтуш з лакіраваным пасам і металічнымі знакамі (упрыгожваннямі). Ён зрабіў гэта спецыяльна, бо напярэдадні ў праваслаўнай царкве падчас шлюбу быў апрануты ў гусарскі мундзір. 11 снежня 1861 г. Часовы паліцэйскі суд прыгаварыў Дамброўскага «замеченного публично в одежде отличительного покроя от общеупотребляемого людьми его звания и состояния…» да трохдзённага арышта і штрафа ў 15 руб. Генерал-губернатар Назімаў

[39] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1135, арк. 3, 4 адв., 8—9 адв., 11—11 адв.

[40] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1111, арк. 40—40 адв.

[41] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1165, арк. 5 адв., 14, 25 адв., 33 адв.

патрабаваў ад гродзенскага губернатара звольніць Дамброўскага з пасады міравога пасярэдніка, але потым пагадзіўся пакінуць яго на пасадзе. Апеляцыйны паліцэйскі суд наогул прызнаў Дамброўскага не вінаватым і зняў з яго пакаранні[42].

25 снежня 1861 г. часоваабавязаныя сяляне маёнтка Турасль-Дольная Беластоцкага ўезда графіні Патоцкай Янка Гула і Казімір Аніська знайшлі ў вёсцы «Гутарку двух суседаў» (на бел. мове) і лісток з рэлігійнай патрыятычнай песняй «Boże coś Polske…». Некалькі дзён таму пастух Іван Шчыгель знайшоў кніжку «Zbior pieśni za Ojczyzne»[43].

6 студзеня 1862 г. у гродзенскім францішканскім касцёле ў спяванні польскіх патрыятычных песень заўважаны Ігнацій Пранцкевіч і Адамовічавы. У першага падчас вобыску знайшлі верш на польскай мове пад назваю «З дымам пажараў». Пранцкевіч быў арыштаваны і пасаджаны ў гродзенскі турэмны замак[44].

18 сакавіка 1862 г. цырульнік з 3-й пяхотнай дывізіі, якая размяркоўвалася ў Гродне, Кірыл Емельянаў пасля прыхода з фарнага касцёла знайшоў у бакавым кішэні шынэлі пракламацыю «Что надо делать войску?». У казарме ён аддаў яе старэйшаму фельдфебелю, а той перадаў ваеннаму начальніку палкоўніку А.А. Чартову. Падобны заклік шырока распаўсюджваўся па Гродзенскай губ. — у палках, якія знаходзіліся ў Беластоку, Бельску, Сакольскім і Слонімскім уездах[45]. У названай пракламацыі, напісанай у Лондане летам 1861 г. М. Агаровым пры ўдзеле М.Обручава гаварылася, што войска не павінна ісці супраць народа: «Выратаваць Расію ад крывавай напасці, не перашкаджаць народу спакойна атрымаць зямлю і волю, гэта значыць цвёрда і мірна стаяць, нічога не рабіць і не ісці супраць народу»[46]. З чэрвеня распаўсюджваецца беларускамоўная газета «Мужыцкая праўда».

3.05.1862 г. беластоцкія гімназісты падчас класных заняткаў пайшлі ў касцёл слухаць замоўленую імі імшу, некаторыя трымалі харугвы. Савет гімназіі выключыў асабліва актыўных з гімназіі і прапанаваў ім выехаць з Беластоку да бацькоў і сваякоў. Вось гэтая шасцёрка патрыётаў з 6 класа: Канстанцін Магільніцкі, Цезары-Вікенці Война, Леапольд Дамброўскі, Карл Рыхтар, Дамінік Паплаўскі, Каспер Слуцкі. Калі іх

[42] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1166, арк. 4—5 адв., 11, 12, 21, 57, 59 адв..

[43] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1140, арк. 1, 1 адв., 5, 12, 25 адв.

[44] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1171, арк. 19.

[45] Революционный подъём в Литве и Белоруссии… С. 467—468.

[46] Русско-польские революционные связи. Материалы и документы. Т.I. С. 366.

сабралі ў канцылярыі гімназіі 23.04 (5.05), дык вялікая колькасць гараджан і больш за 60 гімназістаў сабраліся на вуліцы, насупраць канцылярыі. Прыйшлося ўмешвацца дырэкцыі гімназіі, паліцыі, 3 пешым казакам, якія білі сабраўшыхся нагайкамі. Адзін з гімназістаў (магчыма 5 класа Баляслаў Ягалкоўскі) ўдарыў казака Клімёнава па твару. У выніку шасцёрка гімназістаў усё ж выехала з Беластоку[47].

Але падзеі ў Беластоку працягваліся. 10 мая гімназісты, якія кватаравалі па вул. Старыя Баяры ў двараніна Верпухоўскага, замежніка Райнера, мешчаніна Бронарда, удавы Дамброўскай, адстаўнога салдата Кажанецкага і селяніна Глінскага спявалі «непозволительные песни». А таксама «производятся в квартирах разные бесчинства, заключающиеся в непозволенных выражениях противу Государства и до того увеличивающимися, что делаются не выносимы…». Разам з гімназістамі прымалі ўдзел Бронард, Кажанецкі і Глінскі[48].

Працягвалася агітацыйная праца сярод расійскіх вайскоўцаў. 28 красавіка 1862 г. акруговы генерал 9-й акругі Асобнага корпуса ўнутранай аховы генерал–лейтэнант Пушчын данёс губернатару, што начальнік беластоцкай інваліднай каманды маёр Смульскі атрымаў пракламацыю пад назвай «Что надо делать войску»**.** Такую ж атрымаў у Бельску ўнцер-афіцэр палка, прыдадзенага ваеннаму начальніку Бельска і ваколіц. Адзначым, што ў горадзе знаходзілася збройная майстэрня — немалаважны факт для будучага паўстання. Пракламацыю падкідваюць 2 жніўня пад каравульны дом 5-й батарэйнай батарэі 3-й артылерыйскай брыгады ў Слоніме, а таксама каля Карыцінскага касцёла Сакольскага ўезда, дзе размешчаны 2-гі стралковы батальён 4-й роты[49].

15 мая 1862 г. брэсцкі земскі спраўнік дакладаў губернатару пра знаходку на Беластоцкай паштовай дарозе кніжкі «Гутарка старога дзеда». Нейкую «Гутарку» знайшоў 6 мая па дарозе з Беластока ў Васількава радавы 2-й стралковай роты Максім Калпераў. «Гутарку двух суседаў. № 2» 26 чэрвеня перадаў свайму камандзіру шараговы 2-й лінейнай роты П. Дубовік, які атрымаў яе ад гаспадара хаты, у якой кватэраваў у в. Лазова Сакольскага ўезда. Селянін Галавін падабраў яе каля хаты[50].

---

[47] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1135, арк. 46—47 адв., 70, 95—98.

[48] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1135, арк. 67—67 адв., 76.

[49] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1121, арк. 138—139, 169, 265.

[50] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1121, арк. 146—147, 164.

6 чэрвеня 1862 г. шараговы 1-й стралковай роты ваеннага начальніка Гродна з уездам Фёдар Дудзін знайшоў на дарозе з Беластока на паштовую станцыю Букштэн праkламацыю «Русским войскам в Польше«. 6 ліпеня падобная праkламацыя знойдзена салдатам Захаравым у Гродне, на вул. Падольнай, каля дома Мірановіча. 20 ліпеня такую ж знаходзіць у Брэсце каля дома Ягміна шараговы стралец К. Хішчынскі[51]. У дадзенай праkламацыі рускія войскі ў Польшчы заклікалі: «… прысягніце ў імя ўсяго святога вам: не падымаць зброю супраць Польшчы! Гэтую прысягу патрабуе ні цар, а сумленне народнае, народнае раскаянне…»[52].

24 чэрвеня 1862 г. на вуліцы Гродна мытны даглядчык знайшоў лісток пад назваю «Русская правда»[53]. Невядома, які гэта быў нумар праkламацыі. У першым (выйшаў 27.03) успамінаўся расстрэл дэманстрацыі ў Варшаве ў 1861 г. («святыя ахвяры, аплаканыя ўсімі чэснымі людзьмі») і гаварылася: «Браты палякі! Калісьці вы пісалі на сваіх сцягах: «за нашу і вашу вольнасць». Тады нешматлікія яшчэ разумелі ваш велікадушны выклік, але цяпер пазнанне свабоды завалодала сэрцамі ўсіх чэсных людзей, цяпер на ваш заклік з'явяцца тысячы. Браты! Забудзем і даруем адзін адному ўсё былое. Наперадзе ж нас няма хмараў, якія маглі б засмуціць наш святы саюз: вольны голас вырашыць усё, а дзе вольнасць, там і праўда!»[54]. У другім нумары (апублікаваны 27.04) пісалася, што расійскі ўрад «не бачыць, што рускі народ зразумеў не толькі бясслаўе, але і бескарыснасць прыгнячэння роднаснай нам Польшчы… пакуль мы будзем прыгнятаць іншых — не бачыць нам ні дабрабыту, ні спакою»[55].

12 жніўня 1862 г. у Друскеніках адбылася маніфестацыя з нагоды юбілею аб'яднання Літвы з Польшчай (Люблінскай уніі, 31 ліпеня па ст.ст.). Арганізатарамі былі адстаўны тытулярны дарадца Махнаўр, адстаўны прапаршчык Станішэўскі і некалькі «невядомых і нязначных людзей». Удзельнікаў сабралося да 100 чал. памешчыкаў, сялян, габрэяў. Усе былі па святочнаму апранутыя ў каляровую вопратку: мужчыны — у чамаркі і светлыя жупаны, жанчыны — у белыя сукенкі з малінавымі і блакітнымі стужкамі. У касцёле ў 11 гадзін пачалося

[51] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1121, арк. 154—154 адв., 166, 170.

[52] Русско-польские революционные связи. Материалы и документы. Т.I. С. 388.

[53] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1121, арк. 158.

[54] Русско-польские революционные связи. Материалы и документы. Т.I. С. 136.

[55] Русско-польские революционные связи. Материалы и документы. Т.I. С. 140.

набажэнства з аркестрам музыкантаў. У 16 гадзін для «простага народу» быў наладжаны абед у публічным садзе, дзе выступіў Махнаўр, які чытаў Варшаўскую газету і даваў свае тлумачэнні. Пасля абеду адбылася латарэя для сялян, кожны з якіх атрымаў нейкую рэч на памяць. У будынку вакзала вечарам адбыўся музычны вечар, куды дапусцілі і народ. Затым сялян і габрэяў пачаставалі гарбатай з цукеркамі. А 21 гадзіне на Нёмане адбыўся феерверк і дэманстрацыя транспаранта з выявай працягнутых над ракой дзвух рук, адна з якіх была драпіраваная польскім кунтушам, а другая — літоўскай сярмягаю. Каб ліквідаваць пагрозу парадку, з Гродна ў Друскенікі камандзіравалі роту пяхоты, якую размеркавалі экзекуцыйным парадкам па дамах жыхароў, а Махнаўра выслалі ў Петразаводск[56].

12 жніўня 1862 г. у беластоцкім касцёле сабралася вельмі многа народу, значная колькасць жанчын вышэйшага класа, апранутых у рознакаляровыя сукенкі. Сялянам было абʼяўлена аб вольным ад паншчыне дні. У Ваўкавыску шмат народу не было, але «па-польску спяваная імша» адбывалася. Ва ўсіх касцёлах Беласточчыны 12 жніўня адбыліся імшы, на якія прыйшлі памешчыкі і дваране. Памятныя літургіі адбыліся ў беластоцкім прыходскім касцёле (ксяндзы Сідаровіч і Шарскі) і ў гродзенскім Фарным касцёле, усюды жанчыны пераапрануліся з жалобы ў каляровыя сукенкі[57].

2 верасня 1862 г. пад следства ў Гродне трапіла дваранка графіня 17 гадоў Леакадзія дэ Ромер за «спяванне вершаў абуральнага зместу».

15 кастрычніка 1862 г. у беластоцкім прыходскім касцёле адбылася жалобная імша ў памяць Андрэя Тадэвуша Касцюшкі. Быў пастаўлены катафалк з мноствам свечак, харугвы за спакой. Усе былі апранутыя ў жалобную вопратку. Каб схаваць сапраўдную мэту, распаўсюдзілі чуткі пра імшу па памерлых бацьках беластоцкіх манашак — сясцёр міласэрдзя[58].

25 лістапада 1862 г. начальнік корпуса жандараў А.Е. Цімашоў даносіў генерал-губернатару Назімаву: «Некоторые из служащих Гродно и Вильно чиновников, между коими имеют состоящего в гродненском приказе общественного призрения губернского секретаря

[56] Соркіна І. Гістарычная палітыка ў Гродне ў другой палове XIX — пачатку XX ст. паводле матэрыялаў архіўных фондаў мясцовай адміністрацыі // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XV —XX стст. Мн., 2012. С. 303—304.

[57] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1121, арк. 201, 212, 214, 215.

[58] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1121, арк. 231; Революционный подъём в Литве и Белоруссии… С. 475.

А. Блажеевского, распуская слухи о том, что в январе или феврале месяце в Царстве Польском одновременно с западными губерниями вспыхнет революция, распространяют в народе воззвания и какое-то послание от имени католического духовенства в Варшаве… Жертвуют даже из жалованья 2% на покупку оружия»[59]. У гэты ж дзень у Гродзенскай гімназіі «по окончании класса были беспорядки»[60].

22 ліпеня 1863 г. у «Гродненских губернских ведомостях» было апублікавана распараджэнне гродзенскага губернатара «о строжайшем запрещении женщинам носить траур, а мужчинам польские национальные костюмы или же другие революционные знаки»[61]. Відаць, гэтае ўзгадаў 24 красавіка 1864 г. Уладзіслаў Жалкоўскі, апошні рэвалюцыйны начальнік Гродна. На допыце ў следчай камісіі ён паказаў, што, калі ў канцы ліпеня ці пачатку жніўня польскія дамы па загаду расійскай улады апранулі каляровую вопратку, дык з'явілася распараджэнне начальніка Гродна Цеханоўскага, якое ён знайшоў на плошчы насупраць сабора ў выглядзе пракламацыі. Там было напісана наступнае: «каб дамы апранулі адразу ж траўр пад строгую адказнасць, і што гэта вельмі сорамна і непрыстойна для іх, як для патрыётак, апранаць у такі час, калі кроў братоў льецца, стракатую вопратку»[62].

Вядомы верш доктара Ц. Цеханоўскага пад назвай «Падзяка Полькам»[63]:

Дзякуй Вам, Полькі, што зразумелі
Не час танчыць з маскалямі
Што калі мае паўстаць з труны народ цэлы,
Вы прыгажэйшыя з малітвай і слязамі…

Бо вусны вашыя, калі малітву вымаўляюць,
І слёзы, калі з вачэй бягуць па кроплі,
Анёлы ў ружовыя бутоны збіраюць
І носяць у дар Бога Нарадзіўшай

---

[59] Гл.: Гостев А. П., Швед В.В. Кронан. Летопись города на Немане (1116 — 1990). Гродно, 1993. С. 59.

[60] НГАБ у Гродне. Ф. 3, воп. 3, спр. 1, арк. 256 адв.

[61] Гостев А. П., Швед В.В. Кронан… С. 61.

[62] НГАБ у Гродне. Ф. 3, воп. 3, спр. 2, арк. 204.

[63] пераклад В.Шведа; у тэксце Ю.Ядкоўскага, змешчаным у гэтым зборніку, верш прыведзены па-польску

А кожная просьба, кожная слязінка
У гэтай апякунцы ў вялікім кошце,
Бо за іх Каралева нябесная
На год наблізіць Айчыны вызваленне[64]

Ваенны губернатар горада Гродна і гродзенскі грамадзянскі губернатар пісаў ваеннаму начальніку Гродна і Гродзенскага ўезда палкоўніку Чартову: «Неоднократно доходили до меня слухи, будто бы многие из служащих здесь католиков вне службы собираясь друг у друга по вечерам, являются на оныя в своём кругу, в условных, запрещённых административным порядком костюмах, или платье, как то: чемарках, жупанах и пр…». Ён пісаў, што знойдзены габрэі-краўцы, якія шыюць вопратку, сярод заказчыкаў назваў пісьмавадзіцеля гродзенскага ўезнага прадвадзіцеля дваранства калежскага асэсара Сасуліча, двараніна Івана Дзітрыха (які ўжо сядзіць арыштаваны на галоўнай гаўптвахце). Было загадана ваеннаму начальніку скласці камісію і знайсці вінаватых у шыцці забароненай вопраткі. Чамаркі, як аказалася, шылі Вольф Лекін, Шер Пренскі, Нота Шмігельскі, Энох Фалкман, жылеты — Абрам Розенберг, Моўша Гайдамак. Заказы былі зроблены, акрамя вышэй названых, чыноўнікам Аляксандрам Корнам, Уладзіславам і Казімірам — сынамі двараніна Жалкоўскага, дваранінам пісарам Антонам Галконтам. Паколькі не было даказана, што вопратка насілася ў грамадскіх месцах, а габрэі выраблялі яе толькі для свайго «дневного пропитания», дык нікога не наказалі[65].

Нельга не ўзгадаць пра ролю «революционных знаков». Падчас вобыску ў доме памешчыка Фларэнціна Мікульскага (памочніка гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі) знайшлі медальён з вобразам анёла, які трымае крыжык з надпісам па-польску «1861 г. жнівень 12-га».. Падчас вобыску ў доме князя Георгія Чацвярцінскага знайшлі «запонки, сделанные из римской мозаики и знаки на них означают святую эмблему»[66]. Вінская ў пачатку жніўня 1861 г. раздавала сялянам-палякам ў Тыкоціне медалі ў гонар «разрубленага крыжа» і прадавала пярсцёнкі ў гонар «паўшых, па яе выразу, братоў»[67].

---

[64] Jodkowski. Rok 1863 w powiecie Grodzienskim // Echo Grodzienskie. 1923. № 179. S. 3

[65] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1177, арк. 1—2, 9—10 адв..

[66] НГАБ у Гродне. Ф. 3, воп. 3, спр. 3, арк. 364 адв.; спр. 2, арк. 420 адв.

[67] Революционный подъём в Литве и Белоруссии… С. 442.

Гродзенскі віцэ-губернатар Ражноў у рапарце ад 27.07 (8.08) пісаў: «Наогул вонкавы гарадскі быт можна было б назваць нармальным, калі б не сустракаліся б яшчэ шматлікія жанчыны цалкам у жалобнай вопратцы з галавы да носа, часам з белым пяром на гарыбальдыйскім капялюшы і з вялікімі шпількамі ў выглядзе крыжа або з белым арлом…»[68].

Пасля паступіўшага даносу брэсцкі гараднічы 6 жніўня 1861 г. зрабіў вобыск у злотніка Янкеля Зыльберберга і знайшоў у яго зробленых 18 шпілек з польскімі арламі, 60 падрыхтаваных да вырабу арлоў і 60 шпілек, 6 срэбных пярсцёнкаў з надпісам па-польску з вонкавага боку, а таксама формы, з якіх выраблялі арлоў. Злотнік і яго кампаньёны Борух Пантера, Лейзер Хазан, працаўнік Юдка Іцкавіч былі арыштаваны. На следстве гаварылі, што пачалі рабіць ўпрыгожванні 4 дні перад вобыскам і толькі для заробку, бо яны былі ў модзе, што яшчэ нічога не прадалі. Генерал-губернатар дазволіў вызваліць Зыльберберга, вярнуць забранае, зламаўшы арлоў на злом[69].

Яшчэ адзін вобыск у злотнікаў-габрэяў Брэст-Літоўска быў зроблены 11 жніўня. Былі знойдзены срэбныя шпількі з польскім арлом, пярсцёнкі з надпісамі, якія «должны служить политическим знаком для друзей, желающих восстановления Польши чрез возмущение общественного спокойствия»[70]

Па лініі чыгункі ад Варшавы да Вільні распаўсюджваліся ў верасні 1862 г. фотаздымкі Ярашынскага — асобы, якая замахвалася на жыццё Намесніка Каралеўства Польскага. Партрэты памерам візітнай карткі раскупляліся мясцовымі памешчыкамі і чыноўнікамі па 10 руб. (кошт звычайны не болей 50 капеек). У Беластоку, напрыклад, было каля 40 партрэтаў[71]. Гродзенскі паліцмайстар дакладаў губернатару, што ў мясцовага кнігагандляра Загаеўскага выкупіў 11 штук дагератыпаў Людовіка Напалеона Банапарта, якія той набыў у Варшаве ў фатографа Пайнера для продажу ў Гродне[72].

12.11.1863 г. зрабілі раптоўны вобыск у гродзенскай палаце дзяржаўных маёмасцяў і знайшлі наступныя сімвалічныя знакі: пярсцёнак з надпісам «1861. L.27 d» (27 лютага 1861 расстралялі дэманстрацыю

[68] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1241, арк.157—157 адв.

[69] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1173, арк. 1—2., 11, 11 адв., 23.

[70] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1173, арк. 6, 7

[71] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1121, арк. 230.

[72] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1121, арк. 315.



**Гродзенская шляхцянка часоў паўстання ў жалобным адзенні**

ў Варшаве), запінкі з партрэтам італьянскага рэвалюцыянера Гарыбальдзі[73].

Такім чынам, перадпаўстанцкі (маніфестацыйны) рух у 1861 — 1862 гг. на тэрыторыі Гродзенскай губерні быў вельмі актыўным, праходзіў у розных формах: дэманстрацыі, выступленні, спевы ў касцёлах, жалобная вопратка жанчын і канфедэраткі мужчын, рэвалюцыйная сімволіка. Распаўсюджваліся беларускамоўная прапагандысцкая літаратура і лістоўкі рускіх дэмакратаў. Як бачым, зусім не мірна было перад паўстанцкай завірухай.

[73] Кісялёў Г. З думаю пра Беларусь. Мн., 1966. С. 49.

**Васіль Герасімчык, магістр (Гродна)**

# Праваслаўныя паўстанцы з Гродзенскага ўезда ў атрадзе Лянкевіча

З часу Мураўёва-Вешальніка ў Расійскай імперыі закладалася ідэя, што праваслаўнае насельніцтва Беларусі не ўспрыняло мэты паўстання 1863 года, ставілася да яго рэзка негатыўна. Такая думка прасочваецца і ў аўтараў першых прац пасляпаўстанцкай хвалі, якія малявалі паўстанне як справу выключна шляхты ды ксяндзоў, а адказнасць за паразу намагаліся перакласці на пасіўнасць, варожасць тутэйшага, асабліва праваслаўнага, сялянства. У выніку, нават сёння існуе стэрэатып, у аснову якога была пакладзена мэта надаць паўстанню выгляд міжканфесійнага канфлікту, падмяняючы такім чынам канфлікт сацыяльны: Divide et impera («Падзяляй і ўладар»).

Асабліва моцна дадзены стэрэатып культывуецца прадстаўнікамі так званага заходнерусізму, якія сцвярджаюць, што «в среде православного населения белорусских губерний, как показывает анализ источников, цели восстания 1863 года восприняты не были, и отношение основной части верующих к этому событию было явно негативным»[1]. Пры гэтым у якасці «источников» выступаюць не архіўныя матэрыялы, а працы гістарыяграфічнага характару асобаў, зацікаўленых ва ўспрыманні паўстання 1863 года як міжканфесійнага канфлікту і ідэалізацыі мінулага Расійскай імперыі. Аднак, аналізуючы тыя падзеі, ужо расійскі палкоўнік Аляксандр Гейнс, які змагаўся супраць паўстанцаў у бітвах пад Коцкам, пры Калішы і Семяцічах, у асабістым лісце да свайго сябры Канстанціна Кауфмана, аднаго з наступнікаў Міхаіла Мураўёва на чале Паўночна-Заходняга краю Імперыі, запісаў: афіцыйныя данясенні замоўчваюць факты «зацятай абыякавасці да нас сялян ва ўвесь час барацьбы». «Гэта абыякавасць ішла так далёка, што, не ў дакор афіцыйным данясенням, многія рускія сяляне прымалі ўдзел у паўстанні». А ў маі

[1] Линкевич В. Польское восстание 1863 года и его влияние на конфессиональную ситуацию в Белоруссии // http://zapadrus.su/zaprus/tradbl/905-polskoe-vosstanie-1863-goda-i-ego-vliyanie-na-konfessionalnuyu-situatsiyu-v-belorussii.html [Дата доступа: 16.04.14]

1863-га, напярэдадні Мілавідскай бітвы ў Слонімскім уездзе, «сяляне цэлымі станамі прымалі праваслаўную прысягу на вернасць мяцяжу…»[2]. Такая сітуацыя назіралася па ўсёй Гродзенскай губерні, дзе значная частка сялян, у тым ліку праваслаўных, далучылася да паўстанцаў[3], паколькі вясковае насельніцтва было незадаволена дзеяннямі ўрада па ажыццяўленню аграрнай рэформы, распачатай з адмены прыгоннага права 19 лютага (3 сакавіка) 1861 года. Праваслаўныя сяляне з самага пачатку паўстання былі шырока прадстаўлены ў атрадах Беластоцкага, Бельскага і Сакольскага ўездаў[4], удзельнічалі ў захопе горада Сураж (23.01) і бітве пад Семяцічамі (6—7.02).

Удзел праваслаўнага насельніцтва Беларусі ў барацьбе супраць расійскага самадзяржаўя можа зрабіцца адной з важнейшых даследчых праблемаў паўстання 1863—1864 гг. Ва ўмовах кепскіх адносінаў афіцыйнай улады да царквы ў часы СССР і існавалай класавай дзяржаўнай ідэалогіі рэлігійны аспект амаль не цікавіў навукоўцаў, што адлюстравалася ў працы над архіўнымі дакументамі, у якіх гісторыкаў цікавіла перш за ўсё сацыяльнае паходжанне паўстанцаў і іх непасрэдны ўдзел у падзеях паўстання. У той жа час новыя дадзеныя ў гэтым накірунку могуць зрабіцца важным крокам на шляху разумення Паўстання і адным са сродкаў барацьбы з фальсіфікацыямі Айчыннай гісторыі ў гэтым накірунку.

Згодна архіўным матэрыялам, праваслаўныя прымалі ўдзел ужо ў маніфестацыйным руху ў 1861 г. Так, жандарамі ў Гродна пры спяванні патрыятычных гімнаў у Бернардынскім касцёле 12 чэрвеня 1861 г. былі заўважаныя праваслаўныя Кулакоў[5] з казённай палаты

---

[2] Смирнов А.Ф. Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии. М., 1963. С. 244.

[3] Згодна дадзеным, атрыманым Сусаннай Самбук, з усіх сялянаў, што ўдзельнічалі ў паўстанні на тэрыторыі сучаснай Беларусі, больш за 33 % прыходзіліся на Гарадзеншчыну (Гісторыя Беларускай ССР. Мн., 1972. С. 59.)

[4] У атрадзе Старжынскага ваяваў 18-гадовы Казлоўскі Шымон Якубаў з вёскі Жаўткі (Беластоцкі ўезд). Касінерам у атрадзе Святлінскага (Пярун) быў 25-гадовы Талочка Саварыл Аўгусцінаў з вёскі Чэхі, у атрадзе Дзікоўскага два месяцы правёў 17-гадовы Дземянчык Маркель Ільіч з в. Лысы (абодва — Бельскі ўезд). З в. Студнякі Сакольскага ўезда адразу некалькі сялян пайшлі ў атрад Духінскага, у тым ліку 18-гадовы Сінкевіч Васіль Матвееў, які таксама змагаўся пад кіраўніцтвам Улодака і Урублеўскага.

[5] НАРБ у Гродне. Ф.1, воп. 34, спр. 3. Списки жителей гор. Гродно, подозревавшихся в политической неблагонадежности, арк. 38.

і Вышчаловіч[6] з грамадзянскай палаты, а 31 ліпеня ў Фарным касцёле Палькоўскі[7] з губернскай канцылярыі і Фядзюшка[8].

У час паўстання ў Гродзенскім уездзе шырокую падтрымку з боку праваслаўнага сельскага насельніцтва меў атрад Лянкевіча. Паспяховы напад атрада падпалкоўніка Аляксандра Лянкевіча (Ляндэр)[9] на кватэру лясніцтва ў Азёрах стаў для жыхароў мястэчка і ваколічных вёсак сігналам да пачатку барацьбы. 36 добраахвотнікаў пры пяці стрэльбах атрымалі падмацаванне з амаль сотні новых паўстанцаў, сярод якіх было шмат праваслаўных. Адзін з іх — 17-гадовы панскі батрак Кучынскі Міхаіл Аляксееў з в. Талочкі ў сваіх паказаннях пасля амаль пяці месяцаў змагання адзначыў: «Мэтаю майго паступлення ў атрад было толькі тое, што абяцалі даваць грошы і вольнасць»[10].

Паколькі Лянкевіч лічыў, што кожны чалавек мае права змагацца за свабоду, стрэльбы атрымалі нават зусім маладыя хлопцы, як 16-гадовы Адам Кашэтук з в. Гліняны і Міхаіл Аўсейнікаў з в. Галавачы. Аднак ужо 4 мая на Святых Балотах у бітве супраць 2-х рот царскай пяхоты і 30-ці казакаў на чале з падпаручнікам Мантойфелем паўстанцы былі разбітыя. Пасля паражэння ў атрадзе Лянкевіча засталося ўсяго 25 чалавек, да якіх 5 (17) мая далучыліся добраахвотнікі з Ваўкавыска. Да часу бітвы пад Мілавідамі 22 мая (3 чэрвеня) у шэрагах атрада Лянкевіча зноў было шмат праваслаўных сялян, у ліку якіх акрамя жыхароў Гродзенскага былі прадстаўнікі з Ваўкавыскага і Пружанскага ўездаў.

Аб вайсковых здольнасцях паўстанцаў праваслаўны селянін Антон Бартанчук з в. Гушчыцы, які да паўстання пасвіў коней памешчыка Багаткі ў маёнтку Кашубінцы, сведчыў: Лянкевіч «даў мне старое ружжо і, прабыўшы некалькі дзён, быў пастаўлены на пікет. І калі

[6] Там жа.

[7] Там жа, арк 39 адв.

[8] Там жа.

[9] Лянкевіч Аляксандр Алойзавіч (1820-?) — адстаўны падпалкоўнік расійскага войска. Разам з братам Антонам валодаў маёнткам Панюкі. Часовы правінцыяльны ўрад надаў яму званне палкоўніка. Узначальваў атрад Гродзенскага павета, створаны ім у канцы красавіка 1863 г. Паспяхова дзейнічаў супраць расійскіх войскаў у Гродзенскім, Ваўкавыскім, Слонімскім і Аўгустоўскім паветах. Кіраваў агульнымі сіламі паўстанцаў у бітве пад Мілавідамі 3 чэрвеня 1863 г. У верасні эміграваў у Францыю. У 1865 г. завочна прыгавораны да смяротнага пакарання.

[10] НАРБ у Гродне. Ф.1, воп.34, спр. 730. Дело о водворении на прежнее местожительства добровольно явившихся из повстанческих отрядов жителей Гродненского, Волковыского и Слонимского уездах, арк. 125.

я стаў баявым ружжом песціцца, але, не ведаючы як з ружжом абыходзіцца, неспадзявана выстраліў і ружжо разарвалося. З ім вярнуўся ў атрад, і ўжо ружжо было ад мяне забранае, а пристаўлены да абоза, для пераношвання цяжару і ўвесь час насіў на сабе валізку з аптэчкамі, медыкаментамі. А так пры атрадзе знаходзячыся брадзяжыў па розным невядомым мне лясам. І аднойчы, калі атрад быў нагнаны расійскімі войскамі і збег, быў нагнаны расійскімі двума салдатамі, з якіх адзін мяне параніў штыком у правае плячо, то я, адчуўшы боль, валізку, якую нёс, кінуў і сам ратаваўся ўцёкамі, і праходзячы па лесе сустрэўся з атрадамі Гідва і Астрогі, якія мяне ў сувязі з атрыманай ранаю да атрада не прынялі» [11].

Хуткае паражэнне супыніла шырокі ўздым Гродзенскага ўезда. Аднак многія з тых, хто далучыўся да ліку змагароў, ужо не складаў збоі да самага канца, як праваслаўны 21-гадовы селянін Азёрскага таварыства, садоўнік памешчыка Валіцкага з маёнтка Вільянава, Сямёнаўскі Іван Міхайлаў[12]. Пасля паражэння атрада Лянкевіча, Сямёнаўскі пайшоў да Раматоўскага (Вавер) ў Аўгустоўскія лясы. Затым ён дзейнічаў у атрадах Гласкі, Калышкі і Клімкевіча. Стаў сведкам сялянскай дапамогі паўстанцам харчаваннем, падказваннямі дарогі, паведамленнямі аб набліжэнні варожых царскіх войскаў. Сямёнаўскі пабачыў павешанне за даносы двух сялян у Царстве Польскім ды аднаго немца ў мястэчку Сапоцкіна за спробу збегчы з атрада.

Акрамя Сямёнаўскага ў атрадзе Лянкевіча дзейнічала некалькі дзесяткаў праваслаўных паўстанцаў з Гродзенскага ўезда, у асноўным з ваколіц мястэчка Азёры. На жаль, сёння немагчыма вызначыць іх дакладную колькасць, як і аднавіць прозвішчы ўсіх загінулых у баях з расійскай арміяй. Памятны ж знак і крыжы на магіле паўстанцаў з атрада Аляксандра Лянкевіча на Азёрскіх могілках варты ўспрымання нашчадкамі не толькі як напамін пра загінулых паўстанцаў з ліку каталіцкага насельніцтва ваколіцы, але як і праваслаўных яе жыхароў.

У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў г. Гродна захоўваюцца паказанні некаторых з падсудных праваслаўных паўстанцаў атрада Лянкевіча, да якіх, зразумела, неабходна ставіцца крытычна, паколькі яны, як і сведкі абвінавачванняў, не заўсёды гаварылі

[11] Там жа, арк 291 адв.

[12] Там жа, арк. 351.

праўду[13]. Але гэта важная крыніца інфармацыі пра падзеі тых часоў. У сваіх паказаннях большасць паўстанцаў, для захавання ўласнага жыцця, гаварыла пра прымусовае далучэнне да атрада. Сярод іх 27-гадовы ўдзельнік атрада Лянкевіча Міхаіл Семянчук[14] з в. Шчэчыцы (сёння — Мастоўскі раён), які ў той жа час пазначыў: «у шайку вярбоўшчыкамі людзей дастаўляема не было, але ўсялякі з'яўляўся добраахвотна». Прычым сам М. Семянчук быў узброены аднаствольным ружжом і пісталетам, што разам з тэрмінам знаходжання ў атрадзе гаворыць хутчэй пра добраахвотнае далучэнне да атрада, паколькі паўстанцы наўрад ці б давалі зброю тым, каму не давяралі.

На баку паўстанцаў у атрадзе Лянкевіча змагаліся наступныя праваслаўныя сяляне з Гродзенскага ўезда:

**Аўсейнікаў Міхаіл Аўгусцінаў[15]** Кашубінскага таварыства з вёскі Галавачы памешчыка Чачота, дзе працаваў батраком пры конях. Два месяцы правёў у атрадзе ў Царстве Польскім, меў аднаствольнае ружжо. Пасля разбіцця з рэшткамі атрада далучыўся да Клімкевіча, пад камандаваннем якога Аўсейнікаў знаходзіўся тры тыдні.

**Бахановіч Антоній[16]** з Азёр памешчыка Валіцкага. З красавіка па кастрычнік быў у паўстанцкіх атрадах: спачатку Лянкевіча, затым Астрогі. Удзельнічаў у некалькіх сутычках з расійскімі войскамі.

**Быль Рыгор Лявонцьеў[17]** з в. Галавачы памешчыка Чачота. Уступіў у атрад разам з аднавяскоўцамі Міхаілам Кахаsuccessоўскім, Іванам і Міхаілам Аўсейчыкамі ды сваім братам Яўгенам Былём. У атрадзе Лянкевіча яны спачатку дзейнічалі пад мястэчкам Азёры, а пасля аднойчы ноччу былі перапраўлены сялянамі на лодках праз Нёман у Аўгустоўскія лясы. Атрад быў разбіты ва ўрочышчы Глыбокія Броды. У атрадзе прабыў два месяцы.

---

[13] «Показания повстанцев — источник, хотя и субъективный, но очень богатый фактами и интересный по содержанию. Субъективный — потому что, охраняя свою жизнь и судьбу своих родных, а также боевых товарищей, повстанцы не могли говорить всю правду. Кроме того, рядовые повстанцы многого не знали и не обладали полной информацией о деятельности повстанческих отрядов и их руководителей» // Повстанческое движение в Гродненской губернии. 1863—1864 гг. Брест, 2006. С. 18.

[14] Ф.1, воп.34, спр. 730, арк. 17.

[15] Там жа, арк. 403.

[16] Там жа, арк 435.

[17] Там жа, арк. 188.

**Быль Яўген Лявонцьеў**[18] да паступлення ў атрад працаваў батраком пры конях у памешчыка Чачота ў Галавачах. 21 мая ён разам з братам і аднавяскоўцамі Міхаілам Кахаtoўскім, Іванам і Міхаілам Аўсейчыкамі былі ўзятыя ў атрад Лянкевіча і прыбылі ў лясы каля мястэчка Масты. Там знаходзіліся пяць дзён, пасля чаго атрад перайшоў у лясы пад мястэчкам Азёры, дзе прастаялі тыдзень. Потым ваколічнымі сялянамі былі перапраўлены праз Нёман на чоўнах у Царства Польскае, дзе блукалі цэлы тыдзень, пасля чаго ўступілі ў бой з расійскімі войскамі. Атрад быў разбіты, і Лянкевіч пакінуў паўстанцаў. Праз тыдзень рэшткі атрада пад кіраўніцтвам афіцэра Андрэя Равіча і Надаўскага былі далучаны да атрада Клімкевіча, які размяшчаўся ў лясах каля мястэчка Сапоцкіна. Пасля праведзеных тут трох тыдняў яны ўвайшлі ў мястэчка Сапоцкіна, дзе заначавалі. На наступны дзень Яўген Быль збег з атрада і прыйшоў у маёнтак Келбаскі памешчыка Верына, дзе прабыў пяць тыдняў фурманам, пасля чаго пакінуў гэтую працу. Быў схоплены падчас таго, як на човене праплываў па Нёмане каля вёскі Гожа. Паведамляў, што ў атрадзе Клімкевіча былі пяць шарагоўцаў[19] з расійскай арміі, якія пакінулі войска пры поўнай баявой амуніцыі і са штуцэрамі.

**Варацін Фёдар**[20] з Гродна быў у атрадзе Урублеўскага. Удзельнічаў у сутычках у пушчы Ласосіны (24 мая ст.ст.) і ў Серадоўскім лесе (паблізу в. Серадова, 27 мая ст.ст.).

**Губарэвіч Карл Філіпаў**[21] з вёскі Кашубінцы. Даглядаў коней у маёнтку Котры памешчыка Багаткі. Паўстанец атрадаў Шмыгера, які аб'яднаўся з атрадам Лянкевіча, на месца якога пасля таго выдалення стаў Астрога (Парадоўскі).

**Юзафовіч Андрэй Якаўлеў**[22] селянін вёскі Карашэва Скідзельскага таварыства памешчыка Чацвярцінскага. У канцы мая ўступіў у атрад каля маёнтка Мількаўшчыны. Ёзэфовіч атрымаў ружжо і разам з атрадам Лянкевіча накіраваўся лясамі ў Царства Польскае, дзе да іх далучыўся атрад Вавера і шэраг іншых. Пасля адной з сутычак з расійскімі войскамі, Ёзэфовіч меў жаданне пакінуць атрад, але быў затрыманы паўстанцкімі жандарамі і дастаўлены ў іншы атрад. У хуткім часе ён захварэў і быў пакінуты паўстанцамі ў лесе.

[18] Там жа, арк. 238.

[19] Там жа, арк. 241.

[20] Ф.1, воп. 34, спр. 472, арк. 11.

[21] Ф.1, воп.34, спр. 730, арк. 242.

[22] Там жа, арк. 289.

**Каралевіч Канстанцін Міхайлаў**[23] **—** аднадворац вёскі Абуховічы Прыгарадзіцкага сельскага таварыства. У сярэдзіне мая ноччу пасвіў коней разам з Матвеем Блізневічам, калі да іх падышоў невялікі атрад на чале з Лянкевічам, у які яны ўступілі. Разам з атрадам пайшлі пад Масты, каля якіх пераправіліся праз Нёман пры дапамозе ваколічных сялян. З атрадам патрапіў у Навагрудскі павет, у якім знаходзіліся тры тыдні. Але ў дзесяці вёрстах ад Навагрудка былі разбітыя расійскімі войскамі, пасля чаго Каралевіч вярнуўся ў родныя мясціны і ў сярэдзіне верасня з'явіўся ў Гродна да вайсковага начальніка. Паведамляў, што ва ўвесь час дзеяння атрада ніякіх рабаванняў не было, а за прадукты расплачваліся з мясцовым насельніцтвам наяўнымі грашыма.

**Карловіч Стэфан**[24] **—** селянін Жыдамянскага таварыства, працаваў батраком ў маёнтку Талочкі памешчыка Канеўскага. Разам з сынам пана Уладыславам Канеўскім і пісарчуком Фартунадам Бржазоўскім паступіў у атрад Лянкевіча ў канцы красавіка 1863 г. У атрадзе атрымаў піку. Ваяваў пад кіраўніцтвам Лянкевіча, Астрогі, Сендэка, Любіча і Глеба. Паведамляў, што ў кіраўнікоў былі мапы, пры дапамозе якіх яны арыентаваліся на мясцовасці.

**Карповіч Сцяпан**[25] з мызы Талочкі далучыўся да атрада ў ваколіцах вёскі Азёры, у якой Лянкевіч зачытваў паўстанцкі маніфест. Чатыры месяцы быў у атрадзе за фурмана, але пасля таго як сур'ёзна захварэў вымушаны быў пакінуць паўстанцаў.

**Кашэтук Адам Восіпаў**[26] з вёскі Гліняны Скідзельскай воласці, які быў пастухом авечак у памешчыка князя Чацвярцінскага. Яго ўгаварыў далучыцца да паўстанцаў селянін Карашэў Андрэй Іосіфавіч, разам з якім Кашэтук накіраваўся за мястэчка Масты, дзе ўступіў у атрад Лянкевіча. Меў ружжо. Але пасля разбіцця атрада далучыўся да Клімкевіча, які перайшоў на тэрыторыю Царства Польскага, дзе Кашэтук падаўся хворым і быў адпушчаны дахаты. Паведамляў пра павешанне ў мястэчку Сапоцкіна нейкага немца[27], які спрабаваў збегчы з атрада Клімкевіча.

[23] Там жа, арк. 345.

[24] Там жа, арк. 314.

[25] Там жа, арк. 278.

[26] Там жа, арк. 43.

[27] Там жа, арк. 44.

**Конан Казімір Іваноў**[28] з вёскі Будраўцова, які працаваў шаўцом у маёнтку Аляшэвічы памешчыка Незабітоўскага. Уступіў у атрад пад мястэчкам Масты, атрымаў аднаствольнае ружжо. У сваіх паказаннях паведамляў пра тое, што праваднікамі для паўстанцаў былі ў асноўным сяляне.

**Марчык Іван Максімаў**[29] з вёскі Хілякі працаваў фурманам у памешчыка Валкавіцкага. Калі быў пасланы ў Беласток за сынамі памешчыка, быў запынены шасцю чалавекамі і дастаўлены ў атрад Лянкевіча. Пасля паражэння гэтага атрада змагаўся ў атрадзе Астрогі. Правёў тры месяцы ў лесе.

| **Праваслаўныя паўстанцы з Гродзенскага ўезда ў атрадзе Лянкевіча** | | | |
|---|---|---|---|
| № | Прозвішча, імя, імя па бацьку | Узрост, гадоў | Месца паходжання |
| 1 | Аўсейнікаў Міхаіл Аўгусцінаў | 17 | Галавачы |
| 2 | Бартанчук Антон Андрэеў | 30 | Гушчыцы |
| 3 | Бахановіч Антоній | 29 | Азёры |
| 4 | Быль Грыгор Лявонцеў | 26 | Галавачы |
| 5 | Быль Яўген Лявонаў | 18 | Галавачы |
| 6 | Варацін Фёдар | 17 | Гродна |
| 7 | Губарэвіч Карл Філіпаў | 20 | Кашубінцы |
| 8 | Юзафовіч Андрэй Якаўлеў | 18 | Карашэва |
| 9 | Каралевіч Канстанцін Міхайлаў | 25 | Абуховічы |
| 10 | Карловіч Стэфан | 27 | Талочкі |
| 11 | Карповіч Сцяпан | 25 | Талочкі |
| 12 | Кашэтук Адам Восіпаў | 16 | Гліняны |
| 13 | Конан Казімір Іваноў | 20 | Будраўцова |
| 14 | Кучынскі Міхаіл Аляксееў | 17 | Талочкі |
| 15 | Марчык Іван Максімаў | 22 | Хілякі |
| 16 | Семянчук Міхаіл Міхайлаў | 27 | Шчэчычы |
| 17 | Сямёнаўскі Іван Міхайлаў | 21 | Вільянава |

[28] Там жа, арк. 39.

[29] Там жа, арк. 186.

**Федор Игнатович,**
**кандидат медицинских наук (Гродно)**

# Врач Целестин Михайлович Цехановский: повстанческий начальник Гродно и общественно-медицинский деятель Сибири

Во внешней политике Российская империя в XVIII веке уделяла особое внимание расширению своих границ, причем не исключая интервенции. В сговоре с Пруссией и Австрией в 1772, 1793 и 1795 гг. она захватила значительную часть территории соседствующего с ней конфедеративного государства Речь Посполитая (Польша и Великое княжество Литовское — ВКЛ).

Закрепощенные народы этого государства более ста лет добивались восстановления независимости и суверенитета в границах 1772 г. Против Российской империи они поднимали вооруженные восстания в 1795, 1830—1831 и 1863—1864 гг., которые ею жестоко подавлялись. Эта неоднократная и многолетняя борьба была фактически затянувшейся гражданской войной.



**Герб восстания 1863 г.**

Объединяющую и руководящую роль в освободительном движении, несмотря на отдельные межнациональные проблемы, проявляла Польша, народ которой был более патриотично настроен. Их выступления поддерживало население бывшего ВКЛ (Литвы, Беларуси и Украины). Однако до сих пор не только русские, но и некоторые белорусские политики и историки продолжают доказывать, что это были исключительно «польские восстания», что не соответствует действительности.

Последнее восстание, состоявшееся 1863—1864 гг., также начиналось в Польше. Среди разных слоев населения

в Литве и Беларуси появилось немало единомышленников. По опыту Польши, здесь начали формироваться тайные патриотические организации. С осени 1862 г. началась подготовка к восстанию. Ее возглавил Комитет движения (с 1862 г. — Литовский провинциальный комитет), находившийся в Вильно. Он подчинялся Центральному национальному комитету в Варшаве.

Как в Польше, здесь сложились две противодействующие группировки — «белые» и «красные». Партия «белых», состоявшая из крупных помещиков и буржуазии, добивалась независимости Польши с включением территории Литвы и Беларуси без их согласия. Одновременно они стремились не допустить, чтобы восстание стало массовым и антикрепостническим. Партия «красных», объединявшая в основном малоземельную шляхту, разночинную интеллигенцию и офицеров — выходцев из шляхты, добивалась проведения значительных социальных реформ. Ее революционно-демократическое крыло, выражавшее интересы крестьянства, требовало ликвидации национального, сословного и имущественного неравенства.

Одним из инициаторов и руководителей восстания, начавшегося в Литве и Беларуси в январе 1863 г., был Константин Семенович Калиновский, являвшийся лидером революционно-демократического крыла партии «красных». Среди его соратников было немало врачей: Б.Ф. Длуский, М. Клечковский, Ю. Мицкевич, Е.Ф. Врублевский, Л. Дзичковский, И. Косцялковский, К. Хмелевский, М.А. Оскерка, П.Я. Чекотовский, Б. Семирадский, В.К. Борзобогатый, К.И. Францкевич, И.Ф. Свида и др.[1]

Наиболее многочисленная и деятельная революционно-демократическая организация создана К.С. Калиновским на протяжении 1861 г. в Гродненской губернии. Она состояла из губернского и уездных комитетов, возглавляемых комиссарами, гражданскими и военными начальниками. С самого начала в ее создании и деятельности значительную роль играли медицинские работники, которые по роду занятий могли переезжать свободно с места на место и таким образом скрывать принадлежность к революционной организации[2]. В их чис-

[1] Грицкевич В.П. С факелом Гиппократа: из истории белорусской медицины. Минск, 1987. С. 188—206; Игнатович Ф.И. Медики — соратники К.С.Калиновского в восстании 1863—1864 гг. // Советское здравоохранение. 1975. № 8. С. 74 -77.

[2] ЦГИА Литовской Республики. Ф. 378. ПО, 1863. Д. 548, л. 7.



**Целестин Цехановский**

ле были не только организаторы и члены этих организаций, а также врачи, фельдшера и фармацевты повстанческих отрядов[3].

Надежной опорой К.С. Калиновского в Гродно был повстанческий начальник города врач Ц.М. Цехановский.

В его биографии имеются некоторые неточности, которые при проведении исследования нами были при возможности устранены. Как установлено, родился Целестин Михайлович в 1835 г. в имении Горлово Чауского уезда Могилевской губернии. В 1852 г. окончил Могилевскую гимназию[4]. Для продолжения образования поступил в 1853 г. на медицинский факультет Московского университета. В годы учебы входил в состав студенческой нелегальной организации «Огул», объединявшей передовую молодежь из Литвы, Беларуси и Польши. В Москве через брата Михаила, студента этого же университета, он познакомился с братьями Виктором и Константином Калиновскими[5]. В.С. Калиновский некоторое время также учился на медицинском факультете.

Окончил Московский университет Целестин Михайлович в 1857 г. С дипломом на звание врача и свидетельством на право занимать должность уездного врача он прибыл в Гродно. Этот выбор был обусловлен тем, что недалеко от города в собственном имении Жидомля тогда проживала его мать Текля Цехановская из рода

[3] Грицкевич В.П. С факелом Гиппократа…; Игнатович Ф.И. Медицинское и лекарственное обеспечение участников восстания 1863 года в Северо-западном регионе Беларуси // Мінулае Гродзеншчыны: навук.-метад. дапаможнік. Гродна, 2004. С. 13—22.

[4] Игнатович Ф.И. Врач и общественный деятель Ц.М.Цехановский // Здоровье населения — основа благополучия страны: матер. V съезда организ. здравоохр. Республики Беларусь. Минск, 2006. С. 464—467; Гребенщиков Н.Д., Полянская О.Н. Доктор Целестин Цехановский // Biuletyn archiwum Polskiej Akademii Nauk. — Warszawa, 2009. № 50. S. 104—110; Szareiko P. Slownik Lekarzy polskich XIX wieku. Warszawa, 1995. T. 3. S. 89—90.

[5] Национальный исторический архив Республики Беларусь в Гродно. Ф. 3, оп. 1, д. 21, л.85.

Мацкевичей. Вакантных должностей для государственной службы не было, и он стал работать врачом пансиона и одновременно занимался частной практикой.

В Гродно Ц.М. Цехановский за короткое время завоевал всеобщее уважение жителей города. Свои успехи он оценил так: «будучи шесть лет в Гродно практикующим врачом, приобрел обширнейшую практику во всех классах жителей, был любим и уважаем»[6]. Уже тогда в нем стал формироваться врач-гуманист. Обслуживал он не только богатые кварталы, не отказывался посещать окраины и трущобы, где ютились бедняки. Как человека большого трудолюбия и честности, его особенно любила молодежь. Неудивительно, что вскоре он становится не только популярным врачом, но и активным общественным деятелем.

С 1861 г. Ц.М. Цехановский состоял членом Гродненской революционной организации, которая занималась подготовкой восстания на территории губернии. Знакомство и встречи с К.С. Калиновским способствовали тому, что он стал убежденным революционером-демократом. В состав организации входили и другие гродненские медицинские работники, с которыми ему приходилось поддерживать нелегальные связи и сотрудничать. Они не только участвовали в подготовке восстания, но и готовы были оказать профессиональную помощь. В их числе были врачи: Э.К. Заблоцкий, В.А. Бриере де Мартеро, И.И. Маркевич, В.В. Нишковский и др. Медицинская практика давала им возможность шире общаться с народом, знать обстановку в городе, настроения своих пациентов, вести среди них пропаганду.

Во второй половине 1862 г. по указанию Литовского провинциального комитета началось формирование дееспособных руководящих органов и повстанческих отрядов. Гродненский губернский (воеводский) повстанческий комитет в марте 1863 г. возглавил революционный комиссар К.С. Калиновский. При реорганизации повстанческой администрации встал вопрос о кандидатуре на должность повстанческого начальника Гродно. Было единогласно решено, что «один только доктор Цехановский, как ознакомленный с целым городом по поводу обширной практики, может исполнять эту должность»[7].

В связи с тем, что в июне 1863 г. К.С. Калиновский был отозван в Вильно, вместо него должность комиссара принял гражданский начальник губернии Э.К. Заблоцкий. На занимаемую им ранее

[6] Там же. Д. 40, л. 126—126 об., 131, 504.

[7] Там же. Л. 30.

должность потребовался достойный преемник. Одним из кандидатов рассматривался врач Ц.М. Цехановский. Но при обсуждении было решено, что он принесет больше пользы, если будет по-прежнему исполнять обязанности гражданского начальника Гродно. Оказанное доверие врач-патриот оправдал, успешно занимаясь подготовкой масс к восстанию. О его организаторских способностях высоко отозвался Я. Гейштор, один из руководителей восстания в Литве и Беларуси. Вполне заслуженно он назвал Целестина Михайловича «душой повстанческой организации в Гродно». Т. Корзон, участник восстания и польский историк, писал, что он был «идеалистом без материальных интересов, человеком большого трудолюбия и честности»[8].

Нелегальная революционная деятельность Ц.М. Цехановского, как будет видно ниже, не осталась незамеченной полицией. Он принимал активное участие в создании повстанческого отряда, который по плану должен был действовать в Гродненском уезде. В ночь со 2 на 3 марта 1863 г. добровольцы, в основном из молодежи, предприняли попытку покинуть город. Но полиции удалось его разогнать, а 62 человека арестовать. На этот раз гражданскому начальнику Гродно удалось избежать этого. Но 30 июля 1863 г. он был арестован во время оказания медицинской помощи раненым повстанцам. В ходе следствия ему было предъявлено обвинение в том, что «был тайным агентом Центрального комитета в Гродно», занимался вербовкой людей для повстанческих отрядов, закупкой обмундирования для них, отлучался в эти отряды для оказания медицинской помощи, распространял газеты и прокламации антиправительственного содержания.

В протоколе допроса, сохранившегося в Национальном историческом архиве Беларуси в Гродно, записано, что арестованный своей вины не признал. Против него полицией собрано более 10 показаний о причастности к революционной организации. На эти подозрения он заявил, что в революционную организацию не входил, так как «жил в уединении, не имея никаких сношений с обществом, кроме по медицинской части». Говоря о своих взглядах и образе жизни, он добавил, что «дело мое патриотическое и весь мой патриотизм заключается в человеколюбии для всех без исключения жителей, без различия народности и вероисповедания». И далее: «мысль моя видна мне во всеобщем просвещении и образовании, душевно радовался я при увеличении числа средних училищ и народных, при новых проектах по

[8] Geiysztor J. Pamietniki z lat 1857 — 1865. Wilno, 1913. T. 1. S. 398.

Министерству народного просвещения, благословлял за все это моего августейшего государя!»[9].

Гродненская следственная комиссия вынуждена была направить дело Ц.М. Цехановского, как не признавшего своей вины и не выразившего раскаяния, в Вильно[10]. Следствие и суд над ним длились почти два года, ему грозила смертная казнь через расстрел. Но он упорно отказывался давать показания, отрицал предъявляемые обвинения и сохранял верность соратникам. Несмотря на старания брата Ивана, служившего чиновником для особых поручений при виленском генерал-губернаторе, выхлопотать помилование врачу-повстанцу не удалось. Но приговор был смягчен: смертная казнь заменена на 20 лет каторжных работ в рудниках Сибири с лишением дворянства и всех других прав[11]. По распоряжению командующего Виленским военным округом для отбывания наказания он был отправлен 28 ноября 1864 г. в Тобольскую губернию этапным порядком. Не дали ему даже проститься с матерью, которая также находилась в тюрьме под следствием по подозрению в причастности к восстанию. Вслед за ним в Сибирь поехала родная сестра, надеясь облегчить жизнь каторжника.

Дальнейшую судьбу врача-революционера удалось проследить при изучении материалов Государственного архива Иркутской области. Вместе с другими политическими ссыльными он под конвоем и в кандалах 16 мая 1865 г. был доставлен в Иркутск. Местом отбывания каторжных работ ему назначен поселок Лиственничный, где начинались работы по строительству Кругобайкальского почтового тракта. Туда Ц.М. Цехановский направлен 10 августа 1865 г. Работать ему предстояло в карьерах по добыче каменных строительных материалов и на прокладке дорожного полотна от Култука до почтовой станции Лихановка общей длиной 203 км. Трудилось здесь вначале 4 партии, состоящие из 250 заключенных, затем число их увеличилось почти втрое. Врач-каторжник наравне с другими жил в шалаше, вручную долбил скалистые породы, прокладывал дорогу через заболоченные места. Только с наступлением холодов заключенных возвращали в тюрьму.

По «высочайшему повелению» 16 апреля 1866 г. срок наказания Ц.М. Цехановскому сокращен наполовину. Из-за поистине каторжных работ в любую погоду, при плохом питании, недостатке лекарств

---

[9] НИАБ в Гродно. Ф. 3, оп. 1, д. 40, л. 219—220.

[10] Там же. Д. 21, л. 152.

[11] Там же. Ф. 3, оп. 34, д. 1948, л. 163.

и мыла не редкими были случаи смертельных исходов. Не удивительно, что в июне 1866 г. началось восстание заключенных, которое было жестоко подавлено. Зачинщики в числе 4 человек были расстреляны, многим участникам срок каторжных работ увеличен. Врач-каменщик попал в число 95 заключенных, вина которых не была доказана, поэтому на строительстве тракта он оставался до ноября 1866 г.

Когда следствие по делам этого восстания закончилось, Ц.М. Цехановский был «от всякой ответственности освобожден». Но, тем не менее, 18 ноября 1866 г. он был переведен для дальнейшего отбывания наказания в Александровский винокуренный завод, где содержалось около тысячи заключенных[12]. В этой тюрьме не было врача, условия обитания были ужасающими: холод, голод, издевательства со стороны охраны и пр. Раз не было врача, отсутствовали и лекарства. В течение года умерло от цинги и тифа около 40 заключенных.

Целестин Михайлович не мог оставаться равнодушным к этому и взял на себя труд лечить оставшихся бесплатно, даже не получая жалованья. Если бы не его помощь, вспоминали потом некоторые заключенные, число загубленных в тюрьме было бы несравненно больше[13]. Крестьяне поселка Александровского и соседних деревень, также лишенные медицинской помощи, стали ходатайствовать перед властями, чтобы «доброму доктору» разрешили лечить и их. Ему было позволено и это. Ежедневно он выходил из тюрьмы в арестантском халате, с кандалами на ногах и под конвоем начинал обходить пациентов, нуждающихся в медицинской помощи. Начальство тюрьмы даже разрешило на время их осмотра и лечения снимать с него кандалы. Но от этого он категорически отказался, пока от них не будут освобождены его товарищи по каторге.

Самоотверженное и безвозмездное исполнение врачебного долга послужило одной из причин того, что по царской милости 25 мая 1868 г. он был освобожден от каторжных работ. Ему разрешено дальнейшее отбывание наказания в виде ссылки с 27 августа 1868 г. в Уриковской волости Иркутского округа. Возникла проблема заработка, поэтому в 1870 г. он обратился к властям за разрешением заниматься медицинской практикой. Получив отказ, он вынужден был заниматься этим неофициально, пользуясь доверием и популярностью среди местных жителей.

---

[12] Государственный архив Иркутской области. — Ф. 24, оп. 3, д. 11, л. 16—17.

[13] Sliwowska W. Ucieczki z Sybiru. Warszawa, 2005. S. 365.

Наконец, в 1872 г. с Ц.М. Цехановского сняли кандалы, хотя срок отбывания наказания еще не закончился. Ему также было разрешено поступить на государственную службу. Не считаясь с опасностью для здоровья и жизни, он дал согласие вернуться в Александровскую тюрьму на должность штатного врача с небольшой зарплатой. Это поистине был подвиг, на который решались немногие врачи[14]. Он всячески старался облегчить участь своих товарищей по неволи, смог спасти многим жизни. За это самопожертвование еще больше выросла его известность и популярность. Работая в тюремных условиях почти 20 лет, он не щадил свое здоровье.




**Александровский централ (Из коллекции Иркутского областного краеведческого музея)**

Когда в 1883 г. окончился срок отбывания присужденного ему наказания, Ц.М. Цехановский решил всю оставшуюся жизнь провести в Сибири, так как здесь не хватало врачей. Оставив тюрьму, он избрал местом жительства город Иркутск, где было много бывших соратников по восстанию, в том числе врачей. Здесь он обзавелся семьей, женившись на сибирской казачке Ершовой Татьяне Петровне, с которой имел 10 детей. С детьми и родственниками, которых очень любил, разговаривал по-русски. Построил для них большой дом на углу

[14] Szareiko P. Slownik Lekarzy polskich XIX wieku…S. 89—90.

Амурской и Харлампиевской улиц (ныне — В. Ленина и М. Горького). Отдавал всего себя любимой работе, но по-прежнему не ради своего личного благополучия. Поэтому не смог накопить больших сбережений, жил скромно, подавая пример честности, гуманности и бескорыстия другим, особенно молодым врачам. Имея семью из 13 человек, иногда даже бедствовал.

В то время работа ссыльных врачей в Сибири была очень трудной из-за притеснений и издевательств чиновников и полиции. Такое могли выдержать только наиболее мужественные и стойкие представители этой профессии. К их числу по праву можно отнести Целестина Михайловича Цехановского. Занимаясь частной медицинской практикой, он проявил себя как гуманист и филантроп в самом высоком смысле этих понятий. Его пациентами в основном были бедняки, которых он лечил бесплатно или за малую плату, оставляя особо нуждающимся деньги на лекарства. Работу ему приходилось начинать в 7 часов утра, чтобы вначале успеть посетить своих пациентов. Затем он спешил в амбулаторию Красного Креста, где принимал в день до 100 больных.

Несмотря на большую занятость службой и частной практикой, Целестин Михайлович являлся активным членом Общества врачей Восточной Сибири. Его выступления на заседаниях общества носили, как правило, общественный характер. Один из своих докладов им был посвящен причинам эпидемии дифтерии в Иркутске, методам ее лечения и профилактики. Пользуясь тем, что заседание было публичным, он не преминул обратить внимание жителей города на бесполезность крайне ограниченной врачебной помощи, если не будут улучшены условия труда и быта населения. Такие неоднократные высказывания поддерживались многими коллегами. Его заслуга и в том, что при обществе им создана хорошая медицинская библиотека. Для пополнения ее он систематически жертвовал деньги и дарил свои книги[15].

За многие годы ссылки Ц.М. Цехановский полюбил этот суровый край. Как врач и общественный деятель он пользовался широкой известностью, уважением и любовью жителей не только Иркутска, но и всей Сибири. Зная о его безотказности и высокой квалификации, к нему обращались больные с самых отдаленных уголков. И он делал для них все, что мог до последних дней, не жалел своего здоровья и даже жизни во имя врачебного долга.

[15] Мендрина Г.И. Медицинская деятельность политических ссыльных в Сибири. Томск, 1962. С. 20—21.

Умер Ц.М. Цехановский 28 декабря 1906 г. и похоронен в Иркутске. Незадолго до смерти городское начальство возбудило ходатайство о назначении ему пожизненной пенсии, которой бы после смерти могла пользоваться его жена. Но, будучи скромным и еще живым, он категорически отказался от нее. В 1909 г. по решению городской думы именем врача-гуманиста была названа Знаменская амбулатория. Он был инициатором постройки здания для нее, и многие годы лечил в ней малоимущих больных.

Хотя большую часть жизни и деятельности Ц.М. Цехановский провел в Сибири, не забыт он и в Беларуси. Имя врача-гуманиста в 1930-е годы прошлого века носила одна из улиц Гродно. В советское время она переименована в улицу Л.Н. Толстого, который к истории города не имел никакого отношения. К сожалению, попытки общественности города вернуть ей прежнее имя остаются пока безуспешными.

**Цімох Акудовіч, магістр (Мінск),**
**Дзяніс Юрчык (Слонім)**


# Паўстанне 1863 года на Слонімшчыне

У 2013 г. з нагоды юбілея паўстання 1863 г. у межах грамадзянскай культурна-гістарычнай кампаніі «18/63» былі распрацаваныя дзве экскурсіі па мясцінах, якія так ці інакш звязаныя з падзеямі 1863 года.

Адна з экскурсій была прысвечана Слонімскай зямлі і навакол-лям. Тэматычныя экскурсіі цікавыя не толькі тым, што раскрываюць тэму (у дадзенай сітуацыі гісторыю паўстання), дазваляюць глыбей зразумець матывацыю тых людзей, прычыны і наступствы падзеяў, агульную атмасферу эпохі, але і ствараюць шырэйшую панараму гісторыі канкрэтных населеных пунктаў, дазваляюць пабачыць нейкі горад, мястэчка, ці вёску ў канкрэтны момант гісторыі.

Дадзены тэкст —перапрацаваныя і дапоўненыя матэрыялы гэтай экскурсіі, якая, маем надзею, зможа пашырыць агульнае разуменне як пра паўстанне 1863 г., так і пра гісторыю асобных населеных пунктаў рэгіёна.

## Напярэдадні

У пачатку 1863 г. у заходніх рэгіёнах Расійскай імперыі выбухнула ўзброенае паўстанне. Шляхта Польшчы, Літвы і Беларусі патрабавала незалежнасці і аднаўлення былой Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. Паўстанне пачалося ў Варшаве ў студзені месяцы, а да пачатку вясны перакінулася і на тэрыторыю земляў, якія ў афіцыйнай дакументацыі таго часу называліся «Северно-Западным краем». Натхнёныя гімназісты губернскіх цэнтраў, буйныя землеўласнікі, дробная шляхта, мяшчане і рамеснікі выцягвалі са сховішчаў шаблі, паляўнічыя стрэльбы і ноччу сыходзілі ў лес, дзе ў спецыяльна і загадзя абумоўленых месцах сустракаліся са сваімі аднадумцамі, а цяпер і братамі па зброі.

Але ці не найбольшым уздымам вызначылася паўстанне на Ковеншчыне і Гарадзеншчыне. Трохкутнік Гродна–Баранавічы–Кобрын напоўніўся адразу некалькімі вялікімі паўстанцкімі злучэннямі. Менавіта тут буйныя землеўласнікі ўзялі на сябе арганізацыю і матэрыяльнае забеспячэнне атрадаў, а агульнае кіраванне працэсам легла на плечы 26-гадоваму якушоўскаму шляхцічу Канстанціну Каліноўскаму — аднаму з найцікавейшых асобаў беларускай гісторыі XIX ст.

Пратэстны настрой у грамадстве былой Рэчы Паспалітай пачаў уздымацца яшчэ на пачатку 1860-х гадоў. Сярод шляхты былой Рэчы Паспалітай жыло жаданне адрадзіць дзяржаўнасць. Да 1860-х г. вырасла цэлае пакаленне моладзі, якое хацела паквітацца за паразу сваіх бацькоў у паўстанні 1831 г. У эміграцыі дзейнічалі шматлікія супольнасці, якія падтрымлівалі гэтыя настроі ў Польшчы, Літве, Беларусі і Украіне.

Дзеянні расійскіх уладаў толькі падлівалі алей у агонь: у рэгіёне была ўведзена жорсткая цэнзура, у 1832 г. зачынены Віленскі, а ў 1837 г. Варшаўскі ўніверсітэты, у 1839 г. скасавана ўнія, у 1840 г. канчаткова спынялася дзейнасць статута ВКЛ. Важную ролю ў фарміраванні тутэйшых настрояў адыграла заканчэнне Крымскай вайны ў 1856 г., якая паказала ўсяму свету слабасць і незабяспечанасць расійскага войска.

У 1857 г. з дазволу расійскага імператара з сібірскай ссылкі пачалі вяртацца ветэраны паўстання 1831 г. Усё гэта прывяло да таго, што ў канцы 1850-х гг. у Варшаве і іншых польскіх гарадах сярод студэнтаў, інтэлігенцыі пачалі ўтварацца таемныя таварыствы па падрыхтоўцы ўсеагульнага паўстання. Аптымізму змоўшчыкам дадавала і вайна Францыі з Аўстрыяй, якая пакідала надзею, што Францыя дапаможа Польшчы ў яе змаганні на заходніх землях (частка Польшчы на той момант належала Аўстрыі).

У 1860 г. распачаліся адкрытыя маніфестацыі ў Польшчы. 10 чэрвеня 1860 г. вялікі натоўп народу сабраўся ў Кракаўскім прадмесці падчас пахавання ўдавы легендарнага кіраўніка паўстання 1831 г. Юзафа Савінскага. Сітуацыя ў польскай сталіцы імкліва накалялася.

У лютым 1861 г. адбыўся першы крывавы інцыдэнт: падчас дэманстрацыі ў гонар 30-годдзя бітвы пад Грохавым (адной з найбуйнейшых бітваў 1831 г.), расійскія войскі пачалі страляць у натоўп. Было забіта 5 чалавек. У красавіку 1861 г. пасля падобнай дэманстрацыі забітымі на плошчы засталося ляжаць каля 100 чалавек. Улады ўвялі вайсковае становішча, але гэта толькі актывізавала дзеянні падпольных

арганізацый. У кастрычніку 1861 г. у Варшаве быў створаны Цэнтральны Нацыянальны камітэт, які аб'яднаў высілкі разрозненых груп. Па ўсёй краіне збіраліся склады са зброяй, распаўсюджваліся ўлёткі, вяліся перамовы з еўрапейскімі манархамі. Але, нягледзячы на сур'ёзныя маштабы падрыхтоўкі, было зразумела, што, каб накапіць сілы для супрацьстаяння буйным вайсковым злучэнням расійскай арміі, неабходны яшчэ некалькі год інтэнсіўнай працы.

У Літве і Беларусі адбываліся падобныя ж працэсы. Дэманстрацыі праходзілі ў Гродна і Вільні. З 1862 г. пачаў дзейнічаць заканспіраваны Літоўскі правінцыйны камітэт (ЛПК), які да 1863 г. налічваў каля 3 000 удзельнікаў (па ўсёй Польшчы ў такія аб'яднанні ўваходзіла каля 25 000 чал.).

Але ў пачатку 1863 г. быў распаўсюджаны імператарскі ўказ, які поўнасцю перамяшаў усе планы змоўшчыкаў. У 1862 г. намеснікам у Царстве Польскім стаў брат імператара Канстанцін Мікалаевіч, а ягоным памочнікам польскі арыстакрат граф Аляксандр Веляпольскі. Разам яны распрацавалі шэраг ліберальных рэформаў, каб заспакоіць польскую грамадскасць: для сялян — замена паншчыны чыншам, для габрэяў — павелічэнне грамадскіх правоў, для патрыятычнай грамадскасці — школьныя рэформы.

Аднак пернік было вырашана сумясціць з кнутом. Намеснікі разумелі, што найбольш радыкальную частку польскага грамадства, якая і падштурхоўвае край да ўзброенага паўстання, складае шляхецкая моладзь. У сярэдзіне студзеня 1863 г. з'явіўся пайменны спіс 12 000 маладых палякаў, якіх забіралі ў рэкруты. У спіс увайшлі тыя, хто падазраваўся ва ўдзеле ў рэвалюцыйных арганізацыях.

Гэта ўскалыхнула ўвесь край. Моладзь, не жадаючы ісці ў салдаты, пачала сыходзіць у лес і фарміраваць першыя партызанскія атрады. Цэнтральнаму Нацыянальнаму камітэту не заставалася нічога іншага, як выдаць маніфест з заклікам да ўзброенай барацьбы. Паўстанне пачалося.

22 студзеня Цэнтральны Нацыянальны камітэт выдаў маніфест, перадрукаваны праз 7 дзён у Вільні як «Маніфест Часовага Правінцыйнага ураду ў Літве і Беларусі». Ён уключаў у сябе наступныя пункты:

*§ 1. З сённяшняга дня ўсе сяляне і іншыя жыхары, якога б яны ні былі паходжання і веры, з'яўляюцца свабоднымі, як старапольская шляхта.*

*§ 2. Польскі Нацыянальны ўрад аддае аселым сялянам, панскім і скарбовым, на вечныя часы ў поўнае ўладанне без чыншаў і выкупаў тую*

*зямлю, якую яны мелі да гэтага часу, а ўсе распараджэнні маскоўскага ўрада адмяняе, таму што гэта зямля польская, а не маскоўская.*

*§ 3. За гэта сяляне павінны, як шляхта, бараніць польскі край, грамадзянамі якога з'яўляюцца з сённяшняга дня.*

*§ 4. Парабкі ж, адстаўныя салдаты і ўсе неаселыя, якія толькі пойдуць бараніць польскі край ад маскалёў, атрымаюць самі ці іх сем'і ва ўзнагароду надзел зямлі сама меней у тры моргі.*

*§ 5. Польскі ўрад узнагародзіць грамадзян за панесеныя імі ахвяры з нацыянальных фондаў.*

*§ 6. Калі хто не будзе паслушны гэтаму Маніфесту, ці ён пан, селянін, чыноўнік або хто іншы, будзе пакараны паводле польскіх ваенных законаў.*

*Божа, збаў Польшчу!*

*Дано ў Вільні дня 1 лютага 1863 г.*

Адна з найважнейшых асобаў усяго паўстання на нашых землях, а таксама падзеяў у Гродзенскай губерні — свіслацкі шляхціч Канстанцін Каліноўскі.

Канстанцін (Вінцэнт) Каліноўскі нарадзіўся 2 лютага 1838 г. у вёсцы Мастаўляны, што пад Беластокам. З 1847 па 1852 гг. Кастусь атрымаў першапачатковую адукацыю ў Свіслацкай гімназіі. Пасля яе заканчэння вырашыў працягнуць вучобу ў Расіі па прыкладзе свайго старэйшага брата, які ў той час навучаўся ў Маскоўскім універсітэце. У 1856 г. Канстанцін пакінуў радзіму і паступіў на юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэту, які скончыў праз чатыры гады з навуковай ступенню кандыдата права. Менавіта тут, у сталіцы Расійскай імперыі, Каліноўскі ўступае ў нелегальныя студэнцкія гурткі, апанаваныя антыцарскімі ідэямі.

У лютым 1861 г. пасля атрымання дыплому аб заканчэнні Пецярбургскага ўніверсітэту Каліноўскі вярнуўся ў Беларусь. Гэта ўжо не проста малады чалавек, а асоба са сваімі смелымі сацыялістычнымі поглядамі. Спачатку ён спрабаваў уладкавацца на працу ў Вільні ў адміністрацыі мясцовага генерал-губернатара, але не атрымаў дазволу ад гарадскіх уладаў. Тады Каліноўскі вырашыў з'ехаць са сталіцы былога ВКЛ і вярнуцца на Гарадзеншчыну, дзе адразу пачаў ажыццяўляць свае ідэі на практыцы. Улетку 1862 г. Канстанцін разам з вядомымі дзеячамі Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі В. Урублёўскім, С. Сангіным,

Ф. Ражанскім арганізаваў друк падпольнай газеты «Мужыцкая праўда», у якой рэвалюцыянеры даносілі да мясцовага насельніцтва свае меркаванні наконт несправядлівай палітыкі імперскіх уладаў і заклікалі людзей да барацьбы з царызмам і панамі.

Увосень 1862 г. Каліноўскі ўзначаліў Літоўскі правінцыйны камітэт, мэтай якога была падрыхтоўка ўзброенага паўстання супраць расійскіх уладаў на тэрыторыях былога княства (цяперашнія Беларусь, Літва, Украіна). Сам Каліноўскі адносіўся да так званай «чырвонай» плыні тагачасных рэвалюцыянераў, якія асноўныя праблемы бачылі ў саслоўнай няроўнасці і арганізацыі справядлівага працэсу перадачы зямлі сялянам. Гэтай плыні супрацьстаялі «белыя», якія перш за ўсё выступалі за аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. У лютым 1863 г., калі нарэшце выбухнула паўстанне, у ЛПК з падачы Польшчы адбыўся так званы «белы пераварот», у выніку якога вядучыя пасады ў камітэце занялі «белыя» пад кіраўніцтвам Якуба Гейштара, а былога кіраўніка, Канстанціна Каліноўскага, адхілілі ад сваіх паўнамоцтваў і прызначылі ўзначаліць паўстанцкі цэнтр Гродзенскай губерні. Напрыканцы лютага Каліноўскі піша гнеўны пратэст супраць «белага перавароту», у якім крытыкуе такое рашэнне, але падпарадкоўваецца яму і адразу распачынае актыўную агітацыйную дзейнасць з заклікам да барацьбы сялян і шляхты Гарадзеншчыны.

Пад камандаваннем кіраўніка паўстання ў губерні знаходзіліся вайсковыя кіраўнікі канкрэтных паветаў. У Слонімскім павеце гэту пасаду прапанавалі спачатку Лявону Чарняўскаму — адстаўному ротмістру, чыноўніку Слонімскага павятовага суда. Аднак ён адмовіўся, засяродзіўшыся на агітацыі і вярбоўцы людзей у атрад. Тады пасаду вайсковага начальніка ў пачатку мая 1863 г. прапанавалі Францішку Юндзілу. Той пагадзіўся з умовай, што будзе выконваць гэтыя абавязкі часова, пакуль не знойдзецца іншы чалавек.

Францішак Юндзіл паходзіў са старадаўняга шляхецкага роду. Першым вядомым прадстаўніком гэтага роду, паводле даследчыка А. Нарбута, быў Рачко, які жыў у часы Вялікага князя Вітаўта ў Ваўкавыскім павеце. Сын Рачко ажаніўся з Ганнай з роду Дуніных, пераняўшы іх герб «Лебедзь». У іх нарадзілася чатыры сыны: Мікалай, Ян, Павел, Сямён. Найбольш разгалінаваным і вядомым стаў род Яна (памёр у 1522 г.). У другой палове XVII ст. гэтая галіна падзялілася на тры лініі ад трох братоў — Аўгусціна, Антонія і Ежы. Нашчадкі Аўгусціна ўтварылі «графскую» (бо ў 1798 г. атрымалі графскі тытул), старэйшую лінію роду, знакамітым прадстаўніком якой стаў граф Віктар

(1790–1862). Ён удзельнічаў у вайне 1812 г. на баку Напалеона ў складзе 8-га палка ўланаў князя Дамініка Радзівіла, пасля — у паўстанні 1830 г. Другая лінія роду пачалася ад Антонія і называлася «генеральскай», бо прадстаўнік гэтай лініі, Тадэвуш (нарадзіўся ў 1740 г.) , быў генералам артылерыі ВКЛ. Трэція, малодшая, лінія пайшла ад Ежы Юндзіла. Прадстаўнікам гэтай лініі належалі маёнткі пераважна ў Слонімскім павеце — гэта Івацэвічы, Сакалова (каля Слоніма), Дабрамысль, Югалін і інш. Менавіта з малодшай лініі і паходзіў Францішак. Ён нарадзіўся ў 1825 г. у сям'і Уладзіслава Юндзіла і Багумілы Сухадольскай. У сям'і панаваў традыцыйны шляхецкі ўклад. Яшчэ ў 1823 г. дзядзькі Францішка — Ян і Рафал Юндзілы былі арыштаваныя за дзейнасць у таварыстве філаматаў і адпраўленыя пад нагляд бацькоў і паліцыі ў Дабрамысль і Югалін. Пад іх уплывам рос будучы камандзір паўстанцкага атраду Слонімскага павета і паўстанцкі камендант Кракава. Пасля заканчэння школы Францішак служыў у кавалерыі. У 1858 г. выйшаў у адстаўку ў чыне ротмістра. Некаторы час жыў у Югаліна, дзе займаўся гаспадаркай, але ў хуткім часе пераехаў у Гродна і пачаў падрыхтоўку паўстання. Паліцыя падазравала гэта і таму пільна сачыла за Юндзілам.

***З паліцэйскага рапарта:***

*«Сего дня в Вильне заседание революционной партии из Гродно, вчера поехали Юндзил и Заблоцкий; прикажите строго следить где и с кем будут сношения…»*

З вышэй згаданага вынікае — Францішак Юндзіл ад пачатку быў прадстаўніком партыі «чырвоных», што і пацвярджаецца далейшымі ягонымі дзеяннямі на пасадзе вайсковага начальніка Слонімскага павета. Месцам збору паўстанцкага атрада Юндзіл прызначыў вялікую лясную паляну недалёка ад сваіх вёсак Югалін і Дабрамысль.

Напярэдадні паўстання 1863 г. у Слоніме, яшчэ з пачатку XIX ст. размяшчалася 3-я артылерыйская брыгада. Паводле апісанняў горада Слоніма 1861 г. і карты горада 1825 г., яна ў асноўным месцілася на Замосці, дзе для яе адмыслова былі збудаваны казармы, склады і стайні (насупраць старых могілак па вул. Віленскай). Пра колькасць і склад 3-й артылерыйскай брыгады вядома з рапарта за чэрвень 1865 г.

Паводле гэтага дакумента, крыху больш за 381 чалавек налічвалася ў брыгадзе на 1861 г. (гэта лічба тых рэгулярных войскаў, якія непасрэдна знаходзіліся ў горадзе). Вядома, што пэўныя часткі гэтай брыгады маглі ў той час знаходзіцца ў Дзятлаве ці Дзярэчыне.

З пачаткам правядзення аграрнай рэформы ў Слонімскі павет для падаўлення сялянскіх хваляванняў накіроўваліся роты Стараінгерманландскага і Велікалуцкага пяхотных палкоў. Прычым першы з іх да пачатку паўстання 1863 г. быў перакінуты з Гродна і расквартараваны ў Нясвіжы і Навагрудку. Калі пачалося паўстанне на дапамогу 3-й артылерыйскай брыгадзе ў Слонім накіравалі некалькі рот Стараінгерманландскага пяхотнага палка — менавіта яны ўдзельнічалі ў асноўных бітвах з паўстанцамі на тэрыторыі Слонімскага павета, напрыклад, у Мілавідах, Харабровічах. Слонімшчына ды ўвогуле паўднёвая частка былой Гродзенскай губерні былі добра вядомыя гэтаму палку па падзеях 1812 і 1830 гг.

У горадзе на час паўстання і першыя гады пасля яго, размяшчалася 3-я сотня Данскога 33-ага казацкага палка пад кіраўніцтвам есаула Фёдара Пухлякова (41 год на 1865 г., на службе 23 гады), але не цалкам — палова ў Слоніме, палова ў Ваўкавыску.

Акрамя рэгулярных войскаў, у горадзе была створана павятовая каманда, дапаможныя войскі, якія складаліся з адстаўных ваенных, іх поўнагадовых дзяцей. Падчас паўстання ў Слоніме каманда размяшчалася ў будынку былога кляштару бенедыктынак і складалася з 2 рот (каля 200 чалавек). Узначальваў яе Сцяпан Суглоў, камандзір 1-й роты — штабс-капітан Іваноў, 2-й — паручнік Пятроў.

## Мілавіды (месца бітвы)

Месцам дыслакацыі свайго атрада Францішак Юндзіл абраў урочышча Старынка, што знаходзіцца недалёка ад Югаліна (ягонага ўладання) і Мілавід у 2 вярстах ад шашы Бабруйск–Слонім. У лагеры знаходзіліся камандзіры Францішак Юндзіл, Ісідор Лукашэвіч. Агульная колькасць атрада была каля 306 чал. Пастаянна падыходзілі ўсё новыя і новыя групы паўстанцаў.

Захаваліся сведчанні аднаго з удзельнікаў атраду Цэзарыя Казігродскага аб тым, як праходзіла фарміраванне атрада.

*«Подготовление к восстанию (утверждаю наверное) делалось отставным штаб-ротмистром Чернявским, а утверждаю потому: а) когда я 22 апреля (по старому стилю) приехал к Лукашевичу, и он мне объявил, что начинает восстание, я спрашивал, какие у него к этому средства; в то время Лукашевич указал мне 2 уже уложенные брички, наполненные оружием, свинцом и порохом, все это за 2 дня до моего приезда доставил ему Чернявский, когда же он, Чернявский, вслед за*

*мной приехал, то объявил Лукашевичу, что на предполагаемом сего дня пути будет нас ожидать около 100 человек из окрестности м. Молчади, откуда он едет, но мы вечером нашли только, кажется, 13 человек... б) Чернявский, не доходя до Миловид, нас оставил и отправился по уезду высылать новых охотников; каждый день являлись к нам 6, 7 или 8 человек, почти все вооруженные. Спустя, может быть, 10 дней прибыл в обоз и Чернявский, привез около 20 пудов свинца и довольно много пороху, пробыл не более 3 или 4 часов и уехал, обещая прислать людей более, и, правда, через несколько дней после его отъезда сразу прибыли к нам 61 или 62 человека, хорошо вооруженных; люди все эти были из одной окрестности, т. е. из околицы Плавских и окружностей; по первому на них взгляду видно было действие организующей руки и то, что они не собрались по одиночке и нечаянно; в) тот же Чернявский прибыл, наконец, в обоз накануне Миловидскаго сражения, привел к нам и Новогрудскую партию под командою Милодовскаго».*

Грамадзянская і вайсковая паўстанцкія арганізацыі распаўсюджваліся па ваяводствах, паветах, акругах. Выканаўчай уладай у паўстанцаў былі: штаб вайсковага начальніка двух ваяводстваў, штаб вайсковага начальніка ваяводства і штаб паўстанцкага атрада. Чыны ў паўстанцкіх фарміраваннях, за выключэннем харунжых і падхарунжых, былі такімі, як і ў іншых еўрапейскіх войсках. Войскі паўстанцаў падзяляліся на палкі, роты і складаліся з кавалерыі, стральцоў і касінераў.

Кавалерыя была элітным родам паўстанцкіх войскаў. Вершнікі ўзбройваліся пікамі, шаблямі, карабінамі ці штуцэрамі. Стралкі звычайна былі ўзброены дубальтоўкамі ці штуцэрамі і халоднай зброяй. Касінеры — толькі косамі і пікамі, зрэдку штыкамі. Для аховы штаба звычайна існавалі «кракусы» — атрады лёгкай кавалерыі, якія ўступалі ў бой толькі пры крайняй неабходнасці. Вершнікі гэтых атрадаў мелі з узбраення пікі са значком, палаш і пісталет. Акрамя гэтага, існавалі асобна атрады конных стралкоў, мэтай якіх было адцягваць на сябе ўвагу ворага, нападаючы на малыя часткі варожых атрадаў, псаваць шляхі зносін, тэлеграф. Конныя атрады стралкоў падпарадкоўваліся павятовым вайсковым камандзірам. Артылерыі ў паўстанцаў не было, хоць і чакалі яе з Амерыкі. Толькі аднойчы паўстанцы ў бітве пры Аліце (цяперашні Алітус) спрабавалі стрэліць з драўлянай гарматы, але пры першым стрэле яна разарвалася.

Паўстанцкая ўніформа, нягледзячы на тое, што была зацверджана 2 чэрвеня, адсутнічала. Звычайна паўстанцы насілі канфедэратку,

чамарку, перацягнутую поясам з пражкай, якая была ўпрыгожана вывавай гербаў Польшчы і Вялікага княства ці патрыятычнымі надпісамі, а таксама даўгія боты. Стралкі насілі вопратку чорнага колеру, касінеры — звычайную сялянскую сярмягу.

Харчаванне для паўстанцаў рыхтавалася яшчэ ўзімку 1862–1863 гг. памешчыкамі ў сваіх уладаннях, гэта былі сухары, зерневы хлеб, вэнджанае (вяленае) мяса. Памешчыкі, па магчымасці, да апошняга забяспечвалі паўстанцаў харчаваннем і катламі для гатавання гарачых страў. Акрамя гэтага, паўстанцкі ўрад выдаваў невялікі заробак. Напрыклад, начальніку двух ваяводстваў было назначана ў месяц 1 000 злотых, ваяводзе — 600. Для генерала сутачныя складалі 10 злотых (1 руб. 50 кап.), вышэйшым афіцэрам — па 4 злотых, падпаручнікам, паручнікам і капітанам — па 2 злотых, ніжэйшым чынам — 10 грош. Для харчавання і выдачы заробку камандзір атрада браў на кожнага падначаленага па 10 злотых авансу на дзесяць дзён і 1 000 злотых на незапланаваныя выдаткі і здаваў гэтую суму ў казначэйства атрада.

Што тычыцца ўзбраення паўстанцаў, то рэвалюцыйныя паўстанцкія камітэты на чале з вайсковымі начальнікамі яшчэ ў 1862 г. нарыхтоўвалі ў мясцовых кузнях самаробныя пікі, косы, адлівалі кулі і спрабавалі набыць зброю з-за мяжы. Вялікая колькасць зброі была ахвяравана швейцарцамі, але не дайшла да Польшчы і Беларусі. Цэнтральны паўстанцкі камітэт праз сваіх агентаў у Данцыгу, Кёнігсбергу і Бромбергу набывалі зброю. Шэраг дакументаў сведчаць пра чаканне караблёў са зброяй з Генуі, Гамбурга і Манрэаля (Канада), якія павінны былі згрузіць яе паміж Палангай і Лібавай.

На працягу 10 дзён у лагеры пад Мілавідамі праходзілі трэніроўкі новых паўстанцаў. Асобныя атрады па 50–60 чалавек ездзілі па навакольных вёсках і абвяшчалі сялянам маніфест Нацыянальнага Ураду, а таксама забіралі з паштовых, валасных і паліцэйскіх устаноў грошы, зброю, коней, дакументы.

20 мая ў лагер прыйшоў атрад пружанскай і ваўкавыскай шляхты пад кіраўніцтвам палкоўніка Лянкевіча колькасцю каля 140 чалавек. У той жа дзень падышлі добраахвотнікі з Навагрудскага павета з Міладоўскім і ксяндзом Лашкевічам, але іх было няшмат.

21 мая паўстанцы даведаліся, што са Слоніма на іх рухаюцца расійскія войскі, раздзеленыя на 2 часткі — адна падыходзіць з боку Дабрамыслі, а другая з боку Чамялоў. Лянкевіч са сваім атрадам зладзіў

засаду ў лесе ля шашы, але яна была раскрытая ў выніку недасведчанасці добраахвотнікаў. Калі рускія разведчыкі падышлі да лесу, адзін з паўстанцаў не вытрымаў і выстраліў. У выніку перастрэлкі 2 рускія жаўнеры былі забітыя, а засада раскрытая.

У той жа вечар у лагер з праверкай прыехаў прадстаўнік паўстанцкага ўраду Канстанцін Каліноўскі разам з цывільным начальнікам Гродзенскага ваяводства Эразмам Заблоцкім. Яны агледзелі атрады і рушылі далей.

На наступны дзень да лагера падышлі ўжо ўсе рускія войскі. Гэта былі 2 роты Стараінгермландскага пяхотнага палка з 2 гарматамі. Яны з маршам пайшлі ў атаку, адціснулі першы шэраг паўстанцаў у лес. А вось там завязалася сур'ёзная баталія. Мясціны вакол лагера былі моцна забалочаныя і лясістыя, паўстанцаў было шмат, яны ведалі надзейнасць сваіх пазіцый і не адступалі. Больш за тое, з дапамогай новых атрадаў, якія падышлі з іншага накірунку, рускія войскі атрымалася адкінуць з краю лесу. Бітва цягнулася да вечара. Увесь гэты час страляла руская артылерыя, але з-за нязручнасці пазіцыі нанесла больш шкоды сваім войскам, чым паўстанцам. У выніку падпалкоўнік Бумарын даў загад адысці. Месца бітвы засталося за паўстанцамі — гэта было амаль што выключным выпадкам у тым паўстанні. Бітва цягнулася з 12 гадзін дня амаль да 8 вечара.

Па падліках паўстанцаў у гэтай бітве з іхняга боку было 18 забітых, а з рускага — ажно 240, большасць з якіх палегла ад сваёй жа карцечы. Рускі камандзір дакладаў аб 9 забітых і 40 параненых са свайго боку.

Калі на наступны дзень расійскія салдаты аглядалі ўжо пакінуты паўстанцамі лагер, то ніякіх трупаў яны там не знайшлі. Верагодней за ўсё інсургенты паспелі пахаваць сваіх сяброў. Толькі каля шашы было знойдзена 9 целаў тых паўстанцаў, якія загінулі пры першай атацы Стараінгермландскага палка.

Падпалкоўнік Бумарын даў загад пахаваць 9 рускіх салдат з аднаго боку дарогі, а 9 паўстанцаў з другога. З таго часу гэтыя магілы так тут і стаяць.

Першапачаткова на месцы магілы рускіх жаўнераў стаяў вялікі дубовы шасціканцовы крыж.

«Гродненский православно-церковный календарь» за 1899 г. так апісвае гэту магілу:

*«В 29-е августа к этому надмогильному кресту — памятнику — совершается по литургии из местной церкви великий крестный ход*

*местным причтом с прихожанами и поется у креста над обширною общею братскою могилой великая панихида по сложившим здесь свою жизнь доблесным христолюбивым воинам — защитникам Православной Российской державы, причем поминаются имена их по помяннику, в приходской церкви имеющемуся».*

Пахаванне паўстанцаў апісваецца так:

*«Нет тут ни креста ни камня, лишь былие травное, в большинстве крапивное».*

У 1913 г. да 50-годдзя паўстання драўляны крыж быў зменены на жалезны. У 1920-х гг. сітуацыя кардынальна памянялася. Гэтыя землі ўвайшлі ў склад Другой Рэчы Паспалітай, і таму ў 1933 г. у год 70-годдзя паўстання на месцы пахавання інсургентаў была ўзведзена вялікая мураваная каталіцкая капліца. У 1990-х гг. каля яе з'явіўся таксама камень-памятка ад сучасных беларусаў.

Пасля бітвы пад Мілавідамі, калі расійскія войскі адышлі, на вялікай нарадзе паўстанцы вырашылі разысціся атрадамі, разумеючы, што другі наступ аб'яднаных расійскіх войскаў яны не вытрымаюць. Палкоўнік Лянкевіч з ваўкавыскім і гродзенскім атрадамі рушыў у бок Палесся. Разам з Францішкам Юндзілам засталіся слонімскія добраахвотнікі, каля 40 чалавек Лянкевіча, навагрудскія добраахвотнікі Міладоўскага і ксяндза Лашкевіча. Узяўшы з сабою ўсё, што можна (частку абозу пакінулі, бо папросту не маглі хутка сабраць), атрад рушыў у вялікае балота каля ракі Гуры, дзе ў цяжкадасягальнай мясцовасці стаялі спецыяльна падрыхтаваныя валы і знаходзіліся запасы хлеба.

Аднак праз 3 дні адзін з тутэйшых вяскоўцаў вывеў расійскія войскі на гэту стаянку. Юндзіл быў папярэджаны (відаць, таксама кімсьці з вяскоўцаў) і таму паспеў са сваім атрадам сысці. Інсургенты рушылі ў бок Навагрудскага павета. Далей здарылася неспадзяванка, якая вызначыла ўсё далейшае развіццё паўстання ў Слонімскім павеце. Падчас адной са стаянак на вялікай паляне пасярод балота з-за лесу раптам пачуліся стрэлы і барабанны бой расійскіх войскаў. Спехам адступаючы атрад выпадкова разбіўся на групы — адна адышла з ксяндзом Лукашэвічам, а другая з Юндзілам. Пасля таго, як ад рускіх удалося адарвацца, абодва атрады згубілі адзін аднога. Юндзіл дайшоў, як і планаваў да Навагрудскага павета, дзе перадаў навагрудскіх добраахвотнікаў тамтэйшаму камандаванню, а сам вярнуўся на Слонімшчыну.

***З успамінаў Ігната Абрамовіча:***

*«Для слонімскага атрада пачалася пара самотнага маршу па лясах і балотах, сярод трывожных навінаў. Назіралі за імі лясы Ганцавіцкія, Барэцкія, Вяцкія, Тартацкія, Альбярцінскія, Моўчадскія, Мілавідскія, Быценскія... Аднойчы яны былі вымушаныя наблізіцца да самага Слоніма і схавацца на жыдоўскіх могілках.*

**Лукашэвіч з 60 чалавекамі адступіў ажно пад Дзятлава, а Юндзіл стараўся яго знайсці. Сам Лукашэвіч таксама шукаў Юндзіла, раз'яжджаючы па вёсках з 8 вершнікамі».**

*У выніку яны сустрэліся, але ўжо на наступны дзень, калі група Лукашэвіча спынілася ў аднаго лесніка, нейкая жанчына вывела на іх расійскія войскі. У бітве сам Лукашэвіч быў забіты 6 кулямі, а ягоныя людзі далучыліся да Юндзіла.*

Атрад блукаў па ўсім Слонімскім павеце, пазбягаючы сустрэч з расійскімі войскамі, хаваючыся ў балотах і зрэдчас заходзячы ў вёскі.

## Дабрамысль

5 (18) мая 1863 г. у 10.30 раніцы група паўстанцаў у колькасці каля ста чалавек прыбылі ў вёску Дабрамысль. Падзяліўшыся на дзве групы, накіраваліся — адна, прыблізна 60 чалавек, у вясковую царкву св. Мікалая, а другая — у маёнтак мясцовай шляхцянкі Тэрэзіі Юндзіл. Першая група паўстанцаў, пад'ехаўшы да царкоўнага двара, спынілася ля ўязной брамы.

*«Донесение бытеньского благочинного к приставу 5 стана города Слонима. О присяге крестьян деревни Добромысль 5 мая 1863 года Повстанческому правительству.*

*копия донесения священника Гриневича. Копия в сокращении.*

*Господину бытенскому благочинному, священнику (имя не разобрать) рапортует священник добромысленской Церкви, что 5 мая 1863 года к половине одиннадцатого утра к началу богослужения прибыли в Церковь два вооруженных инсургента, которые пробыли в Церкви до конца обедни. За тем когда я разоблачился, вызвали меня на погост Церковный, перед воротами которыми стояли в ширину вооруженные инсургенты числом около ста человек. Вышедшему из Церкви Народу Начальник шайки прочитал возмутительный против правительства манифест и заставил народ присягать на верность Польскому Правительству. После этого ксендз бывший в шайке …*

*привел крестьян бывших в Церкви к присяге. Начальник шайки принуждал и меня вместе с кристьянами присягать, но я отказался. По окончанию присяги, Начальник шайки принуждал меня следовать в плебанный дом, куда весь отряд и Крестьяне последовали. Здесь приготовлена была, должно быть, по распоряжению Начальника шайки закуска, состоящая из масла, сыра и хлеба, а так же и … водки, каковая предложена была Начальником Инсургентов … Крестьянам. Сам Начальник и ксендз с несколькими приближенными себе людьми распорядились, … подать чай и закуску.*

*По распоряжению Начальника приведены были в плебанский дом ксендзом местный Волостной Старшина, Сотский и Десятский. О всех своих действиях в селе Добромысль Начальник Инсургентов составил акт, который передал на руки местному Волостному старшине. О чем честь имею донести Вашему Высокопреподобию.*

*(Подпись) Священник Михаил Гриневич 1863 год мая 6 дня.*

*С подлинником верно. Бытеньский благочинный священник (имя не разобрать). »*

З акту, складзенага камандзірам паўстанцкага атраду ў вёсцы Дабрамысль (копія акта захавалася ў НГАБ у Гродне), ведаем імя гэтага камандзіра — ім быў Ісідар Лукашэвіч.

Аб дзеяннях другой групы паўстанцаў, якія паехалі ў Дабрамысленскі маёнтак, распавядае наступны дакумент .

*«Его Благородию Становому Пристову Слонимского Уезда 5 стана Господину Кавельмахеру.*

*Старшины Слонимскаго уезда*
*Добромысленской волости*

*Донесение*

*1863 года мая 5 дня в 11 часов утра то есть в самое время утренняго молебствия, прибыли вооруженные инсургенты с двустволы и револьвера и кинжалы, неизвестно с которой стороны около ста человек приостановились перед Церковью в военном фрунте и после молебствия объявили возмутительный манифест и токовой вручили местному старосте Омельяну Хведосику для хранения, а мне дали Акт. При каковом объявлении приказали выполнить присягу всему народу на верность польскому правительству, при коим объявили не платить за землю чиншев и повинностей, между чем приказали никого не слушать, меня ж самого звязали и смертию угрожали ежели буду*

*о чем доносить и принуждали меня тоже выполнить присягу. И после всего отправились за деревню по направлению дороги до Шоссе. О чем имею честь Вашему Благородию донести.*

*Дата …(не разбролiва) Мая 1863*»

Усяго ў перыяд ад 17 мая да 2 чэрвеня 1863 года на тэрыторыі Слонімскага павета па дакументам, складзеным царскім палкоўнікам Клаверам, які займаў пасаду вайсковага начальніка Слонімскага павета, у 6 вёсках пры цэрквах паўстанцамі былі зачытаны маніфесты і ў 5 з іх прынята прысяга. Гэтыя дзеянні спрыялі папаўненню атрада Францішка Юндзіла сялянамі, тым самым ператварылі яго ў адзін з буйных у Гродзенскай губерні, які на прыканцы мая налічваў 311 чалавек.

Ужо пасля падаўлення паўстання, маёнткі Дабрамысль і Югалін былі канфіскаваны і прададзены Івану Варанцову-Вельямінаву, прадстаўніку старадаўняга рускага роду, які паходзіў з XIV ст. і быў ў радстве з А.С. Пушкіным, тым самым паклаў пачатак беларускай лініі рода Пушкіна. Прадстаўнікі гэтага роду жылі тут да 1939 г., пасля былі рэпрэсаваныя і вывезены ў Казахстан. Аб іх у Дабрамыслі цяпер нагадваюць толькі надмагільныя помнікі прадстаўнікоў гэтага роду ля царквы. Царква тая была пабудавана ў 1874 г., а старая Дабрамысленская царква да сённяшняга дня не дайшла, але захавалася яе выява на фотаздымку 1915 г.

## Чамялы

(будынак паштовай станцыі Чамялы знаходзіца на трасе Р2 за 5 км. перад ракой Шчарай, калі ехаць з Мілавідаў на Слонім)

У часы Расійскай Імперыі прызначэнне і функцыянаванне пошты моцна адрознівалася ад сучаснасці. Акрамя перавозу лістоў, пошта займалася таксама перавозамі і ўлікам падарожнікаў. Рабілася гэта пры дапамозе шматлікіх паштовых станцый, раскіданых па ўсёй краіне. Ад пачатку ў Расійскай імперыі дзейнічала практыка прыватных паштовых станцый, якія будаваліся пасля ўзгаднення з Паштовым Дэпартаментам, але прыватнымі асобамі з разлікам на прыбытак ад конных перавозак.

У 1842 г. уся паштовая справа перайшла з рук прыватных уласнікаў і мясцовых уладаў у падпарадкаванне Паштовага Дэпартамента. З гэтага часу па ўсёй краіне пачынаюць узводзіць тыповыя будынкі

паштовых станцый. Разумеючы, што гэтыя будынкі стануць у будучым «тварам» самой імперыі для падарожнікаў, пры іх будаўніцтве часта выкарыстоўвалі папулярны тады стыль псеўдаготыкі.

Ставілі такія будынкі на вялікіх трактах і былі яны досыць простага плана: падзяляліся на «чыстую» і «чорную» паловы. У першай адпачывалі паны, а ў другой — іх слугі.

Пры поштах трымалі коней, якіх можна было выкарыстаць для пераезду да наступнай станцыі коштам 4 кап. за вярсту.

Аднак атрымаць каня маглі толькі тыя, хто меў падарожныя — спецыяльныя кніжкі, якія мусілі мець падарожнікі, дзе станцыйны наглядчык ставіў адзнаку аб прыбыцці на станцыю.

У маі 1863 г. сюды, на Чамярскую станцыю, наведаўся атрад паўстанцаў Юндзіла. Перад гэтым яны пабывалі на паштовай станцыі ў Мілавідах. Такая цікавасць да гэтых аб'ектаў не дзівіць. На станцыях заўсёды былі коні, грошы, можна было перахапіць нейкую важную карэспандэнцыю.

***З запіскі Слонімскага земскага спраўніка Віленскаму генерал-губернатару ад 27 красавіка 1863 г.:***

*«Ввереного мне уезда, с 25 на 26 число сего апреля месяца, ночью, шайка мятежников, вооруженных в пистолеты и тесаки 50 человек, явилась на Миловидскую почтовую станцию, арестовав смотрителя станции, приказала с угрозами старосте запречь пять троек лошадей и отправилась по дороге в Гавеновичи, но, отъехав 10 вест, возвратилась обратно на станцию; отдохнув, не выпрягая лошадей, отправилась по тракту в Чемелы и, не доезжая пять верст, отправила лошадей обратно на станцию, с которой забраны ею находящиеся на станции казенные два письма и сабля, а также от Миловид до Чемиол по шоссе срублено мятежниками пять столбов телеграфических, — мятежники же бежали в лес».*

Акрамя паштовых станцый, у інсургентаў быў яшчэ адзін важны аб'ект — вясковыя цэрквы: месца, дзе можна было агітаваць сялян. Цэнтральнай царквой гэтай часткі Слонімскага павета была старадаўняя быценьская царква.

## Быцень

Упершыню Быцень згадваецца ў старадаўніх дакументах у 1555 г. як маёнтак роду Давойнаў. У другой палове XVI ст. у Быцені часта

мяняюцца гаспадары: пэўны час ён належаў князям Адзінцэвічам, пасля Хадкевічам, пакуль напрыканцы XVI ст. не стаў уласнасцю шляхецкага роду Трызнаў. Менавіта прадстаўнікі гэтага калісьці знакамітага роду заснавалі ў Быцені Успенскі манастыр. Здарылася тое ў 1607 г. Першапачаткова манастыр планавалі зрабіць жаночым, бо фундаваўся для дачкі Рыгора Трызны — Еўфрасінні, аднак яна прыняла пострыг у Віленскім базыльянскім кляштары, таму Быценскі манастыр стаў мужчынскім. Адным з першых настаяцеляў у 1613 г. быў ужо досыць знакаміты на той час манах і прапаведнік Язафат Кунцэвіч. У 1615 г. пры Успенскім манастыры з дазволу і дабраслаўлення Папы Рымскага быў адчынены Навіцыят (духоўная школа), з якой у будучым выйшлі вядомыя дзеячы ўніяцкай царквы. Пазней, у 1626 г. пры манастыры быў заснаваны шпіталь на 10 месцаў па фундацыі Мікалая Трызны. У часы вайны Рэчы Паспалітай з Маскоўскім царствам (1654–1667) ва Успенскім манастыры хаваліся прадстаўнікі ордэну з Вільні, Полацка, Віцебска, Мінска, а таксама тут захоўваўся абраз Жыровіцкай Божай Маці. З сярэдзіны XVII ст. маёнтак Быцень стаў уласнасцю манастыра. Паступова зямельныя ўладанні раслі, і ў пачатку XVIII ст. ён ужо быў адным з найбольш заможных манастыроў базыльянскага ордэна. Як раз у гэты час была пабудавана мураваная Траецкая царква. Але ўжо ў 70-я гг. XVIII ст. для манастыра пачаліся цяжкія часы, перш за ўсё звязаныя з зацяжнымі судовымі працэсамі з прадстаўнікамі роду Тызенгаўзаў (нашчадкі маёмасці роду Трызнаў), у выніку якіх манахі страцілі значную частку маёнтка Быцень. З уваходам Быценя ў склад Расійскай імперыі пасля падзелаў Рэчы Паспалітай становішча манастыра яшчэ больш ускладнілася. На 1839 г., калі адбылася ліквідацыя ўніі, у манастыры было 25 манахаў і 8 паслушнікаў. Сюды, у Быценскі манастыр расійскія ўлады інтэрнавалі непакорных уніяцкіх святароў, але ўжо ў 1845 г. манастыр зачынілі, манастырскі сабор Св. Язафата перарабілі пад прыходскую царкву Св. Пятра і Паўла, якая заставалася цэнтрам благачыння да 1915 г.

Сітуацыя ў вёсцы і да пачатку паўстання была няпростая: у 1856–1857 гг. у маёнтку Быцень адбываліся буйныя выступленні сялян.

***З Данясення слонімскага земскага спраўніка гродзенскаму губернатару ад 6 лістапада 1856 г.:***

*«Ваше превосходительство, сим почтительнейше донести честь имею, что во вверено мне уезде у некоторых крестьян имения Бытень малолетних графов Потоцких обнаружился дух неповиновения, кои ослушиваются арендным своим владельцам, администрационому*

*управлению и даже местным властям, во-первых, в неприятии ими книжек, которые по воле правительства велено раздать всем крестьянам, в коих разъяснено, сколько каждый из крестьян обязан уплачивать казенных податей, сколько ссыпать хлеба в сельский запасной магазин, сколько отбывать дворовых повинностей и прочее, во-вторых, через объявление ими, что они не желают быть крепостными крестьянами своих владельцев и хотят быть казенными, и в-третьих, что в настоящем времени некоторые из них и даже уже многие из других деревень начали сильно волноваться и уклоняться от уплаты казенных податей, отказываться от ссыпки хлеба в запасной магазин.*

*… Некоторые даже из них дерзнули еще в присутствии нашем подстрекать других крестьян, говоря громким голосом, чтобы книжек ни под каким предлогом никто ни имел бы брать, а в особенности один из их крестьянин Кондрат Райка, более всех кричал и подстрекал к тому других крестьян, за что я его тут же и приказал было посадить под арест, но после того, как крестьяне мною были отпущены домой, то они же сами посаженного мною под арест крестьянина Райка самовольно освободили и отправились домой, что уже с их стороны было величайшим самоволием и явным пренебрежением моей власти, когда же я о том узнал, то вторично распорядился посажением под арест не только крестьянина Райка, но вместе с ним двух других крестьян, способствовавших к освобождению его, кои и теперь содержатся под строгим караулом.*

Гэта справа скончылася тым, што ў Быцень і ахопленыя хваляваннем вёскі былі накіраваны войскі, дзве казацкія сотні, якія прастаялі там восем месяцаў. Аднак пасля іх адыходу сяляне з вёсак Даманава і Гнойна з Быценскага маёнтка зноў адмовіліся выконваць паншчыну. Тады ў гэтыя вёскі зноў былі накіраваны войскі ў складзе двух рот пяхоты, якія прымусілі сялян да выканання іх павіннасцяў. У выніку з ліку паўстаўшых сялян частку саслалі на катаржныя працы ў Сібір, а іншую частку аддалі ў рэкруты.

Раніцай 19 мая (1 чэрвеня) 1863 г, калі святар быценскай царквы служыў літургію, паўстанцкі аддзел заняў мястэчка Быцень і пашыхтаваўся ля царквы. Па сканчэнні абедні інсургенты выклікалі святара на царкоўны двор, але ён адмовіўся выйсці і застаўся ў алтары. Тады камандзір паўстанцаў звярнуўся да сялян, якія выйшлі на царкоўны двор, і зачытаў ім Маніфест, пасля чаго прапанаваў прысягнуць на вернасць Паўстанцкаму ўраду. Але сяляне адкрыта адмовіліся гэта рабіць і зноў зайшлі ў царкву. Інсургенты не рашыліся заходзіць у царкву

і прымушаць сялян. Пачакаўшы крыху ў двары, яны вымушаны былі з'ехаць. Гэта быў адзіны выпадак у павеце, калі сяляне адкрыта адмовіліся прымаць прысягу. Прычына тут крыецца ў асобе святара.

Падчас паўстання Быценскім благачынным быў Наркіз Пяшкоўскі. Як сведчаць архіўныя дакументы, ён быў актыўным і дзейсным святаром. Яму былі падначалены Дабрамыслеўскі, Мілавідскі, Люшнеўскі і Гавенавецкі прыходы — як раз тыя, дзе аб'яўлялі сялянам Маніфест і прымалі ў іх прысягу на вернасць паўстанню. Менавіта свайму благачыннаму ў першую чаргу адпраўлялі рапарты святары гэтых прыходаў, апавядаючы пра прыезд інсургентаў і сваю вымушаную прысягу. Менавіта ён першы даносіў да ведама Слонімскага вайсковага начальніка палкоўніка Клавера пра тыя падзеі. За 12 дзён паўстанцы прывялі да прысягі прыхаджан з чатырох падуладных яму прыходаў, пабывалі нават у шылавіцкай царкве, якая знаходзіцца ў 8 км ад Слоніма. Найбольш верагодна, што Пяшкоўскі рыхтаваў сялян да будучай сустрэчы з паўстанцамі, даводзіў ім ганебнасць выступлення супраць цара і, хутчэй за ўсё, апавядаў распаўсюджаны тады аргумент, нібыта паны паўсталі, каб вярнуць прыгон.

У той жа дзень святар Пяшкоўскі склаў чарговае данясенне пра гэтае здарэнне, напрыканцы якога прасіў узнагародзіць хаця б трох сялян за мужны ўчынак.

*Приказ Виленскаго генерал-губернатора от 11 августа 1863 года о награждении крестьян м. Бытень, которые 19 мая 1863 года отказались присягать на верность мятежу, Высочайшей представленной мне властью нагрождаю крестьянина церковнаго старосту Иосафата Масловского, крестьянина Василия Стриковича и крестьянина Игнатия Симусика медалями «За усердие» на Аннинской ленте.*

Атрымалася так, што, калі ў Быцені для паляпшэння сваёй долі паўсталі сяляне, шляхта ніяк не адгукнулася на іх патрабаванні, а калі ў 1863 г. паўстала сама шляхта — ад іх адвярнуліся сяляне. Дзве найбуйнейшыя тутэйшыя сацыяльныя групоўкі так і не змаглі паразумецца, што спрычынілася да паразы абодвух бунтаў. У гэтым сэнсе Быцень досыць яскравы прыклад таго, што адбывалася ў тыя гады па ўсёй Беларусі.

У наступным годзе ў Быцені адкрылі народную вучэльню з сярэднім наборам у год каля 210 вучняў. Царква Св. Пятра і Паўла дзейнічала да 1915 г., калі была зруйнавана. Пасля Другой сусветнай вайны яе рэшткі разабралі. Захавалася Свята-Успенская царква 1654 г.

будаўніцтва, якая першапачаткова была капліцай пры кляштары базыльянаў, а ў 1845 г. ператворана ў Праабражэнскую царкву.

## Шылавічы

Шылавічы — вёска ў Слонімскім раёне з насельніцтвам у 1 400 чалавек. Упершыню ўпамінаецца ў летапісах у сярэдзіне XV ст. як пасаг дачцэ князя Пяцігорскага, якая выходзіла замуж за Юндзіла. Пасля Шылавічамі валодалі Няміры, Сапегі, Бжастоўскія, а з 1809 па 1939 гг. — Пуслоўскія. У XIX ст. вёска была цэнтрам так званага «Шылавіцкага ключа», у склад якога ўваходзілі Чапялёва, Альбярцін, Якімавічы і іншыя навакольныя вёскі. Сярод старых пабудоў, якія памятаюць далёкія падзеі 1863 г., у вёсцы засталася царква.

Шылавіцкая царква Казанскай Божай Маці была пабудавана Войцехам Пуслоўскім у 1818 г. і падчас паўстання ў маі 1863 г. стала адной з шасці праваслаўных цэркваў Слонімскага павета, на падворку якой быў зачытаны Паўстанцкі маніфест і адбылася прысяга мясцовых сялян паўстанню.

Выбар паўстанцамі Шылавічаў выклікае здзіўленне. У адрозненні ад таго ж Быценя ці Дабрамыслі, Шылавічы знаходзіліся вельмі далёка ад паўстанцкага лагера і ў той жа час рызыкоўна блізка да Слоніма, дзе стаяў моцны расійскі гарнізон.

Адказ на гэтае пытанне можна знайсці ў вызначэнні пазіцыі ў дачыненні да паўстання і ролі ў ім уладароў Шылавіч — Пуслоўскіх, адNаму з найбагацейшых родаў у Гродзенскай губерні.

Род Пуслоўскіх вядомы з пачатку XVII ст., дзякуючы Якубу Пуслоўскаму — падстолію рэчыцкаму, старасце акштынскаму, «каралеўскаму авёснаму», ўдзельніку паходу Яна Караля Хадкевіча на Маскву. Род Пуслоўскіх да пачатку XIX ст. быў малавядомы і незаможны. Толькі дзякуючы Войцеху, прадстаўніку гэтага роду, які жыў з 1762 па 1833 гг., Пуслоўскія ператварыліся ў адну з найбагацейшых і ўплывовых фамілій у заходняй Беларусі XIX — першай паловы XX стст. Па словах кс. Трынкоўскага (сучасніка Войцеха Пуслоўскага), «шляхецкае імя Пуслоўскіх і гонар маёнтка Пескі — адзінае, што атрымаў ад сваіх продкаў у спадчыну гэты чалавек, на схіле жыцця быў уладальнікам душ дваццаці тысяч». Войцех Пуслоўскі здолеў стварыць вялікую латыфундыю ў былым Слонімскім павеце, акрамя гэтага, меў таксама маёнткі ў Віленскай, Ковенскай і Магілёўскіх губернях. Аднак Войцех Пуслоўскі вылучаўся сярод іншых магнатаў не памерамі сваіх

зямельных уладанняў, а тым, што ў сваіх маёнтках пачаў адкрываць фабрыкі і будаваць дарогі з каналамі. Фактычна стаўшы піянерам прамысловасці на старадаўняй Літве, ён адыграў важную ролю ў пераадоленні шляхецкіх прымхаў у адносінах да заняткаў гандлем і прамысловасцю. Сярод буйных прамысловых аб'ектаў, створаных Войцехам Пуслоўскім, былі наступныя: папяровая фабрыка ў Кучкурышках пад Вільняй, суконная мануфактура ў Хомску, прадпрыемства па вытворчасці шкіпінару ў Міхаліне і, безумоўна, славутая папяровая фабрыка паблізу Шылавіч — у цяперашнім Альбярціне. Войцех Пуслоўскі быў вельмі рэлігійным чалавекам і стаў фундатарам шматлікіх касцёлаў і цэркваў, у першую чаргу на Слонімшчыне.

Асноўная частка спадчыны гэтай «прамысловай імперыі» ў 1833 г. пасля смерці Войцеха Пуслоўскага адышла яго сынам. Да 1863 г. уладарамі земляў і прамысловых аб'ектаў была ўдава графіня Генафева Пуслоўская (1821–1867) і малодшы сын Войцеха Вандалін Пуслоўскі (1814–1884), які меў «Косаўскі ключ», Свіслач, Хомск і іншыя маёнткі. Менавіта ён побач з адрэстаўраванай ім жа сядзібай Касцюшкаў у Мерачоўшчыне (дзе нарадзіўся Тадэвуш Касцюшка) пабудаваў свой знакаміты Косаўскі палац у стылі віктарыянскай готыкі ў супраціў афіцыйнаму на той час у Расійскай імперыі класічнаму стылю.

Паводле дакументаў і ўспамінаў як паўстанцаў, так і прадстаўнікоў імперскай адміністрацыі, ні Вандалін Пуслоўскі, ні Генафева Пуслоўская не прымалі адкрытага ўдзелу ў паўстанні. Гэта не выпадкова, бо Пуслоўскія ў 30-я гг. XIX ст. мелі вялікія праблемы з-за ўдзелу ў Лістападаўскім паўстанні сына Войцеха — Цітуса Пуслоўскага, які быў начальнікам паўстання ў Пінскім павеце, назбіраў атрад у 1 000 чалавек, пераважна з дробнай шляхты, слуг і сялян са сваіх маёнткаў, а таксама з паўстанцаў з суседніх паветаў. Атрад Ціта напрыканцы лета 1831 г. быў разбіты, «ён сам, паранены ў бітве, пакінуў поле бою з групай таварышаў і, адарваўшыся ад пагоні, падаўся на Валынь. Згодна рашэння ўтворанай ужо ў маі 1831 г. у Мінску Губернскай следчай камісіі па вядзенні спраў удзельнікаў паўстання, Пуслоўскі быў прылічаны 29.11 (12.III) 1832 г. да I катэгорыі злачынцаў».

Будучы камандуючы войскамі Віленскай ваеннай акругі, генерал-губернатар Віленскай, Ковенскай, Мінскай губерняў і галоўны начальнік Віцебскай і Магілёўскай губерняў, а на той час губернатар Гродзенскі Міхаіл Мураўёў устанавіў за сям'ёй Пуслоўскіх і непасрэдна Войцехам Пуслоўскім паліцэйскі нагляд. Матываваў гэта перакананнем, што «ўдзел яго ў бунце ёсць надта відавочны з розных звестак, якія

сабраны аб шайцы яго сына Цітуса і аб удзеле ў бунце другога яго сына Уладыслава, каб сумнявацца адносна слушнасці сабраных аб ім сведчанняў і падаючых на яго падазрэнняў». Напэўна, Пуслоўскі рупліва ачысціў сябе і свайго сына Уладыслава ад тых падазрэнняў. Каб захаваць маёнтак Цітуса ад канфіскацыі, Пуслоўскі пазбавіў яго права на спадчыну, перадаўшы яго маёмасць братам. Гэта не дапамагло, і пачаліся шматлікія судовыя працэсы. Войцех Пуслоўскі, які ўсё жыццё захоўваў вельмі добрыя адносіны з царскай адміністрацыяй, не вытрымаў усіх гэтых разбораў і памёр 3 сакавіка 1833 г. якраз у Шылавічах.

Сведкамі тых падзей былі нарачоная Уладыслава Пуслоўскага Генафева Друцка-Любецкая і Вандалін Пуслоўскі. Яны разумелі, што іх чакае, калі будзе даказаны іх удзел у паўстанні, — вельмі «красамоўна» пра гэта намякнуў Міхаіл Мураўёў, па загаду якога расстралялі прадстаўніка роду Пуслоўскіх Адама Пуслоўскага. Адам Пуслоўскі быў унукам Караля Пуслоўскага, роднага брата Войцеха (1762–1833), жыў з бацькамі ў маёнтку Сенна, што знаходзіўся паблізу Навагрудка. Уступіў у паўстанцкі атрад, але ў канцы мая 1863 г. быў схоплены, абвінавачаны ў тым, што з'яўляўся камандзірам паўстанцкага атрада (у 20 год!) і па загадзе Мураўёва расстраляны ў Навагрудку 14 (26) чэрвеня 1863 г. Таму ніхто з уласнікаў «Пуслоўскіх ключоў» адкрыта не падтрымаў паўстанцаў.

Аднак, разглядаючы рапарты царскіх афіцэраў, відаць, што паўстанцкія атрады вельмі часта з'яўляліся менавіта ў маёнтках Пуслоўскіх, забіралі працоўных з іх фабрык. Увогуле за ўвесь час паўстання непасрэдна яшчэ ў трох маёнтках Пуслоўскіх адбыліся бітвы паўстанцаў з імператарскімі войскамі: Пескі 9 траўня 1863 г.; Мерачоўшчына 8 чэрвеня 1863 г. — бой атрада Духінскага; Пескі каля возера Чорнае 13 чэрвеня 1863 г. — бой атрадаў Влодака і Ваньковіча. Да таго ж, нават паліцэйскія жандары з гэтых зямель дасылалі свае рапарты начальству на некалькі дзён пазней за іншых. Ды і самі Пуслоўскія не напісалі ніводнага ліста вайсковаму кіраўніцтву, каб растлумачыць такую канцэнтрацыю паўстанцкіх атрадаў на сваіх землях.

У той жа час сусед Пуслоўскага, граф Слізень, на практыцы даказваў свае вернападданыя пачуцці і самастойна пісаў даносы палкоўніку Клаверу аб з'яўленні інсургентаў у ягоным маёнтку ў Новадзявяткавічах. Тое ж зрабіла і Тэрэзія Юндзіл, уладарка маёнтка Дабрамысль. Гэта дае падставы меркаваць, што Пуслоўскія, максімальна хаваючы свой удзел, дапамагалі змагарам у справе за адраджэнне Рэчы Паспалітай.

Таксама можна выказаць здагадку, што, рызыкнуўшы падысці так блізка да горада, інсургенты былі больш-менш упэўненыя, што сяляне тутэйшых зямель паставяцца да іх прыязна і не паведамяць расійскім войскам пра з'яўленне «мяцежнікаў». Аналізуючы падзеі ў Косава, Альбярціне і тут, у Шылавічах, можна меркаваць, што Пуслоўскія мелі вялікі аўтарытэт у сваіх былых прыгонных, і гэта спрыяла спакойнаму перасоўванню паўстанцаў па іхніх землях.

## Сяляне ў паўстанні

Гісторыкі сціпла пішуць, што сяляне паўстанне не падтрымалі, бо не разумелі ягоных мэтаў. Прапаганда тых часоў наперабой пісала, што сяляне Паўночна-Заходніх губерняў супольна сталі на абарону «цара-бацюшкі», аб'ядналіся ў ахоўныя атрады і самастойна лавілі інсургентаў. У гэтым ёсць свая праўда: сяляне аказвалі вялікую дапамогу расійскім войскам, выводзілі іх да лагераў паўстанцаў і пасля бітваў лавілі па лясах тых, хто хацеў збегчы. Але матывацыя гэтых дзеянняў не такая простая, як можа падацца з першага погляду.

Важную ролю тут адыграла рэформа 1861 г., паводле якой сяляне атрымлівалі асабістую свабоду і станавіліся патэнцыйнымі ўласнікамі сваіх зямельных надзелаў. Але свае надзелы яны мусілі выкупіць. Палажэнні рэформы вызначалі 9-гадовы пераходны перыяд. На гэты час памешчыкі захоўвалі свае ўладныя паўнамоцтвы, а сяляне заставаліся ў статусе «часоваабавязаных» і працягвалі адбываць паншчыну. Усе ўмовы гэтых часовых абавязацельстваў паміж селянінам і ягоным былым гаспадаром прапісваліся ў спецыяльным дакуменце, які называўся ўстаўной граматай і складаўся самім памешчыкам. Для разбору спрэчак у кожным павеце быў прызначаны міравы пасярэднік, досыць часта з ліку мясцовай шляхты. Пасля праверкі правільнасці ўстаўных грамат міравымі пасярэднікамі яны ўводзіліся ў дзеянне нават у тым выпадку, калі сяляне і не пагаджаліся з умовамі вызвалення.

Відавочна, што ўмовы гэтых грамат не маглі задаволіць сялян. Большасць сялянскіх гаспадарак у Слонімскім павеце ў 1861–1862 гг. не падпісвала ўстаўныя граматы, у некаторых месцах адбыліся выступленні сялян. Напрыклад, у 1862 г. у Дабрамысленскай воласці Слонімскага павета адбыліся сялянскія хваляванні. Былыя сяляне памешчыка Керсноўскага вёсак Мловіцы, Кулькі, Скорышкі былі незадаволены тым, што замест іх ранейшых надзелаў паблізу іх дамоў Керсноўскі выдзеліў ім «няўдобіцу за 10 верст», кошт якіх, паводле

ўстаўной граматы, завышаўся ў некалькі разоў. Але большасць сялянскіх выступленняў у Слонімскім павеце была выклікана нежаданнем сялян выконваць былыя павіннасці на карысць памешчыкаў.

***Данясенне палкоўніка корпуса жандараў гродзенскаму губернатару ад 4 ліпеня 1861 г.:***

*«Приеховши из Слонима 30 прошлого июня в имение Новые Девятковичи помещика Слизня, который за несколько дней до того выехал в другое имение свое Минской губернии, я дождался прибытия туда 2-ого числа июля двух рот Великолуцкого пехотного полка и приказал собрать 3-его числа крестьян со всех деревень как этого имения, так и из соседнего — помещицы Коллупайловой. Сверх сего, дворовыми управлениями помещиков Пусловского, Микульского, Чечета, Милачевского, Бранского, Шумовича, Орды, Свежинского, Есьмона выслано было из их имений по несколько человек, дабы они были очевидцами распоряжения с крестьянами Слизня и Коллупайловой.*

*По сбору крестьян и размещению около них по моему распоряжению войск мировой посредник Микульский, местный священник и исправник вновь объяснили им обязанность исполнения повинностей по инвентарям, но крестьяне по-прежнему решительно отказались от выходов на гвалты; тогда, войдя в середину их, я приказал местному становому приставу громко читать те статьи высочайшего манифеста и Положения, которые относятся до их обязанностей, подробно объяснил им сам лично истинное содержания каждой статьи, но крестьяне с упорством твердили, что как в Положении не упоминается о гвалтах (ст. 10 Правил о порядке приведения в действие положения о крестьянах), то и не будут исполнять их. Видя совершенную безуспешность словесных внушений, я предоставил исправнику подвергнуть при содействию военной силы полицейскому взысканию тех крестьян, и в особенности десятских, которые замечались в дерзости и подстрекательстве других к непослушанию. Сначала несколько крестьян сделали попытку к отнятию наказываемых, но были тот час отодвинуты солдатами на свои места и в последствии остались спокойными и вскоре стали виниться и обещали исполнять все повинности по инвентарям. Из 245 крестьянских дворов помещиков Слизня и Коллупайловой, оказавших неповиновение, был в сборе 201 человек, из коих 39 человек подвергнуто полицейскому взысканию от 10 до 100 розг.*

*Полагая за сим данное мне в. п. поручение оконченным, я выезжаю из имения Новые Девятковичи и, вследствие представления ко мне*

*слонимского исправника от 2 июля за № 881, признавая необходимым временное расквартирование в уезде находящихся здесь 2 рот Великолуцкого пехотного полка, я оставил эти роты в распоряжение исправника для содействия ему к привидению в послушание крестьян имения помещика Бронского (отстоящего отсюда в 35 верст), которые тоже отказываются на выходы на сгоны, а так же на случай надобности в военной силе по причине замечаемого исправником и самим мною волнений крестьян в других имениях, о чем и сообщил я ему 4 июля за № 167, добавляя, чтобы без крайней надобности не задерживать войска, а командующему или капитану Губскому дано от меня соответствующее предписание 4 июля № 166».*

На працягу 1862 г. у Беларусі адбылося каля 150 сялянскіх выступленняў, на іх падаўленне самі ж памешчыкі выклікалі расійскія войскі і досыць часта заспакаенне незадаволеных адбывалася з дапамогай палак і розгаў. Былі нават выпадкі высылкі ў Сібір.

У 1863 г. усё перакруцілася наадварот. Цяпер бунтавала шляхта, а сяляне, у тым ліку памятаючы мінулагоднія крыўды, дапамагалі расійскім войскам.

Вялікую ролю ў гэтым ідэалагічным змаганні гралі, канешне, святары. На тэрыторыі Беларусі добра прасочваецца той факт, што найбольш сялян у паўстанцкіх атрадах было ў межах буйных каталіцкіх парафій і наадварот. Пазбаўленыя іншых крыніц інфармацыі, непісьменныя, сяляне часта ўспрымалі словы святароў, як ісціну ў апошняй інстанцыі. Праваслаўнае святарства пасля набажэнстваў усяляк даводзіла афіцыйную версію ўладаў, што паны паўсталі, каб вярнуць паншчыну і прыгон. Гэта было больш зразумела простым людзям, чым абстрактныя заклікі да свабоды паўстанцкіх камандзіраў.

Мітрапаліт Іосіф Сямашка па ініцыятыве Мураўёва разаслаў па цэрквах распараджэнне чытаць падчас службы малітву аб заканчэнні паўстання:

*«О еже очистити нас от грехов и беззаконий наших, изсушающих в нас яже к Нему (Богу) и ко искреннему любовь, водрузи же ю силою, действом и благодатию Пресвятого Своего Духа и вкоренити в сердца всех нас, прилежно Господу помолимся».*

*«О еже влияти на нас Духа кротости, братолюбия, мира и всякого благочиния и утолити межусобную брань и всякое людей своих озлобление, Господу помолимся».*

*«Еще молимся о еже утолити вся крамолы, нестроения, раздоры же и кровопролития, грех ради наших сущея, и утолити вскоре междусобную брань и помиловати нас».*

Каб канчаткова перацягнуць сялян на свой бок, па прапанове Мураўёва 1 сакавіка 1863 г. быў абвешчаны Указ аб сялянах Паўночна-Заходняга краю.

***З Указу аб сялянах Паўночна-Заходняга краю:***

Признавая ныне необходимость, по местным обстоятельствам означ*енных [ниже] губерний, облегчить и ускорить в оных прекращение обязательных отношений между помещиками и поселенными на их землях временно-обязанными крестьянами посредством выкупа сими последними земель их надела с содействием правительства, мы повелеваем принять для этого следующие меры:*

*1) в губерниях Виленской, Гродненской, Ковенской и Минской, в Динабургском, Дриссенском, Люцинском и Режицком уездах губернии Витебской с поверкою повинностей соединяется и выкуп поселенными на помещичьих землях временно-обязанными крестьянами, состоящих в пользовании сих крестьян угодий;*

*2) все обязательные поземельные отношения между помещиками и поселенными на их землях временно-обязанными крестьянами в вышепоименованных губерниях и уездах прекращаются с 1 мая сего 1863 г.*

Для Мураўёва гэты ўказ быў вымушанай мерай, бо яшчэ ў 1862 г. ён выступаў супраць любога паслаблення для сялянства, за што быў нават выдалены з імператарскага двара. Але ў выніку гэты крок спрацаваў, асабліва ў праваслаўных вёсках: у ідэалагічнай барацьбе перамога засталася за царскай уладай.

Мы не ведаем пра дакладныя настроі жыхароў гэтай вёскі, але выглядае на тое, што мясцовыя сяляне таксама прынялі новы ўказ прыязна і да паўстанцаў не пайшлі. Можна меркаваць, што яны проста хацелі перасядзець гэты перыяд спакойна. Аднак у генерал-губернатара было на тое сваё меркаванне.

Пытанне аб тым, наколькі беларускія сяляне падтрымалі гэтую ініцыятыву, застаецца адкрытым. З аднаго боку, відавочны аўтарытэт праваслаўных святароў, канфлікты з панамі, агульны недавер да прадстаўнікоў вышэйшых саслоўяў заахвочваў людзей брацца за вілы і косы і ў складзе такіх вось аддзелаў удзельнічаць у затрыманні паўстанцаў. Немалую ролю тут часта ігралі і служылыя салдаты, якія, адваяваўшы па 10–20 год у расійскім войску, удзельнічаючы

ў Крымскай вайне, зразумела, вярталіся ў родныя мясціны адданымі прыхільнікамі царскай улады, а на тутэйшых польскамоўных паноў глядзелі, як на іншародны элемент у краі.

З другога боку, была памяць пра ўнію, расчараванне ў маніфесце 1861 г. і, як вынік, шматлікія хваляванні ў 1862 г. Вядома шмат сведчанняў, асабліва ў Гродзенскай губерні, пра тое, што ў сялянскія атрады людзей часта зганялі пад прымусам.

***Са скаргі з вёскі Русота:***

*«Учорашняга дня прыбылі службовыя асобы… грамады ў вёску Русота і забралі між іншым майго сына Івана, як кажуць, у казакі...»*

Немалую ролю іграла таксама і ўзнагароджанне. Колькасць схопленых сялянамі паўстанцаў значна ўпала, калі за аднаго інсургента пачалі даваць 3 рублі замест 5.

Таму ў кожнай канкрэтнай мясцовасці ўдзел ці неўдзел у паўстанні сялян залежаў ад шэрагу мясцовых фактараў. У большасці выпадкаў перамога заставалася за ўладамі.

## Азярніца

Вёска Азярніца вядомая з канца XV ст. У XVI ст., у часы валодання І. Гарнастаем вырасла да мястэчка. На 1863 г. тут жыло недзе 500 чалавек, з якіх каля 100 былі юдэі, а астатнія сяляне-беларусы. Старастам сялянскай абшчыны ў вёсцы быў Мацвей Макарэвіч. Менавіта ў Азярніцы адбылася трагічная падзея, якая пазней паўплывала на развіццё паўстання ва ўсім рэгіёне.

Пасля сустрэчы атрадаў Францішка Юндзіла і Ісідара Лукашэвіча ў Міронімскіх лясах, апошні ў 20 числах чэрвеня зноў аддзяліўся ад асноўнай часткі паўстанцкага атрада Слонімскага павета і разам з 20–22 паўстанцамі конна рушыў да Слоніма. Паводле рапартаў станавых прыставаў, атрад Лукашэвіча рухаўся па вёсках вакол Слоніма, на адлегласці ад 15 да 35 вёрст ад яго. За ім адразу высылаліся царскія войскі. Але яны не паспявалі ўгнацца за гэтым адносна невялікім паўстанцкім атрадам. Справа ў тым, што на тэрыторыі Слонімскага павета размяшчаліся ў асноўным часткі Пензенскага і Стараінгерманландскага пяхотных палкоў з 3-й артылерыйскай брыгадай, а з кавалерыі была толькі палова казацкай сотні № 33, таму ў пагоню за лятучым атрадам Лукашэвіча звычайна адпраўлялі па некалькі рот гэтых пяхотных палкоў. Яны, безумоўна, не паспявалі за Лукашэвічам, нягледзячы

на тое, што былі вельмі добра інфармаваны аб яго перамяшчэнні. Тым самым падобнае перамяшчэнне Лукашэвіча скоўвала значныя сілы царскіх войскаў, якія ня мелі магчымасці агульна выступіць і канчаткова разбіць асноўную частку слонімскага паўстанцкага атрада пад кіраўніцтвам Юндзіла.

Паводле інфармацыі, якую атрымлівалі станавыя прыставы Слонімскага павета ад сельскіх старшын, вядома, што атрад Лукашэвіча быў 23 чэрвеня ў Дзятлаўскай воласці ў вёсцы Гута, адкуль перайшлі праз Шчару ў іншы павет. Гэтае паведамленне дае падставы сцвярджаць, што яшчэ адной мэтай дзейнасці атрада Лукашэвіча было перашкаджаць стварэнню сельскіх каравулаў.

У красавіку 1863 г. мужыкі-стараабрадцы Віцебскай губерні (наваколлі Краславы і Даўгаўпілса) самастойна напалі, захапілі і раззброілі паўстанцкі атрад Леана Плятэра. Мясцовыя сяляне пачалі паліць сядзібы навакольнай шляхты. Гэтыя падзеі падштурхнулі Мураўёва далучыць сялянства да змагання з паўстанцамі. 24 красавіка 1863 г. быў выдадзены ўказ аб стварэнні сялянскіх атрадаў.

***Правила для образования в Западных губерниях сельских вооруженных караулов:***

*Для охранения безопасности лиц, имуществ и путей сообщения могут быть учреждаемы военные караулы из сельских обывателей.*

*2. Караулы учреждаются по распоряжению уездного военного начальника, на основании полученного о том от губернского начальства предписания, и порядком, в нижеследующих параграфах указанных.*

*3. Караулы составляются из крестьян нескольких, для этой цели соединенных, волостей временно-обязанных крестьян или же нескольких сельских обществ крестьян государственных.*

*4. Караулы составляются из желающих, по вызову волостных или сельских старшин. В случае недостатка желающих, в караулы назначаются крестьяне по приговору волостных и сельских судов. <...>*

*9. Каждый караул должен состоять, смотря по местным условиям, не менее как из 60 и не более как из 100 человек. В том числе на каждые 10 человек назначается 1 десятский, преимущественно по выбору самих крестьян.*

*10. Каждым караулом заведывает унтер-офицер из строевых войск. Ему назначается в помощь несколько благонадежных и опытных рядовых. <...>*

*17. Обязанности караулов, согласно выраженному в 1 параграфе назначению, состоят: а) в учреждении застав по указанию уездного начальника, в опросе проходящих и проезжающих и предании полиции подозрительных людей; б) в охранении крестьянских селений и вообще лиц в собственности в участке от нападений мятежников и других злоумышленников; в) в наблюдении за неводворением в порученном караулу участке мятежников и в постоянном, вследствие того, осмотре лесов; г) в поимке и преследовании мятежников там, где они не успели еще образовать значительных шаек или где они, быв разбиты войсками, рассеялись, и вообще в воспрепятствовании им получать подвозы оружия, разных припасов и продовольствия и д) в случае открытия шаек, состоящих из значительных превосходных сил, в сообщении немедленно о том уездному начальнику, для высылки на помощь войска, и в восстановлении спокойствия там, где оно будет нарушено…*

Менавіта ў вёсцы Гута адбылося першае забойства паўстанцамі селяніна, які актыўна ўдзельнічаў у стварэнні сельскіх каравулаў, і прагучалі першыя пагрозы тым з сялян, хто далучыцца да каравула. 1 ліпеня ў вёсцы Старая Весь паўстанцы забралі дакументы са спісамі ваеннага каравула. У той жа дзень яны з’явіліся ў мястэчку Азярніца.

***З рапарта Азярніцкага сельскага старасты:***

*«Имен. Гумнище Живицкаго дворовой сообщил о появлении инсургентов. Тот час были высланы нароченые Коноп Алексейчик и Феодосика Журовича для точного исследования, но тот час другой содержатель имения Каменки Глиндзичь с «похожим» донесением явился в правление. По получению сих известий правление выслало нареченных для надлежайшего донесения Вашему Высокоблагородию, но не успели сего исполнит,ь ибо партия конных инсургентов по тракту из Зельвы в г. Слоним вооруженных винтовками двуствольными, пистолетами вела под короулом Живицкого Конопа Алексейчика прибыла в волосное правление… таковые со всех сторон, четырех вооруженных человек вошли в канцелярию, затребовали… бумаг, касающихся имен…Сельского Караула, и когда писарь отказал отдать таковых, то сами…с ружьями к шкафу взяли…бумаги, после сего предводитель сей партии велел взять писаря и старшину и выдал распоряжение Писаря наказать…дать сто ударов нагайкою, а старосту повесить, что и тот час было бы исполнено, если бы не Старшина и Писарь Сынковицкой волости, но один из партии известный старшине сказал, что простить Старосте невозможно, а потому*

*тот час не дозволив ни слово никому сказать в… (испуге) человека взяв Старшину повесили на воротах приходского священника, из крестьян никого не было, кроме приведенного под караулом Конопа Алексейчика, Старшины Сынковицкой волости, (Устина) Лабовича, а также писаря Сынковицкой волости, ушедшего из дому…и приведенного под караулом Живицкого, причем начальствующий партиею приказал пдо смертною казнью дабы не доносили Вашему Высокоблагородию иначе как завтрашнего числа.*

*О чем честь имею Правлению Вашему Высокоблагородию рапортовать с припровождением донесения Дворянина Живицкого присовокупляя, деревни Драново донес Староста через деревню Мыслово прошли инсургенты.*

*Езерницкий сельский старшина*

*Улян Еухимович»*

***Рапорт Пристава 3-го стана:***

*«Получив сего числа донесение Езерницкого Волосного Правления, к бытности вчерашнего числа в Местечке Езернице Шайки мятежников и о повешении Старосты оного Макаревича, прибыл я… по разыскиванию к сбывшимся и оказалось: что вчерашнего числа прибыли мятежники в имение Гумнище в 10 часов утра и… на сенокосном луге в расстоянии от Гумнице в 2-х верст — где, прийдя из двора, батрак … уведомил Живицкого с прибытием мятежников. От сенакосного луга Живицкий отправился не в Гумнище, а прямо в м. Езерницу в волосное правление уведомить об этом. Староста Макаревич послал с Живицким в имение Гумнице двух крестьян Конопа Алексейчика и Феодосика Журовича для разузнания числа мятежников. За прибытием их мятежники Живицкого и крестьян задержали и пробыв в Гумнище час времени отправились в местечко Езерницу — а из них половина отправилась в имение Каменку, где у держателя того имения забрали «последнее» седло. Из Каменки последовали в имение Петроповичи, к помещику Керсновскому…*

*…Езерницы тут, окружив волосную Канцелярию, заставили насильно волостного писаря подать дело установления Сельского волостного караула, которые забрали, и вскоре начальник шайки приказал волосного старшину Матвея Михайловича Макаревича повесить, что… мятежники исполнили, а писаря дворянина Карева приказал наказать 100 ударами нагайками за то, что доносят о появлении мятежников и что учреждают сельский караул, но… начальн. писаря*

*освободил — за сим отправились в мысу Езерницу Помещика Вольбека, который на то время дома не был, приказали прислуге его дать себе кушать и забрали 10 лошадей с батраком Федором Кулешевичем отправились в деревню Переволоку, были у священника Трусевича, ночевали и сего числа может быть в 7 часов утра выбыли дальше по направлению в местечко — это наказал крестьянин Кулешевич.*

*На расспросы в местечке Езерница оказалось, что в шайке было всего 22 мятежника, в числе которых находился сын помещика Петра Керсновкого Фадей, сын содежателя имения Гумнище Живицкого, отставной подпоручик Александр и сын содержателя каменки Франц Вольбек, дворянин Массальский Карл, других же никто не знает, вешали старосту незнакомые мятежники.*

*О чем честь имею доносить… прошу прислать войска для преследования мятежников и препроводить Вашему Высокоблагородию помещика Керсновского Петра и дворянина Живицкого.*

*Причем я распорядил о творении Макаревичу христианского обряда погребения…*

*2 июля 1863 г.»*

Пра самога Мацвея Макарэвіча вядома мала. Ён нарадзіўся 7 жніўня 1818 г. у вёсцы Клепачы Азярніцкага прыхода. Хутчэй за ўсё быў адстаўным салдатам, бо паводле «прошения» слонімскаму вайсковаму начальніку ад Сямёна Макарэвіча аб дапамозе ўдавы брата яго Мацвея, «…жена его вдова Анна с малолетним при груди сыном осталась одна…». Мацвей Макарэвіч быў першым старшынёй Азярніцкай воласці.

Увогуле валаснное самакіраванне — гэта новаўвядзенне рэформы 1863 г. Яго першасным элементам стала сялянская грамада (сельское общество), у якую звычайна ўваходзілі жыхары адной альбо дзвюх, часам трох, вёсак. Сельскі сход, які складаўся з гаспадароў, мог абмяркоўваць і вырашаць істотныя для сялян пытанні: аб прыняцці ці неприняцці ў склад грамады (датычыла злачынцаў, для якіх адмова прыняцця ў родную вёску азначала высылку ў Сібір), аб пастаўцы рэкрутаў і г. д. На гэтых сходах сяляне выбіралі сельскіх старастаў і зборшчыкаў падаткаў. Апошнія разам з дэпутатамі ад кожных дзесяці двароў бралі ўдзел ужо ў валасных сходах, на якіх выбіралі валаснога старшыню, яго намесніка і валасных суддзяў. Дзяржаўныя ўлады ўскладвалі на гэтую ўстанову тыя функцыі, якія да адмены прыгону выконваў панскі двор: выплату падаткаў, пастаўку рэкрутаў, выкананне натуральных

павіннасцяў і г. д. І менавіта выкананне гэтых функцый з'яўлялася галоўным крытэрыем спраўнасці выбарных службовых асобаў. Таму дзяржаўныя ўлады імкнуліся сцісла кантраляваць дзейнасць сялянскага самакіравання і, асабліва, працэс выбараў валасных старшыняў. Гэта ўскладвалася, у першую чаргу, на міравых пасярэднікаў, якія напачатку выбіраліся з ліку мясцовых памешчыкаў. Але пасля паўстання 1863 г. урад адмяніў выбарнасць міравых пасярэднікаў у Беларусі, і гэтых чыноўнікаў на пасады пачаў прызначаць генерал-губернатар па рэкамендацыі губернатараў. На пастановы міравога пасярэдніка сяляне маглі скардзіцца ў з'езд міравых пасярэднікаў.

На хвалі схілення на свой бок беларускага сялянства царскім урадам, забойства азярніцкага валаснога старшыны Мацвея Макарэвіча, прадстаўніка сялянскага самакіравання, стала адной са значных падзеяй у гісторыі паўстання 1863 г. на Слонімшчыне, фактычна паўплывала на далейшы ход падзей у гэтым рэгіёне. Але пра гэта пазней будзе асобная размова.

Мацвей Макарэвіч быў пахаваны ў Азярніцы на пагосце ля старой драўлянай царквы. «*На могиле покойного сначала был поставлен деревянный крест, а потом вблизи его тут же сооружена существующая каменная церковь (1867 года) … по времени же над могилой повешеннаго постанцами страдальца устроен чугунный крест, торжественно, в присутствии местных властей, при многочисленном стечении народа, освященный в храмовый праздник 9 мая 1889 года. На этом памятнике на нижней основной части пьедестала вылиты слова: «Памятник сей сооружен в 1889 году в назидание потомству по инициацive и на средства Его Высокопревосходительства Г. Виленскаго, Ковенскаго и Гродненскаго Генерал-Губернатора И.С. Каханова, при материальном содействии крестьян Чемерской волости». На верхней части памятника слова: «Здесь покоится прах старшины Озерницкой волости Матвея Михайловича Мокаревича, повешеннаго мятежниками 1 июля 1863 года за Веру, Царя и Отечество* ». Да нашага часу гэты помнік на магіле Матвея Макарэвіча захаваўся, але без шыльд з надпісамі, іх збілі з помніка за польскім часам.

## Пераезд Азярніцы–Слонім

За паўстанцкім атрадам Лукашэвіча была адпраўленая *«2 рота Староингерманланского пехотного полка, вышедшая в Езерницу 1 июля, состаящая из 2 офицеров, 13 унтер-офицеров, 5 сержантов, 117 рядовых*

*и 1 нестроевого»*. Капітан Дьякаў з падначаленай яму ротай ішоў за атрадам Лукашэвіча да самога Косава, дзе сустрэўся з іншай ротай Стараінгерманландскага пяхотнага палка, якая таксама выйшла на пераслед атрад Лукашэвіча. Не паспеўшы «настигнуть мятежников», Дьякаў разам з іншай ротай вярнуліся ў Слонім. У Косава атрад Лукашэвіча забраў дакументы з канцылярыі мясцовага станавога прыстава са спісам удзельнікаў сельскага каравула і рушыў у бок Гавенавіч. Але 6 ліпеня 1863 г. інсургентаў усё ж дагнаў атрад паручніка Азулевіча з 4-й роты Староінгерманланского пяхотнага палка недалёка ад вёскі Харабровічы.

***З вайсковага рапарта:***

*«6 числа сего месяца, прибыв в село Деревно (Деревная) для создания сельского караула 6 числа сего месяца, в 9 часов утра получил известие от женщины Анны Ерош, что в деревне Высоцк в 6 верст от нас заехала конная партия мятежников. Женщина эта прибыла в Деревную со своим хворым родственником, который был приписан к сельскому караулу в Деревной, и рассказала исполняющему обязанности фельдфебеля унтер-офицера Егору Владимирову, услышав однозначный разговор, доложил мне, поручику Азулевичу. Я вызвал Анну Ераш, допросил ее и узнал, что когда она выходила из Высоцка, видела как туда въехали конно инсургенты.*

*Я приказал тот час отправиться в Высоцк на подводах с людьми, находящимися при мне 29 нижних чинов и 1 вызвавшимся охотником Степаном Лойко… Прибыв в Высоцк, повстанцев не нашли, они за 2 часа до этого вышли.*

*Как только узнали, какой дорогой пошли, следовал за ними, лесами, т. к. обходили населенные пункты деревни и мызы.*

*Настигли их в 7 часов вечера вблизи деревни Храбровичи на опушке леса, сделав атаку, от которой шайка рассыпалась по лугу покрытого небольшим кустарником, где я преследовал их до сумерков.*

*В означенной стычке мятежнков убитых 7 человек, 4 взято в плен, из коих один раненный, отобрали 16 лошадей, 8 оружей, 4 пистолета, 3 сабли, порох и пули.*

*В числе убитых найден Голоско, (по словам пленных), по словам жителей это был Лукашевич, т. к. они его хорошо знают, т. к. имение его вблизи от них.*

*В шайке по показанию пленных находилось 22 чел. и все на лошадях*

*О чем доношу Вашему Высокоблагородию*

*Убитых и раненных с моей стороны нет, а убитых мятежников приказано мною старосте д. Храбрович — предать земле. Причем прошу ходатайства о награждении исполняющего обязанности фельдфебеля унтер-офицера Егора Владимирова, так как он, находясь на левом фланге цепи, смелостью и храбростью увлекал солдат в бою, поселенника Лойко, находившимся охотником в моем отряде, и ровно как и крестьянке Анны Ерош.*

*Командующ. ротой поручик Азулевич».*

Сцяпан Лойка быў узнагароджаны медалём «За Усердие».

## Слонім

Паводле археалагічных даследаванняў, горад Слонім узнік у другой палове XI ст. Упершыню ў летапісах упамінаецца ў 1252 г. як Услонім. Гэтае ўпамінанне звязана з паведамленнем пра барацьбу Галіцка-Валынскага княства з Вялікім князем Міндоўгам за ўладанне Верхнім Панямоннем. Горад знаходзіўся на рачной магістралі рацэ Шчара, таму меў важнае стратэгічнае значэнне. Магчыма гэтым тлумачыцца паходжанне назвы горада Слоніма ад славянскага «заслона» (бар'ер, фарпост) — у значэнні «засланіць», «абараніць». У 1532 г. горад атрымаў магдэбургскае права, але свой герб (залаты леў з падвойным срэбным крыжом са стрэлкай на блакітным полі) Слонім атрымаў толькі ў 1591 г. пры старасце Льве Сапеге. Менавіта дзякуючы намаганням гэтага чалавека, горад становіцца месцам правядзення перадсоймавых генеральных сойміках Вялікага княства Літоўскага, а таксама Леў Сапега адкрывае першы ў горадзе рамесны цэх, фінансуе будаўніцтва мураванага касцёла Святога Андрэя. Гэта быў час першага росквіту Слоніма, які працягваўся да войнаў сярэдзіны XVII ст. У 1655 г. горад быў цалкам зруйнаваны рускімі войскамі. Новы росквіт горада звязаны з дзейнасцю гетмана ВКЛ Міхаіла Казіміра Агінскага, які заснаваў тут сваю рэзідэнцыю, адкрыў друкарню, стварыў капэлу і тэатральную трупу, пры якой працавалі балетная і музычная школы, а ў 1777–1788 гг. — свой знакаміты тэатр «Опэрнхаўз». Такім чынам, Міхаіл Казімір Агінскі ператварыў горад у адзін з найбуйнейшых культурных цэнтраў Рэчы Паспалітай. Але ў 1795 г. паводле трэцяга падзела Рэчы Паспалітай Слонім уваходзіць у склад Расійскай імперыі і з цягам часу становіцца ціхім і правінцыйным павятовым гарадком.

Да нашага часу дайшло апісанне горада 1860 г., зробленае П. Баброўскім. Паводле гэтага апісання, колькасць насельніцтва Слоніма

складала — 8 203 чалавек, з іх 1 000 чалавек былі вайскоўцамі, чыноўнікаў — 100, медыкаў — 8 (+2 аптэкары), рамеснікаў — каля 900 , гандляроў — 1 500 . У горадзе на той час дзейнічалі 1 праваслаўны сабор Праабражэння Госпада, тры касцёлы — парафіяльны Св. Андрэя і два пры кляштарах бернардзінаў і бернардзінак, 1 мячэць і сінагога з 16 малітоўнымі дамамі.

***З кнігі Баброўскага:***

*«Слоним теперь один из лучших уездных городов России, и едва ли не самый лучший уездный город в Гродненской губернии — расположен на реке Щаре… Река Щара делит город на две неравные части: лучшая часть лежит на левом берегу, меньшая, или правая, сторона, по ту сторону Щары называется Замостьем (форштат). <...>*

*Река Щара, входящая в систему Огинскаго канала, <...> дает Слониму довольно важное коммерческое значение… Почтовые дороги — из Гродно на Волковыск и из Вильно на Лиду — соединяются в Слониме в одну общую дорогу, которая в Чемиолах выходит на Варшавско-Московское шоссе. В г. Несвиж, Минской губернии, и в м. Зельву от Слонима отходят большие торговые пути; особенно важна для этого города последняя дорога во время Зельвинской ярмарки — крупнейшей в Гродненской губернии …»*

У Слоніме на той час было 12 прамысловых аб'ектаў, дваранская вучэльня, юдэйская вучэльня 1-га разраду, талмуд-тора і ешыбот, а таксама тры лякарні: грамадская, турэмная і вайсковы лазарэт.

Прыблізна такім убачыў горад Слонім 19 кастрычніка 1862 г. Канстанцін Каліноўскі, які прыехаў у горад на чарговую сустрэчу з прадстаўнікамі мясцовага павятовага паўстанцкага камітэта, а па дарозе (ехаў ён сюды з Ваўкавыска ў Слонім, пасля праз Ружаны вяртаўся зноў у Ваўкавыск) «раскідваў скруткі папер» «Мужыцкай праўды».

***З данясенняў мясцовай паліцыі:***

*«Временнообязанным крестьянам от некоторого времени подбрасываются злонамеренными людьми экземпляры брошюр для чтения под заглавием «Мужыцкая праўда». Брошюры эти крестьяне, читая между собой, извлекают разнородную мысль. Желая затем открыть таковые, отправлялся я вчерашнего числа в д. Шейняки во вверенном мне стане, по тракту Волковысскому расположенному, где при содействии местного старосты Людвига Левковича открыл 2 экз. помянутой брошюры. Из числа крестьян деревни Шейняки Мартин Микуцин, Антон Агиевич и Михаил Лукашевич объяснили, что 7 числа*

*настоящего октября месяца в 5 часов пополудни проезжий, следуя почтовым трактом через д. Шейняки в г. Волковыск на паре почтовых лошадей, выбрасывал свертки бумаг на дорогу, и помянутые крестьяне, поднимая, обращались к грамотным своим собратьям прочитать.*

*Вышесказанный пассажир одетым был в овчинной шубе, покрытой казалось им, сукном, воротник от оной из длинных черных барашков, фуражку на голове имел гражданского ведомства со звездочкой. Сам был росту среднего, брюнет, усов черных, лет около 36. Если бы в этаком костюме представить вышесказанного пассажира, крестьяне (его) опознают. Кучер же, везший его, был ямщик из Рожанской почтовой станции, белокурый, усов русых.*

*Последствием такового разъяснения крестьян обращался я на Рожанскую почтовую станцию и по забранной мною лично справке обнаружил, что проезжим пассажиром был, как видно из книги, в 5 часов выехавший некто дворянин Викентий Калиновский по подорожной в. п. от 5 октября за № 16668, ему выданной возвращающимся из г. Слонима в г. Волковыск. Насколько я мог удостовериться из-под руки, означенный Калиновский служит в одном из присутственных мест г. Волковыска. Ямщик же почтовой Рожанской станции Талай, действительно таких примет, как показали вышесказанные крестьяне, возил Калиновского в Подороск.*

*Усматривая из представляемых мною при сем двух брошюр, что оные имеют цель возмутительную и противозаконную, почитаю за обязанность донести в. п. и почтительнейше присовокупить, что за обращением таковых брошюр между крестьянами имею бдительное наблюдение. 27 октября 1862 г. Становой пристав, колежский асессор Агатин».*

## Замосце. Касцёл Св. Андрэя

Тут на Замосці ўзвышаецца касцёл Св. Андрэя, які быў збудаваны яшчэ ў канцы XV ст. У 1775 г. яго перабудавалі ў стылі віленскага барока, і ў гэтым выглядзе ён дайшоў да нашага часу.

На момант 1863 г. касцёл Св. Андрэя быў адным з трох касцёлаў у горадзе і адзіным парафіяльным. Увогуле канфесійная сітуацыя напярэдадні паўстання была досыць напружанай. З 1831 па 1863 гг. у Слоніме царскай адміністрацыяй былі зачынены чатыры касцёлы з кляштарамі канонікаў латэранскіх, дамініканцаў, бенедыктынак і марыявітак. Колькасць каталіцкага насельніцтва ў горадзе

складала 2 402 чалавека, праваслаўных — 944 (разам з вайскоўцамі, якіх ў Слоніме было 6,9 % — 659 чал.). Таму ў 1861 г. хваляванні, якія адбыліся ў Горадні і Вільні, перакінуліся таксама і ў Слонім.

***З Пратакола допытаў губернскага сакратара Ц. Казігродскага:***

*«Но оно сообщалось и выросло вдруг, объявилось сперва трауром да пением по костелам патриотических запрещенных песен, в этом участвовал весь город, тут невозможно указать на лица, около которых могли группироваться другие. Движение было общее и столь сильное, что усилия священников воспрепятствовать песням музыкой органов не подействовало, органы должны были замолчать, потому что голоса собравшегося народа были сильнее органов.*

*Демонстрации этим не ограничивались, последовали другие (которые из них были первыми, а которые последними — этого порядка в настоящее время уже не припомню)...»*

Гэтыя хваляванні падштурхнулі жыхароў горада да сустрэчаў, абмеркавання сітуацыі і, урэшце, да ўтварэння падпольнага аб'яднання, якое і занялося ў будучым падрыхтоўкай паўстання. Адным з такіх месцаў сустрэч стала гарадская бібліятэка.

***З Пратакола допытаў губернскага сакратара Ц. Казігродскага:***

*«Составилась публичная уездная библиотека с целью отвлечь жителей, а в особенности молодежь, от карт, а привлечь к наукам и более моральному развитию. Членами постоянными были следующие лица: помещики — предводитель дворянства Евстафий Воллович, Эдмунд Корсар, Людовик Рамульдт, Иван Герубович, Ксаверий Гноинский, Константин Пилецкий, Владислав Воллович, Юрий и Евстафий Протасевичи, Владимир Мивгер, Изидор Флорентин Микульский, Петр Орда, Эдуард Рагоза, Франц Вольбек, Люциан и Антон Чечеты, Аполлинарий и Эдуард Керсновские, Адольф Незабытовский, Станислав Липский, Валериан и Игнатий Юндзиллы, Ефим Чудовский, да жители города Иосиф Пекарский, Карл Манцевич, Антон Мокржицкий, Август Тельшевский, Владислав Симонович, прочих не помню. Вот лица, из которых может быть, впоследствии или даже еще до составления библиотеки могли быть избраны члены организации, но если она и существовала до выхода моего в восстание, то или так от меня тайно».*

Як відаць з дакумента, аснову павятовага паўстанцкага камітэта склалі прадстаўнікі мясцовай буйной, сярэдняй і дробнай шляхты, а таксама чынавенства, якія гуртаваліся вакол створанай імі публічнай гарадской бібліятэкі.

Цывільным начальнікам Слонімскага павета быў прызначаны доктар Уладзіслаў Сімановіч. Увогуле дактары адыгралі вялікую ролю ў падрыхтоўцы паўстання на Слонімшчыне: з 8 практыкуючых лекараў, якія на той час жылі і працавалі ў горадзе, далучыліся да падпольнага камітэта 6.

Уладыслаў Генрыхавіч Сімановіч нарадзіўся ў 1831 г. у Вільні. Тут жа скончыў гімназію. Да 1857 г. навучаўся на медыцынскім факультэце Кіеўскага ўніверсітэта. Пасля атрымання дыплома Сімановіч пераехаў у Слонім. Тут ён некалькі гадоў працаваў у якасці прыватнага доктара. Сімановіч быў адным з актыўных дзеячоў слонімскай падпольнай арганізацыі, удзельнічаў у стварэнні ў Слоніме нелегальнага тэатра, а таксама ў арганізацыі падпольнай бібліятэкі. У 1863 г. яго прызначылі на пасаду грамадзянскага начальніка павета. Прычым загад аб прызначэнні падпісаў сам Я. Гейштар.

Вестка аб тым, што ў Польшчы пачалося вызваленчае паўстанне, прыйшла ў Слонім у студзені. Нягледзячы на сваю непадрыхтаванасць, Літва і Беларусь выступілі ў падтрымку. Начальніку Слонімскага павета Сімановічу з Гродна прыйшоў шэраг рэвалюцыйных дэкрэтаў. Уладзіславу Генрыхавічу патрэбна было разам з ваенным начальнікам павета Ф. Юндзілам арганізаваць паўстанцкія атрады, забяспечыць іх харчам, адзеннем і зброяй.

Аднак пра дзейнасць доктара хутка даведаліся ўлады. Палкоўнік Клавер арыштаваў Сімановіча 17 мая 1863 г. Нягледзячы на тое, што некаторыя арыштаваныя паўстанцы сведчылі супраць яго, Сімановіч здолеў абвергнуць абвінавачванні ва ўдзеле ў паўстанцкай арганізацыі, але Віленская следчая камісія ўсё ж адправіла яго ў ссылку ў Пермскую губерню як «политически неблагонадежного».

На месца адбывання пакарання У. Сімановіча адправілі 28 лістапада 1863 г. Яго жонка Ганна і 5-гадовы сын Генрых вымушаны былі паехаць разам з ім. Аднак гэта быў толькі пачатак: праз некалькі месяцаў ссыльнага жыцця ў Ахонску доктара зноў выклікалі ў Гродна. Следчая камісія на гэты раз ужо валодала фактамі, што Сімановіч адыгрываў кіруючую ролю ў слонімскай паўстанцкай арганізацыі. Яму вынеслі прысуд — 12 год катаргі на сібірскіх рудніках з канфіскацыяй маёмасці за арганізацыю паўстання ў Слонімскім павеце. 29 жніўня 1865 г. Сімановіча канваявалі ў вязьніцу ў Іркуцк, дзе ён працаваў на салеварным заводзе. У 1868 г. амніставаны, але вяртацца на радзіму было забаронена. Толькі у 1871 г. У. Сімановіч дабіўся дазволу працаваць у якасці доктара, але ў Чалябінску. Там ён і працаваў да сваёй смерці 22 верасня 1880 г.

Пасля арышту Сімановіча цывільным начальнікам Слонімскага павета стаў Валерыян Антонавіч Вільчэўскі. Ён таксама быў доктарам прыватнай практыкі. Нарадзіўся ў в. Сянно Наваградскага павета 14 красавіка 1835 г. Пасля заканчэння Слуцкай гімназіі ў 1856 г. ён стаў студэнтам медыцынскага факультэта Кіеўскага ўніверсітэта, які паспяхова скончыў у 1862 г., сваю практыку пачаў у Слоніме. Вільчэўскі ўдзельнічаў у баявых дзеяннях слонімскага паўстанцкага атрада, у бітвах пад Міхалінам 4 траўня, пад Мілавідамі 3 чэрвеня і ва ўрочышчы Бярозавае балота (поле) 8 чэрвеня.

В. Вільчэўскага арыштавалі 17 жніўня 1863 г. Падчас следства адстойваў, што «*арестован в числе других лиц без всяких видимых причин*». Яго абвінавацілі ў «*принятии у себя в доме разных подозрительных лиц, из которых некоторые очевидно действовали против правительства*». У кастрычніку 1863 г. рашэннем следчай камісіі ён быў сасланы пад нагляд паліцыі ва Уфу Арэнбургскай вобласці «*как совершенно неблагонадежный и вредный для пребывания в крае*».

Аднак праз 10 месяцаў яго вярнулі ў Гродна на працяг следства, таму што ўлады здабылі бясспрэчныя доказы аб дачыненні В. Вільчэўскага да паўстання. Яму быў вынесены новы прысуд, па якім ён быў сасланы ў Мінусінск Енісейскай губерні. Але ж следчая камісія так і не даведалася аб тым, што ён удзельнічаў у атрадзе паўстанцаў пад кіраўніцтвам І. Лукашэвіча.

Да канца лета 1863 г. расійскія ўлады канчаткова разграмілі нелегальную рэвалюцыйную арганізацыю ў Слонімскім павеце. Восенню пачаліся сапраўдныя рэпрэсіі супраць каталікоў, нават калі яны не мелі адносінаў на паўстання. Сярод тых, хто трапіў пад рэпрэсіі, аказалася яшчэ некалькі працаўнікоў медычнай сферы: А. Макржэцкі, А. Цельшэўскі, А. Аскерка, В. Мушынскі, А. Валевіч, І. Пякарскі і К. Мацкевіч.

А. Макржэцкі быў ініцыятарам і адным з кіраўнікоў гарадскога тэатра самадзейнасці і падпольнай бібліятэкі. У 1863 г. яго арыштавалі, абвінаваціўшы ў дачыненні да рэвалюцыйнага камітэту, і пазбавілі дзяржаўнай пасады. Ваенны суд прысудзіў яму разам з жонкай ссылку ў Пермскую губерню.

А. Цяльшэўскі — выпускнік медычнага факультэта Маскоўскага ўніверсітэта 1844 г.. Працаваў галоўным доктарам Слонімскага акруговага ўпраўлення Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў з 1845 г. Ён быў арыштаваны і пазбаўлены пасады ў 1863 г. і сасланы ў Арэнбургскую

губерню за «*доставление повстанцам в Миловицких лесах провизии и др. предметов*».

У гэтым жа акруговым упраўленні па Слонімскім і Пружанскім паветах напярэдадні паўстання служыў доктарам А. Аскерка. Яго арыштавала паліцыя ў лістападзе 1863 г. за дачыненне да паўстання. На допытах ён паведаміў, што яго пад пагрозай смерці прымусілі стаць доктарам у атрадзе Г. Стравінскага. Яго абвінавацілі ў неаднаразовым наведванні атрада і ў аказанні дапамогі параненым паўстанцам, прысудзілі 12 гадоў катаржнай працы ў Сібіры.

В. Мушынскі — выпускнік Харкаўскага ўніверсітэта 1843 г. Пасля яго заканчэння ён працаваў доктарам у Кранштаце і Пецярбургу на суднах ваенна-марскога флоту. Неаднаразова прымаў удзел у баявых паходах і бітвах. У 1857 г. сыйшоў у адстаўку, працаваў павятовым доктарам у Слоніме. У 1863 г. яго пазбавілі пасады і арыштавалі за «*прикосновение к политическим делам*». Але па яго справе ў следства было недастаткова доказаў, таму ён пазбегнуў ссылкі і працаваў у Слоніме доктарам прыватнай практыкі.

За так званае «*прикосновение к политическим делам*» і дапамогу паўстанцам былі арыштаваны два гарадскія аптэкары — А. Валевіч і І. Пякарскі, а таксама наглядчык гарадскога шпіталю К. Мацкевіч.

Насупраць касцёла Св. Андрэя знаходзіцца прадаўгаваты белы аднапавярховы будынак. Цяпер у ім размяшчаецца плябань, але ў XVIII ст. ён узводзіўся як шпіталь. У 1-й палове XIX ст. у ім размяшчаўся шпіталь 3-й артылерыйскай брыгады, бо менавіта тут, на Замосці знаходзіліся казармы артылерыстаў.

У 1863 г. артылерыйская брыгада размяшчалася ў Слоніме ўжо некалькі 10-годдзяў. З 5 000 жыхароў-хрысціянаў Слоніма салдаты і афіцэры рускай арміі складалі больш за 1 000, прычым частка афіцэраў жыла на кватэрах у горадзе і ўжо мелі сем’і. Усе яны, відавочна, добра былі знаёмыя з тутэйшай шляхтай, карысталіся паслугамі, у тым ліку і дактароў, якія, хутчэй за ўсё, часта заязджалі ў гэты шпіталь ля касцёла Св. Андрэя. Вельмі верагодна, што некаторыя з іх не толькі былі добра знаёмыя, але і сябравалі.

Менавіта гэта стала падставай для чутак, нібыта пры бітве пад Мілавідамі артылерысты спецыяльна стралялі міма паўстанцкіх шэрагаў і такім чынам некалькі разоў нават патрапілі ў сваіх. Чуткі гэтыя так і засталіся чуткамі, але яны добра ілюструюць тое, што ў сітуацыі паўстання 1863 г. ваявалі адзін з адным не чужыя, але часта добра знаёмыя людзі.

1863 год адбіўся і на лёсе самога касцёла. Пробашч касцёла ксёндз Вінцэнт Грыневіч таксама быў арыштаваны. На той момант ён 33 гады праслужыў у Слоніме. Яго абвінавацілі ў захоўванні зброі. Справа была ў тым, што ў падвале плябаніі, яна знаходзілася насупраць касцёла праз дарогу, падчас вобшуку былі знойдзены два старых мушкета. За гэта ксяндза пасадзілі ў вязніцу, дзе ён у 69-гадовым узросце адседзеў 3 месяцы са снежня 1863 г. па люты 1864 г. Вызвалілі яго толькі тады, калі быў аплочаны штраф у памеры 200 рублёў.

У гэты ж час, нягледзячы на жорсткія пакаранні, шмат хто з жыхароў горада запальваў знічы на магілах загінуўшых паўстанцаў. Так, напрыклад, на лекара Антона Макржэцкага была заведзена карная справа, за тое, што ён са сваёй жонкай ездзіў на магілу Ісідара Лукашэвіча. Ідучы ў касцёл, многія апраналі жалобны строй па загінуўшым.

У касцёле Св. Андрэя цудам захаваўся вельмі шануемы на Слонімшчыне абраз св. Антонія Падуанскага. Вядомы ён быў яшчэ ў XVII ст, але першапачаткова знаходзіўся ў касцёле пры кляштары бернардзінаў. Па скасаванні кляштара ў 1864 г. быў перанесены ў касцёл Св. Андрэя.

## Царква Св. Тройцы

Касцёл Св. Троіцы пры кляштары бернардзінаў, першага каталіцкага манаскага ордэна ў Слоніме, быў пабудаваны ў 40-х гг. XVII ст. па фундацыі Яна Жарноўскага Геленай Лукашэвіч-Мецкевічовай і Андрэем Радванам. Манахі-бернардынцы выконвалі функцыі вікарыяў у суседніх са Слонімам парафіях. Напрыканцы XVIII — пач. XIX стст. у кляштары дзейнічалі філасофскія курсы, пачатковая школа з бурсай, мелася вялікая бібліятэка. У сярэдзіне XIX ст. у Слоніме кляштар меў вялікі ўплыў у грамадстве. У 1861 г. у касцёле Св. Троіцы бернардынцаў праводзіліся патрыятычныя набажэнствы, спявалі зусім не рэлігійныя песні. За гэта Гродзенскі губернатар Скварцоў 21 снежня 1864 г. закрыў кляштар. На момант яго закрыцця ў кляштары жыў 21 манах. Касцёл праз два гады быў пераўтвораны ў праваслаўную царкву, а ў будынку кляштара першыя некалькі год размяшчалася слонімская паліцыя. Ад тых часоў у цяперашняй царкве Св. Троіцы захаваўся абраз, падораны царкве слонімскімі паліцэйскімі ў 1865 г.

Напярэдадні паўстання гарадавую слонімскую паліцыю ўзначальваў гараднічы штаб-ротмістр Іван Аляксандравіч Бажэнаў, і складалася яна з пісьмаводцы, «смотрителя тюремного замка» і воінскай

каманды з 12 чалавек «ніжніх чыноў» на чале з унтэр-афіцэрам. Паліцэйскімі функцыямі ў павеце на той час былі надзелены земскія спраўнікі, якім падпарадкоўваліся станавыя прыставы (у слонімскім павеце было 5 станаў). 25 снежня 1862 г. былі прыняты «Временные правила об устройстве полиций в городах и уездах губерний, по общему учреждению управляемых», паводле гэтых правіл у паветах стваралася адзінае паліцэйскае павятовае ўпраўленне на чале з земскім іспраўнікам, якога зацвярджалі на пасадзе на 3 гады з дазволу губернатара. Земскім іспраўнікам Слонімскага павета з 1862 г. быў надворны саветнік Феликс Іванавіч Парадоўскі. Сярод прадстаўнікоў слонімскай паліцыі былі і тыя, хто спачуваў паўстанню, пра што сведчаць справы, заведзеныя на гараднічага г. Слоніма І.А. Бажэнава за «*содействие учасникам восстания*» (з 24 лютага па 4 мая 1863 г.) і справа звальнення з пасады станавага прыстава Слонімскага павета Пахнеўскага, за «*пение запрещенных гимнов*» .

З пачаткам паўстання 1863 г. у Слонімскім павеце была ўведзена пасада ваеннага павятовага (уезнага) начальніка, ім стаў палкоўнік Мікалай Фёдаравіч Клавер. Пасады ваенных начальнікаў у Гродзенскай губерні пачалі ўводзіць яшчэ з 1861 г. Дзейнасць вайсковых начальнікаў зводзілася да камандавання вайсковымі часткамі, падпарадкаваных ім, і да «ўзмацнення ваенна-паліцэйскага нагляду за цывільным насельніцтвам», фактычна яны былі кіраўнікамі павету.

Клавер з 1861 г. узначальваў 3-ці артылерыйскі корпус. Па веравызнанні быў лютэранінам. З архіўнага дакумента відаць, што палкоўнік Клавер быў чалавекам сумленным. На карысць гэтага можна прывесці хаця б два прыклада.

Спачатку бараніў і спрабаваў пакінуць на пасадзе павятовага спраўніка Парадоўскага толькі за тое, што апошні быў каталіцкага веравызнання, хаця меў два ордэны Св. Станіслава 4-й і 3-й ступені. Апошні ордэн атрымаў за ўдзел у Мілавідскай бітве, дзе «*лично подводил подводы для раненых*». Быў у шлюбе з праваслаўнай, ёсць сын, таксама праваслаўны. Але гэта не дапамагло. У сімпатыях паўстанцам падазравалі любога каталіка. Парадоўскі быў зняты з пасады, бо ўжо ў «Памятной книжке Гродненской губернии за 1864 год» павятовым іспраўнікам з 19 чэрвеня 1863 г. назначаны маёр Аляксандр Кулікоўскі праваслаўнага веравызнання.

Другі прыклад — гэта справа паўстанцаў Уладзіміра Зельміца, Караля Масальскага і Людвіга Йоча (Jocz). Гэтыя паўстанцы былі ў атрадзе Ісідара Лукашэвіча. 6 чэрвеня былі ўзяты ў палон падчас бітвы пад

Харабровічамі. Былі абвінавачаны ў забойстве старшыны Азярніцкай воласці і, паводле палажэнняў, прынятых Мураўёвым, павінны былі быць расстралянымі. Паводле спісу ўдзельнікаў паўстання 18 ліпеня 1863 г. былі «*приговорены к расстрелу*». Але Клавер адмовіўся падпісаць смяротнае пакаранне. Напэўна, за гэта яго і знялі з пасады вайсковага начальніка Слонімскага павета, бо ў канцы ліпеня гэтую пасаду заняў палкоўнік Староінгерманланскага пяхотнага палка Чартоў, удзельнік Мілавідскай бітвы. У гэты ж самы час і адбыліся растрэлы тых згаданых трох паўстанцаў. Зельміца і Йоча расстралялі ў Азярніцы 7 жніўня 1863 г., а Караля Масальскага — 2 жніўня ў Слоніме. Пра тое, як гэта адбывалася і як гэта гісторыя дайшла да нашага часу, напісана С. М. Чыгрынам.

*«Закутага ў кайданы Карла Масальскага пасадзілі ў драўляную клетку, паставілі яе на возе і вазілі напаказ па ўсім горадзе. Наперадзе ішоў атрад узброеных салдат пад камандай воінскага начальніка. Барабаншчыкі білі ў барабаны. Жыхары Слоніма з жахам глядзелі на гэтае відовішча. Нарэшце, Карла Масальскага правезлі па Студэнцкай вуліцы, павярнулі на Маставую вуліцу (цяпер яна носіць імя Янкі Купалы) і спыніліся каля моста праз раку Шчару.*

*На балоце стаяў закапаны слуп, да якога падвялі Карла Масальскага. Яго хацелі прывязаць да слупа і завязаць вочы, але ён адмовіўся.*

*Салдаты выстраіліся і па камандзе начальніка ўзялі вінтоўкі і трымалі іх напагатове. Масальскі глядзеў проста на салдат. Начальнік выцягнуў шаблю з ножнаў і падаў каманду:*

*— Рота, плі!*

*Салдаты не стралялі. Іх бянтэжыў і палохаў позірк паўстанца. Раз'юшаны начальнік закрычаў:*

*— Сволачы, страляйце! А не, дык вас саміх пастраляю!*

*Салдаты выстралілі амаль усе ўверх. Толькі адна куля трапіла ў Масальскага, аднак ён не здрыгануўся, стаяў з горда ўзнятай галавой. Падняўшы руку, Карл Масальскі крыкнуў:*

*— Няхай жыве свабода!*

*Па камандзе начальніка зноў грымнуў залп. І на гэты раз Масальскі не ўпаў.*

*Уражаны начальнік спытаў:*

*— Масальскі, ты жывы?*

*— Жывы!*

*Новы ўзмах шаблі начальніка, новая каманда, новы залп. Нарэшце акрываўлены Карл Масальскі апусціўся на зямлю.*

*Жаўнеры доўга не падыходзілі да паўстанца, баяліся. А потым, калі начальнік пачаў на іх крычаць, вывезлі і закапалі невядома дзе….*

*…Пра тое, як загінуў Карл Масальскі, Язэпу Стаброўскаму расказвала яго маці. А ён, калі працаваў у Слонімскім музеі, распавядаў усім, хто пытаўся пра паўстанне 1863 года.»*

Са смерцю Масальскага гісторыя паўстання 1863 г. на Слонімшчыне была амаль завершана. Атрад Францішка Юндзіла яшчэ пэўны час хадзіў па мясцовых лясах, але пасля быў распушчаны. Сам Юндзіл перабраўся ў Кракаў, дзе некалькі месяцаў выконваў функцыі Кракаўскага каменданта. А ў сакавіку 1864 г. з'ехаў у Францыю, дзе і памёр праз год.

Але памяць пра тыя падзеі, ягоныя водгукі так ці інакш застаюцца жыць у Слоніме. Гісторыю пра расстрэл Караля Масальскага мы ведаем з успамінаў Язэпа Стаброўскага — заснавальніка слыннага Слонімскага музея, вайскоўца, калекцыянера. Ён нарадзіўся ў 1870 г. у самім горадзе. Скончыў Полацкі кадэцкі корпус, Маскоўскі археалагічны інстытут і Вышэйшыя археалагічныя курсы пры Самарскім універсітэце. Быў членам-карэспандэнтам Віленскага аддзялення Маскоўскага археалагічнага таварыства. Прымаў удзел у Першай Сусветнай вайне. У 1921 г. вярнуўся ў Слонім і пачаў даследаваць родны край. У хуткім часе назбіраў вялікую калекцыю старажытных рэчаў і старадаўніх дакументаў. У 1924 г. Стаброўскі арганізоўвае ў Слоніме выставу старадаўніх дакументаў і кніг, а праз 5 гадоў, нарэшце, адкрывае гісторыка-краязнаўчы музей. Дарэчы, на адкрыцці музея прысутнічаў прэзідэнт Польшы Ігнацы Масціцкі. А першым будынкам музея стаў якраз былы бернардзінскі кляштар. Сярод прадметаў, якія захоўваюцца ў музейных фондах, і цяпер нямала рэчаў з эпохі 1863 г. І нядзіва: расстраляны Караль Масальскі быў родным дзядзькам Стаброўскага.

## Вынікі

З заканчэннем гісторыі паўстання пачалася гісторыя рэпрэсій. Па ўсім павеце адбываліся арышты, вобшукі, суды. Задачай Мураўёва было не толькі пакараць вінаватых, але і максімальна нейтралізаваць польскія ўплывы ў рэгіёне. Таму быў закрыты касцёл у горадзе, канфіскаваны землі некаторых мясцовых шляхцічаў, польская мова максімальна выціскалася з грамадскага ўжытку.

Агульная колькасць баёў, праведзеных паўстанцамі за гэты час, была каля 1 200, з іх каля 250 — у Паўночна-Заходнім краі. Колькасць інсургентаў дакладна падлічыць немагчыма. Так ці інакш у выступленнях і арганізацыі паўстанцкіх атрадаў прынялі ўдзел каля 200 000 чал. Але непасрэдна ў бітвах удзельнічалі не больш за 30 000. У Беларусі і Літве сілы паўстанцаў, паводле афіцыйных рапартаў 1864 г., налічвалі каля 70 000 чал. Аднак гэта відавочнае перабольшванне.

У Літве і Беларусі смерцю было пакарана 127 чал. (найчасцей праз павешанне), 972 — адпраўлены на катаржныя работы, 345 — прымусова рэкрутавалі ў войска і яшчэ 864 — у арыштанцкія роты, 1 427 — саслана ў Сібір, 1 529 чал. — на пасяленне ў цэнтральныя губерні Расіі, і яшчэ 4 000 мусілі выехаць з тэрыторыі Беларусі. Высяленні часта суправаджаліся канфіскацыяй маёмасці.

Да 1866 г. было канфіскавана 265 маёнткаў. Большасць шляхецкіх гаспадарак Беларусі была абкладзена 10-працэнтным падаткам. Рэпрэсіі закранулі часткова і сялянаў: да пачатку XX ст. сяляне-каталікі былі абмежаваныя ў набыцці зямлі.

Паўстанне 1863 г. прывяло да катастрафічных зменаў у Беларусі і Літве. Цэлае пакаленне шляхты, у асноўным моладзі, было знішчана ці вывезена ў Сібір, закрытыя ўсе ўстановы, якія шкодзілі вырашэнню «польскага пытання». Аднак разам з польскай крамолай нішчыўся і традыцыйны лад жыцця тутэйшага шляхецтва, традыцыі былога Вялікага княства Літоўскага, што ў перспектыве прывяло да значных скажэнняў у нацыянальнай самаідэнтыфікацыі беларускага народа.

Каля 40 000 паўстанцаў было саслана ў глыб Расіі. У 1866 г. былыя інсургенты нават паднялі бунт каля возера Байкал. Сярод іх былі і тыя, хто ў новых умовах знайшоў у сабе сілы для працы на карысць грамадства і навукі, хай сабе нават і расійскага. Напрыклад, Ян Чэрскі, які даследаваў геаграфію, флору і фаўну Сібіры і чыім імем называецца цэлая горная сістэма ў Калмыкіі. Браты Уладзіслаў і Бенедыкт Дыбоўскія — заолагі, знакамітыя даследчыкі фаўны Сібіры.

Паўстанне праявіла сябе па-рознаму — ад гераічнага змагання пад Мілавідамі да абсалютна неапраўданага пакарання старасты Макарэвіча ў Азярніцах. У тых падзеях было шмат неадназначасцяў і матывы тых людзей, паўстанцаў, сялянаў, святароў, мы цяпер наўрад зможам добра зразумець.

Але павага да мужнасці тых людзей, якія ўзялі ў рукі зброю для вызвалення свайго краю і пайшлі на бунт, які амаль не меў шанцаў на перамогу, мусіць перадавацца з пакалення ў пакаленне.

## Літаратура


1. Aftanazy, R. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej / R. Aftanazy. T. 2. S. 183–184.
2. Polski Słownik Biograficzny, Zeszyt 122. Lodź, 1986.
3. Rok 1863. Wyroki Śmierci. Wileńskie źródła archiwalne, Wydane pod redakcja Władysława Studnickiego. Wilno, 1923. Nakładem i Drukiem Ludwika Chomińskiego.
4. Gieysztor, J. Pamiętniki Jakóba Gieysztora z lat 1857–1865 / J. Gieysztor. Wilno, 1910.
5. Hiller, A. Historia powstania narodu polskiego / A. Hiller. Paryż, 1868.
6. Архітэктура Беларусі. Энцыклапедычны даведнік. Мінск. 1993.
7. Архивные материалы Муравьевского музея, относящиеся к польскому восстанию в пределах Северо-Западного края. Ч. 1: Переписка по политическим делам гражданского управления с 1 января 1862 г. по май 1863 г. Виленский Временник. Книга VI / сост. А. И. Миловидов. Вильна, 1913.
8. Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. Минск, 1983.
9. Супрун, В. Дзеі над Шчарай / В. Супрун. Слонім, 2000.
10. Восстание в Литве и на Белоруссии в 1863–1864гг.: материалы и документы / гл. ред.: С. Кеневич. М., 1965.
11. Вялікае княства Літоўскае . Мінск, 2007. Т. 1.
12. Гродненский православно-церковный календарь. Воронеж, 1899.
13. Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. Ф. 378. ПО, 1865. Спр. 384. Арк.112 —120.
14. Ильин, А. Берестейские и свислочские страницы дела № 632 / А. Ильин // Гістарычная брама. 2001, 1, 18.
15. Карнілава, Л.А. Каталіцкія манаскія ордэны на Слонімшчыне / Л.А. Карнілава //Слонімшчына вачыма навукоўцаў і краязнаўцаў. Слонім, 2002

16. Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі. Менск, 2010.
17. Калиновский, К.: Из печатного и рукописного наследия / К. Калиновский. Минск, 1988.
18. Кісялёў, Г. Слонімскія інсургенты / Г. Кісялёў // Звязда.1993, 12 лют.
19. Памятная книжка Гродненской губернии за 1861 год. Гродно, 1861.
20. Памятная книжка Гродненской губернии за 1862 год. Гродно, 1862.
21. Памятная книжка Гродненской губернии за 1864 год. Гродно, 1864.
22. Памяць. Дзятлаўскі раён. Мінск, 1997.
23. Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861–1862 гг. М., 1964.
24. Сборник распоряжений графа Михаила Николаевича Муравьева по усмирению польского мятежа в северо-западных губерниях 1863–1864. Вильна, 1866.
25. Скідзель. 500 год у гісторыі / І. Барысаў, М. Дзелянкоўскі, А. Вашкевіч, Д. Люцік, Я. Лялевіч, С. Токць. — Гродна, 2008.
26. Федорук, А. Т. Старинные усадьбы Берестейщины. Минск, 2006 г. С. 277.
27. Чыгрын, С. М. Слонімскія падмуркі / С.М. Чыгрын. Мінск, 2012.
28. Швед, В. В. Слонімскі павет у паўстанні 1863 года / В.В. Швед // Слонімшчына вачыма навукоўцаў і краязнаўцаў. Слонім, 2002.
29. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мінск, 1994. Т. 2.
30. Кіштымаў, А. Першая рэйкавая вайна / А. Кіштымаў // ARCHE. № 12. Мінск, 2010.
31. Латышонак, А. Гутарка «царкоўнага старасты Янкі» з «Яськам гаспадаром з-пад Вільні» / А. Латышонак // Дзеяслоў. № 9. Мінск, 2004.
32. Повстанческое движение в Гродненской губернии 1863–1864 гг.: сб. документов / редкол.: Д. В. Карев (отв. ред.) [и др.]. Брест, 2006.

33. Смалянчук, А. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864–1917 г. / А. Смалянчук. Гродна, 2001.

**Архіўныя дакументы**

НГА РБ у Гродне: Ф. 1713, воп. 1, спр. 2; Ф. 970, воп. 2, спр. 3; Ф. 1, воп. 34, спр.50, спр. 220, воп. 6, спр. 80; Ф. 161, спр.137, воп. 2, спр. 86; Ф. 1624. воп. 2, спр. 57, спр. 86; Ф. 225, спр.1350; Ф. 1713, воп. 1. спр. 1, спр. 2.

## Дадатак

***Пратакол допытаў губернскага сакратара Ц. Казігродскага аб дэманстрацыях у Слонімскім павеце перад пачаткам паўстання і аб яго ўдзеле ў паўстанцкім атрадзе.***

10 августа 1864 г. дворянин Цезарий Казигродский был спрошен в Особой следственной комиссии и к прежним показаниям добавил: после первых демонстраций в Варшаве и других больших городах, разумеется, это движение должно было сообщиться и сообщалось гор. Слониму. Но оно сообщалось и выросло вдруг, объявилось сперва трауром да пением по костелам патриотических запрещенных песен, в этом участвовал весь город, тут невозможно указать на лица, около которых могли группироваться другие. Движение было общее и столь сильное, что усилия священников воспрепятствовать песням музыкой органов не подействовало, органы должны были замолчать, потому что голоса собравшегося народа были сильнее органов.

Демонстрации этим не ограничивались, последовали другие (которые из них были первыми, а которые последними — этого порядка в настоящее время уже не припомню). В городе случился пожар, причем сгорело кажется 5 татарских домов, да впоследствии от пожара случившегося во время ярмарки в м. Зельве, многие мелкие торговцы — евреи и купцы гор. Слонима — понесли потери. Сейчас же в обоих этих случаях возродилась в гор. Слониме мысль сделать в пользу погоревших складку, с той целью, чтобы, кроме поддержки потерявших в пожаре, доказать двум этим сословиям (выгоды) общественного гражданского равенства и братства и сблизить их с обществом дворян. Узнав об этом и давно чувствуя, что меня почему то чуждаются, я сам обратился, кажется к Симоновичу, доктору, с желанием, что

хочу быть в этом деятелем. Меня приняли. Симонович, я и две или три женщины, мы обошли весь город, собрали, кажется 260 руб. сер. (сбор проводился по составленной нами и доктором Мокржицким шнуровой книжке, всеми тремя подписанной) и, пригласив татарского мулу, погорельцев и их соседей, тоже татар, по общему с ними совету и назначению собранные деньги разделили между погорельцами. В сборе в пользу жидов не участвовал, и кто тем занимался — не знаю. Слышал только, будто вдова помещика Геновефа Пусловская кому то из потерпевших в пожаре подарила принадлежащий ей дом.

Составилась публичная уездная библиотека с целью отвлечь жителей, а в особенности молодежь, от карт, а привлечь к наукам и более моральному развитию. Главными условиями, привязанными к библиотеке, были следующие: а) все сочинения должны быть по большей части серьезные, а в особенности исторические; б) книги запрещенные исключались, для того, чтобы не последовало уничтожение правительством библиотеки; в) книги должны быть выдаваемы каждому для чтения, кто пожелает, за платеж в пользу библиотеки 30 коп. ежемесячно. Для составления библиотеки в этой цели нашлось более 40, по большей части из уезда, постоянных членов, которые обещались по 12 руб. сер. ежегодно. Меня назначили библиотекарем с обязанностью записывать от книгопродавцов книги. Членами постоянными были следующие лица: помещики — предводитель дворянства Евстафий Воллович, Эдмунд Корсар, Людовик Рамульдт, Иван Герубович, Ксаверий Гноинский, Константин Пилецкий, Владислав Воллович, Юрий и Евстафий Протасевичи, Владимир Мивгер, Изидор Флорентин Микульский, Петр Орда, Эдуард Рагоза, Франц Вольбек, Люциан и Антон Чечеты, Аполинарий и Эдуард Керсновские, Адольф Незабытовский, Станислав Липский, Валериан и Игнатий Юндзиллы, Ефим Чудовский, да жители города Иосиф Пекарский, Карл Манцевич, Антон Мокржицкий, Август Тельшевский, Владислав Симонович, прочих не помню. Вот лица, из которых может быть, впоследствии или даже еще до составления библиотеки могли быть избраны члены организации, но если она и существовала до выхода моего в восстание, то или так от меня тайно (сознаю — не могу назначить тому причины), что я ничего решительно об ней не знал, или была совершенно недеятельной. Было что-то для меня неразгаданное, я чувствовал, что я от всего отстранен, что от меня скрываются, и это было главнейшей причиной тому, что я не выпросился у Лукашевича, чтобы он не брал меня в восстание, это и в настоящее время ставит меня в невыходимое

положение, а нахожусь решительно в невозможности указать членов организации и оказать тем мою искренность. Я хорошо помню раз случай. Однажды у предводителя дворянства, кажется осенью 1861 г., после окончания заседания мирового съезда, где было более 30 помещиков, я сидел и приводил в порядок свои заметки для составления журнала по мировому съезду (мне несколько лиц мимоходом проговорили, что заседание кончено, я вынужден был уйти). А доктор Симонович раз дал мне это почувствовать откровенно, ссылаюсь на него: «Тебя боятся», — это его слова. Мы с Симоновичем хотя посещали себя редко, но были в хороших отношениях, от себя собственно он этого сказать не мог мне (видно), это ему поручено (было) сказать. Он мне в том сознался, и поручено, впоследствии какого-то совещания; ему это даже с трудом пришлось мне сказать.

Всего того было бы весьма достаточно для каждого, чтобы не только не искать, но даже избегать сборищ организации и не узнавать прочее. И потому не знаю, кто и каким образом назначил членов организации , как равно неизвестны мне и самые члены, если в число их должен был быть кто-нибудь приглашен из города, то по всему мною вышеприписанному подозреваю, что, может быть, доктор Симонович, как лицо еще при том довольно энергическое, прочих же не знаю. Симонович, если принадлежал к организации, как человек честный, должен в том сознаться, показать всех своих сотоварищей и то, что я к организации вовсе не принадлежал, что состав ее и образ действий были для меня тайной, и что ни на одном совете членв организации ни разу не был.

Подготовление к восстанию (утверждаю наверно) делалось отставным штаб-ротмистром Чернявским, а утверждаю потому: а) когда я 22 апреля приехал к Лукашевичу, и он мне объявил, что начинает восстание, я спрашивал, какие у него к тому средства; в то время Лукашевич указал мне 2 уже уложенные брички, наполненные оружием, свинцом и порохом, все это за 2 дня до моего приезда доставил ему Чернявский, когда же он, Чернявский, вслед за мной приехал, то объявил Лукашевичу, что на предполагаемом сегодня пути будет нас ожидать около 100 вооруженных человек из окрестностей м. Молчади, откуда он еде, но мы вечером нашли только , кажется, 13 человек. Обстоятельство это легко можно проверить местным дознанием и посредством спроса тех, которые возвратились из партии и положили оружие, а именно: сколько могу вспомнить, некто Маркушевский, Охотницкий и Флориан Микульский, дворяне или мещане

в окрестностях того местечка, да дворянин Викентий Бобинский, домашний учитель у помещицы Ельской в им. Белокурка; б) Чернявский, не доходя до Миловид, нас оставил и отправился по уезду высылать новых охотников; каждый день являлись к нам 6, 7 или 8 человек, почти все вооруженные. Спустя, может быть, 10 дней прибыл в обоз и Чернявский, привез около 20 пудов свинца и довольно пороху, пробыл не более 3 или 4 часов и уехал, обещая прислать людей более, и, правда, через несколько дней после его отъезда сразу прибыло к нам 61 или 62 человека, хорошо вооруженных; люди эти все были из одной окрестности, т.е. из околицы Плавских и окружностей; по первому на них взгляду видно было действие организующей руки и то, что они не собрались поодиночке и нечаянно; в) тот же Чернявский, прибыв, наконец, в обоз накануне Миловидского сражения, привел к нам и Новогрудскую партию под командой Миладовского. Наконец, г) пока Чернявский разъезжал по уезду, до тех пор являлись к нам новые охотники, с дня же, в котором Чернявский прибыл в обоз и остался в партии, решительно не прибыл не один.

Что же касается сбора денег для восстания, сколько кто должен уплатить и кем именно собирались деньги — не знаю по той же причине, по которой неизвестна мне организация. С меня денег никто не требовал, быть может, еще и потому, что я обременен семейством и в долгах, не был в состоянии дать подать и никому не копейки на эту цель не дал.

Под Миловидами (что объяснил уже в прежнем моем показании) я видел приехавшего помещика Эдуарда Керсновского, который желал свидания с Лукашевичем; полагаю, что он же, Керсновский, занимался доставкой одежды и съестных припасов, а дворянин Гудович и жид из корчмы Смольни могли быть еще подрядчиками, и вследствие того он, Керсновский, мог быть одним из членов организации.

Оружие да в небольшом количестве порох и свинец весьма многие приносили с собою, но все вместе с тем количеством, которое привез с собою Лукашевич, а которое доставил Чернявский, составляло значительный запас. Кроме того, небольшое количество оружия доставил какой-то дворянин из Новогрудского или Слуцкого у., и хотя все доставляемое в обоз было принимаемо обыкновенно на передовом пикете, расположенном от обоза в 4 верстах и составленном из одних и тех же бессменных рядовых под командой унтер-офицера Шаумана, и о том в обозе никто не знал, но этот случай и доставка известны мне потому: дворянин, сделавший эту доставку, имел в нашей

партии племянника, да, кроме одного знакомого сына своего соседа, оба они были еще весьма молодые люди, в том же году кончившие Новогрудскую гимназию. Фамилия одного Довнар, другого — не помню. Сделавший доставку хотел непременно повидаться со своим племянником, чтобы он сделал исключение и дозволил прибыть в обоз. Я в то время был на ученье; сказанный дворянин встретился в обозе с Лукашевичем, вблизи нас, делавших ученье, у него было в руках 2 пистолета, он, подходя к Лукашевичу, сказал: «Я доставил несколько штук оружия, а эти пистолеты, один — моему племяннику, а другой — его товарищу»; тут он назвал обоих, помню только Довнара. Фамилия его мне неизвестна, но в лицо узнал бы. Довнар перешел от нас в новогрудскую партию, она рассеялась, но этот молодой человек, наверное, где-либо арестован и должен указать дворянина, сделавшего доставку.

Из числа 311 человек, составлявших партию, не все были вооружены огнестрельным оружием, 93-м не умевшим стрелять даны были косы, которые делались в обозе двумя плотниками, работавшими постоянно чрез весь май месяц, железо на косы было доставлено тоже помещиком Эдуардом Керсновским. Организация для поддержки восстания ничего не сделала, в доказательство того довольно упомянуть еще раз на то, что после Миловидского сражения, т.е. когда Чернявский от обоза уже ни разу не отлучался, ни один к нам новый охотник не прибыл.

Что же относится до того, с кем из членов организации начальник партии мог иметь дело во время движения партии (или стоянок) из-под Миловид до Царства Польского, то объясняю следующее: в начале июля месяца, когда партия из южной части уезда перешла на северную сторону Брест-Бобруйского шоссе, раз во время отдыха (это было днем) пикет дал знать Юндзиллу, что кто-то желает с ним повидаться. Юндзилл пошел на пикет, и хотя это было в лесу, но (так) как недалеко от места, в котором отдыхали, я опять увидел помещика Эдуарда Керсновского.

Через несколько дней после того партия стояла в лесах, прилегающих к восточной границе уезда, недалеко (от) границы уезда Новогрудского, в расстоянии может быть 12 верст, от им. Альбертин и Говеновичи; была ночь; но известно из пикета, что кто-то желает с ним повидаться, Юндзилл встал и ушел, но, возвратясь, не сказал никому, с кем свидание.

2 августа, когда Юндзилл был сменен новым начальником — Колпайлой Иваном, то с ним, последним, приехал какой-то член, видно,

из высшей организации, что из высшей — полагаю потому, что он приказал стать партии под ружье, делал смотр, разругал перед фронтом Юндзилла за то, что избегал сражений; и тут же объявил нам, что с настоящей минуты начальником есть Коллупайло. После этого Юндзилл сдавал ему отчетность из сумм, объяснялся в своих действиях. Чиновник этот приказал, наконец, Чернявскому наблюдать за действиями нового начальника и рапортовать об них, кажется, через каждые 10 дней, а мне смотреть, чтобы провизия распределялась рядовым ежедневно и регулярно, и уехал.

Господин этот был одет ксендзом; я заметил, что он, явясь в обоз, подал Чернявскому руку. Спрашивал Чернявского про его фамилию, он мне сказал, но я забыл, если вспомню — не умолчу, наверно.

На другой или третий день после прихода нашего в обоз Врублевского явилось некое лицо, которое (я) мог бы узнать; он ходил по обозу и расспрашивал, кто в чем нуждается; я просил сапогов, и через 2 дня сапоги были мне присланы. Фамилии (я) его не спрашивал и не знаю.

Накануне разделения нашего с Врублевским пришел в обоз помещик Волковысского у. Лодаховский; его два брата — Горгониум и Оттон — знакомы мы были давно, они иногда приезжали в Слоним, имени же третьего, того именно, который приехал в обоз, не знаю, известно мне только, что он — родной брат первых.

И, наконец, по приходе нашем в Царство Польское, когда уже мы были задержаны и обезоружены, в эту же деревню приехал кто-то Повятовский. Говорили, что он какой-то чиновник Бельского у., действующих по обеим сторонам границы, он, действительно, давал какие-то распоряжения, но я был так сконфужен арестом, что не обращал на его действия внимания, помню только его фамилию, он Повятовский, приметы его: лет около 24, рост более чем средний, волосы темно-русые.

Подлинное подписал Цезарий Казигродский

Допрашивали: председатель комиссии полковник Лосев, члены: майор Шпейер, капитан Семенов, поручики: Юган и Гогель и аудитор Федоров.

# Анатацыі

**Фірыновіч Алена. Паўстанне 1863—1864 гг.: вядомыя і невядомыя крыніцы беларускіх архіваў / А. Э. Фірыновіч. Мінск: Беларус. навука, 2013. 315 с.**




У манаграфіі прааналізаваны працэс фарміравання дакументальнага корпусу публікацый па гісторыі паўстання 1863—1864 гг., праведзена класіфікацыя і відавая характарыстыка выяўленых у беларускіх архівасховішчах неапублікаваных крыніц аб падзеях 1863—1864 гг., створаны іх банк даных і акрэслены інфармацыйны патэнцыял.

Праца адрасуецца навукоўцам, даследчыкам, выкладчыкам, аспірантам, студэнтам і ўсім, хто цікавіцца мінулым Бацькаўшчыны.

ЗМЕСТ

імперыі і практыка яе функцыянавання ў беларуска-літоўскіх гуубернях у 1860-я гг.

3.2. Удзел грамадскасці беларуска-літоўскіх губерняў у падзеях 1863 — 1864 гг.

**Заключэнне**

**Дадаткі**

У дадатках чытач знойдзе калекцыі выяўленых крыніц па гісторыі паўстання 1863 — 1864 гг. у архівасховішчах Беларусі, у тым ліку ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Гродне; табліцы, схемы, тэксты дакументаў. Такім чынам, даследчыкам праблемы паўстання 1863 — 1864 гг., у тым ліку на тэрыторыі Гродзенскай губерні, зварот да кнігі Алены Фірыновіч будзе надзвычай карысным.

## ***Матвейчык Дзмітрый.*** **Паўстанне 1863 — 1864 гадоў у Беларусі: нарыс баявых дзеянняў. Мінск: Медысонт, 2013. 122 с.: іл.**




Аўтар кнігі — гарадзенец, гісторык-архівіст, Дзмітрый Матвейчык — стаў сёлета лаўрэатам прэміі імя Францішка Багушэвіча. Прэмія імя Францішка Багушэвіча — штогадовая літаратурная прэмія Беларускага ПЭН-цэнтру, заснаваная ў 1994 г., якая ўручаецца за выдатную гістарычную прозу аўтарам кніг, што спрыяюць абуджэнню гістарычнай самасвядомасці і пачуццяў нацыянальнай незалежнасці чытачоў.

Кніга Д.Матвейчыка прысвечаная асвятленню гісторыі паўстання 1863 — 1864 гадоў у Беларусі. У навукова-папулярнай форме апісваюцца прычыны і перадумовы паўстання на землях былой Рэчы Паспалітай і, у прыватнасці, у Беларусі, фармаванне і склад паўстанцкіх арганізацый, суадносіны сілаў, баявыя дзеянні паўстанцкіх атрадаў, мерапрыемствы расійскіх уладаў па падаўленні паўстання і рэпрэсіі супраць яго ўдзельнікаў.

ЗМЕСТ



## Буднік І.Ф. Да падзеяў 1863—64 гадоў на Гарадзеншчыне. Гродна: Юрсапрынт, 2013. 108 с.




Кніга Івана Будніка «Да падзеяў паўстання 1863—1864 гадоў на Гарадзеншчыне» — якасны прыклад папулярызацыі рэгіянальнай гісторыі. Аўтар абапіраўся на шматлікія архіўныя дакументы, мемуарыстыку і ранейшыя даследаванні па дадзенай тэме. У выніку паўстала грунтоўная праца, якая дае даволі

добрае ўяўленне, як развіваліся падзеі ў нашым рэгіёне. Аўтар разгледзеў шырокі спектр праблемаў падчас паўстання: ад яго падрыхтоўкі да задушэння і рэпрэсій супраць паўстанцаў. Падрабязна раскрыта тэма аб дзейнасці гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі, баявых дзеяннях паўстанцкіх атрадаў і асобах паўстанцаў Гродзеншчыны. У кнізе змешчаныя некаторыя архіўныя дакументы, фотаздымкі, што дае чытачу больш яскравае ўяўленне аб той эпосе, аб удзельніках паўстання. Аўтар прыводзіць спіс удзельнікаў паўстання на Гродзеншчыне і тых, хто ім дапамагаў, даследуе лёсы гэтых людзей. Сярод 242 асобаў паўстанцаў, узгаданых у кнізе Івана Будніка, ёсць такія, пра каго дагэтуль нічога не было вядома.

Фактычна дадзеная кніга — першая спроба падрабязна паказаць падзеі паўстання на Гродзеншчыне, якая будзе цікавай не толькі прафесійным гісторыкам, але і ўсім аматарам айчыннай гісторыі.

ЗМЕСТ

***Янушкевіч Каміла, Янушкевіч Язэп.*** **Партрэты паўстаньня. Ракаў, 2014. 76 с.**




*Фотаальбом выдадзены да 150-годдзя смерці Кастуся Каліноўскага (10/22 сакавіка* 1864 г.) і задушэння паўстання 1863 — 1864 гадоў у Беларусі-Літве. Гэта першае ў гісторыі айчыннага фотамастацтва выданне з такім багатым відэарысам: *у ім прадстаўленыя звыш 180 фотапартрэтаў удзельнікаў паўстання 1863 года*, як нашых суайчыннікаў, так і прадстаўнікоў суседніх народаў: з Латвіі, Летувы, Польшчы, Украіны.

Аўтары-складальнікі фотаальбома — пісьменнік, архівіст-археограф, тэкстолаг-крыніцазнаўца Язэп Янушкевіч, а таксама яго дачка Каміла, магістрантка Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.

Фатаграфічны матэрыял, прапанаваны ў «паўстанцкім» альбоме, захоўваецца ў архівах і бібліятэках Беларусі, Летувы, Польшчы, а таксама прыватных зборах. Некаторыя фота добра вядомыя — партрэты Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Валерыя Урублеўскага, Кастуся Каліноўскага. Іншыя знаходкі (напрыклад, здымак патрыятычнага асяродку ліцвінаў вакол часопіса «Słowo» у Пецярбургу) друкуюцца ўпершыню.

*Альбом распачынае ўступны артыкул «**Нябесны Легіён, або Рэпрэсаванае пакаленьне:** Паўстаньне 1863 — 1864 гадоў у айчынным і эўрапейскім фоталетапісе»*. Эпіграфам узятыя словы Адама Міцкевіча: «Jeśli zapomnę o nich, Ty, Boże na niebie, zapomnij o mnie» (Калі забудуся пра іх, Ты, Божа на небе, забудзься пра мяне).

У альбоме сярод малавядомых асобаў — удзельнікаў паўстання з Гарадзеншчыны — падаюцца фотаздымкі братоў Юрася ды Юлюся Краскоўскіх. Змяшчаем іх тут з подпісамі Язэпа Янушкевіча (з дазволу аўтара).



***Юлюсь Краскоўскі, старэйшы брат Юрася, арганізатар Паўстання ў Гародні. Схоплены 14.03.1863. Высланы ў Сібір. Далейшы лёс невядомы. Краязнаўцы з Гарадзеншчыны маюць абавязак …***




***Юрась Краскоўскі (1843 — 1932) з Гарадзеншчыны. Студэнтам вайсковай інжынерыі арганізаваў перасылку па чыгунцы амуніцыі, зброі й рыштунку. Здраджаны, быў асуджаны на смерць, прысуд замянілі высылкай «в солдаты». Потым ветэрану, экспаўстанцу, на пагонах якога замест вайсковых адзнак красавалася «1863» у Варшаве і Гародні салютавалі генералы. А ў Савецкай Беларусі такіх працягвалі расстрэльваць «как врага народа»…***

# Змест

**Шукайце кнігі з лагатыпам «ГАРАДЗЕНСКАЙ БІБЛІЯТЭКІ» ў кнігарнях, інтэрнэт-кнігарнях, а таксама ў прыватных распаўсюднікаў:**

«Гародня X — XX стст. Каралеўскі горад з правінцыйным лёсам»
Юры ГАРДЗЕЕЎ «Тапанімія старажытнай Гародні (XII-XVIII стст.)«
Аляксандр КРАЎЦЭВІЧ «Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага (1248—1341)«
Зоська ВЕРАС «Я помню ўсё»
Наталля МАЛІНОЎСКАЯ-ФРАНКЕ «Забыты вернісаж». Творчасць мастакоў Гарадзеншчыны 1860-х — 1930-х гг.
Зянон ПАЗЬНЯК «Добрая фатаграфія»
Ларыса ГЕНІЮШ «Лісты з Зэльвы»
«Гродназнаўства. Гісторыя еўрапейскага горада»
Біяграфія гарадзенскіх вуліц. Ад Фартоў да Каложы
Васіль БЫКАЎ. «Гарадзенскі архіў: Невядомыя творы (1957—1972). Незавершанае. Нататнікі»
Юры ГАРДЗЕЕЎ «Магдэбургская Гародня»
Данута БІЧЭЛЬ «Хадзі на мой голас»
Пётр СЯЎРУК «Небыцця не існуе. Невядомыя старонкі беларускага нацыянальнага руху»
Аляксей КАРПЮК «Развітанне з ілюзіямі»
«Зрабаваны народ. Размовы з беларускімі інтэлектуаламі»
Алесь КРАЎЦЭВІЧ «Рыцары і дойліды Гародні»
Сяргей ШАПРАН «Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця» Т. 1—2
Апанас ЦЫХУН «...Улюбёны я ў сваю зямлю»
Дзмітры ЛЮЦІК «Нёманскі Фронт. 12—25 ліпеня 1944 года. Баі за Гродна ў данясеннях, успамінах, статыстыцы»
Юры ГУМЯНЮК «Назаві мяне геніем»
Гародня. 50 год без Фары Вітаўта (мультымедыйны дыск)
DZIECIUKI «Гарадзенскі гармідар» (дыск)

**Серыя «Сучасная гарадзенская проза«**
Віктар ШАЛКЕВІЧ «Рэквіем па непатрэбных рэчах»
Аркадзь ЖУКОЎСКІ «Галс»
Віктар САЗОНАЎ «Маленькія гісторыі з вялікай палітыкі»
Валянцін ДУБАТОЎКА «Чорная воля«
Віктар САЗОНАЎ «Паэзія прозы»

**Матэрыялы міжнароднай навуковай гістарычнай канферэнцыі**
**«Гарадзенскі палімпсест»** - 2008, 2009, 2010, 2011, 2012, 2013

**Гарадскі гістарычна-культуралагічны часопіс**
«Гарадзенскі гадавік - 2012«
«Гарадзенскі гадавік - 2013«

кніжная серыя ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА